# Маладосць

**Штомесячны**
**літаратурна-мастацкі**
**і грамадска-палітычны**
**ілюстраваны часопіс**

**(692) ЛІПЕНЬ, 2011**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар

**Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**7**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»,**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 13 244 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 9470 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 16 694 руб.***
***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 6710 руб.***

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся Дробава*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 07.07.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,53. Тыраж 2403 экз. Заказ 1762. Кошт нумара ў розніцу 11 000 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# ГОСЦЬ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ» — НАДЗВЫЧАЙНЫ І ПАЎНАМОЦНЫ ПАСОЛ РЭСПУБЛІКІ АРМЕНІЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ, ПАСТАЯННЫ ПАЎНАМОЦНЫ ПРАДСТАЎНІК РЭСПУБЛІКІ АРМЕНІЯ ПРЫ ЎСТАЎНЫХ І ІНШЫХ ОРГАНАХ СНД АРМЕН АВАКАВІЧ ХАЧАТРАН



**— Армен Авакавіч, чым, на Вашу думку, філолага ды былога выкладчыка мовы і літаратуры, можна прыцягнуць увагу моладзі да літаратурнага часопіса?**

— Я памятаю, як раней падпісваліся па загадзе «зверху», незалежна ад таго, пра што там напісана. А сёння часопіс купяць толькі тады, калі ён цікавы, калі на яго вокладцы — кумір свайго часу. Моладзь цяпер жыве зусім іншым — яны вандруюць па ўсім свеце, жывуць ярка і калярова. А мы навязваем ім старыя традыцыі... Але ж варта зрабіць наадварот — захаваўшы лепшае, прапанаваць яго пад шыльдай таго, што цікава маладым, заінтрыгаваць... Самае галоўнае — ведаць дыягназ. Чым жыве наша моладзь? Машыны, дзяўчаты, вопратка, замежжа? Ці не толькі гэта? Што для іх каханне?

**— Дарэчы, пра каханне... Як вы, армяне, выхоўваеце такіх прыгожых і дасціпных хлопцаў, у якіх проста немагчыма не закахацца?**

— Я вам скажу: гэта ў крыві, гэта ў сям'і. А залежыць усё, па-першае, ад роляў мужчыны і жанчыны ў грамадстве. У нас мужчына — гэта Мужчына, а жанчына — гэта Жанчына. І калі я мужчына, то ў мяне ёсць свае абавязкі і адказнасць за іх выкананне: забеспячэнне матэрыяльнага дабрабыту, бяспекі, вырашэнне ўсіх праблем — ад бюракратычных і да таго, куды паехаць адпачываць ці ў які рэстаран пайсці... Але галоўнае — я мушу ўзвысіць сваю жанчыну! Гэта значыць, зрабіць усё, каб яна выглядала і пачувалася каралевай.

Жанчына ж займаецца хатняй атмасферай. Тут маюцца на ўвазе і стасункі з мужам, і пяшчота, і клопат пра дзяцей, і гатаванне ежы... Посуд, да прыкладу, заўсёды мые жанчына — і ў гэтым няма нічога крыўднага, як і для мяне няма абразы ў тым, каб несці за ёй чамадан ці вырашаць за яе жыццёвыя пытанні. Але разам з тым, жанчыны ў нас вельмі актыўныя: яны прымаюць удзел у грамадскім жыцці, сустракаюцца з сяброўкамі. І ўсе ведаюць, што калі, да прыкладу, у рэстаране сядзіць кампанія маладых жанчын, іх ніхто не закране ні словам кепскім, ні позіркам. І жанчына не хоча бачыць нават іншага мужчыну, акрамя свайго. Я гэта і па сваіх дочках заўважаю, як яны глядзяць на сваіх мужоў.

Сям'я ў нас — на першым месцы. Развод — цэлая трагедыя, калі так здараецца, значыць, мужчына не справіўся са сваімі абавязкамі. Калі мужчына пакідае сваю жонку без матэрыяльнага забеспячэння і сыходзіць да іншай жанчыны, то ён проста здраднік. Такім чынам, я ўнутры нашу гэтую адказнасць за сваю жонку і дзяцей! Трэба кожны дзень заваёўваць жанчыну, змагацца за яе ўвагу. Мяне перасмыкае, калі я бачу, як жанчына сама ловіць машыну ці закрывае рахунак у банку. Нават калі яна мільянерша, я буду плаціць за яе ў кавярні. І ніяк іначай!

**— А замежныя традыцыі ўплываюць на вашу моладзь у гэтым рэчышчы?**

— На сямейныя стасункі? Не. Хіба на знешнія праявы. Адзенне, машыны... Але ўсё гэта было ў нас і за савецкім часам — усё фірмовае: джынсы, магнітафоны, кружэлкі. Як толькі альбом выходзіў, нехта са сваякоў (а ў нас паўсюль сваякі) адразу дасылаў яго на радзіму. У Маскву даходзіла праз некалькі гадоў, а да нас — праз некалькі дзён! Да таго ж, цяжка знайсці армяніна, які не быў, скажам, у Амерыцы. Але збольшага вяртаюцца і кажуць: у нас — лепш!

**— А можа, варта вярнуць традыцыю так званых «культурных абменаў», калі пры найбуйнейшых навучальных установах краін СССР ствараліся мэтавыя групы з найлепшых прадстаўнікоў «братніх рэспублік». Ці не дапамагла б гэтая карысная практыка наладзіць патрэбныя кантакты паміж маладымі людзьмі яшчэ падчас навучання?**

— Я так скажу, армяне могуць жыць паўсюль, дзе да іх ставяцца добра. А гэта значыць, элементарна не прыціскаюць мову, культуру, веру, традыцыі і г. д. Мы жывём па ўсім свеце: у Канадзе, Аргенціне, Афрыцы, я ўжо не кажу пра Еўропу і Амерыку. У Лос-Анджэлесе спакойна можна гаварыць па-армянску — на тры чалавекі — адзін армянін. А дзе армяне, там нешта развіваецца: рамёствы, бізнес, навука...

Прадпрымальнасць — адна з вызначальных рыс нашага народа. Калі армянін адкрывае рэстаран, то праз месяц туды будуць хадзіць усе, бо там будзе самая смачная кухня і самая прыемная атмасфера.

**— А як армяне ставяцца да прадстаўнікоў іншых нацый?**

— Мы іх вельмі паважаем. Наогул, мы надзвычай гасцінны народ, і гэта выяўляецца паўсюдна: і за сталом, і на вуліцы... Нават калі будзе сядзець 100 армян, яны будуць гаварыць толькі той мовай, якую вы разумееце. Ёсць традыцыя: лепшы кавалак — госцю.

**— А калі дачка ці сын сустракаюцца з прадстаўнікамі іншай нацыі?**

— Канечне, мы за тое, каб яны браліся шлюбам з армянамі — дзеля захавання свайго народа. Але не супраць і іншых, калі яны паважаюць нашу культуру і нашу веру.

**— А чаму ж тады шмат армян, якія прыехалі вучыцца ці працаваць на Беларусь, вырашылі тут застацца?**

— Гэта з-за вас! Я ў армянскіх мужчын пытаўся, чаму не вяртаюцца. Кажуць: дзяўчаты вінаваты! І я іх разумею...

**— У гісторыі беларускага і армянскага народаў ёсць падобныя старонкі, звязаныя з імкненнем суседзяў нас заваяваць. Але ж захоўваем мы і найбагацейшую культурную спадчыну, і ўнутраныя сувязі, што нас яднаюць, так, Армен Авакавіч?**

— Сапраўды, спытайце ў любога чалавека ў Арменіі пра беларусаў, і вам адкажуць, што гэта самы добразычлівы народ у свеце! Добрыя людзі, клапатлівыя,

шчырыя, чыстыя думкамі і душой, нават наіўныя трошкі. Але гэты наіў і ў армян ёсць — ён ад чысціні...

Хаця армяне больш упэўнены ў сабе, у любой кампаніі яны прыцягнуць увагу. Вось у Армянскага радыё спыталі: «Як вылучыць у натоўпе армяніна?» Яно адказвае: «Дайце яму пару хвілін — ён сам вылучыцца!»

**— Армен Авакавіч, Вы ў сваіх філалагічных даследаваннях сумясцілі літаратуру і парапсіхалогію. Якія магчымасці прадстаўляе гэты метад?**

— Вы не задумваліся, чаму таленавітыя асобы так рана сыходзяць у іншы свет? Чаму Моцарт піша сімфонію ў 10 гадоў, а рэктар кансерваторыі такога не напіша і ў 60, хаця выдатна ведае законы гармоніі?! Чаму Шэкспір напісаў такія радкі, а мы, калі нават восем гадоў будзем думаць, так не скажам?! Як творцы адчуваюць тое, што здарыцца, загадзя ведаюць свой лёс? Яны жывуць у іншым свеце, дзе, прыкладам, рэўнасць мае свой смак, свой колер... І толькі пасля аказваецца, што насамрэч у кожнага энергетычнага цэнтра ў нашым арганізме — свая нота і колер. Адкуль яны пра гэта ведаюць, адкуль бяруць усе тыя словы?..

Мне вось прынеслі кніжку вершаў абсалютна невядомага паэта, напісаных у 60-я гады мінулага стагоддзя, але мовай амаль шэкспіраўскай. Я захацеў з ім сустрэцца. Аказалася, што ён не прафесійны паэт, атрымаў тэхнічную адукацыю. Я пытаюся: «Як так сталася, што ты пачаў пісаць вершы?» Ён кажа, што перажыў моцны стрэс — трапіў пад машыну і выжыў. Пасля ў яго з’явілася вялізнае жаданне чытаць Біблію. А тады яе было вельмі складана знайсці. Але дастаў і прачытаў некалькі разоў. Потым пачаў пісаць... Прызнаўся, што нават словы не ўсе ведаў, якія яму прыходзілі — пасля ў слоўніку шукаў, што яны значаць. Вось як ідзе інфармацыя! Таму парапсіхалогія і біяэнергетыка дапамагаюць зразумець, як адчуваюць свет творчыя людзі.

Калі ж Бог ці Найвышэйшы розум, які стварыў свет па законах гармоніі, бачыць, што чалавек парушае гэтую гармонію сваёй адмоўнай энергіяй ці сваімі ўчынкамі разбурае экалогію, тады Ён накіроўвае свайго апостала ў абліччы генія, які мусіць людзям казаць: «Жывіце па канонах Сусвету, каб не было новага патопу!» І ўсё, што ствараецца: паэзія, музыка, жывапіс — уздзейнічае на нашыя энергетычныя цэнтры, на чалавечае існаванне і імкненне.

**— Значыць, літаратура, мастацтва можа выратаваць жыццё на нашай планеце?**

— Літаратура, творчасць — гэта пасланне, якое вытлумачае ўсё, што нясе ў сабе нават адбітак характва (кветка, машына, сукенка, ручка, абутак). Творцы адчуваюць тое, чаго не заўважаюць іншыя, яны знаходзяць патрэбную форму для сваіх пачуццяў, сваёй падсвядомасці. Што такое муза, натхненне як не інфармацыя?! Калі паглыбляешся ў гэтае пытанне, то разумееш, што гэта ўсё недзе закадзіравана — на клеткавым узроўні. І тое, што застаецца Чалавеку — гэта права выбару. Сябраваць ці не, пагадзіцца ці адмовіцца, пайсці ў той бок ці ў адваротны... Ад гэтага залежыць твой лёс.

**— Шчыра дзякую за цікавую размову, Армен Авакавіч!**

***Гутарыла Таццяна СІВЕЦ***

*Наталля ЦВІРКО*

# ДВА КРОКІ АД ЛЁСУ



*Наталля Цвірко нарадзілася на ст. Скрыбаўцы Шчучынскага раёна. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, працавала настаўніцай. Друкавалася ў абласным друку, газеце «Літаратура і мастацтва». У «Маладосці» — упершыню.*

**Паэзія нараджаецца тады, калі душа настроена на трапяткое ўспрыняцце свету, які адбіваецца ў ёй, што ў люстэрку, усімі сваімі фарбамі і глыбінямі, усёй таемнасцю існавання. Тады рэальнае ператвараецца ў ірэальнае, пачутае, сутнаснае, і перад табой раскрываецца мастацкі свет паэта. А ў сапраўднага паэта свет гэты адметны, метафарыстычна яркі, вабны, свежы, як раса на ранішняй траве.**

**Ужо з першай вершаванай страфы юнай дэбютанткі Наталлі Цвірко настройваешся на чаканне адкрыцця толькі ёй вядомага паэтычнага свету — на спатканне «са шчырым сунічным летам». І трэба з прыемнасцю адзначыць, што не расчароўваешся ў спраўджанасці такога чакання. Мне асабіста імпануе, што юная аўтарка стварае свой паэтычны свет, пачуццёва і зрокава выразна — не кульгавай паспешнасцю радкоў, што, як кажуць, без паху і смаку, а занепакоеным станам душы, усёй пяшчотай і хараством роднага слова.**

**І тады верыш услед за аўтарам:**

На тонкай нітачцы надзеі
Трымаецца ўвесь шар зямны,
І растаюць усе завеі
Пад цёплым подыхам вясны.

**І калі гэта ўсё ёсць на першых творчых кроках, то хочацца верыць у сапраўдную таленавітую хаду паэткі і пажадаць ёй вялікай літаратурнай дарогі.**

*Мікола МЯТЛІЦКІ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы*

* * *

...І калі разальецца ранне
Чысцінёй некранутай над светам,
Пасняшаю зноў на спатканне
Я са шчодрым сунічным летам.

Спеў птушыны чуецца звонкі,
І нібыта рассыпаў хтосьці
На паляне ягады-зоркі
Невымоўнае прыгажосці.

Як прыемна з кошыкам поўным
Нетаропка дамоў вяртацца.
Водар лесу такі чароўны
Будзе доўга мне ўспамінацца.

* * *

Два крокі ад лёсу,
Дажджлівая восень,
Самотнае неба
І полымя дрэў.

Два крокі ад лёсу,
А сэрца так просіць,
Каб хоць на хвіліну
Яго хто сагрэў.

Два крокі ад лёсу,
Мо высахнуць слёзы
І стане навокал
Ад шчасця святлей.

Два крокі ад лёсу,
Ды зноў нас адносіць
Вірлівым жыццём
Ўсё далей і далей.

* * *

Збавенне прыйшло нечакана,
Залева ў спякотны поўдзень.
І той, каго ты не чакала,
Незнарок пра сябе напомніў.

І, як парастак кволы вясною,
Абудзілася ў сэрцы надзея —
Можа, станеш жывою вадою,
Можа, ў холад цяплом сагрэеш?

* * *

На парозе восені няспешнай
Ты сваю самоту адпусці.
Там, на ўскрайку лета, там, на ўзмежку,
Мо цябе паспею я знайсці.
Паміж намі — доўгія дарогі,
Паміж намі — сцежкі і шляхі,
Паміж намі — радасці, трывогі
І ракі шырокай берагі.

Зноўку лета згасла, быццам зорка,
Зноўку нам яго не затрымаць.
Вось такая сумная гаворка,
Ці не варта проста памаўчаць?

На парозе восені няспешнай
Мо цябе паспею я знайсці.
Там, на ўскрайку лета, там, на ўзмежку,
Ты сваю самоту адпусці.

* * *

Не забыць мне малінавы вечар
І салодкія вусны твае.
Хоць мінула, напэўна, вечнасць,
Твой далёкі погляд заве.

Недзе там, у чароўнай далі,
Дзень паволі сышоў, заціх.
На той сцежцы мяне чакаеш,
Дзе хадзілі з табой удваіх.

І малінавы цёплы вечар,
І салодкія вусны твае.
Хоць мінула, напэўна, вечнасць,
А пагляд твой усё заве.

* * *

На тонкай нітачцы надзеі
Трымаецца ўвесь шар зямны,
І растаюць усе завеі
Пад цёплым позіркам вясны.

І кроплі-слёзы высыхаюць,
І сонца праганяе дождж.
І той, каго даўно чакаюць,
Вяртаецца з дарогі ўсё ж.

І слова добрае сагрэе,
І будзе радасць цераз край.
Ты толькі нітачку надзеі
Мацней за ўсё аберагай.

Наталля ЯРМОЛЬЧЫК

# АБРАЗКІ



*Наталля Ярмольчык нарадзілася ў 1980 годзе. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, факультэт французскай мовы. Вучылася на франкамоўным аддзяленні факультэта міжнародных эканамічных адносін Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Працуе перакладчыкам. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

**У сваім лісце ў рэдакцыю Наталля піша: «Пярсцёнка, як у Саламона, са словамі "І гэта пройдзе" ў мяне няма, таму сваім жыццёвым крэда лічу словы выдатнай украінскай паэткі Ліны Кастэнка:**

**«І все на світі треба пережити,**
**І кожен фініш — це, по суті, старт,**
**І наперед не треба ворожити,**
**І за минулим плакати не варт».**

**Лепш не скажаш. І пацверджанне гэтага — цудоўныя абразкі аўтаркі.**

*Андрэй ФЕДАРЭНКА*

## ПРАВА НА ПАМЫЛКУ НЯМА

Часам дастаткова аднаго ўчынку, аднаго погляду, аднаго слова, каб зразумець, што перад табой чужынец. Што ён зрабіў з каханым чалавекам? Чаму ён яго забіў? Чаму? Так шмат пытанняў без адказу.

Я не хачу памыліцца і не хачу, каб памыліўся ты. Я засцерагу нас ад гэтага. Глядзі, на далонях я трымаю каханне і рэўнасць, любоў і нянавісць, спачуванне і зайздрасць, дабрыню і жорсткасць, сорам, наіўнасць, боль...

На левай далоні — тое, чым я ганаруся, на правай — тое, ад чаго я хацела б пазбавіцца. Табе цікава, якая рука цяжэйшая, а якая лягчэйшая?

А ты правер...

## ЗАКРЫЦЬ ТВАР РУКАМІ...

У дзяцінстве, калі мне было сорамна, я закрывала твар рукамі, мне здавалася тады: калі мяне ніхто не бачыць, то сорам мой робіцца меншым.

Кожнае лета бацька на некалькі дзён адвозіў мяне з братам у вёску да бабулі.

Сяброўак там у мяне не было, і я ўвесь час праводзіла са сваімі стрыечнымі братамі. Аднойчы мы гулялі так: два чалавекі ў пары задумвалі якоенебудзь слова, а потым астатнія задавалі пытанні, імкнучыся адгадаць яго. З намі яшчэ быў суседскі хлопчык-інвалід, ён дрэнна размаўляў, паводзіў сябе дзіўна. У гэтай гульні пары ўвесь час мяняліся, і вось дайшла чарга мне загадваць слова разам з ім, але я нават не падышла да яго. Увесь той час, пакуль астатнія зада-

валі мне пытанні, ён стаяў збоку, разгублена і неяк вінавата пазіраючы на мяне, не разумеючы што адбываецца. Гэты хлопчык няздольны быў прапанаваць ніякага слова, проста трэба было яму яго сказаць, каб ён пагадзіўся, так рабілі мае браты, але не я.

Гэта адзін з тых выпадкаў у маім жыцці, успамінаючы пра які, мне хочацца закрыць твар рукамі...

## НАВОШТА НАМ ДАБРЫНЯ?

Мае бацькі ў нядзелю зноў былі ў цёткі Таццяны і зноў з сумнай нагоды. Гэтым летам у яе павесіўся трыццацішасцігадовы сын, потым памерла маці.

Пахаванні, дзевяць дзён, сорак дзён...

Сын у цёткі ад першага шлюбу. Калі ён быў маленькі, засіліўся яго бацька, праз некалькі гадоў цётка выйшла замуж за стрыечнага брата маёй маці, у іх нарадзіліся дзве дачкі. Сын не жаніўся, піў, жыў адзін, асобна ад маці ў суседняй вёсцы, але ў яе бываў часта.

У той дзень ён быў цвярозы, вярнуў усім пазыкі і сказаў, што ідзе вешацца. Суседзі бачылі, як ён пайшоў у хлеў з вяроўкай, паслалі па цётку, але тая прыбегла позна... Ён быў вельмі высокі, павесіўся, стаўшы на калені, трэба было толькі развязаць вяроўку, якая, па словах цёткі, развязалася досыць лёгка... Яна не паспела, ёй было далёка бегчы, а гледачам каля хлява трэба было зрабіць толькі некалькі крокаў...

Беларусы — добры, шчыры, талерантны народ, але ёсць у нас яшчэ адна рыса, якая забівае іншыя: мы баімся як бы чаго не здарылася, як бы за гэта потым не давялося адказваць.

Мы баімся адказнасці.

Навошта тады нам дабрыня?..

## ТРЫ ПРОСЬБЫ...

— Мамачка, папрасі, калі ласка, выхавальніцу, каб яна не прымушала мяне есці аўсяную кашу, ты ж ведаеш, як я яе не люблю!

— Мамачка, папрасі выхавальніцу, каб яна не прымушала мяне спаць, я буду ціхенька ляжаць з расплюшчанымі вачыма.

— Мамачка, скажы выхавальніцы, каб яна не прымушала мяне вучыць літары.

Ён ніяк не мог зразумець, чаму дзве першыя ягоныя просьбы мама выканала, а апошнюю — не...

## АДНОЙЧЫ Ў ВАРШАВЕ...

На вакзале ў Варшаве стаю ў чарзе па квіток у Мінск. Перада мной маладыя палячка і француз, яна вучыць яго спачатку лічыць да трох па-польску, потым — як сказаць «Дайце, калі ласка, квіток да Парыжа».

Яму, беднаму, відаць па ўсім, запомніць гэтую фразу даволі складана. Ён праговорвае яе некалькі разоў, паўтараючы за палячкай, затым, адчуваючы сябе героем, вырашае прадэманстраваць свае веды незалежнаму эксперту, паварочваецца да мяне і прамаўляе: «Jeden, dwa, trzy, prosze bilet do Paryza».

Я ўсміхаюся і адказваю па-французску, што ён сказаў усё правільна.

Француз, вылупіўшы ад здзіўлення вочы, хапае сваю спадарожніцу за руку і крычыць: «Ты чула, чула? Яна адказала мне па-французску!»

Дзяўчына глядзіць на мяне і спакойна адказвае яму: «Так, мы палякі такія, ведаем замежныя мовы!»

Вось так я, беларуска, падняла аўтарытэт палякаў у вачах француза.

## ЦЯЖКАСЦІ РАЗУМЕННЯ

Мая бабуля заўсёды слухала прагноз надвор'я па радыё, і калі перадавалі, што «па рэспубліцы захаваецца пераважна цёплае надвор'е», яна бедавала: «Усё, будзе холадна, захаваецца ад нас цяпло!»

У такія хвіліны мне заўжды хацелася ёй патлумачыць, што «захаваецца» значыць «застанецца», але ў наступныя дні, нягледзячы на такі аптымістычны прагноз, добрае надвор'е звычайна сапраўды «хавалася». Многія былі незадаволены сіноптыкамі, а вось бабуля ім заўсёды верыла: яны яе амаль ніколі не падманвалі.

Вясковая дзяўчынка на гарадской вуліцы здзіўлена выгукнула: «Колькі кормазапарнікаў панастаўлялі!» — убачыўшы пустыя тумбы для кветак.

«Які ў цябе любімы прадмет у школе?» — спытала я ў свайго пляменніка, першакласніка Уладзіка, і атрымала адказ — «ручка».

Веды — гэта добра, але, набыўшы іх, людзі часам губляюць магчымасць успрымаць свет па-рознаму. І становіцца ён аднолькава шэрым для ўсіх...

## ПРА БЕЛАРУСКАГА ІНДЗЕЙЦА

Гэтую гісторыю расказала мне Аксана, мая калега. Яе сястра працуе ў дзіцячым садку выхавальніцай.

Дзеці гуляюць на вуліцы. Выхавальніца падыходзіць да хлопчыка і пытаецца, у што ён гуляе. Пачуўшы што ў індзейца, цікавіцца, як жа завуць маленькага індзейца, той прызнаецца, што ніяк яго не завуць. Выхавацелька кажа:

— Так не бывае, ва ўсіх індзейцаў ёсць імёны, напрыклад, Пільнае Вока ці Чуйнае Вуха.

Прапануе і беларускаму індзейцу прыдумаць сабе імя. Хлопчык нарэшце згаджаецца:

— Добра, я буду індзеец Класічны.

## АМАЛЬ ДАРОСЛАЯ

Чацвёртакласнікі падчас перапынкаў гуляюць у «Міс Беларусь». Хлопцы садзяцца за парты «ў журы», а дзяўчынкі, нібы па подыуме, шпацыруюць перад імі, расказваючы пра сябе: «Мяне завуць Лена, мне 19 гадоў...» Усё як па тэлевізары, толькі дзеці прыдумляюць сабе іншае жыццё, імкнучыся стаць дарослымі. Трэба аддаць належнае справядлівасці журы, кожны раз «Міс Беларусь» становіцца іншая дзяўчынка, каб нікому не было крыўдна.

Мне ў дзяцінстве вельмі хацелася як наймага хутчэй стаць дарослай. Добра памятаю само жаданне, а вось матывы — дрэнна. Чамусьці мне здавалася, што дарослы свет больш справядлівы, таму што з меркаваннем дарослых лічацца, успрымаюць яго ўсур'ёз.

Аднойчы настаўніца французскай мовы паказала нам метровую лінейку, адзначыўшы на ёй 16 сантыметраў «дзіцячага жыцця» і паказаўшы астатнюю частку «дарослага». Але мне тады было ўжо 15, амаль дарослая... І чаму мне не паказалі тую лінейку раней?...

## ПАВУК

Павук трапіў у ванну. Ён, вялікі і моцны, упарта паўзе наверх, саслізгвае, але ўсё роўна не спыняецца. Відаць, сіл у яго застаецца ўсё менш і менш, я не вытрымліваю і дапамагаю яму, выцягваю на край ванны. На момант ён спыняецца, але ўжо праз хвіліну паўзе па плітцы толькі яму вядома куды.

Зрываецца і падае. Разам з ім, здаецца, падаю і я. Дурная звычка засталася з дзяцінства: «Калі адбудзецца тое, то я...» На гэты раз на павука я паставіла занадта шмат...

## КРАІНА ПАМЕРЛЫХ ІДЭЙ

Неяк прыдумала ідэю для апавядання, якое так і не напісала. Галоўныя героі — муха, камар і авадзень — паспрачаліся паміж сабой, хто з іх больш за ўсё чалавеку шкодзіць. Прыдумала вобразы нават: муха і камар — разумныя, муха «чытае» газеты, камар ноччу з чалавекам у інтэрнэце сядзіць, а вось авадзень у мяне — дурны, не было яму дзе інфармацыю для разваг чэрпаць, на рэчцы табе ні тэлевізара, ні газет, карацей, ніводнага са сродкаў масавай інфармацыі. Канец апавядання трагічны: пакуль мае героі на стале з цукру п’едэсталы сабе рабілі і спрачаліся, хто на якой прыступцы будзе стаяць, чалавек іх забіў... газетай. Нядрэннае, мабыць, апавяданне атрымалася б, мабыць, праўду кажуць, што кожны чалавек носіць у сабе смерць. Ну, няхай гэта я штосьці не напісала, ад гэтага свет не змяніўся б, але, можа, побач са мной ёсць людзі, якія хаваюць у сабе ідэі, якія былі б здольны гэта зрабіць. Ад такой думкі чамусьці робіцца не па сабе.

Цікава, колькі людзей з нерэалізаванымі ідэямі побач са мной, у маёй краіне, а ў цэлым свеце?..

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

Іду на працу. Перада мной упэўнена крочыць імпазантны мужчына ў дзелавым касцюме, у руцэ нясе дарагі скураны партфель, і раптам ён кідае мне амаль пад ногі паперку нейкую. Падкрэсліваю: яна ў яго не выпадае, ён яе наўмысна кідае, але так элегантна, як быццам, не смецце на дарогу кідае, а робіць штосьці высакароднае. Я іду за ім і вельмі хачу спытаць, няўжо яна была такой цяжкай, што бедны не данёс некалькі крокаў да сметніцы, але маўчу... і ўспамінаю вадзіцеля маршруткі Мінск—Пінск, які пастаянна абгорткі ад цукерак выкідае на праезную частку ў час руху маршруткі, і, здаецца, гэта толькі мяне быццам токам працінае ад гэтага нахабства, але я зноў маўчу. Не тое, каб я саромелася рабіць заўвагі старэйшым, проста ведаю, што ад нявыхаваных людзей можна чакаць любой рэакцыі, а я баюся агрэсіі і грубасці, бо ад гэтага звычайна губляюся, ніяк не магу навучыцца даваць адказ. Таму маўчу там, дзе варта было б гаварыць.

## СЛЁЗЫ НЕ ДАЮЦЬ СЭРЦУ СПЫНІЦЦА

Яна некалькі разоў глядзела фільм «Французская жанчына», які ёй адначасова падабаўся і не падабаўся, а чаму так адбывалася, не магла сабе патлумачыць. Гераіня фільма, калі даведваецца пра смерць чалавека, якога кахае, задыхаецца.

Аднойчы яна ўсё ж зразумее, што ў фільме было няпраўдай: памерці ад спазмаў горла немагчыма, яны доўжацца некалькі секунд, саступаючы месца выратавальным слязам, якія не даюць сэрцу спыніцца...

## КАХАННЕ — АДНО НА МІЛЬЁН

Аднойчы, калі ёй было гадоў дванаццаць, яна пачула па радыё апавяданне пра дзяўчыну і хлопца, пра няспраўджанае каханне. Дзяўчына працавала на пошце ў правінцыйным гарадку, хлопец пад Новы год прыехаў у гэты горад да сябра ў госці. Блукаў па незнаёмых вуліцах, і раптам яму захацелася зайсці на пошту. Але ў гэты момант да дзяўчыны прыйшоў сябар дзяцінства і... пацалаваў яе, а той хлопец, што стаяў на ганку пошты, проста перадумаў заходзіць. Яны сустрэліся праз некалькі гадоў, але не змаглі быць разам, бо ў кожнага была свая сям'я.

З гэтага апавядання яна зрабіла дурную і дужа не сучасную выснову: кожная зробленая намі памылка не пакідае нам надзеі на сапраўднае каханне. А ёй патрэбна было толькі сапраўднае.

Потым яна прачытае «Гранатовый браслет» Купрына, і пяцідзесяцігадовая настаўніца рускай літаратуры, якая сама ніколі не была замужам, паведаміць усім, што такое каханне — вялікае шчасце, «адно на мільён», і тады яна вырашыць: у яе будзе менавіта такое.

Яна так баялася зрабіць памылку, што не давала шанца нікому быць побач з сабой. Пакутавала сама і мучыла іншых. І супакойвала сябе думкай: проста яе каханы робіць шмат памылак, таму так доўга яна і не можа яго сустрэць.

Вам цікава, чым закончылася гэтая гісторыя? Працяг можаце прыдумаць самі, але зрабіце так, каб яна зразумела, што памыляецца: каханне, «адно на мільён», ніколі не прыходзіць да тых, у каго яно становіцца самамэтай, а таксама да тых, хто толькі хоча быць каханымі, не ўмеючы кахаць, а таксама да тых, хто робіць балюча іншым, а таксама...

Так шмат тых, да каго яно не прыйдзе ніколі, што пачынаеш сумнявацца ў яго існаванні.

## ШКОЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ

Завуч, малады мужчына, прыйшоў на ўрок беларускай літаратуры да настаўніцы, якая толькі што атрымала дыплом (вучылася завочна).

На ўроку абмяркоўваюць «Хама» Элізы Ажэшкі. Вучаніца пытаецца ў настаўніцы, хто такая пакаёўка.

— Прастытутка, — адказвае тая.

Завуч, сумняваючыся, пасля ўрока звяртаецца з тым жа пытаннем да сталай, дасведчанай выкладчыцы беларускай мовы.

— Тая, хто прыбірае ў пакоі, — чуе ў адказ.

Пяты клас. Урок беларускай мовы. Настаўніца чытае сказ з практыкавання: «Малады аграном Кацярына прыехала працаваць у МТС».

— Дзеці, вы ведаеце, што такое МТС?
— Так, мабільныя тэлесістэмы, — адказваюць ледзь не хорам дзеці.
Адкуль ім ведаць, што падручнікі старыя і МТС у іх — машынна-трактарная станцыя.

## З НОВЫМ ГОДАМ!

У чатырохгадовага Уладзіка дзень нараджэння, маці купіла торт, каб ён мог пачаставаць іншых дзяцей у дзіцячым садку.
Вечарам бабуля пытаецца ў хлопчыка: «Ну і з чым цябе віншавалі?»
— З Новым годам! — адказвае Уладзік.
Дарослыя смяюцца, расказваюць гэтую гісторыю іншым, і ніхто нават не задумаецца наколькі малы мае рацыю. У свой дзень нараджэння мы адзначаем пачатак новага года... свайго жыцця. І як мы пражывём гэты год, залежыць толькі ад нас.

## САМАКРЫТЫКА

Лена, мая знаёмая, напярэдадні свайго вяселля дзялілася думкамі:
— Калі еду пасля працы ў метро, галодная, стомленая, з чырвонымі ад камп’ютара вачыма, як гляну на сваё адлюстраванне ў шкле электрычкі, аж страшна становіцца і думаю: «І нехта яшчэ збіраецца з табой ажаніцца».

## ХТО ВІНАВАТЫ?

Я хварэю, таму што не змагаюся, ці я не змагаюся, таму і хварэю?
Тэмпература 37. Срэбная стужка тэрмометра дасягнула чырвонай кропачкі, але не пайшла далей, як бы гаворачы мне «ў цябе яшчэ ёсць шанец». Шанец на змаганне. Трэба проста ажыццявіць з дзяцінства ўсім знаёмы алгарытм: піць шмат цёплых напояў, прыгатаваць з солі і соды мікстуру, паласкаць кожную гадзіну горла і не трэба будзе піць таблеткі, якія я так і не навучылася піць. Такая зманлівая перспектыва. А я ляжу і думаю: аказваецца, кожную хвіліну свайго жыцця чалавек выбірае змагацца яму ці не. Я не змагаюся, я чакаю сапраўднай хваробы, каб потым задаваць адно і тое ж пытанне: «Хто вінаваты?» Здаецца, толькі ў беларускай мове, пытаючыся «Хто ві-на-ва-ТЫ?», можна пачуць дакладны адказ — «ТЫ».

## «ЕШЬТЕ ДЕТИ, БУРАКИ»

Мая сяброўка і аднагрупніца Вольга з мужам і трохгадовым сынам жыла нейкі час у Піцеры. Працавала яна там у дзіцячым садку выхавацелькай. Яна мне расказала, што ў сталоўцы, калі яна гаварыла: «Ешьте, дети, бураки!», у дзяцей не ўзнікала пытанняў, што гэта такое, пыталіся дарослыя.
А яшчэ праз некаторы час дзеці яе групы, калі прыходзілі жаліцца на крыўдзіцеля, гаварылі ёй: «Он меня опять колошматил». І гэта зноў было слова, якое разумелі толькі дзеці і іх выхавацелька.

## КАЗКА ПРА МЕСЯЦ

Кожны дзень у маёй галаве ўзнікае новы сюжэт апавядання ці казкі, сцэнарыя ці рамана, якім нясуджана стаць чорнымі радкамі на белым экране майго камп’ютара, бо я не веру, што змагу напісаць так, каб гэта было цікава яшчэ камусьці, акрамя мяне.

У большасці сваёй я забываю іх, але ёсць такія, што не сціраюцца з памяці на працягу доўгага часу. Дзіўна, але мне здаецца, яны жывуць надзеяй, што нарэшце ўбачаць свет.

«Аднойчы месяц закахаўся ў зорку, самую прыгожую зорку на небе, але прыгажуня і не думала звяртаць на яго ўвагу. Не знайшоўшы адказу на свае пачуцці, ён перастаў есці і схуднеў напалову. І вось тут капрызлівая зорка заўважыла, што ён нічога сабе, сімпатычны, і адказала на яго пачуцці. Месяц стаў самым шчаслівым на небе і пачаў... зноў есці і набіраць вагу. А зорка? Ёй, беднай, заставалася толькі разлюбіць месяц».

Гэтая гісторыя не памірае, як усе астатнія, бо ў яе ёсць надзея, што аднойчы яна мне спатрэбіцца, калі маленькі хлопчык ці дзяўчынка спытаюцца ў мяне, чаму месяц на небе то худзее, то набірае вагу.

## ВЯСЁЛЫЯ ГІСТОРЫІ?

Калі вучылася ва ўніверсітэце, любіла наведваць Рэспубліканскі дзяржаўны тэатр беларускай драматургіі. «Адэль» — прыгожую казку пра каханне — бачыла тры разы, на памяць ведала некаторыя рэплікі акцёраў Веранікі Буслаевай і Ігара Сігава. Але, бадай, на ўсё жыццё ў маёй памяці застанецца выпадак, які здарыўся аднойчы падчас гэтай п’есы. Галоўная гераіня збягае са свайго вяселля да чалавека, якога кахае. Ёсць там эпізод, калі яна, працягваючы яму сваю шлюбную сукенку, пытаецца, што яны будуць з ёй рабіць, і герой ёй адказвае: «Пусцім на насоўкі!» Дзяўчынка гадоў васьмі перапытвае сваю маці: «На что пустим?»

«На носки!» — чуецца ў адказ. Я сядзела зусім побач і хацела было патлумачыць малой, што такое насоўкі, але чамусьці перадумала.

Падобную гісторыю расказаў наш выкладчык беларускай літаратуры Пятро Васючэнка. У тэатры юнага гледача ішоў яго спектакль «Рыцар ордэна сонца». Герой сцвярджае, што самае страшнае для рыцара — гэта страціць гонар.

Дзяўчынка перапытвае ў хлопчыка:

— Што страціць?

— Долары, — адказвае той.

З гэтым цяжка паспрачацца...

## ПАДМАН

На выхадных, нават калі б і захацела выспацца, не атрымалася б. (Дзякуй сценам панельнага дома!) Дзесьці каля дзевяці мой сусед, другакласнік Кірыл, ужо садзіцца рабіць урокі. Не па сваёй ахвоце, канечне. І самае цікавае — ён умудраецца ўсё рабіць не так: то напіша ў сшытку гелевай ручкай, то замест «дамашняя работа» напіша «класная». Здаецца, што б ён ні рабіў, ад маці чуецца толькі: «Дурак, не положено так делать!» Пасля гэтага крыку сшытак губляе яшчэ адзін ліст (чарговы!), і я чую ціхі дзіцячы плач.

А аднойчы Кірыл выправіў заўвагу настаўніцы на слова «молодец». Маці крычала, што няўжо ён не разумее, што ніколі не напіша, як настаўніца, і што яго падман адразу відаць. Яшчэ яна дапытвалася, чаму ён так зрабіў, але хлопчык маўчаў.

Як часта мы спрабуем падмануць сябе, падмануць увесь свет, толькі каб стаць лепшымі ў вачах тых, хто ад нас чакае толькі дрэннага...

## СОН

Нядаўна я ўбачыла жудасны сон.

Раблю неасцярожны крок — і апынаюся ў вельмі глыбокай яме, пачынаю крычаць, клікаць на дапамогу, зверху маленькім ручайком коціцца пясок.

І чым мацней я крычу, тым хутчэй збягае да мяне зямля. Апошнімі маімі думкамі, калі ўжо зямля пачала засыпаць мне галаву і цяжка стала дыхаць, былі: навошта я пачала крычаць, клікаць на дапамогу, трэба было паспрабаваць ратавацца самой, чаму я адразу вырашыла, што я не змагу самастойна вылезці? Чаму я працягвала крычаць, калі разумела, што гэта мяне заб’е? Чаму?

На гэтыя пытанні можна паспець адказаць, калі гэта сон, і позна — калі жыццё...

## ЦЭНЗАР

У дзявятым класе настаўніца беларускай мовы заўважыла ў мяне пэўныя творчыя здольнасці. Пачала выклікаць да дошкі, каб я пісала сказы на новае правіла. Гэта быў адказны момант: тое, што я прыдумляла, астатнія запісвалі сабе ў сшытак. Сказы мае атрымліваліся прыгажэйшымі за тыя, што прапаноўваў падручнік, іх лягчэй было запомніць, пісала ж я пра тое, што было блізкае і роднае мне, а значыць, і маім аднакласнікам таксама.

Час ад часу хтосьці крыўдзіўся, «прачытаўшы нібыта пра сябе», а аднойчы я зразумела, што ўсе насцярожана чакаюць моманту майго выхаду да дошкі, каб прачытаць тое, што я напішу і «прымерыць» гэта на сябе. І нават калі я мела на ўвазе зусім іншае, усё роўна ў маіх словах вышуквалі схаваны сэнс.

Час напісання сказаў падоўжыўся, я магла прастаяць каля дошкі палову ўрока, настаўніца ўсміхалася, гаварыла, што творчы чалавек павінен навучыцца пісаць і без натхнення. Яна не ведала, што за гэты момант я прыдумляла дзясяткі сказаў, але «гэты нельга пісаць, бо той падумае, што пра яго, гэты таксама нельга, бо пакрыўдзіцца тая...» Нарэшце на дошцы з’яўляўся сказ «ідэалагічна вывераны» (пра прыроду) ці маралізатарскі (трэба, можна і г. д.). Халодны, нежывы, на яго ніхто не крыўдзіўся.

Праз нейкі час мяне перасталі выклікаць да дошкі.

# КАБ НЕБАСХІЛ НАШ АСВЯЦІЦЬ...

**Наша «Купалінка» нарадзілася вясною. І сваім узростам яна паспела ўжо наблізіцца да той мяжы, дзе да яе сяброў прыходзіць паўналецце, — ёй споўнілася 18 гадоў. Не дзясяткі, а сотні прыхільнікаў прыгожага пісьменства прайшлі вучобу ў літаратурнай суполцы за гэты час. Змянілася не адно пакаленне юных літаратараў. Некаторыя з тых, хто калісьці нясмела «стукаўся» ў дзверы нашай суполкі з першымі пробамі пяра, самі ўжо сталі настаўнікамі, нават кіраўнікамі літаратурных гурткоў у сваіх школах, і ўжо самі дапамагаюць пачаткоўцам спазнаваць сакрэты творчага майстэрства. А «сходкі» нашы часцей за ўсё адбываюцца ў знакаміта-знакавых месцах беларускай сталіцы: у памяшканнях Дамоў-музеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, у тэатры «Зьніч», што знаходзіцца ў будынку Чырвонага касцёла. Можна толькі радавацца такому прыхільна-дабрачыннаму спрыянню гэтых установаў, такой выдатнай магчымасці з году ў год плённа праводзіць нашу літаратурную вучобу.**

**І, канечне ж, нараджэння «Купалінкі», яе станаўлення і прызнання не адбылося б, магчыма, без чыннай падтрымкі яе ініцыятара — аддзела адукацыі Мінскага райвыканкама. «Хроснай маці» паважліва называюць купалінцы Лілію Рыгораўну Жаўняркевіч — галоўнага спецыяліста гэтай установы, вопытнага педагога-філолага, якая ўсе гэтыя гады клапатліва рупіцца, каб суполка жыла, каб не перасыхалі тыя творчыя крынічкі, якія жывяць «Купалінку», спрыяюць з'яўленню новых імён сярод юных літаратараў раёна.**

**Наша «Купалінка» аб'ядноўвае ні многа ні мала, а 20 школьных літгурткоў прысталічнага раёна. Вучні пішуць на беларускай і рускай мовах. Прыемна, што першая — усё ж пераважае. І нашмат. Сябры «Купалінкі» любяць і шануюць родную мову, цікавяцца гісторыяй і багатай спадчынай сваёй зямлі, захапляюцца яе краявідамі. Прасякнутыя гэтым пачуццём, яны з вялікім задавальненнем падарожнічаюць па роднай Беларусі. Не раз выбіраліся ў вандроўкі па Купалаўскіх і Коласаўскіх мясцінах, бывалі на святах беларускага пісьменства. Вельмі часта іх падарожныя назіранні і ўражанні становяцца радкамі новых твораў.**

**Сябры «Купалінкі» не могуць паскардзіцца на няўвагу да сваёй творчасці з боку рэдакцый: яны былі частымі ўдзельнікамі радыёперадачы «Першыя сцяжынкі», іх творы з году ў год друкуюцца ў раённай газеце, у часопісах «Вясёлка», «Бярозка», «Качели», «Кем быть», трапляюць на старонкі «Вожыка», купалінцы становяцца лаўрэатамі прэстыжных рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў і конкурсаў, розных творчых алімпіяд. Чым стала для іх «Купалінка», чым прываблівае, натхняе, якія далягляды адкрывае, — пра гэта аўтары-пачаткоўцы не саромеюцца прызнацца ў сваіх вершаваных радках-прысвячэннях.**

Яна, як крынічка з вадою жывою,
Дзе хочацца вусны свае памачыць.
Для нас вельмі важна быць разам з табою,
Дзе родная мова натхнёна гучыць!

*Андрэй АВАДОК*

«Купалінка» ўсім адкрывае
Да роднага слова дарогу,
І многія з нас, я знаю,
Прайсці яе ўпэўнена змогуць.

*Насця КУЛАКОЎСКАЯ*

**Пра што пішуць хлопцы і дзяўчаты, сябры «Купалінкі», што хвалюе іх, чым хочацца падзяліцца са сваімі равеснікамі, з чытачамі? Думаю, пэўнае ўяўленне пра іх творчы пошук, тэматычны абсяг і майстэрства зможа даць гэта паэтычная падборка, якую з надзеяй на шчырую ўзаемнасць прэзентую чытачам «Маладосці» — часопіса, які, веру, стане яшчэ адной прыступкай да вяршыні творчасці, да здзяйснення мары.**

***Мікола ЧАРНЯЎСКІ,***
***старшыня літаратурнай суполкі «Купалінка»***

***Таццяна ШЫРКО,***
***выкладчыца Бараўлянскай СШ,***
***кіраўнік літаратурнага гуртка***
***«Выток»***

**ПАЦЕРКІ**

Пацеркі рассыпала Венера,
І гараць халодныя снягі.
На імгненне хараство сагрэла,
Абудзіўшы вечнасці кругі.

Памятаеш, пацеркі збіралі?
Кружыў голаў водар баравы.
Чыстыя снягі сустрэч расталі...
Плачуць на балоце журавы.

На тваіх губах след журавінны
Зазіхцеў вянчальнаю свячой.
Адлятаючы, крычаў клін жураўліны,
Назаўсёды разлучаў з табой.

Казкаю здаецца наша лета,
Клён сустрэч, ён стукае ў акно:
Мо юнацтва песня недапета,
Не кранута хмельнае віно?..

***Тамара БУЛАТАВА,***
***настаўніца Гатаўскай СШ,***
***кіраўнік літаратурнага гуртка***
***«Світанак»***

* * *

Сонца хмарку цалавала,
Засутонілася ў голлі.
А на сэрцы добра стала,
Ветрык ходзіць на прыволлі.

Сінь празрыстая і чыстая.
Лес яшчэ не абцяжараны.
Промні, з раніцы агністыя,
Разгараюцца пажарамі.

І бярозка завіхаецца,
Як матуля над калыскаю.
А галлё ледзь-ледзь гайдаецца,
Як арэлі, пад вятрыскаю.

А вакол суладдзе плешчацца,
Рэчкай ціхаю калышыцца,
Пад цяплом вясеннім песціцца...
Мне сягоння добра пішацца.

***Варвара БЯЛЯЕВА,***
***Навасельская СШ, 11 клас***

**А ЁН ЖЫВЕ...**

*Памяці*
*Уладзіміра Караткевіча*

А Ён жыве... Жыць будзе вечна...
У сэрцах, памяці людзей,
Бо слова вечным застаецца
На шмат стагоддзяў —
Не на дзень...

Такіх пісьменнікаў нямнога,
Што словам за душу бяруць.
Бо, кажуць, людзі то ад Бога,
На жаль, няшмат яны жывуць...

Такія ў свет прыходзяць зоркі,
Каб небасхіл наш асвяціць...
І шлях жыцця іх часта золкі,
Бо ў іх за ўсё душа баліць...

***Любоў АЛАДЗЬЕВА,***
***Самахвалавіцкая СШ, 8 клас***

* * *

Не! Не бойся цемры!
З ёй ты не будзеш адна.
Проста ў зацемак збоч начны
І застанься побач.

Ніхто ніколі не здагадаецца,
Што гэта было каханне.
Цемра захоўвае таямніцы,
Яно схавае цябе...

І, гледзячы ў начное неба,
Ты зразумееш, што ён таксама чакае.
І засмяешся ад шчасця,
Бо наперадзе ў вас — вечнасць...

*Катрын ГЛАДКАЯ,*
*Ратамская СШ, 9 клас*

## СЭРЦА

З дня таго, калі ты нарадзіўся,
У цябе ўжо ёсць сэрца,
Што ўмее любіць,
Толькі ўсё,
Што павінен ты здзейсніць, —
Людзям сэрца сваё падарыць.

Сэрца — замак жыцця чалавека.
Мы будуем яго кожны дзень.
Па каменьчыках шчасце збіраем
З дум, учынкаў,
Мар і надзей.

І каб холадам замак не поўніўся,
Каб не зводзіла грудзі тугой,
Чалавек, абуджай
Сваё сэрца любоўю,
Святлом, радасцю і дабрынёй!

*Таццяна ВАРАНЕЦКАЯ,*
*Навасельская СШ, 11 клас*

## ДЗЯЦІНСТВА

Лісцік з дрэва злятае нясмела...
Восень сцеле смугу па зямлі...
А мне ўчора яшчэ ж
лета пела....
І нядаўна мы дзецьмі былі...

Кожны дзень, як свой скарб,
не прыгрэеш...
Не спыніць бег жыцця, не суняць...
І вось толькі цяпер разумееш,
Як дзяцінства нам цяжка губляць...

*Ганна СКОБЕЛЕВА,*
*Бараўлянская гімназія, 10 клас*

## ДАРОГА

Я вітаю цябе, дарога,
Цёплы дождж па халодным бруку.
Дзякуй, дружа, і, дзякуй Богу,
Што так шмат вось у гэтым гуку.

Калі дождж разбівае лужы,
Калі ноч шапаціць лістотай,
Калі подых паветра дужы
Раздзімае прыроды цноту.

Не зважаю на страх ды холад
І шыбую наперад строга.
Я вяртаюся ў родны горад,
Я вітаю цябе, дарога!

А вакол сакавік і холад.
Я з акна пагляджу — нікога.
Ціхі двор, і шалёны горад,
І кудысьці бяжыць дарога...

*Валерыя ЖЫГАРАВА,*
*Бараўлянская гімназія, 9 клас*

## КАХАННЕ ЁСЦЬ...

Жыццё без веры у каханне
Шчаслівым не захоча быць,
Бо сэрцу доўгае чаканне
Не зможа шчасця засланіць.

Апошнія сабраўшы сілы,
Душа захоча з небыцця
Ляцець у райскія краіны,
Краіны казак і жыцця.

Каханне ёсць, і ў ім жа сіла,
Яно з табой на ўсё жыццё.
Жыццё каханне нарадзіла...
Хто адбярэ?
Мо забыццё?

*Кацярына ЛІШАНКОВА,*
*Бараўлянская СШ, 11 клас*

## СВІТАННЕ

Інеем белым прыходзіць світанне,
Подыхам восень агорне зямлю.
І жураўліны адлёт-развітанне
Разгоніць маркотнага сну цішыню.

Бы дыяменты рассыпала фея,
Кроплі жывыя на сонцы гараць.
Песня лясоў мары-думкі навее:
Хочацца мудрасць прыроды пазнаць.

***Міхась ЮНЦЭВІЧ,***
***Бараўлянская СШ, 9 клас***

**МАРА**

Стаю над ціхаю ракою,
Лаўлю дыханне чуйнай ночы...
Не размінуцца б нам з табою!..
Анёл ляціць —
Суцешыць хоча?

Даўно шукаю я па свеце
Пяшчоту шчырага кахання.
Так мару аб шчаслівым леце,
Аб цудзе нашага спаткання!

Малітвы шлю ў бяздонне неба —
Сустрэць яе, дачку Венеры.
Прашу красы душы, не хлеба, —
Анёл ляціць
З галінкай веры.

***Юлія КОТАВА,***
***Каралёвастанская СШ, 9 клас***

* * *

Людзі з аўтобуса... Хто яны, хто?
Адкуль яны едуць, куды і нашто?
Можа, тут лёсаў загадкавых цьма?
Можа, нічога такога няма?

Людзі з аўтобуса... Хто яны, хто?
Дзядзька чубаты ў даўгім паліто
Штосьці тлумачыць дзіцёнку малому,
А той і не слухае, хоча дадому.

Людзі з аўтобуса... Хто яны, хто?
Марачы, нехта глядзіць у акно.
Нехта задумліва жуйку жуе,
Хтосьці лагодна ўсміхаецца ў сне.

Людзі з аўтобуса... Хто яны, хто?
Дзе мары лунаюць іх, думкі пра што?
Што іх хвалюе, чакаюць чаго?
Людзі з аўтобуса... Хто ж вы, ну хто?

***Юлія МАРЦІНОВІЧ,***
***Бараўлянская СШ, 11 клас***

**СВЯТЫ ЗАСТУПНІК**

У кожнага святы заступнік ёсць,
Душу крылом бялюткім ахінае.
Ён у жыцці твой сябар, а не госць,
Ён у часы ліхія падтрымае.

Калі блазнуеш з ім —
Ён засумуе:
Не церпіць здрадніцтва
І жудаснай хлусні.
Хто збіўся з пуцявіны —
Уратуе,
Аслабіць боль жыццёвай мітусні.

***Яўген ШЫМАНСКІ,***
***Заслаўская гімназія, 9 клас***

* * *

Нездарма пішуць вершы паэты,
Бо не могуць яны не пісаць
Пра цудоўнае цёплае лета,
Калі дні больш за ночы стаяць,
Калі велічна маці-прырода
Нас кранае так моцна падчас,
Абуджае ў душы асалоду,
Кожным момантам радуе нас;
Калі сэрца каханнем забілася,
Калі горыч спаткала ў жыцці,
Калі новая мара з’явілася,
Калі проста стаміўся ісці.
Вершы ім перш за ўсё дапамогуць
Углыб з’явы пільней зазірнуць,
Каб пасля чытачоў супакоіць,
Даць напрамак, на шлях павярнуць.
Для паэтаў жа вершы, як песня,
Што не зломіць часовы бар’ер,
І паэт, непахісны і чэсны,
Атрымае заўсёды давер.
І, канечне, праходзяць стагоддзі,
Забываецца многа чаго,
Ды аб ім, веру,
Памяць не пройдзе —
Будуць помніць па вершах яго.

Надзея СТАТКЕВІЧ

# ПАПЯЛІШЧА*

## Раман

### У частцы II:

*Нямцэвіч забірае свайго сына Марціна з езуіцкага калегіума.*

*Улляна цяжарная ад пана Альберта. Старая Параска дапамагае ёй пазбавіцца ад дзіцяці.*

*Паміраe дзед Тарас і маці Зулісі.*

*Падпарадкуючыся волі бацькі, Катажына бярэ шлюб са Станіславам Жывіцкім.*

### Частка III

* * *

У паўцёмным пакоі, які асвятляла адна лучына, за сталом сядзеў чалавек. Яго згаслыя бясколерныя вочы ўтрапёна глядзелі на аркуш паперы ў руках. Цяжкі гэта быў позірк, поўны болю, смутку і адчаю. Чорныя кругі пад вачыма і пакутлівы позірк указвалі на тое, што стары Офенберг жыў апошнія тыдні, а можа нават і дні, ды, самае страшнае, ведаў пра гэта і ўсё разумеў...

Пажоўклы аркуш Сцяпан выняў з патаемнага куфэрачка, дзе ляжалі самыя дарагія для яго рэчы. Яшчэ паўстагоддзя таму гэтак жа ўважліва ён разглядаў той самы чарцёж, але колькі моцы было тады ў целе, колькі жадання здабыць славу і абараніць годнасць дзяржавы. Ён і сябры лічылі, што выбралі шлях найбольш надзейны, які прывядзе да свабоды і рассячэ ланцугі абрыдлай уніі. А што атрымалася? Яны патанулі ў брудзе і крыві, гуляючы па недарэчных правілах «хатняй вайны»[1]. Прыйшлі шведы, «пагаспадарылі», за імі расейцы... А далей? Божа, толькі б не горш, хай бы ўсё вярнуць! За што ты так не любіш гэтую зямлю?

На стале гарэла грамніца. Шляхціц яшчэ падумаў, што як на хаўтуры... Так жаласліва мігцеў агеньчык. Ён чамусьці не баяўся смерці, ды і досыць — цяпер час маладым весці рэй. А полымя свечкі ўсё дрыжэла... Слёзы воску падалі на падстаўку і імгненна застывалі, ператвараючыся ў брудна-жоўтыя кроплі. Па кім жа плакаў агарак? Мабыць, жаліўся на свой нядоўгі лёс, ці шкадаваў старога, альбо бедаваў разам з ім аб гармідары, які тварыўся ў дзяржаве і не мог скончыцца добра.

Сцяпан сумна ўсміхнуўся... На пачатку стагоддзя разгарэлася вогнішча хатняй вайны на абшарах няшчаснага краю. Магнаты біліся жорстка, люта. Кажуць, што Бацькаўшчыну не купляюць і не прадаюць, а гэтыя... Офенберг зачыніў куфар і доўга сядзеў задуменны. Колькі давялося пабачыць на свае вочы здрады, угодніцтва

* *Заканчэнне. Пачатак у № 5, 6 2011 г.*

[1] Маецца на ўвазе барацьба магнацкіх груповак у пачатку XVIII ст.

ды гнілых чалавечых сэрцаў. Гандлявалі пасадамі, маёнткамі з халопамі і нават сумленнем. Пан закрыў твар далонямі, і дзве кроплі пацяклі па шчоках. У змроку дагарала свечка. Як слёзы, сцякаў па агарку воск. Шляхціц паглядзеў на свечку і прамовіў: «Плачаш? То няхай. Хто страціў Бацькаўшчыну, той плача ўсё жыццё».

Яго роздум парушыла пані Тэафілія, якая ўвайшла ў яго кабінет і пачала наракаць:

— Што ты, бацька, зусім ані ў зуб нічога не бярэш, хутка ад ветру звалішся! З пакоя не выходзіш, напаліў тут, хоць сякеру вешай.

— Сціхні! — суха абарваў яе Сцяпан. — Рана мяне зямліцы аддаеш!

— Божухна! Ці ж я пра гэта? Знахарку заўтра да цябе прывяду: вупыр[1] да цябе ходзіць. Ён кроў з грудзей п’е, а месца тое потым замазвае, каб нябачна было.

— Паганка! — прыкрыкнуў на яе Сцяпан. — Бога пабойся!

— Барані Божа! Маці так вучыла, людзі кажуць.

Сцяпан пацiснуў плячыма.

— Як сабе хочаш.

— Тады схаджу раніцай за бабкай. Адно нядобра: яшчэ ноч так будзеш ляжаць.

— От, знайшла палахліўца, — стары ўжо ўпотай смяяўся з яе.

Тэафілія ўважліва паглядзела на яго і ўздыхнула.

— Не верыш, смяешся. Ну, глядзі тады.

Але ўсё ж прынесла з іншага пакоя свечку і асцярожна накрыла міскай, каб аберагчы мужа ад прывідаў. Яна дапамагла Сцяпану легчы, узяла са стала келіх з недапітымі ім лекамі ды пайшла да сябе. Але той доўга не мог заснуць ад болю ў грудзях. На двары зусім сцямнела, было амаль за поўнач, а яго ўсё не браў сон. Шляхціц варочаўся, цяжка дыхаў і чуў, як выў сабака.

— Чакай, не час яшчэ. Хоць тры дзянёчкі дай пажыць, — сіпеў ён.

З кута каля дзвярэй пачуўся ціхі смех. Офенберг змоўк і пачаў углядацца. Вочы балелі, быццам нейкі туман засціў іх, таму шляхціц не мог разгледзець постаць. Тады, з цяжкасцю падняўшы руку, ён адкінуў місу, і полымя свечкі напоўніла пакой. Постаць уздрыгнула, але не знікла, пачала набліжацца.

— Ты? — засіпеў стары. — Сапега? Але ж...

— І што? Хутка сам да Абраама на піва паедзеш. Рыхтуйся.

— Чаго прыйшоў?

— Рахункі звесці. Не пазнаў спачатку?

— Не разгледзеў. Вусны ў цябе апухлі, ды язык, бы джала.

Вупыр ухмыльнуўся.

— Не твая справа. А памятаеш, як разам рукі ў крыві мылі?

Сцяпану зрабілася агідна. Былы сябра нагадаў тое, пра што даўно хацелася забыцца.

— Зялёныя былі, — адказаў злосна, — не разумелі, што рабілі. Уся забава была напіцца. Толькі не забывайся, што не адны Айчыну ў бязладдзе скінулі.

— Анягож! Усе ў пекле сустрэнемся, толькі ў розны час, — зарагатаў Сапега.

— Адзін прыйшоў?

— Не, з Вішнявецкім.

— Міхалам? Ворагамі ж былі!

— Былі, — ухмыльнуўся. — І цяпер свіней разам не пасвім.

— Дзе ж ён?

[1] Персанаж беларускай міфалогіі.

Сапега спахмурнеў.

— Гавары, што маўчыш?

— У пушчы ваўкалакам ходзіць, чалавека хоча забіць... Ды нашто табе ведаць? Лепш раскажу, дзеля чаго прыйшоў. Палёгку табе хацеў зрабіць перад смерцю. Чуеш, Феліцыян жывы.

Сцяпан прыўзняўся на ложку, але сілы не было, і ён зноў упаў.

— Жывы?!

— Табе пасыльны зманіў. У хлопца сапраўды стралялі, толькі не забілі, а паранілі. Карчмар нейкі падабраў і выхадзіў. Цяпер ён якраз едзе пушчай сюды.

— Жывы... — прастагнаў зноў стары.

Сапега моўчкі схіліў галаву і адвярнуўся. Офенберг зірнуў на яго.

— Маўчыш? Што яшчэ скажаш?

І тут нядобрая думка прыйшла ў галаву.

— Дзе Вішнявецкі?! — жахнуўшыся, крыкнуў на вупыра. — Што вы задумалі?

Сцяпан паспрабаваў устаць, ды не змог. Тады, стогнучы, скаціўся на бок, зваліўся на падлогу і пачаў паўзці да здані.

— Ляжы! — гыркнуў вупыр. — Усё роўна не дапаможаш, бо гэта іх справа. Трэба чакаць.

Сцяпан да болю сціснуў зубы: Сапега гаварыў праўду. У гэты момант полымя свечкі затрымцела, і ў пакоі з'явілася яшчэ адна постаць.

— Злая зорка сёння гарыць на небе. Відаць, наракае, што помстаю не супакоіш душы, — прашыпела яна з цемры і паплыла да ложка.

Стары захрыпеў і закрыў твар далонямі.

Сапега здзіўлена паглядзеў на яго. «Бач, як любіць свайго шчанюка», — падумаў ён і перавёў позірк на Вішнявецкага, шыя якога была сіняй ад запечанай крыві.

— Ды жывы твой смярдзюк, — гаркнуў вупыр. — Сабака, каб яго чэрці, не падпусціў нават!

Офенберг з палёгкай уздыхнуў і ўпаў у знямозе.

— Асіна па вас плача, — нарэшце вымавіў ён.

— Ну, ты пагавары — разарву! Адно дзяржыся! — выбухнуў Сапега.

Той уздыхнуў:

— Сам да вас прыйду хутка. Дурань ты, горш мне ўжо не будзе.

— Я дурань?! Ды кароль Прусіі ў мяне рады пытаў! У Карла Пітэна аж зубы трашчалі ад злосці. Гэта я, Бенядзікт Сапега, прапанаваў дэтранізаваць караля Аўгуста![1] Што, не было? Наш Сас і квакнуць у адказ не паспеў. Гэты слімак пасля нават павіншаваў новага караля, забыўшыся, што тыдзень таму сам сядзеў на тым троне... Ці ж гэта мужчына? Праўду гавару, Крыштап?

Трэці цень праплыў каля вакна і накіраваўся да іх. Перад Сцяпанам з'явіўся сам менскі ваявода. Завіша паглядзеў яшчэ раз у вакно, каб ведаць, колькі ім засталося часу і, скрабянуўшы кіпцюром па змерзлай шыбе, павярнуўся да Сапегі.

— Каралём выбралі зялёнага вісуса! — закрычаў вупыр.

Вішнявецкі ашчэрыўся ў адказ.

— Не, ты не з-за маладосці не хацеў яго выбіраць. Няўжо памяць адняло? Нагадаць табе, як гэта было? Кароль прускі люта ненавідзеў Аўгуста. Што ён тады сказаў прымасу Радзіеўскаму, таксама не памятаеш? Калі нашы паны даведаліся пра выбар новага гаспадара ад караля Швецыі, то падняўся страшэнны вой. Шмат

[1] У 1703 годзе кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст II сапраўды быў дэтранізаваны, і на яго месца выбраны стаўленік шведскага караля Станіслаў Ляшчынскі.

хто лічыў сябе больш радавітым, здольным. Прымас Радзіеўскі адразу звярнуўся да Карла з просьбай, каб знялі кандыдатуру Ляшчынскага. Дурань, ён спаслаўся на маладосць кандыдата, забыўшыся, што той такога ж узросту!

— А мо і быў бы добрым дзяржаўцам? — вымавіў Сапега.

Ён трохі памаўчаў і дадаў:

— Адукацыю меў, сумленны чалавек.

— Не, — пакруціў галавой Завіша. — Верце мне, бо на сваім вяку бачыў шмат каралёў. Не хапала яму якраз таго, што патрэбна ўладару, — моцнага характару. Што гэта за дзяржаўца, які не можа шляхце кулак паказаць? Вымерлі сапраўдныя гаспадары дзяржавы... Наша зямля няшчасная — ёй патрэбны чалавек, які павядзе за сабой, ды вось нешта не бачу пакуль яго. А суседзі ўсё глядзяць сквапна і слінай давяцца, як той Іван Жахлівы. Божа, ты забіраеш лепшых людзей да сябе, а нам пакідаеш зрэб’е!

— Няўжо ты гэта сказаў! — крыва ўсміхнуўся Сапега. — Ці мне падалося? Пра Бацькаўшчыну ён раптам прыгадаў!

Прывід злосна рассмяяўся і коса зірнуў на суразмоўцу.

— Маўчаў бы! Сам жа ў вайну ўвязаўся.

— Каб не выпадак, можа, яшчэ і паразважаў бы. Няўжо думаеш, што пасля таго, як твае слугі на вузкай вуліцы Вільні Вішнявецкіх пастралялі, мой род такое даруе?

— Яны памыліліся, колькі разоў гаварыў! Не ведалі, хто гэта быў, а атрымалася... Ну сутыкнуліся дзве фурманкі, ну пачалі страляніну... Нашаму роду пасля большыя крыўды ўчынілі.

Завіша з Вішнявецкім схілілі галовы.

— Думаеце, па-людску гэта? Мне потым усё паведамілі. Калі па бітве пад Алькенікамі[1] быў узяты ў палон Міхал з Сапегаў, вы яго не пашкадавалі. У касцёле — святым месцы — напалі...

— Паны п’янымі былі, — пачаў апраўдвацца Вішнявецкі. — Мае жаўнеры спрабавалі стрымаць іх.

— Не замазвай мне вочы, — прасіпеў магнат. — Супраць Бога і сумлення пайшлі, слова дадзенае зламалі... Міхал прасіў вас, каб злітаваліся. Не вартыя бота цяпер твае абяцанні!

— Гэта Белазор, — выдыхнуў Офенберг. — Бенядзікт, гэта ён, а Вішнявецкі спрабаваў хлопца з іх зубоў вырваць.

У гэты момант яшчэ адзін цень з’явіўся перад хворым.

— Я! Так, тое быў я! — крыкнуў з кута канонік. — Першым даў поўхву, калі ён прасіў адпушчэння грахоў. Вішнявецкія ўзялі яго пад рукі і павялі да карэты, але пан Свядэцкі ззаду канюшага ў галаву ўдарыў шабляй. А тут ужо і ўся шляхта далучылася. Шматкі адны засталіся ад вашага Сапегі! Ха-ха-ха! Тры дні ў брудзе на вуліцы цела ляжала...

Канонік запляскаў у далоні і знік у цемры. Паны змоўклі. За акном хутка павінен быў пачацца новы дзень. Сцяпан разумеў, што, каб убачыць яго, трэба загаварыць прывідаў. Не проста так яны прыходзяць на зямлю — тут іх трымаюць няскончаныя справы. Раптам аднекуль на падлогу пасыпаліся манеты. Срэбра са звонам адскоквала ад дошак, закочвалася за мэблю, блішчэла ў святле агарка. Пасля з’явіўся і цень чалавека. Ён упаў на калені і пачаў зграбаць грошы, хціва скрыгочучы зубамі.

— Нікому не кранацца з месца! Парву! — крыкнуў магнат і ўчэпістымі тоўстымі пальцамі гроб пад прыпол кунтуша свой скарб.

---

[1] Бітва паміж войскамі Сапегаў і канфедэрацыі шляхты 18—19 лістапада 1700 г.

— Каб цябе кот узбрыкнуў! Напужаў жа, — скрывіўся Сапега. — У мяне такога дабра... Чаго прыцёгся?

— У Офенберга спытай.

Магнат паглядзеў на Сцяпана, але той у адказ толькі паціснуў плячыма.

— Ды так, прыгадаў. Падумаў, што Пацею найбольшы кавалак перапаў падчас нашай грызні. Вось і ўсё.

— Гэтага дастаткова. Ноч сёння такая. Каго б ты не ўзгадаў, усе прыйдуць. А мне ж зайздросціць не трэба — за сваё адплаціў. Не давядзі свет такое на ўласнай скуры каму...

— Брэшаш! Ты, Людвік, прайдзісвет! — злосна засоп Сапега. — Грошы да цябе самі ліпнуць. Пасля Алькенікаў прыдбаў права распараджацца нашымі маёнткамі і добра золата нашкроб. Затым праз тры гады ўзяў прывілей на гандаль тытунем у Рэчы Паспалітай, а праз год і права на біццё срэбнай манеты займеў.

— Яму таго мала было, Бенядзікт, — умяшаўся Завіша. — Гэты вылюдак усю дзяржаву сапсаванай манетай напоўніў. Там, паводле яго ініцыялаў, «Л. П.» выбіта было, а народ тлумачыў «людскі плач»...

Ён не паспеў дагаварыць, бо пачуўся ўзмах крылаў і спеў пеўня. Прывіды пагледзелі адзін на аднаго і пачалі знікаць у паветры. Апошнім сышоў Завіша, які паспеў ціха шапнуць даўняму сябру:

— Пашчасціла, братка, загаварыў ты нас. Але заўтра прыйдзем па цябе, рыхтуйся.

І знік, пакінуўшы сябра ў роздуме.

* * *

На абсягах Вялікага Княства наводзіў свае парадкі апошні, самы сцюдзёны месяц зімы. Лютыя маразы стаялі каторы дзень, холад прабіраў да костак. Снежнай коўдрай было пакрыта ўсё навокал і, апрача чорных камлёў дрэў, у бялюткай прасторы нічога не было відаць. Дзве кропкі ў гэтым забытым краі ўсё ж не былі падуладны зімовай скамянеласці і рухаліся наперад. Да Рэчыцы, куды вёў іх шлях, заставалася яшчэ пяць вёрст.

Навокал іх абступала каралеўства лесу. Вялізныя яліны, абсыпаныя зімовай пацярухай, драмалі і шатамі закрывалі неба. Пара крыжадзюбаў, спужаная храпам каня, зляцела са старой сасны. Мароз усё мацнеў, і чым далей яны прасоўваліся, тым цяжэй было ісці каню праз намеценыя на лясной сцежцы гурбы. Феліцыяну зрабілася не па сабе: чымсьці насцярожвала гэтая дзіўная цішыня, ды і мароз усё мацнеў. Лес гусцеў. Офенберг не разумеў, чаму ён не можа выехаць на гасцінец. Здавалася, гэта чыесьці злыя чары не даюць расступіцца панурым ялінам. Парбус бег поруч з канём, тапырыў вушы і злосна гыркаў, пазіраючы час ад часу на гаспадара. Паніч паглядзеў на яго і заўважыў кроў на снезе, па якім прабег сабака.

— Парбус! — паклікаў. — Асцярожней.

Але той, кульгаючы, бег цяпер наперадзе, а крывавыя сляды павялічваліся. Тады Феліцыян спешыўся, каб пагледзець лапу. Ён прысеў і паклікаў сабаку, але той не падышоў. Парбус стаяў на месцы і глядзеў у цемру, дзе блішчэлі два зялёныя агеньчыкі. Хлопец падняўся і стаў чакаць. З-за крывой асіны выйшаў стары воўк. Асцярожна ступаючы па снежнай кромцы, звер наблізіўся да чалавека. Парбус загырчэў, але воўк нават не павярнуў галавы. Ён утрапеніўся ў хлопца, і Феліцыян таксама не адводзіў ад яго позірку. «Ваўкалак, — круцілася ў галаве. — Так, вунь і палоска белая вакол шыі, і вочы, быццам чалавечыя. Чаго ж ён хоча? Старыя звы-

чайна гавораць, што калі ваўкалак — ахвяра чар, то можна ўратавацца, а калі сам чараўнік — заб'е, не пашкадуе».

Воўк ашчэрыўся, рыхтуючыся да скоку, але Парбус завішчаў і першы кінуўся на яго. Яны счапіліся на смерць, грызліся, толькі чуўся гыркат ды павіскванне. Снег стаў чырвоны ад крыві, хлопец схапіўся за галаву і чакаў. Ён бачыў, як губляе сілу Парбус і ўсё больш становіцца слядоў ад воўчых іклаў на яго скуры. Воўк учапіўся яму ў вуха і разадраў, а потым прыкусіў глотку. Сабака пачаў задыхацца, шляхціц не вытрымаў, схапіў сук і, падбегшы, ударыў ваўка. Той узвыў і кінуўся на чалавека, але яго апярэдзіў Парбус, які з усяе моцы ўчапіўся ў шэрую глотку і сціснуў сківіцы. Цяпер воўк канаў, а сабака ляжаў нерухома і не расціскаў іклы. Феліцыян нахіліўся над імі. Ён паспрабаваў падняць сабаку, той вільнуў хвастом, але не адпусціў.

— Парбус, до ўжо. Здох ён.

Офенберг азірнуўся, шукаючы вачыма каня, ды марна. Тады хлопец асцярожна ўзяў на рукі Парбуса і пайшоў па замеценай сцежцы.

Шлях быў доўгім і цяжкім. Былі хвіліны, калі хацелася ўпасці ў гурбы і проста заснуць. Здавалася, не хопіць волі, каб ісці далей. Ды і куды? Шляхціц не ведаў нават, што чакае наперадзе і ці ёсць хто жывы сярод гэтай белай пустэчы. Пад вечар, калі прабіраўся праз поле, ён наперадзе ўбачыў святло. Зразумеўшы, што натрапіў на жытло, ён ледзь не звар'яцеў ад радасці. У галаве круцілася толькі адно: «Уратаваўся! Дзякуй, пане Езусе!» Ён дакандыбаў да брамы сядзібы і пачаў грукаць. Адчынілі не адразу, нягледзячы на тое, што адразу назваў гаспадарам сваё імя. Ад полымя паходні слеплі вочы, і ён стаяў некалькі хвілін нерухома, засланіўшы іх рукавом. Пасля, калі служка адышоў трохі далей, каб не сляпіць госця, той змог нарэшце разгледзець людзей, якія сабраліся вакол.

У атачэнні слуг стаялі два шляхціцы. Адзін, з сівым павуціннем на галаве і доўгімі вусамі, уважліва разглядаў яго, быццам прыцэньваўся. Ён быў высокі, худы і трохі горбіўся, а адну руку трымаў на эфесе шпагі. Другі, юнак сярэдняга росту, ветліва ўсміхаўся, прыхільна пазіраючы на Офенберга. Ён першы загаварыў, узяўшы Феліцыяна ў абдымкі.

— Ах, братэньку, нездарма я сёння сон бачыў, што госць да нас завітае. А вы, татка, веры не давалі. Бачыце, як яно!

— Сапраўды! Мы вельмі рады яснавяльможнаму. Праходзь, шаноўны, не варта стаяць на марозе.

Феліцыян зайшоў у хату, адкуль прыемна пахла вячэрай. Агледзеўшыся, упэўніўся, што трапіў да дробнай шляхты ці «шарачкоў», як іх яшчэ грэбліва называлі больш заможныя паны. У адрозненне ад разбэшчанай прыдворнай шляхты, а таксама фальваркавай, «частковай» шляхце і «шарачкам» жылося цяжка. Іх побыт мала чым адрозніваўся ад халопавага. Але, нягледзячы на гэта, яны горда называлі сябе панамі і старанна берагалі гэты свой тытул, ад чаго нават часам рабілася смешна. Гаспадары запрасілі госця за стол:

— Пакаштуй нашага сціплага паедку, яснавяльможны. У цябе, пэўна, даўно кішкі марш іграюць.

Стары ўсміхнуўся і паглядзеў уважліва на Феліцыяна. Той злавіў сябе на думцы, што сімпатызуе гэтаму чалавеку, які, відаць, шмат чаго меў за плячыма. Глыбокія зморшчыны парэзалі яго твар, пажаўцелы ды грубы, і праменямі рассейваліся з вугалкоў вачэй, вельмі жывых і светлых.

— Які вецер занёс цябе да нас, братка? — звярнуўся да Офенберга малады пан. — Чаму ў такую пару зямлю мераеш?

Той распавёў ім пра выпадак у лесе, але змаўчаў пра дуэль, выбраўшы толькі некаторыя моманты, каб растлумачыць, як апынуўся ў Нясвіжы.

— Значыць, смерць у вочы паглядзела? — перапытаў стары гаспадар.

— Няўжо такое на свеце здараецца! — выдыхнуў яго сын.

— Розных і мне жыццё караваяў напякло. Вось так ведаеш, што пірог крыпаны, а вось з чым — здагадаешся толькі тады, калі пакаштуеш.

Пан Юры перавёў позірк на госця.

— Стралец страляе, а пан Бог кулі носіць.

Юнак зірнуў са здзіўленнем.

— Хочаш даведацца, чаму так гавару?

Феліцыян кіўнуў.

— Па вачах цябе бачна, шаноўны. Кажу, бо пажыў ужо. Іншы жупан часам не варты сярмягі. Ды што жупан! Думаеш, мы з магнатамі роўныя?

— Што ж такое гаворыце, бацька? — здзівіўся Адам.

Ён пачаў размахваць рукамі і апантана гаварыць.

— Паводле права роўныя. Маем жа вольнасці шляхецкія, гербы, караля, законы і, нарэшце, горла. Калі хто мне яго перарэжа, то заплаціць столькі ж, колькі і за іншага пана!

— Малады ты, Адаме...

— Бацька! — цяпер ужо ўзмаліўся юнак. — Усе зоркі роўныя па памерах! Толькі сярод іх ёсць няроўнасць, бо адна ад другой свеціць ярчэй, але гэта не псуе кожную.

Пан Юры паглядзеў на яго і паківаў галавой.

— Так, па Статуце мы роўныя, але ў жыцці... — ён уздыхнуў. — Сам Радзівіл можа з табой за адзін стол сесці і называць «братка», ды вось толькі паспрабуй яму запярэчыць ці не выканаць загад, як адразу скажуць, хто ты. Не толькі сам, а і дзеці з унукамі яго няміласць спазнаюць. Дарма, што хвіліну таму крычаў табе: «Любімся!»

— Бацька! Душа плача ад тваіх слоў! У нас жа Рэспубліка!

— Даведаешся, што значыць гэтае слова, калі цябе на сеймік запросяць і загадаюць скакаць пад чыю-небудзь дудку! Чаго вочы вырачыў? Святая праўда! Наш госць пацвердзіць.

Паніч з надзеяй паглядзеў на Офенберга, а той не змог вытрымаць гэтага наіўнага дзіцячага погляду і апусціў вочы.

— З голай кішэняй нічога не зробіш. Мы ў іх руках сляпая зброя. Скажуць на сейміку голас за аднаго аддаць — аддадзім, загадаюць за другога кашулю на сабе парваць — тое і зробім. Ім бяда вялікая, што гэта апошняя світка?

Феліцыян слухаў і не суваў носу ў гэты маналог, бо разумеў, што старому даўно набалела.

— А за непаслухмянасць можна вельмі лёгка пакараць, — працягваў пан. — Пазбавіць арэнды, учыніць наезд на фальварак, урэшце, збіць кіем ці розгамі.

Ён паглядзеў уважліва на сына.

— Кожны праўду ведае, ды не кожны яе любіць. Эх, калісь і наш Бог прачнецца! Але ж што гэта я... Пайду загадаю госцю сцяліць.

З гэтымі словамі шляхціц падняўся з лавы і выйшаў. Адам сумна ўсміхнуўся і апусціў вочы, больш нічога не пытаючы ў Феліцыяна. Так яны моўчкі сядзелі некаторы час, пакуль стары не вярнуўся і не запрасіў Офенберга ісці за ім.

* * *

Катажына спускалася па прыступках на другі паверх, каб зайсці ў бібліятэку. Яна задумалася і ішла па інерцыі, калі раптам пачула:

— Добры дзень, шаноўная пані.

Перад ёй стаяў юнак з брудна-зялёнымі вачыма і тонкімі, сціснутымі ў адну лінію, вуснамі. У руках ён трымаў звязку кніг і глобус. Катажына змерыла яго поглядам і ўсміхнулася. Яна прыгадала, што муж якраз гаварыў пра гувернанта і будучае навучанне сына. Значыць, гэта і ёсць настаўнік для Глеба? Яна нават зазлавала, бо цяпер пад яе наглядам было яшчэ адно дзіця. Чаму ж ён навучыць... Хіба толькі гаварыць... Яна зноў уважліва агледзела гувернанта. Ад гэтага позірку малады чалавек сумеўся і апусціў вочы.

— Дзень добры, — прамовіла нарэшце гаспадыня. — Я правільна разумею — вы Мікалай Стракоўскі?

— Яснавяльможная панна не памыляецца. Я буду настаўнікам...

— Спадзяюся, ваш узрост гэтаму не перашкодзіць, — перапыніла яна.

Вымавіўшы гэтыя словы, яна пакрочыла далей. Мікалай яшчэ больш папунсавеў і пайшоў за служкам. Праз хвіліну ён азірнуўся і выпусціў з рук глобус, які з грукатам паляцеў уніз. Малады чалавек войкнуў і кінуўся за ім, але на апошняй прыступцы не ўтрымаўся ды сам бразнуўся на падлогу. Служка, які назіраў усё, плюнуў і пачаў падымацца, а юнак, схапіўшы глобус, пабег следам.

Катажына спяшалася ў свой кабінет. Думкі былі заняты гаспадаркай. Падчас вандровак Станіслава яна была вымушана займацца хатнімі справамі і па сутнасці трымала маёнтак на сваіх плячах. Не паспела яна ўладкавацца ў крэсле, як дзверы адчыніла Глэся, каб паведаміць, што да яе прыехала Багдана.

— Няхай ідзе сюды, — адказала пані і прыплюшчыла вочы.

Пасля вяселля Багдана часта заязджала да сяброўкі. Яе аддалі замуж дзесьці праз месяц пасля вяселля Катажыны. Шляхціц Заброўскі, нарачоны дзяўчыны, быў добрым чалавекам, але занадта старым для маладой панны. Яна, даведаўшыся пра такую партыю, хацела пайсці ў манастыр, ды пабаялася засмуціць бацьку, таму змірылася з яго выбарам.

— Ведаеш, што я табе зараз распавяду? — крыкнула Багданіца, калі ўляцела ў пакой і спынілася перад Катажынай.

— Чакаю, калі пачнеш.

— Паны Забалоцкія на балі ў пана Скірмунта пабіліся!

— Яны заўсёды б’юцца.

— Ды не, на гэты раз моцна. Пан Мнішак шабляй пану Тамашу руку пасек, а пасля, як убачыў кроў, адразу цвярозым стаў і ад жаху пад спадніцу пані Залескай схаваўся. Іншыя панны, пашкадаваўшы небараку, абступілі яе і не далі яснавяльможным пакараць гэтага злодзея.

Катажына пырснула ад смеху.

— Я казала, што гэтыя спадніцы з рагоўкамі толькі дзеля такога і служаць. Крэпасць для баязліўцаў!

— Табе смешна, а я ледзь Богу душу не аддала. Паны пасля напіліся і паміж сабой пачалі біцца. Павярнулі сталы, скінулі посуд і абрусы, а гаспадар ад крыўды сам на іх з шабляй паляцеў, ды яго звязалі і кінулі ў кут, каб сядзеў ціха.

— А ты стаяла і чакала? Трэба было ўцякаць.

— Паны дзверы зачынілі, каб ніхто не збег. Пані Альжбэта ў непрытомнасці была, пакуль усё не скончылася.

Яна села на ложак і выставіла нагу.

— Мне мой Альберцік чаравічкі падарыў замшавыя, са спражкамі і маленькімі агатамі на носіку і пятцы. Ніхто такіх не мае!

— Вой, а што на шыі ў цябе?

— Перлавыя пацеркі! Былі яшчэ срэбныя спражкі пры падвязках, ды пан Ян быў такім добрым кавалерам, калі я сумавала на мінулым балі ў паноў Старжынскіх, што я падарыла іх яму. Так ён не забудзе ні той баль, ні мяне. Ведаеш, пан Ян абяцаў, што прышпіліць гэтыя спражкі на сваю вупраж!

— У пана Яна, акрамя тваіх, яшчэ колькі восіць!

— Нічога, мае будуць найлепшыя! А ты як?

— Заўчора з Альжбэтай бачылася.

— У мяне таксама мазалі на вачах ад яе. Чым на гэты раз хвалілася?

— Прыносіла галандскія бялілы, дала мне скрыначку.

— Пакажы. Я ў Альберціка таксама іх прасіла заказаць, ды яшчэ ваду пахучую, але вось не прывезлі.

Катажына дастала скрыначку з бяліламі. Багдана ўсунула ў яе палец і мазанула сабе твар. Пасля павярнулася да люстэрка.

— Гэтыя нават лепшыя, чым у Гражыны! Трэба будзе выпытаць у Альжбэты, дзе яна замаўляла. Ад гэтых такая далікатная бледнасць твару! Дарэчы, пасля можна блакітным пазначыць жылкі, бровы падвесці і наклеіць мушку. Я на прыёме ва Уняхоўскіх такую штуку з кавалачка шоўку зрабіла, дык пан Яцак усё ніяк не мог адчапіцца, залёты строіў і маю мушку хваліў.

— Пан Яцак бабздыр, якіх свет не бачыў.

— Ведаю, ды толькі гэты бабздыр мяне на танцы і запрашаў. Скакалі з ім мазурку, пасля ў паланэзе кружыліся. Ой, як прыгадаю, дык сэрца б’ецца мацней. Пан Захвоцкі за паннай Гертрудай плёўся, як на цапе, а ў цёмным куце пацалаваў! Кажуць, у іх усё дамоўлена, але бацькоў баяцца.

Яна пачала накручваць валасы на палец.

— Між тым, панна Гертруда за старым панам Янушам даўно замоўлена, таму і плача кожны вечар, а ў касцёле на каленях кленчыць.

— А пані Ядвіга была?

— А як жа! Божа літасцівы, са старой пыл сыплецца, а на балі скача!

Яны засмяяліся.

— Што яшчэ адбылося?

— Бачыла пана Радзецкага.

— Гэта праўда, што яму руку адсеклі?

— Праўда, бо на сейміку не хацеў голасу змяніць. Паны Даброўскі з Хмарай нават не размаўлялі і не глядзелі адзін на аднаго. Не так даўно першы на другога збройны наезд зрабіў, то цяпер судзяцца.

Яна замоўкла. Пасля, раптам нешта прыгадаўшы, падскочыла і зноў пачала апавядаць.

— Ці ведаеш, што Яўстафія Грышэўская аддадзена бацькамі да Радзівілаў на выхаванне?

— Таварышкай?

— Ага. Да жонкі гаспадара.

— Шкада яе — нагаруецца там.

— А як жа! Толькі мо да лепшага ўсё ж? Грышкоўскі нават старэйшай дачцэ не зможа добры пасаг забяспечыць. Такі пан, што боты ў латах, але стараецца таго не паказваць. На стале есці няма чаго, а прыбіраецца, каб не горш за якога сябру-

ка свайго. Калі аддасць Радзівілам, то тыя выдадуць дзеўку замуж ды прызначаць пасаг, які бацька нават не нашкрабе. Ім грошай не ўбудзе!

Катажына кіўнула і апусціла вочы. Багдана, зразумеўшы яе смутак, не наважвалася загаварыць першай, а паднялася і пачала хадзіць па пакоі, уважліва разглядаючы інтэр'ер.

— Як твой сынок? — нарэшце спытала яна.

— Якраз сёння прыехаў настаўнік, якога наняў Станіслаў.

— Малады? Прыгожы?

— Занадта малады, Багуся, таму...

— Ой, Катажынка, глупства... Толькі памятаю, што ты ўсё хацела аддаць малога на выхаванне дзеду.

— Думала, пабудзе з бацькам гадоў дзесяць, а тады і назад забяром.

— То чаму ж?

— Станіслаў не захацеў. Сказаў, цяпер па-іншаму робяць.

— Дурное. Вось я да дванаццаці год маці не бачыла, пакуль час у свет выйсці не прыйшоў. Памятаю, як сказала мне нянька, што пабачуся хутка з ёй, то мне так страшна зрабілася, але потым...

— Цяпер інакш.

— Не кажы. І сёння так шмат хто робіць: дзеду з бабкай, няньцы ці заможнейшым панам на выхаванне пакідаюць. А як падрасце, то тады час мамку з бацькам убачыць.

Багданіца падумала трохі і дадала:

— Мо і добра, што вы настаўніка ўзялі. Учора пан Кастусь такія жахі пра сваю колішнюю акадэмію расказваў. Гаварыў, горшых вучняў садзілі на нейкія «асліныя лаўкі» каля печы ці вадзілі па вуліцы ў саламянай кароне.

— Ведаю. Марцін яшчэ распавядаў, нібы ў кожным класе таемна прызначаецца «цэнзар», які даносіць настаўнікам.

— Ой, дзякуй Богу, пан Юзаф забраў яго адтуль. Вучыў бы адну філасофію і тэалогію. Гэтых бедных дзяцей прымушаюць гаварыць толькі на латыні, нават у горадзе. Я аднойчы сама бачыла, як адзін з пекарам мучыўся. Ён просіць слодыч, а гэты не разумее і суне хлеб. Хлопчык ужо пальцам пачаў паказваць, а той дурань не бачыць. Я не вытрымала, бо ў малога такі няшчасны выгляд быў, дык растлумачыла. Як жа ён заззяў!

Яны засмяяліся.

— А што яшчэ табе пан Кастусь на вушка нашаптаў? — пакпіла Катажына.

— Паспрабаваў пацалаваць, калі ніхто не бачыў.

— А ты і не супраць? Дурань твой пан, як не зразумееш! У ладным адзенні, а бруд аж блішчыць.

— Чаму так яго не любіш?

— Дык жа відаць, што за чалавек! Вочкі ў сіраты пазычыў, а думкі ў разбойніка. Можа, калісь на занятках па тэалогіі яму вушы серай залілі?

Багдана з непаразуменнем паглядзела на сяброўку.

— Я пра тое, што не чуў ён святых слоў! — засмяялася тая.

Багданіца плюнула і махнула рукой.

— Ой, Катажынка, цябе не выправіш. Лепш пачастуй мяне кавай са слодычамі.

* * *

Дзяўчына азірнулася і сумелася, сустрэўшыся позіркам з дзіўным юнаком.

Вузкія зялёныя вочы Ігната даўно цікавалі за гэтай пекнай шляхцянкай. Сядзеў спачатку ды любаваўся, сачыў за кожным яе рухам, бляскам шэрых вачэй, якія з

непрыхаванай кплівасцю аглядалі прысутных. Тое яму больш за ўсё падабалася: яе пагарда гэтымі хамамі. А вочы! Колькі ў іх жыцця і нават чагосьці вядзьмарскага! Чараўніца! У той момант вочы Зулісі міжволі спыніліся на ім, і панначка, зноў злавіўшы стрэчны позірк, раптам пачырванела. На твары той румянец успыхнуў кветкай чырвонай ружы, але хутка знік, бо яна добра валодала сваімі пачуццямі. Ігнат жа і не падумаў адвесці вочы. Нарэшце хлопец  наблізіўся з нізкім паклонам, пачціва зняўшы перад дзяўчынай капялюш.

— Дазвольце, шаноўная панна, вітаць вас. Аб'ехаў палову нашага панства, але такой прыгажуні не сустракаў!

Шляхцянка засмяялася і адказала:

— Можа і так, але здаецца мне, што ўсе паненкі з той паловы, якіх пан меў магчымасць бачыць, чулі тое самае!

Ігнат аж прысеў.

— Ах, панна! Маё сэрца абліваецца крывёй. Няўжо шаноўная не верыць майму слову?

— Ведай, паніч, што бусел глядзіць на ваду, а ўглядаецца пад ваду. Так і я, бо воўк не пастух, а каза не агароднік.

— Ох і язычок у вяльможнай!

А сам пра сябе дадаў: «Не язык, а шыла ды з перцам!»

Зуліся нічога не адказала і адвярнулася. Тады Ігнат абышоў вакол і зноў стаў перад ёй.

— Чаму пані на мяне сэрца мае?[1]

— Таму што пан глядзеў на мяне, як у сабакі вачэй пазычыўшы.

У шляхціца ад гэткіх слоў і мову заняло. Выручыў яго дзядзька Бенядзікт, які падсеў і зухавата падміргнуў панічу:

— Вядзі, Ігнат, паненку да моладзі, павесялі госцю. Там і таварышы твае ўжо сабраліся. Глядзі, калі не дурань, за такой прыгажуняй. Дзе ты яе знайшоў, шахрай? От, чуе чорт, дзе смажаным пахне!

Ён падхапіў іх і зацёг у іншы пакой, дзе ў асобнай зале сабралася маладзь. Смех і гоман там сапраўды не сціхалі. Гулялі ў загадванне слоў, і зараз была чарга юнакоў. Кожны задаваў пытанне выбранай дзяўчыне, якая мусіла даць трапны ці жартоўны адказ. Калі панна не адгадвала, то павінна была адкупіцца пацалункам, таму і выбіралі найпрыгажэйшых ці найбольш сарамлівых, з якіх можна было пакпіць. Таму знарок прыдумлялі пытанне з двайным сэнсам, каб панны засаромеліся даць адказ. Цяпер жа загадваў Ян Яблонскі, які даўно чапляўся да Марысенькі Садоўскай. Панначка заўжды чырванела і закрывала твар далонькамі, а паніч прыдумваў усё новыя смешныя загадкі.

— У што пані пхнуць, каб вада пацякла? — блазнаваў ён.

Ад такога пытання Марысенька аж пабялела, а Ян трыумфаваў:

— Ну, кажы, паненка!

Шляхцянка не вытрымала і выбегла з пакоя, а ёй услед чуўся рогат хлапечай кампаніі.

— У сажалку, — паляцеў наўздагон адказ паніча.

Ігнат таксама хітра ўсміхнуўся і паглядзеў на Зулісю.

— У мяне пытанне! — выгукнуў юнак. — І да самай ладнай паненкі ў гэтым гурце!

Вочкі маладых шляхцянак заблішчалі ў чаканні, каго ж ён назаве найпрыгажэйшай?

---

[1] Мець сэрца — злаваць.

— Вось той, — працягваў дурыцца паніч, — у чырвоных пантофліках.

Зуліся ўсміхнулася. «Ах ты, валацуга, блазнуеш! Вось у каго ляйчына пад хвост патрапіла!» — падумала яна.

— Адкажы, панначка, што табе патрэбна зрабіць, каб дзіця мела?

Вымавіў і, задаволены, засмяяўся ў рукаў, сустрэўшы адабральны гул сярод хлопцаў. Паненкі ж зачырванеліся, пачалі перашэптвацца, а некаторыя пахавалі вочы. Уся ўвага была звернута на Зулісю. Дзяўчына зрабіла крок наперад, уважліва абвёўшы вачыма залу, працягнула рукі да Ігната і прамовіла:

— Панічу трэба даць мне яго ў рукі патрымаць. Тады буду мець дзіця... у руках!

Ігнат не чакаў, што яму нос падатруць, а тая працягвала выбіраць вочы.

— А цяпер дазволь, шаноўны, мне задаць пытанне. На вадзе ляжыць ды не тоне, па агні бяжыць, ды не гарыць.

Ігнат зморшчыў лоб і прыціх, але ў галаву нічога не лезла.

— Вось табе і маеш! Прыдумай, панначка, іншую, пашкадуй.

— Добра. Што любіш, але не купіш, а што не любіш, ды не прадасі?

Ігнат задумаўся, але нічога не мог адказаць. Непрыемную цішыню перарваў нечы голас.

— Можа, пані дазволіць адказаць на пытанне?

Зуліся азірнулася. Перад ёй стаяў Феліцыян і пазіраў на яе з непрыхаванай пяшчотай.

— Калі ласка. Я язык нікому не завязваю.

Офенберг усміхнуўся.

— Любіць чалавек маладосць, але не купіць за грошы. А вось старасць, хоць зусім не патрэбна, не зможа не толькі прадаць, але і аддаць іншаму. Адказаў на тваё пытанне?

Дзяўчына кіўнула і сарамліва ўсміхнулася яму ў адказ. У гэты момант якраз усіх гасцей паклікалі ў галоўную залу танчыць. Зуліся выходзіла амаль апошняй, калі яе хтосьці затрымаў за руку.

— Куды ляціш, чараўніца?

Панначка спахмурнела.

— Шаноўнаму не трэба так гаварыць. У чым я перад ім вінаватая?

— Што з сэрца не вырваць. Скажы, чым прыварожыла і як ад гэтага лячыцца?

Тая засмяялася.

— Лячыўся ж неяк, калі столькі часу ад паніча ніякай вестачкі не было.

— Не злуйся, панначка, не хацеў пакрыўдзіць. Не па сваёй волі не змог дагэтуль з табой пабачыцца. Але вось цяпер тут дзеля цябе. Падабаешся мне, прыгажуня. Адкажы і ты, ці я да сэрца табе?

Дзяўчына запунсавела і схіліла галаву. Шляхціц зноў запытаў:

— Ці будзеш яшчэ чакаць, пакуль не пагавару з бацькам?

Яна кіўнула і закрыла твар далонькамі. Феліцыян сарваўся з месца, падхапіў яе і падняў у паветра. Так пакружыўшы, нарэшце асцярожна апусціў свой скарб на падлогу і стаў на калена.

— Калі згадзілася чакаць, то прымі гэта.

Ён працягнуў срэбны медальён з выявай Найсвяцейшай Панны.

— Ад бяды зберажэ цябе ды ад няшчасця ўратуе.

З гэтымі словамі надзеў падарунак Зулісі на шыю і пацалаваў руку. Затым паніч правёў яе ў залу, дзе дзяўчыну даўно чакала цётка.

— Расцвіла ты, мая рабінка, у гады ўвайшла, — шчабятала яна. — Іншыя дрэвы рана цвітуць і плады хутчэй даюць, а вось рабіна позна сваю прыгажосць паказвае,

быццам баіцца даверыцца каму. Кіслыя ягады толькі зімой можна ў рот пакласці, але ж якая смаката! Паглядзіш, як чырванню на бялюткім снезе гарыць, то аж сэрца радуецца. Ох, свой час ягадзе, свой час баравіку.

Дзяўчына запунсавела і адвярнулася.

— Досыць вам, цётачка.

— Ну, Зуліська, я ўжо даўно пра гэта думала. Буду цяпер партыю шукаць, а то заседзелася ты ў дзеўках.

Сказаўшы тое, яна заспяшалася ў другі канец залы, пакінуўшы пляменніцу са сваімі думкамі. Крыху больш за год прайшло з таго часу, як засталіся яны з Васількам адны на гэтым свеце. Брата прыняў да сябе на працу пан Незабытоўскі, бо той нікуды не хацеў ад'язджаць з дзедавай сядзібы, а цётка ўзяла на сябе апякунства пляменніцы і забрала да сябе. Па законе Княства, калі ў сірот не было родзічаў «па мячы», апекунамі станавіліся родныя «па кудзелі». Праўда, для жанчын у такім выпадку выстаўляліся некаторыя патрабаванні, з якіх галоўнае, каб гэта была замужняя кабета, якая «мела гаспадара цнатлівага і прыстойнага». Муж цёткі Ядвігі, пан Ян Усевіч, быў добрым чалавекам і пагадзіўся прыняць дзяўчыну. За гэта, магчыма, Бог і паспрыяў яму ў заключэнні дамовы аб куплі зямлі, якая была ўдалай для пана. Справы пайшлі ўгору, і Усевіч у хуткім часе папоўніў свой гаманец дукатамі і тынфамі.

Цяпер жыццё неслася перад Зулісяй з незвычайнай хуткасцю. Раней здавалася, што яго плынь такая павольная, але на здзіўленне яна хутка ператварылася ў бурлівую раку са шматлікімі вірамі і камянямі. Пасля балю цётка Ядвіга не на жарт загарэлася думкай пра ўладкаванне яе лёсу. Пачала шляхцянка з выхавання, бо сама дзівілася, як гэта сястра не займалася з дачкой. Танцы, вышыванне сталі неад'емнай часткай дня паннячкі, і яна так стамлялася, што заўсёды чакала вечара. Звычайна тады ўся сям'я садзілася перад камінам, каб паслухаць, як чытае ўголас дзядзька Ян. Часам яму надакучвала, і тады чарга пераходзіла да Зулісі.

Маладыя панічы, іх дзеці, пакуль жылі разам з бацькамі. Дзядзька быў чалавекам сармацкіх позіркаў і лічыў, што, пакуль ён жывы, маёнтак будзе непадзельны. Таму дарослыя браты былі цалкам залежныя ад яго волі. Яны не маглі нават ні ў чым пярэчыць, каб бацька, барані Божа, не пазбавіў іх часткі спадчыны. Зулісю дзівілася спачатку, калі гэтыя бэйбусы хадзілі на пэўнай адлегласці ад гаспадара, носячы яго шаблю, альбо станавіліся воддаль пры лаўцы, на якой той сядзеў у касцёле. Пані Ядвіга са свайго боку баялася спачатку, што дзяўчына, не атрымаўшы патрэбнай адукацыі, якую належала мець паненцы, будзе з цяжкасцю ўсяму вучыцца. Але праз нейкі час жанчына ўбачыла, як яе Зулісю пачынае на вачах мяняцца, вельмі лёгка схоплівае ўсё, чаму яе вучаць, і пераймае. Сынаўка, здавалася, атрымала крылы і прасцяг, дзе магла іх расправіць, а гэта не магло не радаваць добрую жанчыну.

* * *

Ужо зусім развіднела, але снег не пераставаў ісці з ночы. У гэтай снежнай прасторы па полі ехаў вершнік. Снег сыпаў яму за каўнер, наліпаў на валасы, але Офенберг не зважаў на гэта. Перад дзвярыма роднага маёнтка ён спыніў каня, спешыўся і пачаў грукаць у дзверы. Праз нейкі час пачуліся крокі і спужаны голас старой.

— Адчыняй! — закрычаў ён. — Гэта я — Феліцыян.

Дзверы зарыпелі і адчыніліся. Перад ім стаяла збялелая Тэафілія. Яна выпрастала руку, каб дакрануцца да яго, войкнула і павалілася ў ногі.

— Божухна! — галасіла яна. — Жывы! Нам жа ганца прыслалі, што цябе... Стары ад гора другі раз сівым стаў, да ложка жалем прывязаны. Найяснейшая пані, не вытрымае яго сэрца такога!

— Лекара запрашалі?

— А як жа! Той нешта выпісаў, а ён не п’е. Лаецца: «Усё роўна тры чвэрці да смерці, дык нашто гэтае паскудства глытаць?»

Феліцыян зайшоў у пакоі дзядзькі. Там панаваў паўзмрок. Каля ложка на зэдліку гарэла свечка, а на падлозе ляжала міса.

— Што гэта? — незадаволена спытаў Офенберг.

Тэафілія збянтэжылася і нічога не адказала. Феліцыян звёў бровы:

— Прыбяры, і так дыхаць няма чым!

У гэты момант хворы заенчыў і пачаў нешта шаптаць падобнае да малітвы, пасля сцішыўся. Юнак прысеў у крэсла, якое стаяла каля ложка.

— Я пабуду з ім, ідзі.

Жанчына выйшла з пакоя, а Феліцыян прымасціўся каля дзядзькі. Яму было цяжка глядзець на зжаўцелы твар роднага і такога дарагога чалавека, які не раз дзеля яго рызыкаваў уласным жыццём. Раптам стары застагнаў, расплюшчыў вочы і, убачыўшы паніча, заўсміхаўся.

— Жывы!

— А як жа! Захацеў цябе наведаць.

— Мы думалі...

Ён закірхаў і прастагнаў:

— Піць.

Феліцыян кінуўся да стала і падаў келіх з лекамі. Стары скрывіўся і выплюхнуў зёлкі на падлогу.

— Смерць на носе, а вы гэтую атруту піць прымушаеце. Налі мне добрага віна.

— Табе ж лепш стане... — разгубіўся хлопец.

— На тым свеце, ды і не ад гэтай брыдоты. Рабі, што сказаў, калі хочаш хоць у апошнюю хвіліну зрабіць палёгку. Ад старасці ды ад смерці няма лекаў на свеце.

Тут заўважыў плямы крыві на рукаве ў Філіцыяна.

— Што гэта?

— Ды так, у лесе воўк з Парбусам счапіліся.

— Уратаваў ён, значыць, цябе. Добра, што падарыў яго. Дай мне сваю руку.

Сцяпан намацаў нешта пад падушкай і ўзяў руку сынаўца. На яго далоні бліс-шчэў сігнет.

— Час прыйшоў насіць. Для цябе загадаў зрабіць. Памятай, хто ты, бо кодла наша старое. Гонар і годнасць захоўвай — іх не купіш. Старасць слабая на ногі, Феліцыяне, але моцная на розум. Таму слухаць маёй добрай рады табе не зашкодзіць. Памятай, сынку, што ты грамадзянін Рэчы Паспалітай, але найперш усё ж, жаўнер Вялікага Княства Літоўскага.

З гэтымі словамі ён паспрабаваў падняцца з ложка, але Феліцыян не дазволіў і паклаў руку на зморшчаную кісць старога. Той паглядзеў на далонь юнака, бы нешта прыгадаў і дакрануўся да шрама каля вялікага пальца.

— Ну і даў жа мне жаху, — прамовіў нарэшце ён.

— Ты пра шрам?

Сцяпан кіўнуў.

— Ніяк не загоіцца, а колькі гадоў прайшло. Памятаеш?

— Не вельмі добра. Памятаю гадзюку, як працягнуў да яе руку, а потым... Ты схапіўся за галаву, потым выняў сцізорак, пашырыў ранку і высмактаў кроў.

Сцяпан слаба ўсміхнуўся.

— Доўга кляў сябе, што не дагледзеў. Ты і малечай нічога не баяўся, нават не заплакаў. Каб атрута, барані Пане Езусе, пайшла па жылах, то і я б не жыў! Пакуль сядзеў ды чакаў, калі спадзе жар і скончацца твае трызненні, то з адчаю не ведаў, якім багам маліцца.

Яны некалькі хвілін памаўчалі, і Офенберг загаварыў зноў.

— Што на свеце чуваць?

— Прыкра мне.

— Чаму?

— Спазнаў чалавечую «ласку». Розныя людзі па зямлі ходзяць: адны за грош прадаць могуць, а іншыя за добрае слова ад смерці ўратуюць. Як тут зразумець, хто перад табой стаіць і каму душу адкрываеш?

— А ты ў вочы глядзі. А душу... Яе лепш зусім нікому не паказваць. Не той моцны, хто стрымлівае коней, а той, хто сябе стрымае. А цяпер ідзі, я стаміўся.

— Блаславі, дзядзька.

Феліцыян стаў на калені перад ім, і стары, паклаўшы руку яму на галаву, вымавіў:

— Бласлаўляю на ўсё добрае, а на іншае — сам здагадайся.

Паніч пацалаваў дзядзьку руку і выйшаў. Яго ўжо чакала ў пакоях Тэафілія. Яна загадала, каб сынаўцу падалі вячэру. Пані доўга і ўважліва глядзела на панурага Феліцыяна. Таму нават кавалак у горла не лез з-за горкіх думак. Тады жанчына прычыніла дзверы, падсела да яго і зашаптала:

— Вось што я табе скажу. Можаш называць бязбожніцай, як дзядзька, але паслухай мяне. Каб не мучыца з-за нядобрых думак, зрабі так. Зараз з'еш хлеб, а апошнюю лусту вазьмі з сабой і ідзі на раздарожжа. Калі дойдзеш, прытуліся да зямліцы і ўважліва слухай. Што ў вушы ўвойдзе, тое прыйдзеш і раскажаш.

Феліцыян грэбліва паглядзеў на яе, але паслухаўся. Ішоў доўга па замеценым шляху, з цяжкасцю перастаўляючы ногі ў гурбах снегу. Насустрач яму выў пранізлівы вецер і шпурляў ледзяныя крышталікі ў твар. Мароз прабіраў да костак, і шляхціц пачаў быў клясці старую ды сябе, што згадзіўся патураць. Але, прыгадаўшы хворага, сціснуў зубы і пакрочыў далей. Нарэшце дайшоў да скрыжавання. Стаўшы на калені, Офенберг падняў рукі ўгору і ўпаў у мяккі халодны абрус.

Вецер узвыў, зрабіўся шалёным ды злым. Паніч нават крыху спужаўся. Каля яго, крокаў за пяць, нехта страшна зарагатаў і пачулася конскае іржанне. Пасля недзе завыў сабака ды так сумна, бы жаліўся, але адразу і сцішыўся, як не было. Потым вельмі блізка над ім нехта жаласліва і горка заплакаў. Феліцыяна перасмыкнула, і ён з усіх ног пабег да маёнтка, каб толькі не чуць больш нічога і не думаць пра благое...

Дома пані Тэафілія доўга яго распытвала і паіла медавухай, каб адагрэць і развязаць язык.

— А можа смяяўся той голас, песні спяваў? — пыталася яна і з надзеяй пазірала на сынаўца. — Ой, божухна, нядобры знак. Калі б песню пачуў, то мо б і ачуняў, а так... Маліцца трэба.

Шляхцянка сумна ўздыхнула, паднялася і выйшла з пакоя, пакінуўшы паніча сам-насам з невясёлымі думкамі. Юнак так і сядзеў, абхапіўшы галаву далонямі. Калі ж пачуў крокі, то ўзняў вочы і аслупянеў. Катажына, заўважыўшы яго, таксама пабялела. Зрэнкі яе цёмна-зялёных вачэй пашырыліся, іх затуманіла празрыстая плёнка, якая пагражала ператварыцца ў салёныя кроплі. Але яна пераадолела сябе і зрабіла крок насустрач.

Феліцыян стаяў перад ёй разгублены. Шляхцянка знарок выпусціла з рук свечку. Афенберг падняў яе, і калі зноў паглядзеў на сяброўку, то здзівіўся змене, якая з ёй адбылася. Перад ім стаяла ўжо не тое дзяўчо, якое чырванела, калі цалаваў яе ў шчаку на развітанне, а жанчына з праніклівым і гордым позіркам. Яна падышла бліжэй да названага брата і пацалавала яго ў лоб, а пасля дакранулася мяккай халоднай далонькай да шчакі і вымавіла:

— Нездарма я малілася і верыла наперакор людскім словам. Толькі Міласэрны Творца даў мне тваё жыццё, брат, але забірае да сябе дзядзьку.

— Дзякуй, што стаяла пры ім стаянцом гэты час[1]. Але цётка не хоча, каб сябе мучыла, ідзі адпачні.

— Хіба гэта цяжар — клапаціцца пра роднага чалавека?

— А дзіця? Можаш...

Катажына перапыніла:

— На ўсё воля Бога. Пойдзем, яму стала горш. Ты павінен быць побач.

Сцяпан ляжаў на ложку і глядзеў шклянымі затуманенымі вачыма на свечку. Полымя час ад часу ўздрыгвала ад яго слабога дыхання. Стары Афенберг, здавалася, нічога не бачыў і не разумеў, апроч смерці гэтага агарка. «Ці ж так трэба паміраць? — думаў ён. — Паміраем і плачам». Пачуўшы крокі, ён павярнуў галаву і ўбачыў Катажыну з сынаўцам. Спрабуючы нешта сказаць, хворы заварушыў вуснамі, але замест гукаў пачуўся енк. Маладая жанчына закрыла твар рукамі і схілілася на плячо панічу. Каб не пужаць яе, стары больш не гаварыў, толькі скіраваў позірк на юнака і паказаў вачыма на крыж, а пасля на герб, які вісеў насупраць. Феліцыян зразумеў яго і кіўнуў, тады шляхціц уздыхнуў з палёгкай і заплюшчыў вочы.

* * *

Перад брамай касцёла вазніца затрымаў коней. Катажына выскачыла на снежны пляц, удыхнула марознае паветра і пайшла па сцежцы да дзвярэй. Сёння прыехала знарок рана, калі тут было няшмат людзей. Панна зайшла ўнутр, агледзелася і, нікога не ўбачыўшы, укленчыла перад распяццем. Тым часам з боку ўваходу пачуліся крокі, і нейкі шляхцюк сеў на лаву непадалёк ад яе. Патрохі зала пачала напаўняцца, і жанчына, прашаптаўшы апошнія словы малітвы, памкнулася да дзвярэй. Якое ж было яе здзіўленне, калі шляхціц таксама падняўся і пайшоў следам. Катажына здзівілася, ды не падала выгляду. Калі ж яна звярнула на сцежачку, пан пацёгся туды ж, але яму было цяжка ісці па гэтай вузкай каляіне. Пані паглядзела на яго смешныя спробы нагнаць яе, засмяялася і накіравалася да саняў. Убачыўшы тое, яснавяльможны праз сумёты паляцеў ёй напярэймы. Галантна схіліўшыся ў паклоне, ён падаў Катажыне руку і дапамог сесці.

— Дзякую, — прамовіла яна.

— Заўсёды рады дапамагчы паненцы. Дазвольце назваць сябе — Яраш Лычкоўскі. Ці магу я спадзявацца на тое, што яшчэ ўбачу шаноўную? Цяпер не змагу без гэтага, як зямля не можа без сонца.

Катажына ўсміхнулася, але нічога не адказала. Вазніца пагнаў коней, пакінуўшы пана стаяць. Ён жа расправіў рукі і паваліўся ў сумёт. Не звяртаючы ўвагі на мінакоў, пан Яраш ляжаў у снезе і па-блазенску ўсміхаўся.

Ужо вечарэла, калі пані зачынілася ў сваіх пакоях. Ціха патрэсквалі ў маленькай пячурцы з зялёнай кафлі паленцы. Полымя асвятляла ўтульны пакойчык. Катажына

[1] Даглядаць чалавека, ратаваць ад хваробы (фраз.).

сядзела ў крэсле і думала пра ранішняе здарэнне. Яна прыгадала дзіўнага паніча, усміхнулася, але гэтыя думкі былі абарваныя Глэсяй, якая ўбегла без стуку і закрычала:

— Пані, кулігі![1] Пані!

На двары чулася валтузня і брэх сабак. Катажына падышла да акна і ў свеце паходняў разгледзела шэсць саней.

— Пані, што рабіць будзем? — спытала напужаная служка.

Гаспадыня нават не павярнулася да яе і абыякава адказала:

— Загадай прымаць.

Госці адразу накіраваліся да стала. Нягледзячы на тое, што ўсе былі на добрым падпітку, яны пацягнуліся адразу да келіхаў з віном і гарэлкай. Служкі ледзь паспявалі падносіць гарачае і напоі. Катажына з хвіліну назірала за гэтым, а пасля грэбліва ўсміхнулася і накіравалася да сябе, загадаўшы Глэсі прыглядваць за ўсім. Жанчына села ў крэсла, захутала ногі коўдрай і ўзяла кнігу. Яна заплюшчыла вочы і на імгненне перанеслася ў дом бацькоў. Перад ёю з’явіўся мілы сэрцу вобраз кабінета, дзе былі бацька і брацік...

Жанчына расплюшчыла вочы і ўздыхнула. У пячурцы ўжо смылелі галавешкі. Адтуль цягнула цяплом і пахла паленым. «Зноў Глэся туды смецце выкінула, — падумала пані, злуючыся на дурнаватую служку. — Задам жа я ёй заўтра чапалосу!» Яна разгарнула кнігу, і адтуль выпалі два аркушы з вершамі, якія напісала яшчэ дома. Катажына падабрала іх, і сумная ўсмешка з’явілася на малінавых вуснах. З хвіліну павагаўшыся, шляхцянка ўстала, падышла да каміна, і аркушы павольна апусціліся на дагараючыя вугельчыкі. Успыхнуўшы, агонь хціва пачаў лізаць паперу.

У гэты момант дзверы зарыпелі, падпіхнутыя нечым плячом, і моцна грукнуліся аб сцяну. У пакоі ўваліліся некалькі п’яных шляхцюкоў. На адным з іх верхам сядзеў Станіслаў з падбітым вокам і ў падзёртым жупане, заляпаным ванітамі і брудам. Ён агледзеўся і, заўважыўшы жонку, зарагатаў.

— Ты павінна выйсці і павітаць гасцей! — закрычаў ён. — Яны чакаюць!

Яна не кранулася.

— Прашу шаноўных пакінуць мае пакоі.

— Калі сама не пойдзеш, то за косы выцягну! Наперад, браткі! Няхай госці павесяляцца!

Яны пасунуліся да шляхцянкі, але тая знянацку павярнулася і паказала мізеркорду. Паны пабялелі і нават трохі працвярэзіліся.

— Хто паспрабуе падысці бліжэй? Няма харобрых?

Станіслаў аж пачырванеў ад злосці. Ён паваліўся на падлогу, паглядзеў на жонку і раптам хітра падміргнуў сваім сябрукам.

— Усё адно пойдзеш. Ды што казаць — пабяжыш! Мы туды Глеба прынеслі. Ідзі, ратуй сына!

— Як прынеслі? — спужалася жанчына.

— У люльцы прынеслі, пані, — гігікнуў лісліва адзін з паноў.

Катажына моцна сціснула дзяржальна мізеркорды.

— Я выйду, — адказала спакойна.

Пан Станіслаў задаволена ашчэрыўся і выпаўз на каленках з пакоя, а за ім гэткім жа чынам накіравалася яго «світа». Калі гаспадыня спусцілася да залы, ніхто нават не звярнуў на яе ўвагі. Шляхцянка агледзелася і заўважыла фамілію Уняхоўскіх. Стары пан нервова круціў адной рукой вус, а другой трымаў палку з дзяржальнам

[1] Наезды няпрошаных гасцей у час ад Новага года да запустаў.

у выглядзе галавы ільва, пастукваючы ёй аб падлогу. «Бедакі, — падумала яна, — мусіць, сілком выцягнулі з маёнтка». Тут былі і старая пані Кежгата з дочкамі, і нават сям'я Паплаўскіх, Учрывічы ды сам Караль Шурта. Асобна сядзелі за сталом тры браты Гаеўскія, вядомыя выпівохі і задзіры, з рукі якіх звычайна і ладзіліся ў гэтай акрузе кулігі.

Наогул, так павялося здаўна. Маладыя людзі дамаўляліся паміж сабой і выязджалі да найбліжэйшага суседа. Гаспадары павінны былі прыняць іх і запрасіць да стала. Што было пасля — вядома. Калі ў склепе сканчалася ежа, а ў піўніцы пусцелі бочкі з напоямі, спадарства забірала гаспадара з сям'ёй і слугамі ды ехалі да наступнага суседа. Пан Станіслаў вельмі любіў такія гульні, таму Катажына не здзівілася, убачыўшы на двары святло паходняў...

Яна назірала за прысутнымі ў зале: відовішча было малапрыемнае. Большасць гасцей выклікалі ў шляхцянкі пагарду. У такім выпадку звычайна прыгадвала словы бацькі, які любіў паўтараць, што жупан годнасці не дадае. Было, канечне, некалькі асоб, якіх рада была бачыць, але такіх пералічыла па пальцах. Гаспадыня ўздыхнула і збіралася пайсці адтуль, калі раптам нешта спыніла. Чамусьці падалося, быццам сярод гэтых постацей яна пазнала пана Яраша. Падумаўшы, што памылілася, шляхцянка перавяла позірк у іншы бок. Але вочы не падманулі... Праз некалькі хвілін пані адчула, што за спінай хтосьці стаіць. Катажына азірнулася і ўбачыла перад сабой мужа, які з прыкрасцю глядзеў на яе. Пан Станіслаў быў на добрым падпітку і ледзь трымаўся на нагах. З двух бакоў яго прытрымлівалі паны Яраш і Караль.

— Вось яна, браткі, — вымавіў ён, ледзь перасоўваючы язык. — Мегера! Бачылі вочы, што бралі, а цяпер плачце, хоць павылазьце.

— Маўчы ты, п'яны дурань! — гаркнуў пан Яраш. — Добрая ў цябе жонка, цнатлівая і гжэчная. Сам не ведаеш, што вярзеш!

— Ты такі ж! Як там хлопы пра гэта гавораць: «Свой свайго пазнаў ды на піва пазваў?»

— Праўду сабакі кажуць.

— Праўду! — зноў закрычаў Станіслаў. — А што мяркуе пан Караль?

Малады паніч хітра прымружыў вочы і ціхенька мрукнуў:

— Госць у дом — пільнуй жонку.

— Блазнуеш, браце, — прасіпеў гаспадар. — Хто ж на такую паквапіцца? Хадзем, браткі, вып'ем. І я разам з вамі, каб заліць сваё гора.

За гэтым усім уважліва назірала Глэся. Яна бачыла, як стрымлівае сябе пані, каб не даць поўхву мужу, і як хітра паглядае пан Караль то на Катажыну, то на Яраша, які ў сваю чаргу не зводзіць вачэй з гаспадыні.

— Нічога добрага з таго не будзе, — шапнула яна сабе пад нос і збіралася пайсці ў людскую, калі заўважыла нейкага чужога служку.

Той круціўся каля стала, дзе ўжо даўно нікога не было, збіраў з талерак аб'едкі і хціва запіхваў сабе ў рот. Яна, магчыма, і не звярнула б увагі, каб не заціснутая пад паху ў шахрая срэбная талерка. Глэся звяла бровы і накіравалася да злыдня, які ледзь паспеў запіхнуць чарговы кавалак, калі ўбачыў яе.

— Мабыць, твой пан сваіх слуг не корміць.

Бялявы толькі кіўнуў, праглытваючы тое, што напхаў без разбору. Хлопец чмякнуў і, зірнуўшы на яе, папярхнуўся. Ён паказаў на спіну, каб Глэся дапамагла яму, але адразу ж пашкадаваў, бо дзяўчына мела моцны кулак.

— Вой! — завішчаў злыдзень. — Цяпер спіну склейваць давядзецца.

— Тое за справу!

— Вось табе і маеш! За якую?

— Ах, гад печаны, яшчэ пытаеш! А хто талерку са стала скраў?

У хлопца аж твар выцягнуўся.

— Не браў я! Гэта так... патрымаў, працёр...

З гэтымі словамі ён пачаў змахваць рукавом з талеркі тлушч і крошкі.

— Ды і наогул, гэта талерка майго пана. Ён заўсёды з сабой возіць ды толькі з такой есць.

Для доказу служка абхапіў яе дзвюма рукамі і пацалаваў.

— Ну, я пайшоў!

— Куды?! Кінь! А то зараз варту паклічу!

Служка жаласліва паглядзеў на Глэсю і выпусціў з рук здабычу. Талерка бразнулася аб падлогу, адкаціўшыся пад стол.

— Злая дзеўка. Свайго ж брата... Ат! У тваіх гаспадароў іх столькі... А ты мне спачатку да вока прыйшлася!

Хлопец панура пакандыбаў у людскую, а яна падскочыла да Грышкі, які ішоў з падносам на кухню, і шапнула, каб сачыў за ім.

— А чым аддзячыш? — пацікавіўся той.

— Каб цябе, Грышка! Даўся ж мне ў косці з дурнымі залётамі!

Той зрабіў важную міну і падсунуў свае вусны.

Глэся засмяялася і схапіла яго за нос.

— Можа, потым і пацалую, калі справу зробіш. Будзе пара, вырасце трава!

Дзяўчына паказала язык і знікла, пакінуўшы разгубленага юнака аднаго. Грышка правёў яе позіркам, няшчасна ўздыхнуў і паплёўся следам за злодзеем.

* * *

Раніцай наваколля было не пазнаць. Ноччу разгулялася завіруха і заслала ўсё бялюткай коўдрай. Снег блішчаў пад сонечнымі промнямі. Яны пранікалі праз шыбы ў пакой і бегалі па твары Катажыны. Яна паморшчылася і падскочыла, скінуўшы на падлогу коўдру з воўчай скуры. На гук яе званочка прыбегла Глэся.

— Прынясі вады, — загадала ёй гаспадыня.

Тая прынесла місу з цёплай вадой і чакала.

— Пані сёння ў добрым настроі. Можа, прысніла чаго?

— Адкуль ты ўсё ведаеш? — здзівілася Катажына. — Я сапраўды бачыла дзіўны сон.

— Магу растлумачыць, калі пані пажадае.

Жанчына ўсміхнулася.

— Ну, паспрабуй. Я бачыла двух мужчын. Адзін быў з кветкай лілеі, а другі з мячом. Ён падышоў да мяне, узяў за руку і павёў за сабой.

Служка звяла бровы.

— Хто з іх?

— Як хто? Той, што з мячом. Чаму ты спахмурнела?

— Няхай пані не злуе на мяне, але гэта дрэнны знак. Чалавек з лілеяй — святы Габрыіл, які з'яўляецца, каб пра нешта папярэдзіць. А вось пан з мячом падобны да святога Міхала. Ён прыходзіць да людзей, калі трэба быць асцярожным. Бараніцеся, пані.

Катажына надзьмулася і адвярнулася ад яе.

— Там усе ўжо прачнуліся, — паведаміла служка.

— Што робяць?

— Ведама што — п'юць. Як толькі які пан ачомваецца — адразу сівухі патрабуе. Хутка ўсё са склепу выжруць, а гарэлка наогул сёння нават можа скончыцца.

— Хутчэй бы!

Глэся здзіўлена паглядзела на яе. Катажына заўважыла гэты позірк, усміхнулася і патлумачыла:

— Калі ўбачаць, што тут няма чаго піць, то з'едуць самі.

— Дык перад гэтым нас давядуць да галечы!

— Хай сабе! Няхай ужо так, чым бачыць іх тут яшчэ тыдзень.

— Тое праўда. З мінулай нядзелі сядзяць. Я сёння, дарэчы, чула, як пан Караль падгаворваў гаспадара ехаць да нашага суседа Наліма.

— А ён?

— Згадзіўся. А вось пану Ярашу гэта не спадабалася.

— Адкуль такія думкі? Ты іх чытаеш?

— Дык жа па чалавеку бачна, пані...

Яна ўважліва паглядзела на Катажыну, якая адвярнулася, каб служка не заўважыла лёгкую чырвань на шчоках.

— Бачна? Я не разумею, пра што ты гаворыш.

— Ды так. Няхай пані не бярэ да галавы. Зараз патрэбна спусціцца, а то зноў прыпаўзуць сюды па вас.

Катажына кіўнула ў знак згоды і пайшла першая.

У зале чуўся рогат і грымела музыка.

Мужчыны сядзелі асобна, і яна, абмінуўшы іх кампанію, накіравалася да іншай залы, дзе звычайна знаходзіліся дамы. Па дарозе, міжволі зірнуўшы на Яраша, яна злавіла яго позірк і запунсавела. У гурце паноў гаворка ішла не толькі пра справы дзяржавы. Абмяркоўвалі ўсё: палітыку, законы, ураджай, дайшло нават да гаворкі пра жонак, але хутка прымоўклі, бо тыя былі ў суседнім пакоі. Тады загаварылі пра ўласныя справы...

— А дзе ж пан Сосна? Няўжо не захацеў прыехаць? — спытаў раптам Альшэўскі.

— Зараз у Абраама на піве наш Сосна, — адказаў нехта.

— Божухна, а такі малады быў! Шкада слаўнага рыцара. Калі тое сталася?

— Можа, гэтай вясной. Пахавалі з годнасцю, як і належыць.

— Эх, браткі, не будзем сумаваць, — махнуў рукой пан Завалька, парушыўшы ўсеагульнае маўчанне. — Я вось таксама хачу, каб мяне з гонарам да ўсіх святых адправілі. Калі жывыя будзеце, так і зрабіце. І не горш, чым пана гетмана Патоцкага!

— Блазнуеш, браце.

— Чаму б і не?

— Гэта шаноўныя пра што распавядаюць? — спытаў адзін малады паніч.

— От, моладзь, нічога не ведаюць! З гады чатыры таму[1] тое было ці крыху болей. Ну і відовішча! Чатыры дні хаўтуры пана Патоцкага доўжыліся. За труной ішоў конь гетмана, накрыты доўгай коўдрай, а за імі неслі меч. Людзі гаварылі, што ўжо перад самым касцёлам выехаў рыцар на кані, зламаў аб гэтую труну кап'ё і зваліўся з каня.

— Усё праўда, — падтрымаў яго іншы пан. — Тое каб ведалі — слаўны рыцар памёр, сын і абаронца сваёй Айчыны.

— Слова — свята! Мне бацька, дарэчы, расказваў, як пахавалі нашага караля Стэфана, — падхапіў Суднік.

[1] У 1751 г.

— Баторыя? Гэтага венгра?

— А каго ж яшчэ? Што там было! Знайшлі падобнага да яго чалавека, апранулі ў каралеўскае адзенне і пасадзілі на Баторавага каня. Уперадзе служкі неслі труну, а за ёй ішоў конь з двайнікам. Відовішча, скажу вам! А ўсё каб людзі бачылі, што сам кароль і вялікі князь сябе на той свет праводзіў!

— Вох, і не такое вочы ўбачаць!

— Я ж папрашу, каб мяне мой любімы сабака праводзіў, — выдыхнуў пан Рафал.

— Ой, у цябе іх процьма, палова жыцця спатрэбіцца, каб вызначыць, які ўлюбёны. Нашто табе столькі?

— Паляванне.

Паны засмяяліся:

— Калі ў апошні раз там быў?

— Сусед мой, пан Рыгор Дамбоўскі, дык наогул, ледзь не спіць з імі, — уставіў Завалька.

— Ага. А на двары ў пана Рыгора сабак больш, чым курэй і гусей.

— І я чуў. Усе грошы на гэтых бестый звёў. Іх і купіць, і карміць, і лячыць... Вялікія грошы! Ды яшчэ наняў служку, каб правільна даглядаў.

— Ведаў я гэткага ж наглядчыка. Добры прыбытак такая служба дае. Казалі, пан Рыгор свайму столькі заплаціў, што ён з'ехаў у іншыя краі ды купіў сабе маёнтак.

— Лёгка паверу! Эх, шэльма! Заўсёды гаварыў, што Рыгор — дурань!

Тут зайграла музыка, і ўсе пайшлі ў агульную залу. Катажына стаяла пабач з вазай з засушанымі ружамі. Гэтыя кветкі пані вельмі любіла, а каб і зімой любавацца іх прыгажосцю, загадала высушыць для сябе. Цяпер яна гулялася, асцярожна датыкаючыся тонкімі пальчыкамі да шыпоў, сціскала іх і хутка адпускала. Бавілася так доўга, пакуль не заўважыла, што за ёй назірае пан Яраш. Жанчына збянтэжылася, а шляхціц усміхнуўся і накіраваўся да яе. Калі ён пацалаваў руку, Катажына апусціла вочы, аднак рукі не адняла.

— Пані падабаюцца гэтыя кветкі?

— Так. Іх нельга не любіць. А чаму пан не танчыць?

Яраш спакойна зірнуў на яе і прамовіў.

— А я не выношу, пані, красак, бо паважаю толькі пах пораху. Не іду скакаць, бо ведаю толькі танцы з ворагамі маёй Бацькаўшчыны.

Катажына схіліла галаву.

— Але для гаспадыні гэтага дому я зраблю выключэнне, — хутка дадаў ён.

Шляхціц падхапіў кабету за тонкі стан і вывеў у цэнтр залы. Яго вочы п'янілі, і Катажына, зразумеўшы, што гэта прорва, не вагаючыся ступіла на яе край.

* * *

Вясна не спяшалася прыходзіць у гэты край. Снег ніяк не мог растаць і вызваліць зямлю ад палону доўгай зімы. Яшчэ дзе-нідзе трапляліся брудныя, шэраватарудыя гурбы, што псавалі настрой.

Перад акном сядзібы Жывіцкіх гарэлі гронкі рабіны, якія нейкім дзівам яшчэ не былі з'едзены за зіму птушкамі. Гледзячы на гэты цуд, хацелася адчыніць аканіцы і пакласці на іх далоні, каб сагрэць халодныя рукі. Гаспадыня сядзела каля пячуркі і пазірала ў вакно. На гук яе званочка прыбегла запыханая Глэся, уся ў попеле, з расплеценай касой.

— Пані клікала? — спытала.

— А то не! Ты дзе так доўга была? Спала зноў?!

Глэся вінавата апусціла вочы.

— Загадаю ў наступны раз высекчы. Адарві мне арабіны!

— Нашто?

— Што за дурніца! Ідзі і не марудзь!

Служка выйшла, а калі вярнулася, то прынесла ў сподачку чырвоныя ягады з белымі ільдзінкамі на іх, якія патроху таялі ў цёплым пакоі. Яна пачала выбіраць лёд, але Катажына спыніла і загадала:

— Я сама. Паглядзі лепш, як нянька спраўляецца з Глебам.

Яна знікла, а Катажына ўселася ў крэсла і паклала сподачак сабе на калені. Жанчына любавалася чырвонымі агеньчыкамі, ад якіх яшчэ цягнула зімовым халадам. Шляхцянка адшчыкнула ягадку і кінула ў рот разам з ільдзінкай. Прыемная слодыч халодных ягад надавала бадзёрасці ўсяму целу. У пакой увайшла Глэся і спынілася каля дзвярэй.

— Пані, — паклікала яна.

— Чаго?

— Пані, там... — яна зніякавела.

— Гавары, ці табе мову заняло? Нешта здарылася?

— Паночку маленькаму блага.

Жанчына спалатнела, падхапілася з крэсла і выскачыла з пакоя. Прабегшы па калідоры да пакойчыка Глеба, шляхцянка спынілася каб аддыхацца і з болем у сэрцы адчыніла дзверы. Каля ложка маленькага паніча мітусілася нянька. Убачыўшы гаспадыню, яна ўздрыгнула і развярнула місу з гарачай вадой. Служка ўскрыкнула, пачала выціраць, ды Катажына, не звярнуўшы на яе ўвагі, кінулася да сына. Глеб, ухутаны ў коўдру, ляжаў нерухома. Твар яго быў чырвоны, а на ім выступалі маленькія кропелькі поту. Немаўля цяжка пасопвала носікам, і здавалася, што яно пачынае задыхацца, бо час ад часу хціва хапала паветра і кашляла. Катажына нахілілася над дзіцём, але баялася нават дакрануцца. Нарэшце яна ўзяла Глеба на рукі і памацала лобік. У хлопчыка была ліхаманка.

— Чаму не сказала? — запытала ў нянькі, ледзь стрымліваючы сябе, каб не закрычаць.

— Баялася, — паспрабавала апраўдацца тая.

— Што ты вярзеш!

— Гаспадыня, я думала, што пройдзе...

Яна моцна ўдарыла служку. Тая заплакала і павалілася на калені, але шляхцянка адштурхнула яе.

— Даўно заснуў?

— Не, во толькі. Плакаў шмат.

— Еў?

— Не.

— Бачыш, як высыпала на твары? Змазаць настойкай.

— А што гэта?

— Воспа. Хварэла на яе?

— Не, у дзяцінстве памятаю, сястра захварэла, дык праз тыдзень памерла. І браты два... Аднаму і месяца не было!

— Тады прэч адсюль, каб вочы мае цябе не бачылі!

Служка хацела яшчэ нешта сказаць, але Катажына зірнула на яе так, што тая вылецела за дзверы без аніякіх роспытаў. Пані прысела на ложак і пяшчотна пацалавала малечу. Глэся зашоргала нагой па падлозе, чакаючы, пакуль гаспадыня паглядзіць на яе.

— Пані, мне застацца?

Катажына кіўнула. Дзяўчына падышла бліжэй, уважліва паглядзела на хворага хлопчыка і сказала:

— Я зараз настойкі прынясу.

Катажына махнула рукой у знак згоды, і Глэся знікла. У гэты час малы заварушыўся і расплюшчыў вочы. Пазнаўшы матулю, дзіцё працягнула да яе маленькія ручкі і заплакала. Жанчына абняла яго і пачала спяваць песеньку, а ў самой балюча зашчымела сэрца. Прыгадала, як чакала яго, калі яшчэ была цяжарная. Кожны дзень тады падыходзіла да люстэрка і любавалася жывоцікам, з заміраннем адчувала, як варушыцца і б'е ножкамі ў яе пад сэрцам. Калі ж пасля народзінаў ёй у першы раз паклалі дзіця на грудзі, яго маленькія пальчыкі схапіліся за яе мезенец і не адпускалі. У той момант сэрца гатова было выскачыць з грудзей, а цела ахоплівала хваля захаплення. Хрэсьбіны Глеба правялі, як і належыць, з пышнасцю. На іх запрасілі ўсё наваколле, учыніўшы сапраўдны баль. Колькі тады з'ехалася гасцей! Каля іх тады праходзілі людзі, віншавалі, усміхаліся, а яна не бачыла нікога, акрамя сына. Пасля гэтага яна нават са свякроўю магла гаварыць смялей, бо стала паўнапраўнай гаспадыняй і маці нашчадка.

...Яна прачнулася, пачуўшы плач Глеба. Падхапіўшыся, жанчына падскочыла да ложка. Праўду кажуць, што калі хто жадае схапіць за сэрца маці, то няхай дакранецца да яе дзіцяці. Тут жа было яшчэ горш. Катажына не магла бараніць і кінуцца на крыўдзіцеля, каб выдрапаць яму вочы ці засланіць сабой сына. «Міласцівы Творца, гэта самае цяжкае выпрабаванне! За якія грахі так мяне пакараў?» — зляцела ў яе з вуснаў. Ды, засаромеўшыся тых слоў, сказаных у гневе, пані ўпала на калені і пачала маліцца. Глеб зноў заплакаў. Катажына паднялася, накіравалася да люлькі, але не дайшла і зноў укленчыла перад абразам. Слёзы цяклі па шчоках, а яна шаптала малітву і захлыналася імі. На вуснах выступіла пена, у грудзях шчымела ад плачу, але маці ўсё паўтарала пра сябе: «Гэта ён мяне выпрабоўвае! Ён добры! Ён не дазволіць...» Праз некаторы час хлопчык сапраўды сцішыўся. Жанчына, падумаўшы, што яму стала лепш, змоўкла і павалілася ў непрытомнасці на падлогу.

За месяц шляхцянка выплакала ўсе слёзы. Смерць Глеба была цяжкім ударам. Калі нарэшце яна, стрымліваючы слёзы, усё ж магла выходзіць з пакоя, іншая вестка забрала пад нагамі зямлю.

Глэся мела рацыю. З кахання да пана Яраша нічога добрага не атрымалася. Спачатку, калі шляхціц навадзіўся прыязджаць ледзь не праз кожныя тры дні, яна чакала гэтых візітаў. Але раптам вочы самі пачалі адкрывацца. Пан Станіслаў заўсёды рады быў прыняць госця ды вось аднойчы, вельмі ўважліва пагледзеўшы ў час размовы на Катажыну і Яраша, ён спахмурнеў і доўга не выходзіў з задумення, носячы пры сабе нейкія не дужа добрыя думкі. Пасля гэтага гаспадар часцей пакідаў іх адных, што непакоіла жанчыну.

Скончылася ўсё гэтак жа раптоўна, як і завязалася. Справа ў тым, што Глэся ўпала ў вока служкі пана Лычкоўскага. Бедны Грышка рабіў немагчымае, каб падчас візітаў гасцей не згубіць з вачэй вяртлявага Марка. Той жа цікаваў каля людской ды не даваў праходу Глэсі. Аднойчы, каб ён хоць трохі адчапіўся, дзяўчына напаіла Марка сівухай. Служка дзябнуў няслаба, але не заснуў, а разгаварыўся, ды зноў залёты пачаў строіць. Дзеўка вазьмі і ляпні, што пан Яраш так часта наведваецца, што хутка паселіцца ў іх маёнтку. Марка быў на добрым падпітку, таму за язык і чорту не прыйшлося цягнуць — сам усё расказаў, а Глэся, хоць і шкадавала сваю пані, слова ў слова ўсё ёй далажыла. Высветлілася, што на самай справе Лычкоўскі проста быў добрым акцёрам. Задумка развесціся з жонкай круцілася ў пана Станіслава ў гала-

ве з першага імгнення іх сумеснага жыцця, але як гэта зрабіць, не ведаў. Такі план падказаў яму адзін з сяброў, а пану засталося толькі знайсці кандыдатуру. Такой «кандыдатурай» і стаў Яраш, ад якога ў гэты вечар даставіў ліст Марка і перадаў яго праз Глэсю.

Катажына дастала аркуш паперы і ўзяла пяро, але раптам прыгадала нешта і выняла іншы. Падышоўшы да акна, яна падставіла іх да святла. Цяпер было заўважна, якія вадзяныя знакі[1] былі на іх. На першым вылучалася кветка ружы. Скончыўшы пісаць, гаспадыня паклікала Глэсю і аддала ліст.

— Аднясі і больш ніколі не бяры ад яго канверты.

Служка згодна кіўнула і пайшла, а гаспадыня села за стол, падпёршы галаву рукамі, і дала волю слязам. Нечакана яна пачула валтузню на калідоры і крык. Жанчына выйшла з кабінета і ўбачыла, як дваровыя трымаюць Глэсю, а Станіслаў, размахваючы лістом, нешта гаворыць сваім таварышам.

— Так вось адплаціла за маю дабрыню! — закрычаў ён. — Цяпер з ганьбай да бацькоў выганю! Глядзіце, шаноўныя, што жонка за маёй спінай робіць! Палюбоўніка сабе знайшла, лісты яму піша.

Катажыну перасмыкнула. Вось што, значыцца, ён задумаў: пры сведках узвесці на яе паклёп і развесціся. Шляхцянка не падала выгляду і спакойна падышла да паноў.

— Дзень добры, яснавяльможныя. Даруйце майму мужу гэтыя словы, бо ведаю, як вам непрыемна стаць сведкамі такога.

Яна паглядзела на Станіслава.

— Думаю, ён так робіць, бо занадта кахае мяне і не можа перажыць, што яго жонка магла напісаць іншаму ліст. Але я прашу прачытаць пры яснавяльможных тое, што запячатана. Няхай усе ўпэўняцца ў маёй чысціні перад мужам і Богам.

Станіслаў аж пабялеў, пачуўшы такое. Ён доўга глядзеў на жонку, пасля раптам ачомаўся і пачаў распячатваць канверт. Па меры таго, як лотр чытаў напісанае, голас яго падаў, а на твары з'явілася разгубленасць. Шляхцянка дачакалася, пакуль ён скончыць і дадала:

— А цяпер паглядзіце, шаноўныя, які аркуш з малюнкам я выбрала для адказу.

Панам стала цікава. Караль выхапіў ліст і паднёс да святла на якім прасвечвалася выява блазна. Шляхцюк кракнуў:

— Здаецца, гэта ўжо для цябе, Станіслаў.

Ён выкінуў паперу ды зарагатаў, не саромеючыся нікога з прысутных. Катажына адвярнулася і пайшла да кабінета. Цяпер усё было скончана. Вырашыўшы, што заўтра ж паедзе да бацькоў, шляхцянка загадала Глэсі абвесціць гэта гаспадару. Увечары ён сам з'явіўся да жонкі і не змог падняць галавы, каб паглядзець у вочы.

— Напішам «лісты расстання»[2]. Я больш не вярнуся сюды, але патрабую аддаць тое, што належыць мне па вене[3].

Станіслаў кіўнуў і выйшаў, а на наступны дзень яна загадала запрэгчы коней і без аніякага шкадавання пакінула сядзібу Жывіцкіх. Калі сані пад'ехалі да роднага маёнтка, яе сэрца радасна забілася ў грудзях. А як толькі вазніца спыніў коней, жанчына выскачыла і пабегла да брам. У доме было цёмна і ціха, быццам там усе вымерлі. Бацька сядзеў у сваім кабінеце ды глядзеў на полымя, калі дзверы адчыніліся і ў пакой увайшла Катажына. Ён уздыхнуў.

---

[1] Бачныя на прасвет відарысы на паперы, якія наносяцца ў працэсе яе вырабу.

[2] Калі ў сям'і ўзнікалі спрэчкі, муж з жонкай часам разыходзіліся і жылі асобна, выдаўшы адзін аднаму «лісты расстання».

[3] Матэрыяльнае забеспячэнне пасагу жонкі маёмасцю мужа.

— Заходзь.

Дачка падышла да яго і села каля ног, схіліўшы сваю галаву яму на калені.

— Тата, я стамілася.

— Ведаю.

Пан Юзаф пагладзіў яе па галаве.

— Ты не павінна быць такой, не трэба. Моцным заўсёды цяжка. Бачу, што даўно не плакала, а хавала ўсё ў сабе. Што гэта пад вачыма? Не ведаеш?

Яна, як маленькая, пакруціла галавой.

— Гэта нявыплаканыя слёзы, дачушка. Паплач, бо яны не дадаюць прыгажосці.

Тая не вытрымала і сапраўды заплакала, а бацька сумна спытаў:

— Ужо вырашыла, што будзеш далей рабіць?

— Пострыг прыму, — яна рашуча паглядзела на яго.

Як ні балюча было чуць тое, пан Юзаф уздыхнуў і адказаў:

— Гэта твой выбар.

* * *

Раніца была цудоўная. Промні сонца асыпалі горад боскім бласлаўленнем і саграваўлі душы яго жыхароў. Мінулагодняе лісце клёну вецер шпурляў пад ногі нешматлікім мінакам, забыўшыся, што яшчэ хвіліну таму ашчадна збіраў і кружыў яго ў сваім дзікунскім танцы. Шляхцянка паспрабавала было адхінуцца, але жоўтае, аранжавае, чырвонае лісце пасыпалася на яе з нябёсаў.

Вузенькая вулачка Гародні вяла ад цэнтра ўглыб старых камянічак і халуп мяшчан. Смярдзела памыямі і тухлай капустай. На раскіданай саломе каля хаты цырульніка, бездапаможна лыпаючы зялёнымі вочкамі, мяўкала рудое кацянё. Зуліся схілілася над ім і паспрабавала пагладзіць. Тое не спужалася і нават само пасунулася да яе. Гэта здзівіла панначку, і дзяўчына ўзяла яго на рукі. Кацяня ўдзячна замурчэла, а шляхцянка пакрочыла далей. Вулачка пятляла, звівалася і зноў выпроствалася, але дзяўчына ішла, забыўшыся, і не заўважала на час. Раптам яна пачула чароўныя гукі дзвюх скрыпак. Дзіўная мелодыя, якую стваралі два сэрцы, заваражыла паненку і прымусіла яе спыніцца. Напачатку музыка гучала ціха, пасля набірала моц ды зноў сціхала, час ад часу перарываючыся, быццам бы на ўздыху.

— Я так даўно хацеў табе сказаць, — пачала адна скрыпка. — Я кахаю цябе...

— І я цябе кахаю, — загаварыла другая.

Ноткі першай скрыпкі сталі мажорнымі:

— Праўда?! Гэта і ёсць шчасце, любая. Няўжо так змагу называць цябе!

— Праўда!

Другая скрыпка засмяялася і працягвала зноў:

— А ведаеш, ноччу...

Яна не паспела скончыць, бо другая перахапіла яе словы і мякка запела:

— ...бачу сон, а ў ім ты мне ўсміхаешся.

— О, гэта так. Я заўсёды прыгадваю гэта, калі днём бачу цябе і...

— ...я хачу...

— ...сказаць табе...

— Любы!

— Любая!

— Я цябе кахаю, — загучала суладна, гучна, радасна, шчаслівая.

Зуліся сумна ўсміхнулася і падумала: «Наіўныя. Яны яшчэ не ведаюць, што такое жыццё, не разумеюць, з чым давядзецца сутыкнуцца іх пачуццям... Але

можа... Дай Бог!» Вулачка бегла далей, клікала за сабой, і шляхцянка паволі крочыла, напяваючы сабе пад нос ціхую мелодыю. Старая служка, якая цягнулася ззаду, пачала незадаволена буркатаць:

— Пані, досыць ужо. Не паспеем жа на таргі.

Зуліся павярнулася да яе і кіўнула:

— Зараз пойдзем. Вось пагляджу на горад, тады і вернемся.

Служка нешта сказала сабе пад нос, але пярэчыць гаспадыні не стала. Яны блукалі па Гародні яшчэ доўга, пакуль нарэшце панначка спынілася і павярнулася да халопкі.

— Усё, хадзем да гандлёвых радоў.

Таргі праходзілі адзін раз на тыдні і, канечне, не збіралі столькі народу, як кірмашы. Калісьці іх рабілі найчасцей перад набажэнствам у нядзелю альбо крыху пазней пасля яго. Толькі гэта выклікала незадавальненне клерыкаў, таму ў Гародні, як і ў большасці гарадоў Рэчы Паспалітай, іх тэрмін перанеслі на іншыя дні — панядзелак, аўторак ці сераду. Таргі адбываліся на гандлёвай плошчы, але і на ўзбочных вуліцах можна было пабачыць сялян, якія прадавалі з вазоў прывезенае збожжа ці гародніну. На ўскрайку вясковыя цёткі трымалі ў кошыках малако, свойскую птушку, мёд, воск і сушаныя грыбы. За горадам жа на вызначаным месцы прадавалі быдла.

У камянічках купцы раскладвалі свой тавар для заможных пакупнікоў. Гэта рабілася, каб панам было «лягчэй дыхаць», бо халопы не наважваліся сюды заходзіць. Каля адной такой крамы з тканінай Зуліся спынілася і пачала разглядваць стужкі. Служка стаяла за ёй і чакала. Да іх падышоў купец з кіслым тварам і без аніякага імпэту.

— У які кошт гэтыя? — спытала шляхцянка, паказваючы на дзве, што выбрала.

Купец гэтак жа вяла адказаў.

— Ты смяешся, — здзівілася яна. — Гэта занадта для простых стужак!

— То няхай панначка да майго суседа падыдзе. У яго і танна, і тавар лепшы.

— А гузікі ў цябе ёсць?

Той пакруціў адмоўна галавой.

— Як то? Вунь жа ляжаць за рулонам.

— Гэта дрэнь. Не для вяльможнай тавар, — пачаў апраўдвацца гаспадар. — Прашу, няхай панначка паглядзіць у суседа.

Зуліся незадаволена фыркнула і выйшла на вуліцу, але яе спыніла служка.

— Панна, паслухай мяне. Сёння гэты купец не змог яшчэ нічога прадаць, таму так і гаварыў.

— Чаму ж на сябе нагаворваў?

— Тут благая прыкмета, калі першай нешта купіць жанчына. Таму пачакайце, пакуль ён вунь з тым мешчанінам паразмаўляе, і той што-небудзь набудзе. Добры тавар у яго, не ідзіце да суседа.

Шляхцянка так і зрабіла. Калі яна зайшла ў краму ў другі раз, купец аж падскочыў, убачыўшы дзяўчыну.

— Ах, шаноўная, — вохкнуў ён, — як я рады!

Ён замахаў рукамі і вываліў перад ёй стужкі і гузікі.

— Выбірай, панначка.

Служка паглядзела на яго і плюнула, а Зуліся засмяялася і падышла бліжэй. Купіўшы ўсё, што хацела, яна выйшла з крамы і пачала распытваць старую.

— Адкуль ведаеш гэта?

— Што?

— Пра забабоны ў гандлі?

— А-а-а. Адным вухам дзесьці чула. І не такое яшчэ ёсць!

— Праўда?

— А то! Напрыклад, ніхто не купіць быдла, калі ў яго бок вышчыпаны, бо будзе хварэць. Яшчэ яно павінна прадавацца з пастронкам, а то ці весціся не будзе, ці здохне, каб іх. Ой, пані, вунь лаўка, туды таксама хацелі зайсці?

У краме было пуста, а каля расчыненых дзвярэй стаялі два купцы і размаўлялі паміж сабой.

— Пан нейкі не так даўно быў, — уздыхнуў адзін. — Сказаў паказаць сукно, а калі я адрэзаў кавалак, то пачаў прасіць, каб пазычыў.

— А ты? Няўжо згадзіўся?

— Не, зразумела. Дык ведаеш, што ён учыніў? Адразу схапіўся за шаблю!

Ён зноў уздыхнуў. Другі купец махнуў галавой і пагадзіўся:

— Шмат крыўды чыняць нам паны.

Раптам ён агледзеўся па баках і, прыглушыўшы голас, зашаптаў:

— Няма ў іх аніякай шкадобы і павагі да нас. Яны ж яснавяльможныя! Прыязджаюць на таргі, робяць, што ў галаву заскочыць! Купцоў і мяшчан за людзей не прызнаюць, а карчмароў за бараду шкуматаюць, стрэльбай і шабляй пагражаючы. Гора адно!

— Праўду кажаш. А чуў, што тры панічы, браты, дарэчы, на мінулым кірмашы паміж сабой нешта не падзялілі. Старэйшы малодшага застрэліў, а сярэдні за гэта на старэйшага паскардзіўся гродскаму енералу.

— Не па-хрысціянску то, на брата...

Другі кіўнуў.

— А ты думаў як? Кажуць, падстрэлілі цішком, у спіну.

— Во табе і вяльможныя...

Ён не дагаварыў, бо ўбачыў Зулісю. Абодва схіліліся ў паклоне і змоўклі, але панначка не захацела заходзіць і пайшла прэч адтуль. Служка здзівілася, не разумеючы, чаму гаспадыня перадумала купляць тканіну, але паслухмяна пацёглася следам.

* * *

Маёнтак Усевічаў быў невялікі. Каля галоўнага ўваходу месцілася стайня з вазоўнямі і лямус[1], а ў цэнтры падвор’я ўзвышаўся высокі слуп, да якога прывязвалі коней заезджыя госці. За гумнішчам месцілася некалькі хлявоў, і вяндлярня, якая стаяла асобна, бліжэй да студні. За ёй жа пачынаўся сад, які вёў да сажалкі, дзе разводзілі рыбу.

Дазнаўшыся пра прыезд Стэфана з госцем, уся дворня высыпала з людской, каб паглядзець хоць краем вока на паніча, які ўжо так доўга не з’яўляўся ў бацькоўскім кутку. Пані Ядвіга не хавала слёз, калі цалавала сына, жалілася на здароўе і ўсё баялася самлець на яго руках. Пан Ян слухаў словы вітання і задаволена лыпаў вачыма ды ўсміхаўся, круцячы левай рукой доўгія вусы. Стэфан першы падышоў да бацькі, паваліўся на калені перад ім і дакрануўся вуснамі да ботаў. Пасля падняўся і пацалаваў у жывот, руку і, калі збіраўся схіліцца да ілба, той не вытрымаў такога цырыманіялу і сам схапіў сына ў жалезныя абдымкі. Феліцыян таксама пацалаваў руку пану і схіліўся перад гаспадыняй, выслухаўшы іх шчырыя словы. Толькі пасля гэтага ён заўважыў, што з дзвярэй, не маючы адвагі выйсці насустрач, выглядае

[1] Старадаўні тып гаспадарчай пабудовы для захоўвання прадуктаў харчавання.

бялявая галоўка Стасі. Панначка, злавіўшы яго позірк, раптам пачырванела і хуценька зачыніла дзверы, а Феліцыян засмяяўся і спытаў:

— Я бачу, пані Ядвіга, у вас дзве дачкі на выданне.

— Ды куды там, — махнула рукой гаспадыня. — Стася яшчэ дзіцё, хоць мы з мужам пачынаем і ёй шукаць добрага кавалера.

— Ці не рана?

— Наадварот! Баімся, што можам спазніцца з пошукамі. Дзевак цяпер — плот гарадзі, а вось з хлопцамі — бяда.

Яна паглядзела на мужа.

— Ды пра тое пасля пагаворым. Цяпер ідзіце са Стэфанам у яго пакоі, а я паклапачуся пра вячэру.

— Маці праўду кажа, — падхапіў пан Усевіч. — Ідзіце, а я разбяруся тут з дваровымі і прыйду да вас. Дарэчы, у нас яшчэ адзін госць спыніўся.

— Хто такі?

— Потым раскажу, сынку... Далікатнай псярні цюцька, самі ўбачыце, да нас з Расеі паслом едзе.

Так сказаўшы, пайшоў, а юнакі пацягнуліся да пакоя Стэфана. Ён быў невялікі, абстаўлены простай мэбляй, але ўтульны і сонечны. На гэта не магла не паўплываць старая сармацкая ўпартасць яго бацькі, які не прызнаваў новага і жыў пустымі трызненнямі ды захапленнем часамі былой велічы. Пасярод пакоя стаяў дубовы стол, а каля яго — вялікае крэсла з тоўстымі парэнчамі і ножкамі ў выглядзе ільвіных лап. На стале былі ахайна складзены аркушы пергамену, гусіныя пёры, стаяла чарнільніца, што нагадвала галаву ястраба. На самым краі, перавёрнутыя дагары, ляжалі кнігі ў старых пераплётах на ножках-падстаўках, са спражкамі. Сцяна каля ложка была ўвешана зброяй: шаблі, сцізорыкі рознай даўжыні і формы ляза, нават крыжацкі меч з выкшталцоным дзяржальнам, што нагадвала скручаную змяю.

Феліцыян адшпіліў шаблю, каб не замінала, і ўсцёгся разам з ботамі на ложак, усланы воўчай скурай. Заплюшчыў вочы і адчуў, як занылі ад стомы ногі.

— Я так сябе адчуваю, быццам каменне на Крэўскі замак цягаў, — пажартаваў шляхціц.

— Угу, — згадзіўся Стэфан, хлопаючы сябе па жываце. — Хутчэй бы на вячэру паклікалі.

— А ты як заўсёды. Ні хвіліны ні пра што іншае не думаеш, толькі пра пачастунак.

— У мяне, напэўна, у страўніку дзірка: што туды ні трапляе — усё вывальваецца. Абедаў, а жывот не ведаў.

Раптам у куце, амаль над самай галавой Феліцыяна, нешта зашабурсцела. Паніч толькі цяпер заўважыў гэтую чорную вялізную пляму і ляжаў нерухома, вылупіўшы вочы ад здзіўлення. Калі ж зрэнкі прызвычаіліся да цемрадзі, ён змог разгледзець чорнага пругана, які моцна трымаўся вялізнымі кіпцістымі лапамі за драўляны слуп.

— Во, пра Яшку забыліся! — ускрыкнуў Стэфан.

— Здох, напэўна, твой Яшка. Не варушыцца нават.

— Ды ну цябе! Я Стасі загадаў за ім назіраць. Тлусты ж які стаў! Адкарміла яго малая! Яшка, ляці сюды.

Але груган больш не варушыўся. З твару шляхціца знікла ўсмешка, і ён закрычаў:

— Стася! Зараз я табе ўлуплю!

Затым кінуўся да ложка, ускочыў на яго і тарганууў грyгана за крыло. У гэты

момант у пакой убегла Стася. Яна зірнула на брата і схавалася за дзвярыма, а пасля вінавата залапатала:

— Стэфан, міленькі, ты мне галаву не адрывай, бо маёй правіны тут нямашака.

Стэфан тым часам зняў птушку і, агледзеўшы, зразумеў, што здарылася. Ён злосна паглядзеў на сястру і прабурчаў:

— Навошта так зрабіла? Зараз цябе...

— Не паб'еш! — перапыніла яна. — Бацька блізка. Твой Яшка ўсім косткай ў горле сядзеў. Два дні лётаў па пакоі, пляскаў крыламі і крычаў, быццам з яго жывога пёры скублі. Вось я і завязала спачатку дзюбу, а пасля крылы.

— Мучыцелька!

— Хто яшчэ каго мучыў! Бацька хацеў застрэліць.

— Як? Без мяне?

— А што рабіць? Мы ж не ведалі, калі прыедзеш.

Хлопец пачаў разблытваць аборкі на лапах птушкі, а потым вызваліў дзюбу. Груган толькі лыпаў чорнымі вугельчыкамі вачэй, але не супраціўляўся. Яго пёркі былі трошкі прымятыя і пацярэбленыя. Увесь час птах паслухмяна чакаў, пакуль паніч разрэжа аборкі, якія заміналі яго свабодзе. Калі ж гаспадар вызваліў яго, той нечакана расправіў крылы і закрычаў:

— Кыр-р-р! Кар-ра! Кар-ра!

Феліцыяна перасмыкнула. Стэфан здзіўлена паглядзеў на сястру.

— Ты навучыла?

— Не. Цяпер разумееш, чаму я так зрабіла?

— Лепш бы якога голуба завёў ці канара. Клопату меней ды і прыгожа, — пачаў кпіць з сябра Феліцыян.

— Я не дзеўка, каб галубоў у пакоі трымаць, — надзьмуўся Стэфан.

Чорны груган зноў заварушыў крыламі. Паніч пасадзіў яго сабе на плячо, і птах сцішыўся. Адной лапай ён моцна ўчапіўся за эпалеты на кунтушы, а абрубкам другой абапіраўся, каб захаваць раўнавагу.

Феліцыян паглядзеў на абрубак і спытаў:

— Што сталася з лапай? Ты пастараўся?

— Скажаш яшчэ! Яшка, чуў што ён вярзе?

Груган ўтаропіўся чорнымі зрэнкамі на Феліцыяна і гучна каркнуў.

— Зразумеў? — засмяяўся паніч. — За бацькавымі ботамі пабег. Толькі вось не паспеў заскочыць у дзверы, то дзвярыма лапу і адбіла. Доўга пасля выходжваў.

— Мух лавіў можа яшчэ?

— А што? І такое было. Яшчэ ў дваровых дзяцей чарвякоў на булкі мяняў. Смяешся? Можа, мы з ім як браты родныя, адным арэхам падзелімся.

— З груганом?

— Ён таксама Панам Богам створаны.

Тут дзверы адчыніліся, і ў пакой уваліўся пан Усевіч. З першага погляду можна было зразумець, што ён нешта задумаў. У яго вачах, якія звузіліся з-за ўсмешкі ў дзве шчыліны, скакалі шалёныя чорцікі. Пан трымаў у руцэ келіх з вінам.

— Вось, — прамовіў, — не мог дачакацца. Хачу пахваліцца, які келіх мой ганчар зрабіў. Цацачка! З такога і каралю нясорамна піць!

— Дай, татка, паглядзець на тваё дзіва, — падскочыў Стэфан.

Узяў яго з бацькавых рук і пачаў разглядаць. Келіх сапраўды быў зроблены мясцовым майстрам. Тыя, у адрозненні ад ляхаў і еўрапейцаў, выкарыстоўвалі сваю гліну чырвонага колеру, у той час як посуд з Захаду быў з белай ды з маленькімі крупіначкамі-каменьчыкамі. Уверсе былі зроблены вялікія ўзорыстыя шчыліны,

выгнутыя ў дугі, або проста трохкутнікі і палоскі. Каля верху ручкі таксама была шчыліна, і, можа, толькі сам ганчар ведаў сакрэт дзіўнага вырабу. Стэфан агледзеў келіх і засмяяўся:

— Што за жартачкі? З такога не вып’еш і глытка, бо ўсё праз дзіркі выл’ецца!

— Не, — пакруціў галавой пан Ян. — Тут таямніца ёсць. Але для тых, хто галаву на плячах носіць, а не качан капусты. Ну, паспрабуй напіцца!

Сын усміхнуўся і абхапіў рукамі келіх. Пальцамі ён паспрабаваў заціснуць большасць шчылін і нахіліў яго, каб адпіць. Але ў гэты момант мноства тоненькіх струменьчыкаў пырснула на яго, і паніч з ног да галавы абліўся вінам. Раззлаваўшыся, ён хацеў шпурнуць келіх аб падлогу, але бацька спыніў яго і вымавіў:

— Бэйбусам вырас, а розуму не вынес. Значыць, не тваім зубам гэта кусаць.

Ён пакруціў посуд у руках і працягнуў Феліцыяну.

— А ты хочаш паспрабаваць?

— Можна, — адказаў юнак з гарэзлівай усмешкай.

Спачатку ён затыркнуў адным пальцам патаемную адтуліну і паглядзеў на пана Яна. Сустрэўшы яго паблажлівы позірк, паніч, не нахіляючы келіха, узяў у рот носік і пачаў уцягваць у сябе. Стэфан назіраў, як сябра спачатку высмактаў паветра, пасля чаго віно па канале ў ручцы паднялося да канала ў веньчыку ў рот Феліцыяну. Выпіўшы ўсё, той выцер вусны і падаў келіх задаволенаму гаспадару.

— Смачнае віно ў вас, дзядзька.

— А то! Ты яшчэ не ведаеш, што нас чакае на вячэру!

Стэфан запыхцеў і разгублена стаў пазіраць то на бацьку, а то на сябра.

— Чаго цябе чэрці дрэнчаць! — кпіў з яго той.

— Феліцыян, калі сябра мне, скажы, што ведаў... — пачаў слёзна прасіць юнак.

Офенберг кіўнуў галавой.

— Безумоўна.

— Вось! Я зноў у дурнях! — засмуціўся той. — Пойдзем ужо лепш да стала.

На стале на блакітным абрусе стаяў посуд з цудоўнай слуцкай гліны, белай, як парцаляна. Пададзена было на чатыры асобы, і гэта трохі здзівіла юнакоў. Чацвёрты госць быў, відаць па ўсім, важнай птушкай, бо толькі каля яго талеркі і талеркі гаспадара былі пакладзены срэбныя лыжкі. Настаўлена было, як той казаў, і смажанага, і варанага, і так кускамі... Боршч літоўскі з яйкам і вяршкамі, які, меркавалі, мог нават лячыць ад гарачкі і спатольваў смагу пасля перапою, верашчака з соўсам, шчупак з шафранам, квашаная капуста, а на салодкае — пірагі — усё нейкім дзівам змясцілася на адным стале.

У панічоў аж дых заняло, але раптам яны заўважылі, што каля вакна нехта стаіць. Было бачна, госць даўно назірае за імі і, хутчэй за ўсё, паспеў зрабіць для сябе некаторыя высновы. Учэпістым праніклівым позіркам незнаёмец змераў прысутных і задаволена пасміхнуўся. Тое надта не спадабалася Стэфану, які адразу насцярожыўся і адчуў нейкае пачуццё варожасці. Госць быў невысокага росту, хударлявы, але каржакаваты.

— Пан Дзмітры... — пачаў гаспадар.

— Князь, — суха абарваў госць.

Усевіч наліўся чырванню, паклаў руку на эфес шаблі, але стрымаў сябе і паўтарыў.

— Князь Дзмітры Стральцоў. Спадзяюся, вы не доўга чакалі. Гэта мой сын Стэфан і пан Офенберг.

Князь выціснуў з сябе ўсмешку і схіліў галаву ў знак пашаны. Паны адказалі тым жа.

— Я магу дараваць вам гэта як гаспадару.

У голасе праскоквалі ноткі самазакаханасці і пачуцця ўласнай перавагі, якія, між тым, менавіта ад яго пачуць было больш чым звычайна. Здавалася, што калі б ён не сказаў так, то гэта быў бы не поўны вобраз пасла. «Фу ты, чорт, — падумаў малодшы Усевіч. — Певень са шпорамі, але жыццё ўсім рогі абломвае».

Ён паглядзеў на бацьку і здагадаўся, што той таксама ледзь стрымлівае сябе, бо такі канцэрт ён мусіў назіраць на працягу трох дзён.

— Ну, госці дарагія, частуйцеся, — паклікаў гаспадар. — Што Бог даў.

* * *

Нягледзячы на празмерную асцярожнасць і пыхлівасць, князь быў добрым, уважлівым суразмоўцам. Яго ганарлівасць, а таксама залішняя пагарда ўсім не змаглі пераўзысці ўнутранае прыцягненне і таямнічае святло, якое ішло ад гэтага чалавека. Нават калі ён моршчыўся ад грубых слоў Стэфана або занадта нахабна паглядаў на пана Яна, яго шэрыя вочы цікавалі за кожным рухам. Немагчыма здагадацца, якія думкі кружыліся ў яго галаве.

Феліцыян не мог зразумець, адкуль у яго бярэцца пачуццё прыхільнасці да госця. Відаць было, што і старога Усевіча зачапіў ганарлівы расеец. Але пан у глыбіні душы змагаўся з прыязнасцю да Стральцова і адначасова ненавідзеў госця з-за яго пасады, якая азначала не толькі прысутнасць у доме небяспекі.

Яшчэ з часоў Крывавага Патопу[1], калі так жорстка сутыкнуліся інтарэсы дзвюх суседак, гэтая вайна моцна паўплывала на адносіны Княства з Масковіяй. Але, адчуўшы на ўласнай скуры паборы на ўтрыманне войска, гвалт з боку як шведскіх, так і расейскіх жаўнераў, народ, пачухаўшы за вухам, зразумеў нарэшце, што было сапраўднай прычынай жадання імператара мець пры сабе падтрымку Рэчы Паспалітай. Менавіта з-за гэтага, хоць і ведаў — дурнота, пан Усевіч ненавідзеў усё, што было звязана з імперыяй.

— Князь, — нарэшце загаварыў ён з паслом, — а вы ведаеце, як ваша імя гучыць па-тутэйшаму?

Стральцоў насцярожыўся.

— Безумоўна, — суха адказаў ён. — Зміцер.

Усевіч кіўнуў.

— Віншую, добра ведаеце нашу мову.

— Гэта адна з асаблівасцей маёй працы, пан. І прашу заўважыць: мне больш імпануе, як клічуць мяне мае родныя, а не тутэйшы люд. Гэтак гучыць больш велічна, адпаведна пасадзе, якую займаю. Я маю рацыю, пан?

Шляхціц пачырванеў ад злосці. «Бач ты яго: есць, п’е, а добра не думае!» — вылаяўся ён сам сабе. Ён ведаў пра грэблівую мянушку «пан», якой расейцы клікалі шляхту. Відаць, той позірк, якім адарыў гаспадар пасла, меў свае вынікі, бо здзеклівая ўсмешка раптам знікла з вуснаў госця, і ён, заплюшчыўшы вочы, схіліў перад ім галаву. Гэты паклон, зразумелы абодвум, быў як прабачэнне. Шляхціц у адказ звёў бровы і зноў загаварыў.

— У нас пан пану брат, і гэта Рэспубліка, князь.

Стральцоў не змог стрымаць з’едлівай усмешкі.

[1] Так палякі называюць часам вайну Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай 1654—1667 гг.

— Рэспубліка? Я не настолькі дурны, каб не разумець сэнс падзей, што адбываюцца у вашым панстве. Яно раздробленае, праз кожныя сто вёрст можна неспадзёўкі апынуцца ў каралеўстве якога-небудзь заможнага пана, ды і бяднейшыя ад іх стараюцца не адставаць. Пазачыняліся ў сваіх маёнтках і жывуць дзеля сябе, а кароль... — ён уважліва паглядзеў на Феліцыяна. — Не, здаецца я разгаварыўся.

— Ды вы, князь!.. — захлынаўся ад гневу Стэфан.

Князь спыніў яго:

— Раю вам супакоіцца, спадар. Мне не варта было распускаць язык, але і вы не забывайце, кім я з’яўляюся. Лепш здыміце шаблю і адкладзіце ўбок, бо не ўтрымаецеся. У маладых людзей пачуцці замінаюць розуму. Забіць не здолееце, але за абразу пасла... Мая дзяржава маўчаць не будзе.

— Безумоўна, ёй якраз можа спатрэбіцца падстава, — раптам умяшаўся Феліцыян. — Толькі вы забыліся, што калі свае б’юцца, чужому не трэба ўмешвацца.

Князь здзіўлена паглядзеў на яго.

— Але калі падумаць, то можна сказаць, што Рэспубліка пакуль не патрэбна ёй, — працягваў Офенберг. — Рэч Паспалітая павінна з’есці сябе знутры, тады...

— Вам не перашкодзіць быць крыху больш асцярожным і падбіраць выразы, шаноўны, — перапыніў князь.

— Буду памятаць тое.

На момант іх вочы сустрэліся. Усевіч паспрабаваў змяніць тэму размовы.

— Якая місія вашага візіту? Раскажыце нам, князь, калі толькі...

Князь перапыніў.

— Яна не з’яўляецца сакрэтнай. Я мушу мець размову з каралём пра нашых халопаў, якія збягаюць на тэрыторыю вашага гаспадарства і ў Ліфляндыю. Гэта сапраўдны здзек. Імператар спрабаваў нават пасылаць атрады, але і яны часам на вярталіся.

— Можна паспрабаваць вырашыць тое, што прымушае іх уцякаць. Зрабіце мякчэйшым рэкруцкі набор і супакойце баяр.

— Не думаю, што гэта іх спыніць. А ў вас цяпер нават паўз мяжу стаяць вартавыя фарпосты ад сямі да дзесяці вёрст, але, — ён пасміхнуўся, — там навучыліся зарабляць грошы і прапускаюць уцекачоў за плату, а памешчыкаў, якія едуць вяртаць сваіх халопаў — толькі па пашпартах. Каб іх халера! Вашы паны і рады — ім працоўныя рукі патрэбны. Рэдка хто вяртае беглых, ды і за такі кошт, што залатыя халопы нам атрымліваюцца. Хоць бывае — самі, сабакі, вяртаюцца. Дык тады ад іх наогул няма паратунку: альбо падбухторваюць іншых уцякаць, альбо пеўня былым гаспадарам пускаюць. Былі і такія, што кідалі свае гаспадаркі, рабавалі памешчыка, а пасля яшчэ вярталіся, ды не адны, а з бандамі, ды чынілі разбой і крадзяжы, ад чаго нашы дваране ў вялікай небяспецы знаходзяцца. Больш за тое, вера праваслаўная з-за вас, паны-каталікі, крыўды церпіць. Мужыкі, гледзячы на вашых, перахрышчваюцца і дзяцей сваіх робяць ці каталікамі, ці ўніятамі, бо на гэта іх тутэйшыя святары падбухторваюць.

— Я чуў, што вяліся перамовы вашага пасла Гроса і памочнікаў[1]. У Варшаве быў выдадзены каралеўскі ўніверсал, які забараняе прымаць на пасяленне ўцекачоў з Расеі і абавязвае выдаваць тых, хто пераходзіць мяжу, для расправы.

[1] Расейскі віцэ-канцлер Варанцоў і пасол пры варшаўскім двары Кайзерлінг у 1751—1752 гг. неаднаразова патрабавалі ад гетмана ВКЛ Міхала Радзівіла выдачы беглых халопаў. Улетку 1754 г. Грос, які змяніў Кайзерлінга, і сакратар яго камісіі Ржычэўскі вялі перамовы з міністрам Рэчы Паспалітай па гэтым пытанні.

— Гэта толькі словы!

— Гэта каралеўскі ўніверсал!

— Каралеўскі?! Я ж гаварыў, пан, што ў вас кожны дзясяты — кароль.

— Ды як ты!.. Каб так сабака плакаў, як гэта праўда! — закрычаў Стэфан.

Ён выхапіў шаблю і кінуўся на пасла. Той спакойна глядзеў на паніча і накіраваў у яго бок дула невялікай крамянёвай стрэльбы. Але і гэта не спыніла яго, і, каб не Феліцыян і бацька, якія схапілі хлопца пад рукі і моцна трымалі, была б бяда. Стары гаспадар павярнуўся да госця і прамовіў:

— Гэтымі словамі вы закранаеце не толькі мой гонар, а і годнасць маёй Айчыны.

Князь паглядзеў на яго:

— Загадайце рыхтаваць мне карэту.

— Я хацеў пачуць іншае.

— Не разумею.

Усевіч зароў і схапіўся за шаблю.

— Нехта забыўся папрасіць прабачэння, чорт! Я ненавіджу вашу дзяржаву, як і вы маю, але захоўваю пачцівасць, а спадар кожным словам гадзіць у душу.

Князь схіліў галаву.

— Шчыра прашу прабачыць за крыўду і... ад'язджаю сёння.

Ян супакоіўся і панура адказаў:

— Ваша пажаданне будзе выканана.

Князь пакланіўся і накіраваўся да дзвярэй. Стэфан, паглядаючы ў яго бок, не ўтрымаўшыся, ляпнуў:

— Які госць, такое і частаванне.

Князь запаволіў хаду, але раздумаў і, стукнуўшы з усяе моцы абцасам аб падлогу, выйшаў на двор. Калі ўсе разышліся, Феліцыян вырашыў прагуляцца па парку. Ад халоднага вясенняга паветра па целе прабеглі дрыжыкі. З боку двара даносілася квахтанне курэй, але з халопаў там нікога не было. Мусіць, сабраліся ў людской даядаць тое, што засталося пасля панскай вячэры. Офенберг крочыў па сцежцы і падкалупваў ботамі мінулагодняе апалае лісце. Яму падабаўся прэлы пах, але цяпер да яго далучаўся водар яшчэ чагосьці, што ніяк не мог разгадаць. Недалёка пад голымі шатамі старога клёна svaн паніч заўважыў Стральцова. Той стаяў і назіраў за двума хлапчукамі, якія біліся на кіях. Адзін з іх, хударлявы і бледны, ніяк не мог даць належнага адпору свайму праціўніку і атрымліваў балючыя ўдары за сваю слабасць. Другі хлапчук злаваў на таварыша, думаючы, што ён знарок паддаецца, бо не хоча вучыцца біцца.

— Змітрок! — крычаў ён на малога. — Ну чаго ты, як няеўшы? Абараняйся годна, смярдзюк!

Зміцер аж пачырванеў ад натугі ці, можа, ад старання, але не мог перамагчы старэйшага брата. Буйныя кроплі поту выступілі ў яго на ілбе, вусны былі сціснуты ў тоненькую лінію, хлопчык плакаў ад крыўды. Пасол уважліва сачыў за кожным рухам малога, якому, было бачна, ён вельмі спачувае, таму Феліцыян змог падысці да яго бліжэй незаўважаным. З хвіліну ён стаяў за спінай Стральцова і бачыў, як той напружыўся і сціскае эфес шпагі тонкімі ўчэпістымі пальцамі далікатных рук. Раптам малы паслізнуўся, а брат засмяяўся і адкінуў кій.

— Ты як баба, — сказаў ён. — Што з цябе будзе? Лепш бы дзеўкай нарадзіўся, маці б падмога была, а то...

Хлопчык паглядзеў на яго і змахнуў слёзы рукавом.

— Я...

— Нават дровы калоць не пасіліш!

Сказаўшы такія словы, пайшоў, пакінуўшы брата аднаго. Князь стаяў і са шкадобай пазіраў на Змітрака, які, не зважаючы ні на каго, сядзеў і глытаў слёзы. Нарэшце, заўважыўшы пана, ён падскочыў і схіліўся ў паклоне.

— Ты чый? — спытаў князь.

— Панскі.

— Хочаш, каб твой брат пашкадаваў аб сваіх словах?

Змітрок кіўнуў галавой.

— Я куплю цябе і забяру з сабой, — раптам сказаў ён.

Хлопчык стаяў і разгублена пазіраў на князя. Гэта было так нечакана і страшна, што ён спачатку разгубіўся і не мог вымавіць ні слова. Слёзы адразу высахлі, і малы, ачомаўшыся, нарэшце ўцяміў, што яго чакае, паваліўся ў ногі князя:

— Паночку, пашкадуй. Не трэба нікуды везці. Я тут... — голас хлопчыка задрыжэў.

Князь Дзмітры задуменна паглядзеў на яго і вымавіў:

— Ідзі прэч.

Расеец адвярнуўся і заўважыў Офенберга. Феліцыян збіраўся пайсці, калі Стральцоў спыніў яго.

— Пачакайце, Офенберг. Я якраз хацеў пагаварыць з вамі.

Шляхціц здзівіўся, а пасол раптам адвёў вочы.

— Не пазірайце на мяне так. Вам не гаварылі, што маеце цяжкі позірк, быццам выцягваеце душу?

— А вы, князь, словамі за душу бераце.

— Словамі? Я звычайна гавару няшмат, бо з языковага млыва мука нерадзіва. Шчыра кажучы, не хацеў бы цямніць, шаноўны. Запрашаю і вас перайсці на службу майму гаспадару. Разумею, што такая прапанова падасца дзіўнай, але прашу падумаць грунтоўна. Мне нявaрта пускаць лёстачкі, апісваючы сучасны стан вашага панства...

— Нявaрта, — перапыніў Феліцыян. — А то мы можам не зразумець адзін аднаго, і справа дойдзе да дуэлі.

Але Стральцова ўжо нішто не магло спыніць.

— У вас завязаны вочы, Офенберг. Тут справа не абыдзецца закідваннем шапкамі. Як можна не бачыць, што яшчэ падчас вайны са Швецыяй, калі Рэч Паспалітая была ў хаўрусе з нашым Пятром Аляксандравічам, паны ваявалі не са сваімі ворагамі, а грызліся паміж сабой. Дзяржава, створаная гвалтоўна, можна сказаць, з прымяненнем вайсковай сілы, не будзе доўга існаваць. Упэўнены, Офенберг, вы яшчэ будзеце жыць у тыя часы, калі спраўдзяцца мае словы. Агонь у паперу не загорнеш.

— Толькі ўдод смярдзючы ў сваё гняздо плюе!

— Вы няправільна зразумелі. Гэта не...

— Здрада? А я думаю, якраз гэта вы і мелі на ўвазе! Лёс перабежчыка, князь, незайздросны: здраду прымаюць, а здраднікаў вешаюць.

Князь павярнуўся да яго бокам.

— Ведаў, што пачую такі адказ. Але вы пашкадуеце.

— Магчыма.

— Тады скажыце, чаму менавіта так? У чым соль зямлі?

Феліцыян зірнуў на яго, моўчкі апусціўся на калені і пацалаваў рудую глебу. Князь згодна кіўнуў і пакрочыў у бок маёнтка.

* * *

Раніцай, калі сонечныя промні ледзь-ледзь прабіваліся праз хмаркі і абуджалі наваколле, паннaчка прачнулася і ўсміхнулася ад думкі, што закралася ў галаву. Зуліся салодка пазяхнула і скінула коўдру. Яна ступіла босымі ножкамі на падлогу і пабегла да вакна. Адчуўшы ступнямі прыемную цеплыню, дзяўчо заплюшчыла вочы і стаяла так некалькі хвілін, але калі і гэта ёй надакучыла, яна вырашыла збірацца. Зуліся адкрыла куфар, дзе ляжала яе амазонка — вопратка для верхавой язды. Панна апранулася і ціхенька адчыніла дзверы. Прабіраючыся на дыбачках па калідоры, спынілася каля пакоя нянькі і прыслухалася. Адтуль даносілася пасопванне, што супакоіла паннaчку, і яна пакрочыла далей.

На двары ля стайні яе чакаў Васілька.

— Рана ты, — кінуў ён сястры.

— Няма дзіва! Я яшчэ не развучылася з сонцам уставаць. Чаго ўтрапеніўся?

— Ды ўсё прыглядаюся да цябе.

— Даўно не бачыў? Змянілася?

— Ага! Бы і свая, і адначасова чужая.

— Скажы калі ласка! — здзівілася дзяўчо. — Паедзем мо?

Васілька кіўнуў і пашыбаваў за коньмі. Праз хвіліну ён вывеў двух рысакоў. Зуліся выцягнула руку да Рукаса, той матнуў галавой ды сам пайшоў да гаспадыні. Прыхіліўшы морду да яе далоні, конь ціхенька захроп.

Хлопец глядзеў на іх і не пераставаў здзіўляцца.

— Пан Матэвуш сказаў, што падорыць табе каня.

— Праўда?

— А то! У яго такіх да гібелі. А калі заўпарціцца, то дзядзька сам выкупіць, грошай хопіць. Ну, падмагчы?

— Сама сяду. Хопіць з мяне кепікі строіць. Забыўся, як верхам езджу?

— Бы чорт у спадніцы.

— Памятаеш. То даганяй!

Яна тузанула за лейцы, і Рукас адразу перайшоў у галоп. Каля броду яны спыніліся і далі ўволю напіцца коням. Васілька паглядзеў на сястру і прамовіў:

— Я тады паеду... Ці правесці?

Зуліся засмяялася:

— Ды не заблукаю. Добра, што паехалі разам, бо нянька адной не дазволіла б. Нашто толькі цётачка да мяне яе прыставіла? А ты да Васіліны збіраешся? І не адмаўляйся, бо пачырванеў! Можа, ажэнішся?

— Ажанюся. Вось дзедаву сядзібу адбудую, гаспадарку завяду, тады і жонку ў хату прывесці трэба. Бачыў гэтай вясной першы раз двух буслоў у гняздзе — то знак, што ажанюся.

— А я лятучага, — засмяялася. — Значыць, не абгоніш мяне!

Дзяўчына павярнула Рукаса і пагнала галопам. На ўзгорку, дзе рос стары дуб, цяпер адзінока стаяла рабінка. Зуліся прылегла адпачыць каля дрэўца, паклала на траву накідку, заплюшчыла вочы і сама не заўважыла, як правалілася ў дрымоту...

...Яркае святло заслала вочы, але хутка знікла. На ўзгорку стаяў дуб, ціха шапацела лісце. Зуліся падабрала ногі пад сябе і адчула нечую руку на плячы.

— Добры дзень, мая ясачка, — пачула яна голас дзядулі.

Панна не спужалася, а ўскочыла і абняла старога.

— Я прыйшла да цябе, дзеду.

— Ведаю, але дарэмна клікала.

— Мне патрэбна парада.

— Ты сама ўжо можаш сабе раду даваць.

— Баюся, дзеду. Латвей камусь парадзіць, чым сабе.

— Добра, ідзі за мной.

Як толькі ён гэта прамовіў, яны апынуліся на лясной выжарыне каля борцяў, дзе прыемны ветрык разносіў наўкола пах меданосаў. Дзед усміхнуўся і паказаў унучцы на вырванае з карэннем дрэва.

— Прысядзем, каб пчолкі садзіліся.

— Дзеду...

— Усё ведаю. Нявеста ты ўжо. Але сказаць, што мне бацька заўсёды гаварыў? «Ажаніцца, як і паміраць, не спяшайся». То і дзяўчына: замуж ідзе — песні пяе, а калі выйшла, то слёзкі лье.

Зуліся апусціла галаву.

— Дзядзька кажа...

— Здагадваюся. А сама як?

— Лепей чэмер піці, чым з нялюбым жытку жыці.

— Як бабка, за тое і люблю цябе. Яна так сваім бацькам калісьці сказала. Гордасць таксама, мабыць, жаночае хараство, унучачка. Рабі, што сэрца кажа.

— А калі яно памыліцца?

— Хто ж без памылкі?

Ён уважліва паглядзеў на яе.

— Адказаў я на тваё пытанне?

Яна схіліла галаву:

— Адказаў.

— Тады час вяртацца. Памятай, Зуліся, сваю зямлю і памятай, адкуль род твой.

Прамовіўшы, знік. Панна адчула, як нехта засланіў над ёй сонца і расплюшчыла вочы. Каля яе сядзеў Феліцыян і ўсміхаўся...

— Ты жывы! Жывы. Жывы... — загучала рэха над абшарамі Вольсы светлай сонечнай раніцай.

— Ведала! Ведала. Ведала... — звінеў у бары галасок птаха.

— Верыла! Верыла. Верыла... — адказваў яму другі.

— Памятай, — шаптала лісце.

Дзве постаці павольна крочылі па беразе, блакітным ад квецені незабудак.

— Гляджу на пані, не магу налюбавацца: з кожным днём усё больш расцвітае яе краса.

Дзяўчына запунсавела.

— Словы яснавяльможнага як мёд, але хачу ведаць, што ў сэрцы.

— Не магу сказаць, — усміхнуўся той.

— Як гэта?

— Бо сэрца маё пані даўно ўжо пры сабе мае.

Зуліся адвярнулася, каб шляхціц не бачыў чырвоных шчок і паглядзела ў бок, дзе стаяла рабінка.

— А што сталася з дубам? — спытаў Феліцыян.

— У мінулым годзе Жыжаль удаўся. Даўно такой моцнай навальніцы не было. Маланка рассекла яго на дзве паловы, а пасля полымя зжэрла ўсё.

— Шкада. Прыгожае было дрэва. Моцнае, як наша дзяржава.

Яна адмоўна пакруціла галавой.

— Ён прагніў знутры, таму і змагла маланка адолець, але...

Яна паклікала Афенберга за сабой. Той паслухаўся і пакрочыў следам. Дзяўчына падышла да карчагі. Нахіліўшыся, панначка гарэзліва зірнула на юнака:

— Глядзі!

Рукой Зуліся адхінула траву і паказала маленькі расточак, што прадзёўбваўся з жолуда.

— Будзе новы дуб, малады і дужы.

— Тваіх рук справа, чараўніца? — пажартаваў паніч.

Потым зірнуў на яе і шапнуў:

— Не пашанцуе таму, каго пакахаеш. Чарамі прывяжаш.

Яна пакрыўдзілася, ускочыла на ногі і наблізілася да шляхціца. Паміж імі заставаўся адзін крок.

— Не дапамогуць і чары, калі хто каму не да пары! Што ведае пан пра каханне?

Ён усміхнуўся і хацеў было адказаць, але дзяўчо закрыла яму вусны маленькай далонькай.

— Лепш тое не гавары, бо бачу па ўсмешцы. Толькі гэта па-іншаму завецца, не блазнуй, шляхціц.

Ён пасур'ёзнеў.

— А тваё слова якое?

— Хацела б быць з каханым.

— Значыць, некага кахаеш?

Яна паглядзела яму ў вочы і пачырванела. Тады Феліцыян асцярожна дакрануўся да тонкіх плячэй і прыгарнуў да сябе. Стаялі так з хвіліну, а падалося, што праляцелі гады. Юнак гладзіў валасы, якія расплялiся з касы і слаліся мяккім россыпам спелага жыта на кволыя плечы.

— Пані едзе са мной, — вымавіў ён.

Яна раптам уздрыгнула і вырвалася з абдымкаў.

— А як жа...

— Я ўжо з імі гаварыў, а цяпер хачу пачуць, што ты скажаш.

Зуліся ўсміхнулася і схіліла галаву яму на плячо.

*Ганна ФЕДАРУК*

# ПАДГЛЯДАЮ ВАШ СОН

* * *

Прабачце мне зноў: я стаю перад вамі,
Як быццам ужо на Вялікім Судзе.
Я каюся ў тым, што хвалілі вы самі.
Я злодзей, які не стаіць у чарзе.

Я крала пачуцці, і думы, і спрэчкі.
Я крала ў сябе і, прабачце, у вас.
Пасля, што накрала, паліла, бы свечкі.
І воск на паперу ліла ў пэўны час.

Ды колькі жыць буду, не адракуся.
«Навошта мне гэта?» — пытаеце зноў.
Я — «злодзей звычайны», і побач спакуса,
А з ёю — мільёны паветраных слоў.

* * *

Усмешка твая, нібы павуцінка,
У маіх зрэнках.
Немагчыма так жыць —
Замінае.

### ХАЙКУ

Глыток воцату —
Глыток твайго кахання.
Люблю кіслае.

### НЕ ПАСПЕЛА

Не паспела дакрануцца да паперы —
Спапялілася сама.
Не палаю больш я,
Непрытомная…
А папера ўсё жыве, як і жыла.



*Ганна Федарук нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску. Студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта (факультэт пачатковай адукацыі). Друкавалася ў газетах «Переходный возраст», «Беларусь сегодня», часопісе «Маладосць».*

**Некаторыя аўтаркі не любяць, калі да іх творчасці прымяняюць паняцце «жаночая паэзія», паколькі бачаць тут нейкую паблажлівасць. Між тым, калі гаварыць, напрыклад, пра інтымную лірыку, то менавіта напісанае лепшай паловай чалавецтва ўяўляецца найбольш натуральным і шчырым, а праз гэта — і таленавітым. І калі мы часам адразу не гатовы назваць дзясяткі выдатных узораў беларускай жаночай інтымнай лірыкі, то толькі таму, што, па-першае, паэзія такога кшталту доўгі час у нас лічылася нечым другасным, а па-другое, сама па сабе жаночая паэзія, колькі існуе, мусіць даказваць свае правы на раўнапраўе.**

**Творчасць Ганны Федарук якраз і падкупляе сваёй шчырасцю і натуральнасцю. Нават калі паэтка звяртаецца да такой, здавалася б, няпростай у тэхнічным плане формы як хайку. А пачуццёвасць ды вобразнасць, якая дабаўляе ў звычайную, нярэдка ў некалькі радкоў гісторыю, элемент нечаканасці, робіць яе вершы і прыцягальнымі і запамінальнымі. І што таксама немалаважна, па стылю, па мове — гэта паэзія XXI стагоддзя. Такімі яго бачаць маладыя. Такімі яно стварае іх.**

***Алесь Бадак***

* * *

Між намі кропля дажджу,
Якая павольна паўзе па маіх вуснах.
Гэта не так многа,
Але дастаткова,
Каб зрабіць мокрую пляму
На паперы.

* * *

Падобна сонцу,
Якое чырванее на світанні,
Быццам бачыць
Нешта непрыстойнае,
Я чырванею ад
Твайго пагляду.

**ЖЫЦЦЁ...**

Зачапілася ноч палітом
За вялізныя горы Каўказа.
Трэск шаўковай тканіны, бы гром,
Дзень і ноч усё роўна не разам...

* * *

Снежань...
Дзесьці жарсць і гарачая кава.
Студзень...
Дзесьці дом і натхненне...
А я восень клічу.
Сумна без Вашых лістоў.

* * *

Дурніца, захварэла на сухоты,
Бо фортку ў душу
Забылася зачыніць.

* * *

Падглядаю на золку Ваш сон.
Нібы месяц праз дзіркі фіранак.
І, трымаючы свой парасон,
Разграбаю я пальцамі ног
Цёплы попел нікчэмных заранак.

**ХАЙКУ**

Расправіў крылы
Мой матылёк нябесны
Дрыготкім вершам.

**ТЫ ТОЛЬКІ ДОЖДЖ**

Ты толькі дождж, ты толькі дождж.
Сыходзіш зранку, каб вярнуцца.
Змываеш восеньскі спакой,
Каб летнім громам апынуцца
І знікнуць, знікнуць, як заўжды
Знікаў дагэтуль, апантаны.
Ты пачакай, хачу з табой!
Няўжо не бачыш, мой каханы?

Пральемся разам, бы з няволі!
Пральемся, дзе цвітуць палі!
Каб не забылі нас ніколі
Прасторы роднае зямлі!

Але ты дождж, ты без мяне
Б’еш кроплямі па шыбах сонных.
Ты толькі дождж, ты без мяне.
Ты колькі рэк стварыў бяздонных?
А я рака, твая рака.
Ці пазнаеш? Зірні ў люстэрка
Маёй душы — ёсць толькі ты.

Але ж ты дождж, ты толькі дождж.
Сыходзіш зранку, каб вярнуцца.
Змываеш восеньскі спакой,
Каб летнім громам апынуцца.

Пральемся разам, бы з няволі!
Пральемся, дзе цвітуць палі!
Каб не забылі нас ніколі
Прасторы роднае зямлі!

*Лаўрэн ЮРАГА*

# З «КНІГІ ПРАКЛЁНАЎ»



*Лаўрэн Юрага нарадзіўся ў 1966 годзе ў Мінску. Скончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Празаік, перакладчык. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Калоссе», «Наша вера» і інш.*

**Лаўрэн Юрага — сталы аўтар «Маладосці». Мінулая яго публікацыя ў нашым часопісе (№ 10, 2010 г.) суправаджалася прадмовай Юрася Пацюпы, які даў вельмі трапную характарыстыку апавяданням гэтага аўтара. Сапраўды, стылізацыі ў беларускай літаратуры сёння з'яўляюцца нячаста, асабліва стылізацыі, насамрэч здольныя перанесці чытача ў тую эпоху, якой наследуюць. Тым больш цікава будзе пазнаёміцца з творамі Лаўрэна Юрагі, вытанчанымі, густоўнымі, што да стылю, і захапляльнымі, інтрыгуючымі, што да зместу.**

*Алена КАРП*

## КАШПАР ЭЙСЫМОНТ

У імя Айца, і Сына, і Святога Духа — Тройцы Адзінасутнай і Нераздзельнай. Амэн.

Я стары ўжо чалавек, і заслужоны, бо не цураўся ў сваім жыцці абавязкаў перад каралём ды Айчынай. У часе вайны без адкладу ставаў я на паспалітае рушанне; у часе супакою верна служыў народу шляхецкаму Рэчы Паспалітае на ўрадах земскіх гарадзенскіх. Не раз шляхта павятовая выбірала мяне паслом на сойм і я выступаў перад ягамосцем каралём ды сенатарамі, баронячы адвечных правоў нашых ды вольнасці залатое шляхецкае. І ніхто не можа папракнуць мяне, каб калі ўчыніў штосьці насуперак гонару ці каб зылгаў супраць святое праўды.

Ды прылучыўся мне выпадак, у які я і сам не магу да канца паверыць. Здарылася тое зараз, падчас рокаў судовых гродскіх[1], якія водле парадку статутовага на Святой Тройцы свята рымскае прыпадалі і ў Гародні судоўна адпраўляліся. Мусіла намі,ураднікамі[2] судовымі земскімі павета гарадзенскага, — мною і Кандратам Мялешкам, суддзямі; Юрыем Сапоцькам, падсудкам; ды Стэфанам Нешкоўскім, пісарам, быць разгледжанай справа пра забойства Крыштапа Мацеевіча Эйсымонта,

---

[1] Рокі судовыя (старабел.) — судовыя пасяджэнні, сесія; гродскія — тут: датычныя павета.

[2] Ураднік — сябра «ўраду», то бо, дзяржаўнай інстытуцыі Вялікага Княства Літоўскага — у дадзеным выпадку, суда.

вознага[1] павета гарадзенскага. Справа была ясная і генералам[2] земскім дакладна даследавана, як тое з пратэстацыі, праз яго зложанай, вынікала.

Забіццё явілася вынікам звады, што адбылася паміж Кашпарам і Крыштапам Эйсымонтамі, братамі далёкімі, якія з двох розных галін роду Эйсымонтаў гербу «Карабель» паходзяць. Гэтыя дзве лініі роду, адвеку аселенага ў нашым павеце гарадзенскім, адвеку ж і варагуюць — нягледзячы на сваяцтва, што паміж імі заходзіць. Няраз ужо Эйсымонты як з аднаго, гэтак і з другога боку, у суд земскі звярталіся, вінавацячы адныя адных у наездах, рабунках, чараўніцтве ды захопе зямлі; і няраз прыходзілася суду разглядаць справы іхныя заблытаныя, у якіх хвальш чаплялася за хвальш, а злосць нараджала злосць.

Але яшчэ болей варажнеча распалілася, калі Крыштап — з аднае галіны Эйсымонтаў — зрабіўся возным і згодна абавязкаў сваіх службовых стаў пільнаваць парадку ды справядлівасці, Статутам Літоўскім гарантаваных, у нашым павеце гарадзенскім. Але хоць ён быў чалавек сумленны і добрапрыстойны, аднак мусіў сутыкнуцца з асобаю, цалкам сабе процілеглай — братам-раўнагодкам у далёкім калене з іншае лініі таго роду, Кашпарам. Кашпар той быў слынным заўзятарам звад, які кампанію з людзьмі свавольнымі ды карчомнікамі вадзіў і, толькі з онымі канверсуючы, неаднойчы на злачыны замахваўся і ў сварах ды бойкі ўплётваўся. Таму неаднойчы Крыштап мусіў заступаць Кашпару дарогу, і той неаднойчы абяцаўся спомсціцца на ім крывава.

Аж урэшце аднаго разу сутыкнуліся яны жорстка, бо Крыштап, едучы позна з гаспадарскае службы дадому, у айчынны маёнтак, заспеў Кашпара з памагатымі ягонымі на рабунку жыда пераезжага, што з Гародні, з кірмашу, дадому вяртаўся. Засадзіўся бо той Кашпар са слугою сваім Ардзеем Васілевічам, якога людзі Чортам завуць (бо цёмны з твару і характарам люты), ды іншымі сваімі слугамі пры тракце віленскім у лагчыне. І, седзячы там, схаваны, купцоў запозненых, што тым трактам ехалі, падпільноўваў. А як жыда самотне едучага пабачыў, дык на шлях са слугамі многімі выйшаў і рабаваць яго хацеў. Крыштап зась, тэж тым самым шляхам едучы, рабунак над жыдом чынёны заўважыў і пахолкам сваім вязаць Кашпара ды слуг ягоных загадаў.

Ажно ў гэты час стрый згаданага Кашпара, пан Ян Мікалаевіч, ды брат таго ж, пан Якуб Севярынавіч, Эйсымонты, пад’ехалі, бо тэж з кірмашу гарадзенскага вярталіся. Яны злачынцу бараніць сталі, просячы, каб Крыштап яго не вязаў і да астрога не забіраў. Абяцалі яны, што як будзе новы дзень, той сам да ратушы паставіцца, а яны паручнікамі ягонымі прысяглымі ў тым будуць. Возны, аднак, натуру падступную дэліквэнта[3] ведаючы, не хацеў на тым прыстаць. І тады Кашпар той, момант зручны выбраўшы, калі Крыштап у спрэчцы ўвагу страціў, ззаду да яго падышоў і чэканам галаву markup вознаму прабіў, а многія сведкі прысутныя тое бачылі і ў той справе прысягу склалі.

Аднак, як справа да суда дайшла, рэчы нечаканыя пачалі дзеіцца. Ніхто са сведак на суд не з’явіўся, бо чамусьці з пахолкаў Крыштапа нейкім дзіўным трафам нікога ў маёнтку не засталося: адзін у балоце ўтапіўся, ялоўку заблукалую выцягваючы; другі з кахання няшчаснага засіліўся; хтосьці поўніў службу пры братох забітага вознага ў Лівоніі, а хтосьці ўцёк у Маскоўшчыну. І з процілеглага боку пан Ян

[1] Возны — службовая асоба ў ВКЛ, у чые абавязкі ўваходзіла вывучэнне абставін злачынстваў паводле складзеных заяў, дастаўка судовых позваў і г. д.

[2] Генерал (або: енерал) — галоўны возны.

[3] Дэліквэнт — вінавайца, злачынца.

Мікалаевіч ды пан Якуб Андрэевіч Эйсымонты ў судзе не ставіліся, моцна хворымі, ледзь не пры смерці лежачымі, сказаўшыся. Толькі Кашпар Эйсымонт, з Ардзеем Васілевічам, каторага як умацаванага[1] свайго абвясціў, на рокі прыехаў, ды, на лаве сеўшы, крыва пасміхаўся.

Найдзіўнейшыя рэчы пачаліся, калі стаў перад намі шляхціч Мацей Эйсымонт і склаў рэляцыю наступную, якую я тут згодне з запісам у кнізе судовай падаю: «Я, Мацей Янавіч Эйсымонт, земянін[2] павета гарадзенскага, вызнаю тым маім лістом згодавым, іж калі быў абвінаваціў у апавяданні сваім сам ад сябе і імям жонкі нябожчыка сына майго Марыны Янаўны Давідоўны, у року тысяча шэсцьсот асьмнаццатым месяца лютага, пана Яна Мікалаевіча а Якуба Андрэевіча Эйсымонтаў, а прылучыўшы да тае протэстацыі Кашпара Севярынавіча Эйсымонта за прынцыпала, у забіцці майго сына Крыштапа Мацеевіча Эйсымонта вознага павета гарадзенскага ў звадзе, што мела месца на тракце віленскім, року прамінулага на Сёмуху, у часе па кірмашы гарадзенскім, дык цяперака прызнаю, што звада тая маім сынам, Крыштапам Мацеевічам Эйсымонтам, была распачата, бо хацеў ён укрыць справу рабунку, які над жыдом праезжым справіў. Кашпар Эйсымонт зась, тым шляхам з крэўнымі сваімі праязджаючы, жыда таго рабаванага абараніць хацеў, а калі Крыштап на яго з шабляю замахнуўся, дык дзеля абароны сваёй мусіў чэканам абараняцца, і не хочучы таго, але дзеля жыцця свайго ўратавання, забіў сына майго Крыштапа. А іж прызнаўшы яго быць нявінным і нявінна ў пратэстацыі маёй абвінавачанага ў забіцці майго сына, тады ад скаргі маёй на яго, Кашпара Эйсымонта, як гэтак жа крэўных ягоных, Яна Мікалаевіча а Якуба Андрэевіча Эйсымонтаў, вольным чыню».

Шляхта, на роках прысутная, зашэмрала: як жа ж гэтак?! Ці ж не адваротным чынам справа прабягала?! Ці ж не Кашпар быў найбольшым парушальнікам парадку і супакою паспалітага ў павеце, а Крыштап — таго парадку і супакою абаронцам?! Як зразумець, што Мацей, які дамагаўся кроўнай адплаты за сына і не хацеў галаўшчыны[3]; які, складаючы пратэстацыю, падкрэсліваў, што Крыштап быў возным земскім, а значыць, віноўца мусі быць смерцяй скараны, зараз прыходзіць і зракаецца помсты, хоць злачынцы выкрыты і віна іхняя генералам высветлена?! Што за прычына такая была, каб гэтак суворае вінавачанне зняць?

Не толькі шляхта дзівілася і здумвалася. І мы, ураднікі земскія, даўнімалі, што тут нешта незразумелае дзеецца. Тым больш, што і Марцін, земянін усім добра вядомы, выглядаў нязвыкла: твар меў асунуты і пажаўцелы, вочы замутненыя, а голас глухі нібы з труны. Быў я падумаў, што або хвароба, або сурокі. Але мы не маскалі і не туркі, каб бяспраўна чыніць, паводле сваёй прыхамаці. Калі галоўны пазоўнік свайго абвінавачання зракаецца, дык і Статут пераслед судовы спыняе. Таму мы нявінным Кашпара прызналі, але па дамах сваіх разышліся са скрухаю сэрца і смуткам душэўным.

Гэтак і я вяртаўся, поўны згрызот і незадаволенасці з таго, што адбылося. А найгалаўней было тое, што паліла мяне з сярэдзіны благое адчуванне-пякучка. Мроілася, што нешта падобнае са мной ужо было, што я ўжо чуў на роках гэтыя імёны: Кашпар Эйсымонт, Ардзей Васілевіч, што я бачыў ужо гэтыя твары... Таму вырашыў я завітаць у архівум, дзе кнігі судовыя перахоўваюцца, бо меркаваў, што,

[1] Умацаваны — паўнамоцнік, што прадстаўляе нечыя інтарэсы ў судзе.

[2] Земянін — аседлы шляхціч, што валодае зямлёй.

[3] Галаўшчына (або: галаўшчызна) — грашовая кара, якую паводле Статута Вялікага Княства Літоўскага павінен быў заплаціць забойца сваякам забітага.

пагартаўшы старонкі пажоўклыя, змагу прыгадаць нешта важнае. Так, зрэшты, і здарылася. Дзякаваць Пану Богу, доўга гартаць, кашляючы ад кніжнага пылу, мне не давялося — хоць і магло тое гартанне на некалькі гадоў расцягнуцца: былі тыя кнігі надта тоўстыя і, лежачы на стале, даходзілі верхнім вечкам да грудзей. Ды мне пашчасціла, бо пачаў я ад найдаўнейшых — тых, што закраналі пачатак маёй службы ва ўрадах земскіх гадоў пяцьдзесят таму. Пашчасціла, бо неўзабаве натрапіў я на запіс, які мяне ў далёкія часы вярнуў, калі справа паміж земянамі гаспадарскімі павета гарадзенскага панам Васілём Куліком з панам Станіславам Эйсымонтам а малжонкаю ягонай пані Занаўною Зофіею Гапаўнаю і сынам іх яко самым прынцыпалам[1], панам Крыштапам Эйсымонтам, а таксама памочнікамі ягонымі Янам Пятроўскім ды Ардзеем Васілевічам, разглядалася. Справа тая судзілася за позваю ў крыўдзе і тыранскім зраненні ды пакалечанні сыноў пана Васіля — Мікалая і Паўла Кулікоў.

І вось тады я ўсё прыгадаў...

Была зусім іншая пара — зіма. Навокал ляжалі сумёты, і каб даехаць да Гародні не раз прыходзілася злазіць з воза і брысці па пас у снезе, бо конь не цягнуў. Гэта былі рокі судовыя, што прыпадалі на свята Трох Каралёў. Я тады быў пісарам земскім, першы год пасаду гэтую займаючы. Маладзён, які толькі пачынае жыццё, які яшчэ нічога не ведае і больш звяртае ўвагу на тое, што робіцца ў яго усярэдзіне, а не вонкі! Таму, можа быць, і не надаў я ў той час увагі дзіўным абставінам тае справы, што паўтарыліся зараз — нечаканыя смерці і знікненні сведак; бацька, які адклікае вінавачанні; зняцце прысуду. Таму і забыўся я на гэтую справу, якую чалавек больш сталы і дасведчаны не змог бы не запомніць.

Але цяпер я згадаў усё, і галоўнае — твары падсудных. Устала перад маімі вачыма чорнае і крывое — нібы выкрыўленае злосцю — аблічча Ардзея Васілевіча, якое ні на зморшчыну не змянілася ад таго часу. Явілася нахабная і самазадаволеная задзірлівая пыса Кашпара Эйсымонта — тая самая... дарма што не Севярынавіча, а Станіслававіча. І зразумеў я тады, што недарэмныя былі абвінавачанні ў вядзьмарстве ды чарах гэтых Эйсымонтаў, бо не могуць людзі жыць пяцьдзясят гадоў не змяняючыся з выгляду, не могуць бацькі без дай прычыны звальняць ад помсты забойцаў сваіх сыноў; не можа зло без улады шатанскае караляваць над дабром і справядлівасцю — бо так не бывае... І зразумеў я, што недарма Ардзея Васілевіча Чортам клічуць, што, відаць, прадалі яму Эйсымонты свае душы, а ён узамен у злачынах іх настаўляе, слушнае пакаранне ад іх адводзіць, вечную маладосць дорыць... Ды не будзе так век вечны дзеіцца, бо мусіць прыйсці кара Божая і на грэшнікаў, што д'яблу душу сваю аддалі, і на самога д'ябла. І ўжо гатовая мая зброя...

Таму складаю я ў замку перадураднікамі гродскімі гэтую рэляцыю, паведамляючы, што маю намер звяршыць Божы суд уласнаручна і паводле гэтай сваёй пастановы. Калі ўдасца мне задуманае, нягледзячы на маю старасць, я вярнуся сюды і хай судзіць мяне суд нававыбраны паводле Статута нашага Літоўскага, мною вельмі шанаванага, якога я заўсёды прытрымліваўся. Калі ж не — дык хай не будзе мне мая пастанова гэтая палічана за грэх, бо я прагну адкупіць віну: двойчы я спрычыніўся да таго, што злачын не быў пакараны, а зло святкавала сваё вяршэнства. Цяпер мушу пакласці д'ябальскім падступам канец, хай коштам свайго жыцця, а можа і ўратавання душы сваёй несмяротнай. Амэн.

[1] Прынцыпал — галоўны спраўца супольна здзейсненага злачынства.

## ВАЛЕРЫЯН САКАЛОЎСКІ

***Вользе Бабковай — ейныя ж скарбы***

Цівун Ян Каленікавіч затрымаўся ў Слоніме даўжэй чаканага і выехаў у зваротную дарогу, калі ўжо добра сцямнела. Выгодна прадаўшы прывезеных на Спасаўскі кірмаш авечак, ён дазволіў сабе завітаць у карчму і там крыху заседзеўся, хвалячыся перад іншымі наведнікамі сваім спрытам ў гандляванні і добрымі прыбыткамі, а таксама дзівосамі маёнтка і багаццем свайго гаспадара, ягамосці Валерыяна Сакалоўскага. Увочавідзь паказваў ён як ходзяць па панскім двары, ганарліва пераступаючы цыбатымі нагамі, выведзеныя з піскляў жоравы, як, жадаючы паланіць мясцовых курак, распускаюць хвасты прывезеныя ажно з самой Турцыі паўліны, як курдыча напышліва нікім раней не бачаная птушка індык (так называецца, бо з Індыяў!), у якой доўгі чырвоны чарвяк на дзюбе. Хацеў яшчэ распавесці пра дзіўных хінскіх качак з аранжавымі вакол вачэй кругамі ды смешнымі таненькімі каронамі пёраў на галоўках, але махнуў рукою — і так ужо слухачы пачалі недаверліва пасміхацца — дзе ж тое было відаць, каб у птушкі на дзюбе чарвяк быў прырослы.

На бяду, у той жа карчме ды таго ж самага вечара пацягваў мёд пітны сусед Сакалоўскага і ягоны заняты супар пан Станіслаў Падэйка са сваёю службаю. Чым далей Падэйка слухаў тых расповедаў, тым болей наліваўся жоўцю. Асабліва яго ўганяла ў злосць акалічнасць, што сам ён гэтага разу амаль нічога не прадаў. Таму, як толькі схамянуўся Ян Каленікавіч, што ўжо позняя гадзіна і пайшоў з карчмы, рушыў за ім і пан Станіслаў з памагатымі.

Меў аднак цівун каня добрага і ехаў налёгку, дый у час агледзеўся, што нехта за ім цікуе. Таму памчаў ён як вецер, і хоць гналі за ім коней пераследнікі, але да самага маёнтка Белае, дзе ён поўніў свой урад, дагнаць не змаглі. Ды што з таго, калі і так вядома, куды кіруецца. Пад'ехалі гурмой пад двор, аблажылі з усіх бакоў — і заяц не вырвецца. Пачалі біць бервяном у браму, паліць агнём высокі, зроблены з ачасаных і завостраных паляў, паркан.

Службы ў той вечар у двары амаль не было: вядома, кірмаш — рэдкая падзея; дый, зноў жа, свята Гасподняе. Вось усе і разышліся: хто пасля гандлю ў Слоніме заначаваў, хто з дзеўкамі на гулі ўдаўся — бараніць маёнтак не асталося каму. Зламалі нападнікі браму і, не зважаючы на рэдкія стрэлы з ручніц, уварваліся у двор. Ля свірна кінуўся на іх з жудасным брэхам сабака, вялікі і чорны. Прайсці не даваў і ад удараў спрытна ўварочваўся, аж пакуль не рубануў яго Падэйка, ветэран войнаў з крымчакамі, татарскім выштукарным ятаганам (ятаган той каштоўны — са срэбным дзяржальнам і срэбрам жа кутымі ўзорамі па клінзе — дастаўся пану Станіславу па ўласнаручна зарэзаным у бойцы мурзе муслімскім). Сабаку дабілі, а цівуна, што са слугою ў свірне зачыніўся, моцна гвалтам дзверы выбіўшы ды ручніцы дарагія, у ложах чорных з кросамі, адабраўшы, выцягнулі са свірна на двор, дзе білі ды за валасы ірвалі. Забралі рабаўнікі са свірна ўсё, што там па скрынях ды куфрах захоўвалася, не грэбуючы самай драбязой: выцягнулі два тузіны цынавых талерак, конваў, квартаў, тры жалезныя палонікі, дзве медныя вялікія патэльні, медныя трубы гарэлачныя, катлы піўныя ды кухонныя. Залезлі і ў падклець, адкуль узялі палатна кужольнага ды зрэбнага агулам на 200 локцяў, а таксама мяса, сала, масла ды сыроў. Забралі і скрыню, у якой ляжалі грошы гаспадара, пакінутыя ўрадніку на скупаванне валоў. Выйшаў Падэйка са свірна ўжо выстраёны як кароль: на галаве — чорны, лісой падшыты каўпак; на нагах — саф'янавыя боты; на плячах — новы шары ермяк са шнурамі і стракою чорнага шоўку, а наўзверх яго — жупіца ласіная, бавоўнаю падшытая. Стаіць сярод двара, на пальцы мезенным пазлацісты сігнет пакручвае, у

кішэні манетамі срэбнымі пабразгвае; гляне на сябе не нацешыцца. Гукнуў урэшце службу — і выехалі з разрабаванага маёнтка.

А ў сенцах насупраць грыдні сумна назіраў за ўсім гэтым унашоны[1] ястраб. Быў ён — надзіва — без клабучка на галаве, дый не ўвязаны. Ледзьве пакінулі рабаўнікі двор, клекатнуў ястраб ды ўзняўся на моцных крылах у неба.

* * *

А ў маёнтку Сакольцы — сваім родавым гняздзе — ладзіў пан Валерыян Сакалоўскі, маршалак павета слонімскага, баль з нагоды паўналецця старэйшай дачкі. Святліца была паўнюткая гасцей, і вокны разнасцежаны з увагі на гарачыню. У агульным замяшанні, якое бывае пры вялікім збегу народу, гомане ды танцах ніхто, бадай, не заўважыў дзіўнага здарэння: каля гадзіны дванаццатай вынырнуў з начной цемры ястраб і, сеўшы на падаконне звонку, клекатнуў колькі разоў, а потым узмахнуў крыламі і зноўку знік у змроку. Мусіць, толькі гаспадар бачыў птушку і праводзіў яе адлёт смутным позіркам. А пасля пан Валерыян сам неўпрыкмет пакінуў залу ды гасцей, але і гэтага, бадай, ніхто не заўважыў — як, зрэшты, і ягонага ціхага вяртання праз нядоўгі час.

На досвітку, калі госці, адгуляўшы, ужо раз’язджаліся, прыбыў з Белага пасланец, які паведаміў пра наезд Падэйкі са службай на двор і пра зрабаванне маёмасці. Сакалоўскі аднак на такую вестку не змяніўся ні ў твары, ані ў позірку, як быццам ведаў пра ўсё загадзя («Моцны чалавек ягамосць — нават вокам ні міргнуў!» — казалі пасля суседзі).

— Я дарую Падэйку! — абвясціў стрымана. — Не выпадае такі дзень, як сёння, пляміць праліццём крыві. Хай іхнія жыцці і рабаваная ў мяне маёмасць будуць маім падарункам з нагоды сённяшняга свята!

Аднак генерал павятовы, які таксама быў сярод гасцей, неадкладна склікаўшы пагоню, рушыў рабаўнікам напярэймы. Таго ж дня ён нагнаў абоз. Калёсы, наладаваныя маёмасцю пана Сакалоўскага і кірмашовымі таварамі самога Падэйкі, стаялі кінутымі на лясной дарозе. Людзей побач з імі не было — мусіць, пачуўшы шум пагоні, наездцы кінулі нарабаванае і ўцяклі. Так, відаць, напалохаліся, што нават пазней у маёнтак Падэйкаў пабаяліся вяртацца, і болей іх ужо ніхто не бачыў. Яшчэ вакол абозу было шмат птушынага пер’я і пуху, але хто ж будзе сабе гэтым галаву займаць — ці мала ў пушчы птаства.

Такім чынам, майно пана Сакалоўскага было вернута гаспадару, і гэтая падзея на ягоным дабрабыце амаль не адбілася. Больш таго, неўзабаве папоўнілася ягоная птушыная калекцыя: сярод іншых дзівосаў з’явілася і некалькі пеліканаў — птушак з мяшком пад дзюбай, куды яны збіраюць рыбу і іншую здабычу. Пан Валерыян казаў, што яму іх даставілі ажно з Егіпту...

## ВАСІЛЬ ВОЎК

Нядаўна пабраўшыся, я паехаў знаёміцца з жончынымі сваякамі ў вёску, адкуль паходзіла ейная маці ды дагэтуль жыла бабця, і дзе жонка дзяўчынкаю зазвычай бавіла лета. Мясцовасць гэтая звалася Забалаць. Калісьці там быў шляхецкі фальварак, які з часам зліўся з вёскай Вяшэўкай. Жонкава маці была ўроджаная Цюхай, і ў

[1] Унашоны (старабел.) — прыручаны.

нейкім далёкім калене прыходзілася крэўніцай прадстаўнікам роду Цюхай-Ліпскіх, з гумарам выведзеных адным нашым класікам у сваёй п'есе.

Прыехаўшы, я з задавальненнем атрымаў запрашэнне на «экскурсію па хаце і ваколіцах» і як чалавек, які цікавіцца гісторыяй, не мог прамінуць агледзіны старасвецкіх рэчаў, што меліся ў сялібе. Найвялікшую маю ўвагу прыцягнуў куфар, што паходзіў з бабцінага пасагу, а зрэшты і той дастаўся ад ейнае бабці. Жонка выцягвала і паказвала дамятканыя ручнікі і строі — некаторыя нават з дваццатых гадоў мінулага стагоддзя — аж раптам я заўважыў, што на самым нізе, з-пад абрусаў, выстае карычневата-жоўты рог нейкага скрутка. Я папрасіў дазволу зірнуць. Гэта былі розныя дакументы бабці і памерлага ўжо дзеда: метрыкі, пасведчанні пра пачатковую адукацыю, даведка пра шлюб... Некаторыя яшчэ з мяккімі знакамі ды «ль» — нязвыклыя для нашага вока афіцыйныя паперы, друкаваныя тарашкевіцай. Але найболей мяне зацікавіла паперчына, у якую яны былі загорнуты — сцямнелы і ломкі ад часу, часткова ўжо павыкрушаны, аркуш даволі вялікага памеру. З аднаго боку ён быў увесь спісаны выцвілым брунатным атрамантам, і, добра паўглядаўшыся, я распазнаў хуткапіс сямнаццатага стагоддзя.

Забраўшы, з бабцінага дазволу, гэты аркуш з сабой у Мінск, я часткова — наколькі дазваляла захаванасць дакумента — расчытаў тэкст, а выкрушаныя месцы дапоўніў сваімі здагадкамі. Гэта быў выпіс з берасцейскіх кніг 1642 г., на маю думку, вельмі цікавы, і таму зараз я яго прапаную ўвазе чытачоў:

«Лета ад Божага Нараджэння тысяча шэсцьсот чатырдзесяць другога, месяца кастрычніка дзясятага дня, на роках судовых земскіх, што на Святога Міхала, свята рымскае, выпалі і ў судах берасцейскіх былі адпраўаваныя, паводле парадку рэестровага прыпала к суджанню справа.

Яснаасвечаны княжа, Ягамосць пан Януш Радзівіл, падкаморы Вялікага Княства Літоўскага, староста Казімірскі, Камянецкі ды Шэйвенскі, паклікаў да суда земяніна ваяводства берасцейскага пана Стэфана Мартынавіча Тура за позвай пра зацкаванне да смерці сабакамі гайдука скарбовага Васіля Воўка. А ўмацаваны княжы давёў тое абвінавачанне да пана Тура праз вознага таго ж ваяводства берасцейскага Мікалая Няміру Кругельскага, які склаў позвы: адну ў маёнтку Баранах, на прысяленні млынарскім, а другую — прыбіянай у замку берасцейскім на браме.

Скліканыя праз енерала да вяршэння права стораны перад намі: Андрэем з Горбава Заранком, суддзёй на цяперашнія рокі згодна абраным; Тодарам Станіславам Букрабам, падсудкам; ды Пятром Пацеем, пісарам — ураднікамі судовымі земскімі ваяводства берасцейскага очывіста ў судзе станавіліся. Ад ягонае княжае міласці — умацаваны пан Еры Ваўкавыцкі, а пан Тур сам, з умацаваным сваім, панам Жыгімонтам Юркоўскім, прыбыў.

Тады ўмацаваны княжы давёў да пана Тура рэляцыю з выпісам з кніг берасцейскіх, што была прызнана на ўрадзе дзейнай, а рок паводле яе слушна і праўна прызначаным. І пасля справы дання ўроджаным Янам Осцікам пра заслугі гайдука, а таксама і прамовы падстаросты камянецкага пра гэта ж, скардзіўся княжы ўмацаваны на пана Тура. Паведаміў ён, іж ты, пане Туру, не аглядаючыся на віны, у праве паспалітым апісаныя, і лёгка сабе оныя цэнячы, а таксама не маючы ў сабе боязі Божае, ані шацунку да цнотаў хрысціянскіх, смеў ды важыўся ў року прамінулым, тысяча шэсцьсот чатырдзясятым, месяца чэрвеня дваццаць трэцяга дня, на падданага дзяржавы нашае, выбранца скарбовага з сяла Шалічы, імем Васіль Воўк, напад хіжы здзейсніць. Іж, засадзіўшыся падступна ва ўрочышчы Вялікае, што да тваёй маетнасці належыць, ты з памагатымі сваімі многімі — імёны і назвіскі каторых табе добра вядомыя — таго падданага нашага выбранца сякераю ды кіямі параніў,

збіў ды пацкаваў акрутна. А гайдук той вышэй выменёны ад таго збіцця, зранення і пацкавання са свету гэтага адышоў, як у скарзе на позве шырэй выкладзена. Пры прачытанні скаргі пазоўнае, умацаваны княжацi Ягонае міласці, падкаморага Вялікага Княства Літоўскага, на довад скаргі свае пакладаў пратэстацыю пра тое акрутнае зраненне Васіля Воўка, гайдука скарбовага, на пана Стэфана Тура. А яшчэ, да таго ж, пакладаў рэляцыю з выпісам з кніг берасцейскіх вызнання вознага Мікалая Няміры Кругельскага пра агледзіны ран таго гайдука пасля акрутнага пасячэння і зацкавання, у даце таго року месяца чэрвеня дваццаць шостага дня зробленую. І пакладаў яшчэ пратэстацыю на таго ж пана Тура пра забіццё, складзеную кгды гайдук пасечаны з тых ран памёр. Прыклаў таксама і рэляцыю вознага Няміры Кругельскага пра агледзіны на ўрадзе гродскім берасцейскім цела таго нябожчыка гайдука ды абвешчанне, што выбранец гэты скарбовы Васіль Воўк, чалавек пану Туру ні ў чым нявінны, праз апошняга быў забіты і на смерць тыранска замардаваны ў часе, калі засадкі не спадзеючыся ехаў з места Камянца на дабравольнай дарозе.

Сам жа пан Стэфан Тур, павінны ад трох братоў нябожчыка да прысягі быць прыведзеным, прыпавядаў наступнае. Мовіў, іж быў той гайдук скарбовы ваўкалакам. Іж абарачаўся ён, як і продкі ягоныя, вядомымі ім чарадзействамі (сямёрчы праз стальныя нажы кульнуўшыся) у ваўка — таму і назвіско такое ён сам, і бацька ягоны, і дзед ад людзей спрадвек мелі. А продкі ягоныя збытняга зла не рабілі, у суседзяў каровы не рэзалі, і ніякай іншай шкоды не чынілі. Зась Васіль Воўк дужа злосны быў і ў звярыну абярнуўшыся велькія шкоды рабіў, на суседзях па сварах помсціўся, а ў самога пана Стэфана Тура цэлы статак бараноў, воўнай якіх маёнтак славіўся, за лета звёў, гавяду парэзаў і сына ў лесе ўначы насмерць загубіў. І ўласна дзеля таго пан Тур пастанавіў таго ваўкалака-гайдука ў абліччы ваўчыным выпільнаваць і на ім адмысловаю сякерою, са срэбра кутаю ды ў касцёле асвечанаю, права справядлівасці звяршыць. Таму слуг сваіх і шляхту-суседзяў сабраўшы, аблаву ўчыніў, сабакамі ваўкалака высачыў, а злавіўшы, згаданай сякераю яго пасек. Калі ж стаў гайдук-абарацень паміраці — у чалавека перавярнуўся, дык пан Тур яго пакінуў і ў маёнтак свой, Бараны, з усім сваім таварыствам вярнуўся не хаваючыся, бо пэўны, што зрабіў справу годную і дабрадзейную. Так вызнаў пан Тур і прысягу пра тое склаў.

Аднак жа мы, ураднікі судовыя, вышэй вымянёныя, выслухаўшы пана Стэфана Мартынавіча Тура, а таксама сведак дапытаўшы і братоў нябожчыка вышэйменаваных, заўхвання гэтаму вызнанню пана Тура не далі; зась адваротна — вінным яго прызналі і кару, паводле права паспалітага належную, яму прызначылі. Альбовем бы і кожны іншы так, каго забіўшы і акрутна замардаваўшы, адпрысягнуціся хацеў бы, але тое яго спаткаці не можа, бо кроў нявінная справядлівасці святое патрабуе і пра помсту да Пана Бога лямантуе. І няхай за Божай воляй той вырак будзе на згаданым пану Стэфана Мартынавіча Туры выкананы і справа Божая дакананай станецца. Амэн».

Я толькі і змог высветліць, што гэты Васіль Воўк быў нейкім бабціным продкам — відаць, па кудзелі, бо прозвішча не захавалася. Адшукаць у архіве акты, паводле якіх можна было б скласці хаця б прыкладную генеалогію маіх новых сваякоў, а галоўнае — разабрацца, ці быў згаданы Васіль насамрэч ваўкалакам, мне таксама пакуль што не ўдалося: надта адлеглыя часы, занадта шмат дакументаў згарэла ў полымі войнаў ды рэвалюцый. Але я мушу іх знайсці, бо інакш так і буду прачынацца сярод ночы ў халодным поце, баючыся, што, запаліўшы святло, убачу побач з сабой ашчэраную пашчу ваўчыцы.

*Іван КАПЫЛОВІЧ*

# АБ ШТОДЗЁННЫМ І ВЕЧНЫМ



*Іван Капыловіч нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ. Служыў у Савецкай арміі, працаваў у газеце «Чырвоная змена». Аўтар зборнікаў апавяданняў і аповесцей.*

**Іван Капыловіч найперш вядомы як празаік. Спадзяёмся, што ягоная вершаваная публікацыя на старонках «Маладосці» стане прыемным сюрпрызам для літаратурных крытыкаў і сапраўдным адкрыццём для аматараў добрай паэзіі. Гавораць, нібыта сучаснай літаратуры не стае памкнення да класічных узораў, не хапае празрыстасці, простасці і строгасці форм, дакладнасці выказванняў. Іван Капыловіч-паэт не здраджвае сабе як аўтару прозы і як чалавеку — мудраму, назіральнаму, удумліваму. Лірычны герой яго схільны да глыбокіх філасофскіх рэфлексій, аднак не замыкаецца ў сабе, а наадварот, імкнецца ў рыфмаваных радках падзяліцца з чытачом набытымі ведамі, высновамі, зробленымі з багатага жыццёвага досведу. Ён адкрыты свету — гэта выклікае нязмушаную сімпатыю да яго, прываблівае і заварожвае. Паэт запрашае да дыялогу!..**

*Віка ТРЭНАС*

* * *

Дзе мой роздум, прастора, крыжы,
Пасяліліся сум, адзінота,
Непагодлівай восені слота
І чаканні бязлюднай глушы.

Як ніколі ўрадзілі сады —
У траву ападаюць антоны:
Чалавек не прыходзіць з паклонам
Да таго, на што траціў гады.

У які бок ні кінься, ні глянь —
Будзе сэрцу за што зачапіцца:
Да акна падляцела сініца
Гэтай хаты, што нібыта здань.

Яна просіцца ў госці дарма —
Цішыня пасялілася ў доме:
Дзе цяпер гаспадар, невядома,
Прычакае сініцу зіма.

Белым покрывам ляжа зіма
На сады, агароды, на хаты,
Загалосіць у сцюжы аб стратах,
Ад якіх ссірацела сама.

* * *

Я спяшаюся ў лес, бы дадому,
Дзе заўсёды чакаюць мяне.
Скіну з плеч ношу цяжкую — ўтому,
Буду сцежкай ісці невядомай:
Нібы ў вір, яна ў нетры нырне.

У ім столькі куткоў-таямніцаў,
Незлічона чароўных мясцін.
Ёсць душы дзе ўздыхнуць, памаліцца,

Цішынёю як след наталіцца
І да думкі харошай прыйсці.

Ён пазбавіць ваганняў, знямогі
Днём пагодным, парою слаты.
Ён — працягам жыццёвай дарогі,
Што вядзе да любові і Бога
Часам цяжкім і фэстам святым.

Прыхінуся да мройнага дрэва
Я стамлёнай да болю душой.
Сябе вартаю думкай сагрэю,
Што зрабіць яшчэ многа мне трэба,
Покуль дзень мой у цень не сышоў.

* * *

Уваходжу ў яблыневы сад
І няспешную вяду размову,
Да якое схільны лістапад,
Што настройвае на добры лад
І забытыя падкажа словы.

Шчэ антонаў многа на галлі —
Рана саду на спакой збірацца.
Да яго прыходжу я, калі
Думка прачынаецца, баліць —
Гэтай думкай буду спавядацца.

Адзіноты праведнай куток
І прытулак бабінага лета,
Сад не раз мяне перасцярог,
Каб абдумваў я свой кожны крок,
Спазнаючы таямніцы свету.

Яму сніцца белы супакой
І начных завеяў баляванне,
Да якіх падаць ужо рукой.
Долі пазайдросціць хто такой,
Што саткана з вечнага трывання?

*Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,*
*Яўгенія ПАСТАРНАК*

# ГІМНАЗІЯ № 13*

***Раман-казка***

## ЧАСТКА 2
## ЧОРНА-БЕЛАЯ БЛЫТАНІНА

### Глава 14

### СМЕРЦЬ КАШЧЭЮ!

* * *

Вось ужо ў які раз яны стаялі пад школьным дубам і чухалі патыліцы. Васька прадбачліва не прыставаў да людзей — бачыў, што ў іх праблема, і ўнюхаў, што прыйшлі яны без ежы.

Пытанне, якое цікавіла ўсіх, агучыў Мішка.

— І дзе ў яго тут куфэрак?

У паўзмроку, які ўладарыў між галля, цяжка было нешта разгледзець, усе добра памяталі, што і пры ясным дні ніякага куфэрка ў кроне не назіралася. Ды чаго там — дуб быў гімназістамі неаднаразова абпоўзаны і вывучаны, але пра куфэрак нават ніякіх чутак і легенд не было. Праўда, да нядаўняга часу там не было і крылатай русалкі...

— Давайце разважаць лагічна... — завёў сваю катрынку Сеўка.

— Трэба даведацца ў русалкі. Альбо ў Васі, — прапанавала любімы спосаб Лёля.

— Зараз залезем і даведаемся! — запярэчыў прамалінейны Мішка.

І тут Антона, які апошнія дзесяць хвілін у думках ліхаманкава шукаў на дубе куфэрак, азарыла:

— Дупло! Ён у дупле!

Ніхто нават не стаў крычаць «Брава!» Усе проста паважліва паглядзелі на Антона, але затое ён сам быў вельмі сабою задаволены. Нарэшце-такі яму ўдалося знайсці рашэнне — без усялякіх падказак і гульняў у паддаўкі!

Дупло знайшлося не адразу. Антону давялося доўга вывучаць тоўстае, пакрытае бугрыстаю карою дрэва, пакуль нарэшце выявілася месца, дзе магла знаходзіцца смерць Кашчэя. Дупло было замазана, відаць, для бяспекі, нехта калісьці пабаяўся, што частка дуба абваліцца проста на дзіцячыя галовы, пра што дзеці, вядома ж, нічога не падазравалі. Пакуль Мішка бегаў за інструментамі, Антон разглядваў дзіўную штуковіну, якая вісела на цвіку над замазаным дуплом — ці то перавернуты трызубец, ці то курыная лапка... Нешта яна яму нагадвала...

* Працяг. Пачатак у № 1, 2, 3, 4, 5, 6 г. г.

Але ўспомніць так і не паспеў — прыбег Мішка, залез да Антона, і яны ўдвух пачалі заўзята адкалупваць рэшткі старой замазкі і ачышчаць поласць у дубе.

— Давайце ліхтарык, мы расчысцілі праход, — сказаў Антон праз нейкі час.

Ён пасвяціў унутр дупла.

— Ну? Што там? — Маша ледзь не падскоквала ад нецярплівасці. — Кажыце ж!

— Ды не відаць нічога, тут глыбока. Але на дне штосьці мігціць. Вой!..

З дупла пачулася выразнае і моцнае бразганне.

— Што? — усклікнула Люба.

— Я ліхтарык упусціў... Вух ты... Затое цяпер бачна... Там стаіць нешта жалезнае. Давайце вяроўку шукаць!

І тут Мішка забаставаў, сказаўшы, што такую цяжкую на выгляд штуковіну можна выцягваць толькі на поўны жывот. Довад гучаў пераканаўча. Больш таго, ён гучаў ва ўнісон бурчанню жыватоў.

* * *

Сталавік на гэты раз быў на дзіва ціхі і сур’ёзны. Не балакаў, не сварыўся, а засяроджана накрываў на стол.

— Нешта здарылася? — ціха запытала ў яго Лёля.

Дамавік толькі зыркнуў на яе і працягваў насіць на стол талеркі.

— Усё так кепска? — прашаптала Лёля.

— Сілы цяпер роўныя... І што будзе, што будзе... — незразумела замармытаў дамавік, сцепануўся і збег на кухню.

Пасля таго як прагналі першы голад, Антон пачаў абмеркаванне.

— Дык вось, куфэрак мы дастанем, гэта не праблема. І што потым?

— Як што потым? — здзівіўся Мішка.

— А табе мама ў дзяцінстве казак не чытала? — спытала Маша. — Адчынім мы куфэрак — а там заяц.

— А ў зайцы — качка, — працягнуў Сеўка.

— А ў качцы — яйка, — перабіла Маша.

— А ў яйку — іголка! — радасна перакрычаў усіх Мішка.

— Пачакайце, — спыніў агульны энтузіязм Антон. — Давайце спачатку. Як зайца будзем лавіць?

Па заклапочаным выглядзе астатніх стала зразумела, што пра такія дробязі ніхто з іх не задумваўся.

— Давайце куфэрак сеткай абкруцім, — як заўжды, першым пачаў узважваць Сеўка. — Адчынім, а заяц застанецца ў сетцы.

— А сетку знойдзем? — усумніўся Антон.

— Прыдумаем што-небудзь. Качка, дарэчы, таксама з сеткі не зможа выблытацца.

— Ну няхай сабе, — падумаўшы, пагадзіўся Антон. — А потым...

— Не перашкодзіла? — пачуўся хрыплаваты голас, і ў сталоўку ўвайшла высокая прыгожая жанчына ў чорнай сукенцы і з доўгімі бліскучымі чорнымі валасамі. — Смачна есці!

Гімназісты дружна павярнуліся да ўваходу.

— Дзякуй... — сказаў Антон, зачараваны прыгажосцю незнаёмкі. — А вы хто?

— Па-па-паляндра? — запыталася Маша. — Як вы змяніліся...

— Глупства, — махнула рукой жанчына, прысаджваючыся на вольнае месца, — трошкі шампуню, расчоска... Карацей, звычайныя жаночыя штучкі.

Паляндра ласкава падміргнула Машы, усміхнулася Любе і ўтаропілася ў Лёлю.

— Пра што гэта вы так ажыўлена гаманілі? — запытала Паляндра, наліваючы сабе вады.

— Ды так... — сказала Маша, адсоўваючыся ад госці на краёчак крэсла.

— Ні пра што... — нечакана сварліва адказала Лёля.

— А Антон раптам падумаў: «Дзіўна... Не падобна яна да Кашчэя».

Гэтая думка раптоўна здалася яму такой правільнай, што ён ляпнуў:

— Вы ж не Кашчэй, не?

У цішыні, якая адразу ўтварылася, было чуваць, як у дальнім кутку дробна калоціцца Сталавік.

Паляндра абвяла прысутных позіркам, у якім было разуменне, і паволі выпіла ваду.

— Кашчэй... Палонны... — сказала яна, быццам сама сабе. — Ну вядома ж... Разумныя дзеці.

І Паляндра ўсміхнулася так, што Антон сказаў сабе: «А вось цяпер падобна!» І крыкнуў:

— Шухер!

Ці то Кашчэй не ведаў слова «шухер», ці то ўсе былі надта перапужаныя, але яны паспелі дабегчы да дзвярэй, перш чым няпрошаны госць кінуўся за імі.

Ужо ў калідоры Антон скамандаваў:

— Урассыпную!

Усе без лішніх удакладненняў падпарадкаваліся. Сеўка панёсся кудысьці ўверх па лесвіцы, Маша рушыла да бібліятэкі, а Мішка з Любаю — у бок спартыўнай залы. І толькі Лёля чамусьці ўвязалася за Антонам, які кінуўся ў бліжэйшы клас. Паляндра, апынуўшыся ў калідоры, хутка зарыентавалася і няспешна скіравалася менавіта да Антона з Лёляю. Антоха, зразумела, зачыніў дзверы класа, але нешта яму падказвала, што сур'ёзнай перашкодай яна для Кашчэя не будзе.

— Чаму не збегла? — накінуўся Антоха на Лёлю. — Я ж сказаў!

Але Лёля не адказвала, яна была занята дзіўнаю справаю: хутка-хутка малявала крэйдаю на падлозе ў цэнтры класа няроўную акружнасць. Яна паспела замкнуць яе за імгненне да таго, як у дзверы нягучна пастукалі.

— Ну што, — ласкава запыталася Паляндра, — будзем школьную маёмасць псаваць, ці адразу адчыніце?

Лёля, якая стаяла ў цэнтры кола, жэстам папрасіла Антоху заняць месца побач з ёю. Ці, можа, не папрасіла, а загадала? Антон упарта паматаў галавой.

— Ну не з'ем жа я вас? — данеслася з-за дзвярэй. — Хоць, у прынцыпе, гэта ідэя...

Лёля умольна склала рукі. Антон завагаўся. Тады Лёля зрабіла крок і з нечаканай сілаю ўцягнула Антона ў кола.

І тут жа дзверы з лёгкім трэскам вылецелі вонкі.

— Гоп-па! — радасна пракаменціравала фокус Паляндра. — А вось і я.

Яна ўвайшла ў клас... і быццам наляцела на празрыстую сцяну.

— Вох ты! — сказала яна хутчэй ухвальна, чым разгублена. — Магічнае кола... Самі здагадаліся ці падказаў хто?

— Падказаў! — з выклікам адказала Лёля. — Гогаль Мікалай Васільевіч. Аповесць «Вій». Не чыталі?

Паляндра са шкадаваннем паціснула плячамі. У гэты момант яна больш за ўсё нагадвала Антоху вялікую чорную котку.

— Добра, — сказала яна, кашэчым крокам абыходзячы мяжу і спрабуючы яе рукою на трываласць, — няхай сабе, вы тут схаваліся. Але ці надоўга? Есці-піці

захочаце — самі выйдзеце. Ды і астатнія вашы дзесьці ў школе сядзяць, яны ж могуць і не здагадацца пра кола. Як думаеце?

Антоха і Лёля маўчалі, насцярожана назіраючы за Паляндрай. Тая нарэшце завяршыла свой плаўны абыход і міралюбна сказала:

— Што ж вы нервовыя такія, га? Можа, дамовімся?

— Можа, і дамовімся... А наконт чаго? — сказаў Антоха і зараз жа атрымаў штурхеля локцем у бок.

Паляндра-Кашчэй не адказала. Яна прыхінулася спінай да вушака выбітых дзвярэй і, здавалася, любавалася парачкаю, што схавалася ад яе.

— Твая спадарожніца, Воўк, — раптам усміхнулася Паляндра, — мяне вох як не любіць. А ты як быццам нічога... не злуешся на мяне...

Антоха паціснуў плячамі. Ніякай злосці ён і сапраўды не адчуваў. У сталоўцы скамандаваў «шухер» не са страху... А калі больш дакладна, не са страху за сябе. Трэба было ратаваць астатніх — вось і скамандаваў.

— Слухайце, — Паляндра прамовіла вельмі міралюбна, — я проста не хачу, каб мяне забілі, гэта што — злачынства?

Нават Лёля не знайшлася, што адказаць.

— Таму прапаную так, — працягнула Паляндра голасам, у якім чулася бадзёрасць, — абменьваемся клятвамі. Вы абяцаеце, што не станеце ламаць іголку, я — што не крану вас. Дамовіліся?

Яна наблізілася да кола і так пераканаўча працягнула руку, што Антоха ледзь было не працягнуў у адказ сваю. І працягнуў бы, калі б Лёля на ёй не павіснула.

— Штосьці мы вашай клятве, — сказала Лёля, — загадзя не верым.

— Значыцца, — з сумам падвяла вынік Паляндра, — па-добраму мы не хочам.

Але працягу яны не пачулі. З калідора пачуўся тупат некалькіх дзясяткаў ног і крык Сеўкі:

— Яна там, каля сталоўкі!

Паляндра адразу страціла ўсю сваю плаўнасць і, прашыпеўшы нешта скрозь зубы, кінулася прэч з класа — быццам чорны смерч мільгануў па калідоры. А яшчэ праз хвіліну следам за ім прамільгнуў і белы смерч.

Антон і Лёля панура паглядзелі адно на аднаго.

— Наконт чаго гэта ты з ёю дамаўляцца хацеў?

Антон дакладна і сам не ведаў адказу на гэтае пытанне, таму адказаў першае, што прыйшло ў галаву:

— Час цягнуў.

Мяркуючы па яхідным выразе твару, Лёля збіралася працягнуць допыт, але Антоху ўратаваў Сеўка. Цяжка дыхаючы, ён узнік у дзвярным праёме і паведаміў:

— Гэта яе Пярун прагнаў... З памочнікамі... Я іх на даху знайшоў...

— Дзякуй, — ціха сказала Лёля.

Яны з Антонам стараліся не глядзець адно на аднаго.

— З вамі ўсё нармальна? — запытаўся Сеўка.

— Са мною — так, — адказала Лёля.

— А са мною што — не? — успыхнуў Антон.

— І з табою нармальна. Відаць, — спакойна сказала Лёля. — Я думала, ты сам за сябе адкажаш.

Антон глыбока ўздыхнуў і ў думках далічыў да дзесяці. Нельга выходзіць з сябе, нельга...

— Так! — паведаміў ён, супакоіўшыся. — Пакуль Паляндра кудысьці знікла, бяжым да дуба! Трэба з гэтым закончыць хутчэй!

— Я астатніх прывяду! — крыкнуў Сеўка.

* * *

Праз некалькі хвілін усе ўжо стаялі пад дубам.

— Васька, калі пачуеш Паляндру, падай знак! — загадаў Антон.

— Ну вось яшчэ! — сказаў кот. — А яна мяне пасля...

— Галаву адкручу! — вельмі сур'ёзна сказаў Антоха. — Прычым не пасля, а зараз!

Кот паглядзеў Антону ў вочы, папераступіў з лапы на лапу і прылёг побач з дубам.

— На вячэру — рыбу, — ціха сказаў кот.

— Калі жывыя будзем... — адмахнуўся Антон і палез на дрэва.

Куфэрак у дупле аказаўся зусім не вялікім і не цяжкім, Антон лёгка выцягнуў яго без Мішкавай дапамогі. Выцягнуў, абтросся, агледзеў замок...

— Мы сетку прынеслі!

З гэтым крыкам у дворык убеглі Сеўка і Мішка, цягнучы за сабой парваную валейбольную сетку.

— Вы што яе здзіралі? — здзівілася Лёля.

— Не, адвязвалі, — з'едліва адказаў Мішка, — маўляў, у нас жа тут шмат часу, сядзім сабе бесклапотна. — Адыдзіце ўсе, я буду замок збіваць, — сказаў ён і з усёй сілы ўрэзаў па куфэрку.

Святло пагасла. Не вельмі зразумела, як гэта здарылася, таму што і так было цёмна, але ў гэты момант унутраны дворык гімназіі накрыла жудасная, непраглядная цемрадзь.

Сеўка ўключыў ліхтарык, Лёля кінулася маляваць нейкім прутком магічнае кола.

— Дапама-а-жыце! — пачулася са школы.

— Маша! — хорам выдыхнулі Антон і Лёля.

— Мішка з куфэркам, Лёля з ім, дамалёўвай кола! Мы з Сеўкам на дапамогу... — крыкнуў Антон.

— Не! — заявіла Лёля. — Табе нельга, ты не ўстаіш...

— Ды замоўкні ты! — кінуў Антон і паляцеў да ўваходу ў школу.

Машка крычала недзе на другім паверсе, Антон куляй ляцеў па лесвіцы, адчуваючы ў сябе за спінай чыёсьці дыханне.

Антон выскачыў у школьны калідор і пабачыў, што побач з настаўніцкім пакоем ён перагароджаны ліпучай сеткаю, у якой б'ецца Маша, і да яе падбіраецца агромністы павук, ляскаючы сківіцамі і пускаючы сліну.

— Сеўка! — крыкнуў Антон. — Меч... мяч... Хоць што-небудзь прынясі.

— Уіііііі!.. — завішчала Маша.

З-за спіны Антона выскачыла Лёля і кінулася да павука.

— Згінь! — крыкнула яна і запусціла ў яго сваім медальёнам.

Павук нейк увесь скурчыўся, падціснуў лапы і зашыўся ў дальні куток свайго павуціння. Антон падбег да Машы і з усіх сіл тузануў яе за руку. Павуціннне трэснула, Антоха паваліўся, Маша ўпала на яго зверху. І замест таго, каб збегчы, жвава ўскочыла на ногі, сарвала з шыі свой медальён і таксама шпурнула яго ў павука.

— Згінь! — выкрыкнула яна.

Павук забегаў з кутка ў куток, а з бліжэйшага кабінета высунулася галава кабінетавіка:

— Што, павылазіла нечысць? — чамусьці з дакорам запыталася галава. — Ці тое яшчэ будзе!

Кабінетавік зірнуў на павука, прамармытаў нешта незразумелае і з трэскам зачыніў за сабою дзверы. Праз хвіліну выйшаў з венікам і з задавальненнем надаваў павуку пад зад. Павук прысеў, быццам на нізкім старце, а потым бадзёрым трушком пабег за батарэю.

— Медальёнчыкі падбярыце! — сказаў кабінетавік. — І не шпурляйцеся імі болей. Не для таго зроблены...

— Дык дапамагло ж! — разгублена сказала Маша.

— Ён проста не любіць, калі ў яго шпурляюцца. Любымі рэчамі, — буркнуў кабінетавік і зноў схаваўся за дзвярыма.

— Я табе што загадваў рабіць? — з халадком запытаўся Антон у Лёлі, калі стала зразумела, што небяспекі больш няма.

— Замоўкнуць, — спакойна сказала дзяўчынка. — Я — моўчкі!

Антон развярнуўся і знік на лесвіцы.

* * *

Уся аперацыя па здабыванні Кашчэевай смерці нагадала Антоху сцэну з нейкага змрочнага фільма, у якім выклікалі дэмана. Там усё адбывалася ўсярэдзіне намаляванай пентаграмы, тут — усярэдзіне кола, якое вычарцілі прутком. Там звінела злавесная цішыня, тут таксама ніхто асабліва не імкнуўся пабалбатаць.

Здабытую ў спартыўнай зале сетку для пэўнасці склалі напалам і накінулі на куфэрак. Сеўка ўзяўся за века, Мішка падрыхтаваўся лавіць зайца, калі той усё-ткі вырвецца, дзяўчынкі прыціхлі. Усе чакалі сігнала Антона.

А на таго раптам найшло. Ён быццам зноўку пабачыў сон, які не даваў яму спакою ў зачараванай школе...

...Антон з мацёрым воўкам каля нагі стаяў на вяршыні пагорка і глядзеў на прыгожы белы слуп. Слуп відавочна быў толькі што пастаўлены, а па другі бок ад яго...

Чамусьці Антоха не мог разгледзець таго, другога. У вочы ўвесь час лезлі фігуркі, выразаныя на слупе. Гэта былі карыкатурныя чалавечкі, якія палявалі, ваявалі, сеялі і збіралі ўраджай. Слуп быў вельмі светлы. Надзвычай светлы. Антоха адчуваў, што гэта няправільна, што ён — і яго воўк — павінны выправіць гэтую недарэчнасць і выпацкаць слуп...

— Гэй! — падаў голас незадаволены Сеўка. — Ты там заснуў? Камандуй!

Антоха ўздрыгнуў і пачухаў лоб.

— Давай, — сказаў ён, і Сеўка адчыніў века.

Машка тут жа ўткнулася ў Лёлю, каб не бачыць, як хлапчукі будуць раздзіраць на шматкі бедных звяркоў. Але баялася яна дарэмна. Усё аказалася нават вельмі не страшна.

Калі ў сетцы зацялёпкаўся заяц, Мішка схапіў яго за вушы і добранька страсянуў. Відаць, ён проста хацеў супакоіць звярка, але здарылася нечаканае — з зайца выпала качка, а акуратная заечая шкурка засталася ў руках у Мішкі. Качка залопала крыламі, жадаючы зразумець, дзе яна і што ж гэта за сетка перашкаджае ёй узляцець, але Антон не даў ёй апамятацца. Ён паўтарыў Мішкаў фокус — як след страсянуў птушку. І як чакалася, з яе выпала вялікае белае яйка, а сама качка ператварылася ў парожнюю абалонку.

Лёля перавяла дух і пагладзіла Машу:

— Ну ўсё, усё... І нічога страшнага.

Маша недаверліва расплюшчыла адно вока. Сапраўды, ніякай крыві і вантробаў, якія яна баялася пабачыць, не было. Толькі дзве шкуркі ды качынае яйка. Мішка стаў і, прыцэліўшыся, трэснуў па яйку нагой.

Яно лопнула, быццам паветраны шарык. Сярод шалупайкавых аскепкаў срэбрам паблісквала доўгая іголка.

— Усё так проста? — здзівілася Маша.

Ёй ніхто не адказаў. Сапраўды, знішчэнне Кашчэя адбывалася неяк ужо надта ж будзённа. Антон, памарудзіўшы хвілінку, падняў з зямлі іголку і ўзяўся за яе дзвюма рукамі.

І не змог зламаць.

Не таму, што не хапіла сіл — Антоха не мог прымусіць сябе сагнуць такую прыгожую ззяючую штуковіну. А думка пра тое, што ў выніку загіне прыгожая ззяючая жанчына, увогуле аказалася для яго невыноснай.

Няхай гэтая жанчына дрэнная, няхай яна нават Кашчэй — усё роўна! Ды і хто сказаў, што яна дрэнная?..

— Хто сказаў, што Паляндра дрэнная?! — услых паўтарыў Антоха. — Казкі? А хто склаў гэтыя казкі?!

Ён хацеў сказаць яшчэ шмат пра што: пра Перуна, з якім таксама не ўсё зразумела; пра тое, што яны нават не паспрабавалі разабрацца, вінавата Паланянка ці не; пра тое, што гісторыю — і казкі! — пішуць пераможцы...

Але ён не паспеў.

— Палундра! — на ўвесь голас закрычаў кот. — Паляндра!

І палез хавацца на дрэва.

Былая Паланянка з'явілася быццам ніадкуль і з разбегу кінулася на магічнае кола.

І яно як быццам падалося на перад! Ва ўсялякім выпадку, Паляндры ўдалося трошачкі перасекчы мяжу, перш чым яе адкінула назад.

— Ах-ха-ха-ха! — зарагатала яна. — Хіба ж гэта магічнае кола?!

Паляндра зноўку кінулася на нябачную сцяну. І зноўку трошкі-трошкі прасунулася наперад. І яшчэ раз. Гэта было жудасна і прыгожа. Можна сказаць, што гэта было жудасна прыгожа: высокая жанчына ў чорным адзенні, якое развявалася ва ўсе бакі, нападае і адскоквае, нападае і адскоквае...

— Антон! — нарэшце ачулася Лёля. — Ламай!

Антоха павольна пакруціў галавой. Паляндра зноўку кінулася на магічнае кола і цяпер прасунулася амаль на крок.

— Ты слова даваў! — з усяе сілы закрычала Лёля і выхапіла з кішэні вяровачку з вузельчыкам. — Ламай!

І Антон зламаў...

Штосьці бахнула, іголка ўспыхнула пунсовымі іскрамі, аднекуль выпаўзла воблака туману...

Праз некалькі хвілін, калі туман рассеяўся, рассеялася і цемра. Стала добра бачна чацвярых гімназістаў, якія сціснуліся ў цэнтры кола. Антоху, які стаяў, апусціўшы рукі, Лёлю з зіхоткімі ад слёз вачамі. Недалёка ад іх, прыхінуўшыся да дуба, стаяла Паляндра. Яна спакойна паліла тонкую цыгарэту, элегантна выпускаючы струменьчыкі дыму ў цёмнае падабенства неба.

— Вы жывая? — у вялікім здзіўленні запытаўся Антон.

— Як бачыш, — спакойна адказала Паляндра.

— Вы цяпер не Кашчэй? — з надзеяй запытаўся хлапчук.

Паляндра чмыхнула і тут жа закашлялася ад цыгарэтнага дыму.

— Бедныя наіўныя дзетачкі, — сказала Паланянка і хіхікнула. — Але ж які ход, а! Я сабою ганаруся. Шчыра кажучы, я ўжо і надзею страціла, што спрацуе...

— Што спрацуе? — слабым голасам запытала Лёля.

— Геніяльны піяр. Мой. І вось жа што цікава — усё гэта праўда.

— Што праўда? — запытала Маша.

— Ды ўсё! — прамовіла Паляндра голасам, у якім чуўся трыумф. — Куфэрак. Заяц. Качка. Яйка. Іголка. Нават смерць. Каб жа вы толькі ведалі, як я весялілася, калі ўсё гэта прыдумляла...

Паляндра коратка рагатнула.

— Але яно таго каштавала, пагадзіцеся. Дзеткі ж любяць, каб цікавенька...

— Дык гэта была ваша смерць? — запытаўся Антон.

— Ага!

Паляндра скончыла паліць, шпурнула акурак і, адкінуўшы валасы, уперла рукі ў бокі. Зараз на выгляд ёй не было і дваццаці гадоў — вельмі маладая жанчына з жывымі вясёлымі вачамі.

— Ну, больш кемлівасці, думай, Антон, ты ўжо на падыходзе. Давай жа, кумекай, разам пасмяемся, ты ацэніш.

— Гэта была ваша смерць, — ціха сказаў Антон, — і я яе зламаў... Значыцца цяпер... Цяпер вы...

Лёля ціха ахнула і захінула твар рукамі.

— Ага!.. — Паляндра грымнула так, штоззвінелі вокны і Васька з глухім стукам зваліўся з дуба. — Так-так!.. Цяпер я бессмяротная!

— Але навошта ж вы тады нас праследавалі? — запытала Лёля.

— А што мне было рабіць? — паціснула плячамі Паляндра. — Падысці да вас і папрасіць зламаць іголку? Наўрад ці б вы мяне паслухаліся. А так, глядзіце, як хуценька ўсё атрымалася.

Паляндра спакойна зайшла ў цэнтр кола, падняла кавалачак іголкі і паклала сабе ў кішэню.

— Вазьму на памяць, — сказала яна Антону.

— А я-я-як вы ў кола зайшлі? — запытаў Антон.

Паляндра ізноў чмыхнула.

— Не верце танным трукам, — сказала яна. — Але, пагадзіцеся, выглядала прыгожа. Чорныя валасы развяваюцца. Трэба было яшчэ музычку падабраць, што-небудзь вельмі трагічнае.

— Дык што, кола не абарона? — спытала Лёля.

— Ну, вядома ж! — сказала Паляндра. — Гэта ж проста кола, дурнічка. Ці мала што вашаму Гогалю набалбаталі сяляне... Добра, даражэнькія, як кажуць, дзякуй за ўсё. Вельмі выручылі. Я нават ужо не ведаю, як і дзякаваць.

Паляндра памахала рукою і пайшла да школы. На ганку азірнулася:

— Воўк, ты заходзь, калі што. Пабалакаем. Нам з табою ёсць пра што пабалакаць.

Антоха стаяў і ўсміхаўся на ўвесь рот. Ён быў надзвычай шчаслівы, што нікога не забіў, што Паляндра аказалася такой мілай і прыгожай і што хутка ён абавязкова пойдзе да яе ў госці, і яна яму раскажа... Ён дакладна ведаў, што яна яму раскажа нешта незвычайна важнае.

Ён не бачыў, як выбралася з кола Лёля і пайшла ў школу, ціха ўздрыгваючы плячамі.

Глава 15

## ЧОРНЫЯ, БЕЛЫЯ І ШЭРЫЯ

Упершыню пасля «закукольвання» школы яны начавалі не разам. Антон, Мішка, Сеўка і Маша леглі спаць на прывычным месцы — у спартыўнай зале. Дзе вырашылі правесці ноч Лёля і Любка, ніхто не ведаў. Спачатку ўсе былі вельмі ашаломлены няўдачай са смерцю Кашчэя, потым Сеўка нясмела прапанаваў пашукаць дзяўчынак, але Антоха забараніў.

— Яны ведаюць, дзе мы, — сказаў ён, бадай што, вельмі рэзка, — вось няхай і ідуць да нас.

Яны ляжалі на матах ціха, але ніхто не спаў.

— Чуеш, — не вытрымаў Мішка, — а можа, з імі штосьці здарылася?

— Не здарылася! — адрэзаў Антон.

— Адкуль ты ведаеш? — ціха запыталася Машка.

Антоха не адказаў. Як было растлумачыць, што ён чуў — Лёлі цяпер не салодка, але нічога ёй не пагражае. Як было ўвогуле растлумачыць, што ён можа чуць?

— А спрытна яна нас! — раптам прамовіў Сеўка. — Яна і праўда разумная!

— Але ж дрэнная?! — ці то запыталася, ці то запярэчыла Маша.

Мішка заварочаўся на сваім маце, і Антоху здалося, што гэты цяльпук збіраецца паспрачацца.

— Нічога не дрэнная! — сказаў ён. — Ды зрэшты... адкуль мы ведаем, што яна дрэнная?

— Калі ўдумацца... у-а-а-ау... — пазяхнуў Сеўка, — толькі з казак.

— Ну, — усміхнуўся Антон, — чаго ўсе гэтыя казкі варты, мы сёння пераканаліся. Думалі, што заб'ём Кашчэя, а выйшла ўсё роўна наадварот. Можа, з ім... з ёю ўвогуле ўсё наадварот?

Пытанне павісла ў вязкай цішыні. Даволі доўга ніхто не адважваўся на яго адказаць.

— Хочаш сказаць, яна добрая? — удакладніла Маша. — А Пярун дрэнны?

— Можа, і добрая... — Антоху пачалі раздражняць усе гэтыя размовы. — А можа, і не вельмі... Але не дрэнная! Яна... нармальная! Проста яны пасварыліся з Перуном. Адсюль і ўсе казкі ўзяліся.

З цемры не пачулася ні гуку, і Антон сцяміў, што яго не зразумелі.

— Ну вось я — добры? — запытаўся ён у невядома каго.

— Добры, — адказала Маша.

— А Лёля?

— І Лёля, — пагадзіўся Сеўка.

— Але мы пасварыліся. Хоць абое добрыя... нармальныя. Можа, у Перуна з Паляндраю тое ж самае здарылася? Толькі яны пасварыліся вельмі моцна. Ушчэнт. Пярун Паляндру пасадзіў на ланцуг і ўсім загадаў расказваць, што яна дрэнная...

Яму зноў ніхто не адказаў, і Антоха вырашыў больш не кідацца ў развагі перад цёмнаю спартыўнаю залаю.

— Добра, — сказаў ён. — Давайце спаць.

— Даўно ўжо трэба было... — прамармытаў Мішка.

* * *

Антоха амаль не здзівіўся, што сон чакае яго ў тым жа самым месцы, дзе падпільнаваў днём.

Ён зноўку стаяў насупраць разнога слупа. Побач — адданы воўк. Па другі бок слупа — хтосьці нябачны.

Але дадаліся і новыя персанажы. Яны акружалі слуп рэдзенькім паўколам: вялікі калматы мядзведзь, ціхая жанчына з ласкавым тварам і двое ў шэрых плашчах, мужчына і жанчына. Гэтыя двое нячутна перамаўляліся між сабою, паказваючы то на Антоху з воўкам, то на таго, хто стаяў па другі бок слупа. Антон спахмурнеў — яму не спадабалася, што гэтая парачка паводзіць сябе надта ж вольна, абмяркоўвае нешта ў яго прысутнасці, ды яшчэ і не ўголас. Ён хацеў прыкрыкнуць на іх, але раптам зразумеў, што жанчына — гэта Маша, а мужчына — Сеўка. І плашчы ў іх не шэрыя, а няпэўнага колеру. Магчыма, яны былі калісьці чорнымі, а потым выліналі. А можа, наадварот, белымі, але зрабіліся шэрымі ад дарожнага пылу.

Антоха раззлаваўся яшчэ больш. Навошта прыбірацца немаведама ў што, ды яшчэ і прыкідвацца нейкімі дарослымі вандроўнікамі? Ён адкрыў рот, каб гукнуць Машу і Сеўку, але пачуў замест слоў воўчае завыванне. Антон злосна зірнуў на свайго воўка — навошта выеш пад руку? Але воўк гэтак жа сама запытальна глядзеў на яго.

Антоха зразумеў, што вые нехта іншы.

Нехта не са сну.

Ён міргнуў і скеміў, што ўжо некалькі хвілін не спіць, спрабуючы разабрацца, што гэта за выццё.

Вылі ў калідоры. Там, дзе ў цемры хаваліся Люба і Лёля. Антон, відаць, усё-ткі не зусім прачнуўся, таму што кінуўся на гук, нават не пабудзіўшы нікога. У гэтым напаўпрытомным стане Антоха ляцеў, дакладна ўгадваючы, куды паварочваць, хоць адкуль ён гэта ведаў — і сам бы не сказаў.

Так і не прачнуўшыся, ён выскачыў на трэці паверх і закрычаў:

— Адставіць!

І толькі тут ён канчаткова апамятаўся.

Амаль увесь паверх запаўнялі ваўкі. Вялізныя, шэрыя, ад якіх патыхала вільгаццю і свежым мясам, яны стаялі ў некалькі радоў, скіраваўшы морды на нешта ў кутку, каля вакна. Гэта былі не вялікія сабакі, а менавіта ваўкі, іхнія хвасты не рухаліся, а звісалі ўніз вялізнымі калматымі кроплямі. Пачуўшы загад Антохі, ваўкі пачалі разварочвацца да яго, утвараючы штосьці накшталт калідора. У канцы калідора знаходзіліся Люба і Лёля. Нават у цемры можна было пабачыць, што абедзве дзяўчынкі белыя, як снег.

Антон перапалохаўся і ад гэтага раззлаваўся.

— А ну пайшлі вон! — літаральна зароў ён голасам, ад якога самому стала няўтульна.

З глыбіні зграі высунуўся здаравенны пярэсты воўк. Ён падышоў да Антона на адлегласць выцягнутай рукі і, з цяжкасцю варочаючы сківіцамі, прашамкаў:

— Нам іх абяцалі, Волкаў...

Словы даваліся яму з цяжкасцю, атрымлівалася нешта накшталт «Кхнам іх абутцалі, Волкхаў...», але Антон цудоўна ўсё разабраў.

— Пайшлі вон, я сказаў! — ён зноўку ўключыў той жудасны тэмбр, які ішоў аднекуль ад страўніка.

Ваўкам гэта не спадабалася. Яны нахілілі галовы і паказалі іклы. Трошачкі-трошачкі, але калі на цябе «трошачкі-трошачкі» ашчэрваецца цэлая зграя, гэта робіць адпаведнае ўражанне.

Антон вельмі баяўся за дзяўчынак, каб яшчэ баяцца і за сябе. Ён таксама ашчэрыўся. І раптам адчуў, што трошкі ззаду, за правым каленам як быццам з'явіўся яго воўк са сну. І зграя гэта адчула. Ваўкі неахвотна схавалі іклы — усё роўна як мячы ў ножны — і пайшлі на Антоху. Ён стаяў не рухаючыся, дакладна ведаючы, што ніхто на яго не кінецца, нават са спіны. Ва ўсялякім разе, пакуль за правым каленам стаіць яго нябачны напарнік.

Апошнім ішоў пярэсты воўк. Ён на развітанне зноў паказаў зубы — ці то агрызнуўся, ці то ўсміхнуўся — і пракашляў:

— Бывай, Волкхаў...

Зграя з мяккім тупатам спусцілася на паверх ніжэй і раптам быццам перастала існаваць. Антон, як ні напружваўся, не мог болей улавіць ніводнага гуку, ніводнага кроку. Толькі спінаю адчуваў запытальны позірк — гэта яго воўк пытаўся, ці патрэбен ён яшчэ.

— Ідзі, — сказаў Антон, — дзякуй.

Воўк знік. Толькі пасля гэтага Антоха дазволіў сабе падысці да дзяўчынак.

— Яны нічога б нам не зрабілі, — сказала Люба драўляным голасам. — Яны проста хацелі нас напалохаць.

Лёля нічога не адказала — яе зубы адбівалі чачотку.

* * *

Калі Сталавік пабачыў Лёлю, адразу кінуўся гатаваць нейкія зёлкі. Люба, у якой ужо з'явіўся амаль нармальны колер твару, напрасілася ў памочніцы да Сталавіка, і той нават не стаў адмаўляцца.

Антон застаўся сам-насам з Лёляю. Яму вельмі схацелася моцна абняць яе і не адпускаць, пакуль не супакоіцца. Але ён уявіў, як гэта будзе выглядаць збоку, і стрымаўся.

Абмежаваўся тым, што прынёс з кухні шклянку цёплага кампоту. Лёля сутаргава выпіла яго і стала паціху выходзіць са стрэсу.

— Дзякуй, — прамовіла яна. — Але Люба мае рацыю. Калі б яны хацелі нам штосьці зрабіць, дык даўно б...

Лёля замоўкла, як быццам паветра ў ёй скончылася. Антон збегаў яшчэ за кампотам.

— Ты зусім іх не баяўся, — сказала Лёля, адужаўшы другую шклянку.

У яе голасе зусім не было захаплення, толькі падазронасць. Антоха заглушыў раздражнёнасць, што закіпала ў ім, і няпэўна паціснуў плячамі.

І тут Лёля раптам усміхнулася:

— А яшчэ дзякуй, што ты сам стрымаў слова.

— А што, — здзівіўся Антоха, — маё слова мог стрымаць нехта іншы?

Лёля пакруціла галавой і дастала з кішэні ўжо знаёмы матузок з вузельчыкам.

— Гэты вузельчык чароўны? — удакладніў Антон.

— Накшталт таго, — адказала Лёля. — Калі б я яго разарвала, табе давялося б выканаць абяцанне без твайго ведама. Але ты малайчына, сам здолеў.

І Лёля хутка, як быццам нават і нягледзячы на матузок, развязала вузельчык.

— Усё? — з'едліва запытаў Антон. — Цяпер я табе нічога не вінен?

— Не вінен, — сказала Лёля і дадала: — А ўвогуле, я дурніца. Ты меў рацыю.

Трэба было спачатку разабрацца, а потым ламаць. З-за мяне Кашчэй цяпер сапраўды бессмяротны...

Тут з кухні з'явіўся Сталавік, які цягнуў вялікую каструлю. За ім урачыста рухалася Люба, якая несла ў руках шклянку і апалонік. Пах ад каструлі ішоў такі густы, што міжволі бадзёрыў. Веяла пахам нейкіх траў, з якіх Антон пазнаў толькі мяту і валяр'ян, а яшчэ, здаецца, там быў ліпавы цвет.

— Зараз, дзетка, — галасіў Сталавік, ставячы каструлю на стол. — Зараз мы цябе адпоім. Бач ты, панадзіліся па калідорах усялякія бадзяцца! Ну нічога, нічога...

З самай «раніцы» Лёля выправілася на дах, каб як след паразмаўляць з Перуном. Антона яна ўзяць адмовілася. А больш дакладна, сказала: «Канечне ж, ідзі, калі ты лічыш гэта неабходным...», але такім тонам, што нават самы апошні тупіца зразумеў бы — ісці не варта.

Лёля ўзяла з сабою Любу і Мішку. Антоха, які знемагаў ад чакання, нават расказаў Сеўку з Машай пра свой сон і пра тое, якія яны ў сне былі дзіўныя. Маша адмахнулася — падумаеш, у сне ўсялякае пабачыць можна, а Сеўка раптам зацікавіўся.

— Шэрыя, кажаш? — ён задумліва паскроб нос.

— Адзенне шэрае, — удакладніў Антон. — Ад пылу.

— Штосьці такое нам нехта ўжо казаў...

Сеўка раптам радасна ўсміхнуўся і нават пстрыкнуў пальцамі:

— Кот!

І ён горда паглядзеў на сяброў — вось, маўляў, які я разумны. Маша і Антон не падзялілі яго радасці.

— Маеш на ўвазе Ваську? — запытаў Антоха. — А ён тут пры чым?

— Не ведаю, — паціснуў плячамі Сеўка, — але ён гэта казаў. Пра каманду чорна-белых. І шэрых. І яшчэ кагосьці... ці то вечнага, ці то мудрага...

Маша сядзела, заглыбіўшыся ў таўшчэзную кніжку, але тут хмыкнула:

— Вы што, сур'ёзна абмяркоўваеце бязглуздзіцу, якую нясе гэтая жывёліна? Хто-небудзь яго карміў, дарэчы?

Хлапчукі пераглянуліся.

— Ды мы самі паесці як след не паспяваем, — пачаў апраўдвацца Антон.

— Добра, я да яго схаджу, — уздыхнула Маша.

— Я з табою, — падскочыў Сеўка. — Заадно і запытаюся ў яго пра чорна-бела-шэрае.

Антон застаўся ў зале адзін. Хвілінку падумаў, усміхнуўся... І, стараючыся не бегчы ад нецярплівасці, пайшоў у падвал.

* * *

Паляндра сядзела на прыступках і зноўку паліла, задумліва гледзячы ў далячынь, як быццам нешта бачыла за сцяной змроку. Яе валасы былі заплецены ў касу, чорную сукенку яна змяніла на чорныя джынсы з бясформеннай кашуляй, і са спіны выглядала зусім, як дзяўчынка.

— Прывітанне, даражэнькі, — ласкава сказала яна, не азіраючыся.

— Добры дзень... — ціха сказаў Антон, спыняючыся ў некалькіх кроках.

— Давай на ты, — прапанавала Паляндра, — не патрэбны нам з табою ўсе гэтыя этыкеты. Толькі перашкаджаюць.

— Давайце... Іначай кажучы, давай.

— Ты ж проста пабалакаць прыйшоў?

— Ну штосьці накшталт таго...

— Прысаджвайся, — Паляндра махнула рукой на прыступку побач з сабою. — Будзь як дома.

Антон сеў побач і закашляўся. Ад даўкага паху парфумы і тытуню ў яго зашчыпалі вочы.

— Вой, даруй, не падумала... — Паляндра выкінула цыгарэту і нарэшце павярнулася да яго. — Рэзкія пахі не для цябе.

— Чаму? — запытаўся Антон.

— Воўчы нюх.

— А адкуль вы ведаеце? — здзівіўся Антон.

— «Ты ведаеш», — паправіла яго Паляндра. — Я пра цябе шмат чаго ведаю. Мы з табою адной крыві. Ну амаль адной.

— А Лёля іншай? — запытаўся Антон і пачырванеў.

Ён і сам не зразумеў чаму, і галоўнае навошта запытаўся менавіта пра Лёлю.

— Лёля іншай, — задумліва сказала Паляндра і рэзка дадала: — Ты прыйшоў сюды пра яе паразмаўляць?

— Не! — спалохаўся Антон. — Я прыйшоў... Я да цябе прыйшоў.

— Добра, — усміхнулася Паляндра, — тады паразмаўляем пра мяне. Якія думкі я ў цябе выклікаю?

Тут Антон зусім збянтэжыўся.

— Не ведаю... Вы... ты дзіўная... Столькі гадоў у кайданах, а размаўляеш... і выгляд у цябе...

Ён збіўся, не ў стане падабраць слова. Відаць, мешаніна пахаў парфумы і тытуню закруціла яму галаву.

— ...вельмі сучасны? — падказала Паляндра. — Жанчына ў маім узросце павінна сачыць за модаю. Калі запытаешся пра ўзрост — адкушу вуха.

Апошняя фраза прагучала нібыта жарт, але ў той жа час...

Антон не рызыкнуў пытацца пра ўзрост, хоць хвіліну назад якраз гэтае пытанне круцілася ў яго на языку.

— Я падслухоўвала, — усміхнуўшыся, патлумачыла жанчына. — Слых у мяне выдатны, а заняцца апошнюю тысячу гадоў асабліва не было чым... Але хіба гэта дрэнна?

— Не, ты ўвогуле добрая, — сказаў Антоха. — Я думаю, што ты значна лепшая, чым пра цябе ўсе думаюць.

— Ну ты сказаў... — засмяялася Паляндра. — Далёка не ўсе пра мяне думаюць. Але ты не памыляешся, калі ўжо і думаюць, дык не надта добра... Дарэчы, я ж табе павінна. За зламаную іголку прасі што хочаш!

— Тры жаданні? — ухмыльнуўся Антон.

— Я што, нагадваю залатую рыбку? — прытворна здзівілася Паляндра. — Аднаго хопіць, я ж усё-ткі Кашчэй.

І Паляндра так скрывілася, што Антон пакаціўся са смеху.

— Памрэш, калі будзеш так смяяцца! — завыла Паляндра, і Антон разрагатаўся яшчэ мацней.

— Вось так заўжды, — роблена зажурылася Паляндра. — Несур'ёзныя вы, людзі... толькі збяруся каго-небудзь з'есці, а ён смяецца... Ну, дык чаго табе трэба, старэча?

— Нічога мне не трэба, — сказаў Антоха.

— Што ж гэта так? — здзівілася Паляндра.

Ён пацiснуў плячамі.

— Нічога талковага прыдумаць не магу, а бесталковага прасіць не хочацца.

— Тыпу мудры? — усміхнулася Паляндра.

— Тыпу фантазіі мала, — парыраваў Антон.

— Добра, вось табе за сумленнасць, — Паляндра ўклала ў Антонаву руку бірульку з рунаю, — а то, відаць, крыўдна, у некаторых жа ёсць, а ў цябе няма.

— Не крыўдна, — схлусіў Антон, але на ўсялякі выпадак мацней сціснуў руну ў кулаку.

— Добра, ідзі, Волкаў, цяпер мы з табою ў разліку. Але калі проста пабалбатаць, дык заўжды калі ласка, я да тваіх паслуг.

— Да пабачэння, — сказаў Антон і падняўся.

— Пакуль! — кіўнула Паляндра. — Хочаш мудрую думку напаследак?

Антоха нічога не сказаў, і Паляндра ўспрыняла гэта як згоду.

— Чорны можна знішчыць, толькі знішчыўшы ўсё, — прамовіла Паляндра.

— Што? — запытаўся Антон.

— Ты калі-небудзь спрабаваў узяць фарбы і змяшаць усе колеры?

— Не, — здзівіўся Антоха.

— Тады ў Севы запытайся. Ён напэўна спрабаваў.

Паляндра задумліва запаліла, гледзячы кудысьці ў сцяну, Антон яшчэ хвіліну пастаяў і ціха пайшоў.

Сеўка і Маша сядзелі на карэнні дуба і безнадзейна назіралі за Васькаю.

Кот еў.

Няспешна, грунтоўна, культурна і засяроджана.

Было зразумела, што пакуль талерка не стане парожняй, размаўляць з ім дарэмна. Ды і потым, хутчэй за ўсё, гэта будзе марная справа, таму што кот заваліцца спаць. Магчыма, да канца дня.

Сеўка цішком паказаў Машы кулак. Менавіта Маша настаяла на тым, што коціку трэба прынесці як мага больш ежы, тады ён дакладна разгаворыцца. Маша ў адказ паказала язык. Яна не збіралася аддаваць Ваську ўсё, але Сеўка выбалбатаў. І вось цяпер абаім трэба было сядзець і чакаць, калі коцік спачатку паесць, пасля адпачне, а ўжо затым зробіць ласку і паразмаўляе з імі.

Але аказалася, што субяседнік у іх усё-такі ёсць. Васька яшчэ шчыраваў над рыбіным хвастом, калі з кроны дуба пачуўся незадаволены клёкат:

— А параскідаў жа, параскідаў! А прыбіраць хто будзе, Пушкін?

Кот толькі незадаволена павёў вушамі, затое Маша з Сеўкам узрадаваліся. З галіны на іх строга глядзела паўптушка-паўтэхнічка.

— Ды мы прыбяром, паважаная Русалка! — Маша нават падскочыла, гатовая зараз жа заняцца прыбіраннем ежы.

Кот пачаў жаваць хутчэй.

— Добра, — змілавалася райская птушка, — потым гэтага гультая прымушу прыбраць. А вы меней бы яго кармілі... Ён хутка качацца па зямлі будзе, а не хадзіць — з-за жывата лапы да зямлі не дацягнуцца.

Гэтую інсінуацыю Васька з годнасцю праігнараваў.

— Паважаная Русалка! — па ўрачыстаму тону Сеўкі было зразумела, што ён нешта задумаў. — Вы ж такая старадаўняя...

Паўжанчына натапырылася.

— ...а такая з выгляду маладзенькая! — хутка выправіла становішча Маша.

Русалка недаверліва паглядзела на дзяўчынку.

— Так-так! — пацвердзіў Сеўка. — Па выгляду — проста куранятка... У сэнсе... вельмі молада выглядаеце!

Русалка выпрастала крылы, але пазірала па-ранейшаму строга.

— І пры гэтым разумная! — Сеўка зразумеў, што з лісліваcцю перабраць меру нельга, і цяпер гнуў лінію да канца. — Як гэта ў вас атрымліваецца: і прыгажосць, і розум?

Тут паўптушка ўжо зусім было заўсміхалася, але Васька, не перастаючы жаваць, працадзіў: «Мазгі курыныя...» — чым сапсаваў усё ўражанне ад Сеўкінай лісліваcці.

— Ды ўжо разумнейшая, чым некаторыя! — ваяўніча заявіла Русалка. — Некаторыя толькі і ўмеюць, што есці, піць і не прыбіраць за сабою!

Паколькі кот працягваў ігнараваць паўптушку, тая звярнулася да Сеўкі і Машы:

— А я ўсё ведаю і ўсё помню! Не тое што... усялякія!

Маша з разуменнем заківала.

— Вось я і хацеў даведацца, — сардэчна прамовіў Сеўка, — а мы шэрыя?

Пытанне заспела Русалку неспадзеўкі.

— Чаго гэта вы шэрыя? — яна разгублена агледзела Сеўку з Машаю. — Па-мойму, вы... рознакаляровыя.

Васька нарэшце закончыў трапезу і сеў умывацца, не забыўшыся кінуць чарговую фразу:

— Ды шэрыя яны, шэрыя... Не толькі мазгі, але і слепата таксама курыная!

Райская птушка ад раз’юшанасці растапырылася так, што стала нагадваць невялікага, але вельмі лютага арла. Маша спалохалася, што Русалка кінецца на ката (і яшчэ невядома, чым бы скончылася гэтая бітва), таму ўстала паміж ёю і Васькам.

— Ён, напэўна, — сказала Маша, — у пераносным сэнсе.

— Ды без сэнсу ён! — узмахнула крыламі Русалка. — У яго ў галаве замест сэнсу — адна смятана!

— У смятане, між іншым, — парыраваў Васька, не перапыняючы ўмывання, — процьма сэнсу!

— А ў тваіх словах — нуль! І нават меней!

Кот пацягнуўся і пазяхнуў.

— Ну добра! — у запале Русалка пераляцела на галіну ніжэй. — Тады растлумач маім курыным мазгам, чаму гэтыя дзеці шэрыя, калі яны вунь якія каляровыя.

Васька прыкінуў адлегласць да галіны і міласціва патлумачыў:

— Шэрыя яны, таму што ні чорныя і ні белыя! Карацей, бясхвостыя, слухайце сюды...

* * *

Лёля стаяла перад Перуном і адчувала сябе жахліва. Ён сядзеў у дырэктарскім крэсле, перад ім стаяў вялікі стол, завалены ўсялякімі далікатэсамі, у руцэ ён трымаў залаты кубак і час ад часу адпіваў з яго, смакуючы і прыцмокваючы.

— Чаго ж вы так схібілі? — бурчаў Пярун. — Добра твае сябры няўклюды, але ты! Ты ж разумная дзяўчынка! Ты павінна была іх неяк пракантраляваць!

Лёля апусціла вочы і прамармытала ў падлогу:

— Яны не няўклюды...

— Ну добра-добра, я разумею, ты іх цяпер будзеш абараняць... Але ты ж разумееш, — Пярун панізіў голас да інтымнага шэпту, — што ты лепей за іх, ты асаблівая. Мы ж з табою гэта ведаем. Так што, — Пярун прамовіў ужо нармальна, — ты павінна кантраляваць і ты не павінна была дапусціць...

З Лёліных вачэй закапала.

— Добра, добра, — памякчэў Пярун, — не плач. На першы раз дарую. Ты, дарэчы, праходзь, прысаджвайся. Чаго ты стаіш? Частуйся!

Ён царскім жэстам абвёў стол.

— Тут вось дзічына, садавіна, у збанку боскі нектар. Нічога такі... — Пярун сербануў з кубка. — Мог бы быць і яшчэ больш боскім, канечне, але ў цэлым нядрэнна.

Лёля акуратна адшчыкнула ад гронкі вінаградзінку і паклала яе ў рот. Есці чамусьці зусім не хацелася.

— Ты зразумей, — душэўна прамовіў Пярун, — мы з табою павінны трымацца разам. Таму што калі свет запалоніць чорная нечысць, дык усім добрым людзям...

Пярун паказаў рукамі, як скруцяць шыі добрым людзям.

— А хто добрыя? — запыталася Лёля.

— Мы, — проста адказаў Пярун.

— А Антон? — зноў запытала Лёля.

Ёй вельмі хацелася запытацца як бы мімаходзь, але голас па-здрадніцку задрыжаў.

— Ты што, прыйшла сюды пра гэтага няўдачніка весці гаворкі? — нечакана закрычаў Пярун.

— Н-не, — спалохалася Лёля.

— Правільна, — ён вярнуўся да ранейшай гучнасці. — Будзеш вадзіцца з чорнымі, потым ніколі не адмыешся, зразумела?

Пярун залпам дапіў нектар з кубка.

— Н-не, — сказала Лёля.

— Добра, прыйдзе час, зразумееш. А пакуль — вольная.

І вярхоўны бог махнуў рукою ў бок выхаду.

Лёля паслухмяна паднялася. Яна раптам зразумела, што «Гаспадар» на добрым падпітку.

— Так... — задумаўся Пярун, — нешта ж я табе збіраўся сказаць... Ах вось што! — Пярун устаў, прыняў урачыстую позу — адна рука за спінаю, другая ўзнята ў неба — і абвясціў: — Толькі з чыстага белага святла можна атрымаць усе фарбы свету!

Тут Пярун заўважыў сваё адлюстраванне ў гладкай паверхні даху, павярнуўся да яго бокам, уцягнуў жывот, выставіў уперад левую нагу, потым правую...

Лёля ціха пайшла, стараючыся не прыцягваць да сябе ўвагі.

## Глава 16

## ТО ШАХМАТЫ, ТО КАРТЫ

Падчас ежы ўсе былі панурыя і засяроджаныя. Лёля і Антон, якія, не змаўляючыся, селі за супрацьлеглыя краі стала, упарта глядзелі ў талеркі. Маша і Сеўка, наадварот, пасля размовы з Васькам пачалі трымацца адно аднаго, але і яны болей маўчалі. Люба пераводзіла спачувальны позірк з аднаго на другога і ціхенька ўздыхала. Адзін Мішка спачатку спрабаваў усіх тармасіць і распытваць: «Ну як там?» — але, паколькі ўсюды атрымліваў адказ «Нармальна», дык хутка і ён паддаўся поўнай маркоце.

Толькі пад канец трапезы, за гарбатаю, Лёля раптам запыталася ў Сеўкі:

— А ці праўда, што з белага святла можна атрымаць любую фарбу?

— Ага, — няўважліва адказаў Сеўка.

— А я чуў, — злосна сказаў Антон, — што, наадварот, з чорнага!

— Гэта ад мадэлі залежыць, — Сеўка па-ранейшаму думаў пра штосьці сваё. — У субтрактыўнай — так... у адытыўнай — гэтак...

Мішка, які ўзрадаваўся зараз нават такой дзіўнай тэме размовы, пачаў тармасіць Сеўку:

— Ды растлумач ты па-чалавечы! Чорнае — гэта адно! А белае — зусім іншае! Дык з чаго можна ўсе фарбы атрымаць — з чорнага ці з белага?

Сеўка зразумеў, што дадумаць да канца яму не дадуць, паварушыў носам, адрываючыся ад сваіх думак, і пастараўся растлумачыць па-чалавечы.

— Разумееце, колер можна па-рознаму апісваць. Напрыклад, на экране тэлевізара ці на маніторы адценні складваюцца. Калі скласці ўсе колеры максімальнай яркасці, атрымаецца белы. Значыцца, атрымліваецца, што з белага можна атрымаць любое адценне...

Лёля не вытрымала і кінула пераможны позірк на Антоху. Але Сеўка яшчэ не закончыў:

— ...а калі, скажам, у друкарні карцінку друкуюць — там усё наадварот. Калі змешваюць усе фарбы, атрымліваецца чорны. Такім чынам чорны — сума ўсіх адценняў.

— А як правільна? — зацікавілася Маша.

— Што значыць «правільна»? — здзівіўся Сеўка. — Гэта ад сітуацыі залежыць. Я ж кажу: на маніторы — адно, на паперы — іншае.

Цяпер Лёля і Антоха глядзелі адно на аднаго вочы ў вочы. Люба трывожна ёрзала на крэсле, не разумеючы, куды кідацца, каго ратаваць. Мішка старанна круціў галавою, стараючыся ўлавіць, што такога цікавага ў спосабе апісання колеру. А Маша раптам запыталася:

— А калі чорны змяшаць з белым? Шэры атрымаецца?

Сеўка кіўнуў і ўжо збіраўся зноўку нырнуць у задумлівасць, як раптам усю школу страсянуў удар. Шклянкі на стале падскочылі , а ўслед за імі падскочылі і ўсе прысутныя.

Некалькі хвілін прайшло ў напружаным чаканні, а потым Маша запыталася:

— Гэта што, землят...

Другі ўдар аказаўся нават больш моцным, чым першы, некаторыя шклянкі не толькі падскочылі, але і разбіліся, распырскваючы духмяную гарбату.

— Гэта ў спартыўнай зале! — вызначыў накірунак Антоха.

Ён кінуўся да выхаду без каманды «За мною!», але астатнія ўсё роўна пабеглі следам. Па дарозе ў спартыўную залу ўдары чуліся яшчэ некалькі разоў, і інтэрвалы паміж імі рабіліся ўсё меншымі.

У залу сябры ўляцелі на поўным ходу — і ледзьве паспелі затармазіць.

Тое, што адбывалася, болей за ўсё нагадвала пачатак нейкай дзіўнай шахматнай партыі. Злева размяшчаліся чорныя фігуры, справа — белыя. Стаялі і тыя, і другія ў строгім, але цалкам абсурдным парадку, як быццам два звар'яцелыя шахматысты спачатку настругалі фантастычных фігур, а потым размясцілі іх па-сваім вар'яцкім разуменні. Жанчыны ўперамешку з мужчынамі, крылатыя — з паўзучымі, магутныя — з кволымі.

Аднак, у цэнтры баявога пастраення стаялі, як і належыць, кароль і ферзь. У ролі каралёў, зразумела, выступалі Пярун і Паляндра, а вось фігуры побач з імі выглядалі экзатычна. У белых «ферзем» выступаў грудасты аднарог, у чорных — доўгі, звіты кольцамі змей. Абодва магутныя звяры, нягледзячы на сваё непадабенства, усё-ткі да жудасці былі падобны адзін на аднаго сваімі мордамі. І ў аднарога, і ў змея вочы былі наліты крывёю.

Праз імгненне пасля з'яўлення ў зале Антона і яго каманды Пярун выдаў доўгае працяглае ці то завыванне, ці то крык. Яго воінства дружна падняло хто нагу, хто лапу.

— Ррррун! — рэзка абарваў свой кліч Пярун.

Белыя аглушальна тупнулі. Са столі пасыпалася тынкоўка. У Мішкі, які ад здзіўлення разявіў рот, ляскнулі зубы.

Чорная правадырка не доўга раздумвала над сіметрычным адказам. Яна завішчала на высокай ноце (чорныя паднялі ніжнія канечнасці) і гаркнула:

— Ррра!

Тупат чорных зрабіў тое ж уздзеянне, што і крок на месцы белых — з тою розніцай, што на гэты раз Мішка трымаў рот закрытым і абыйшлося без зубнога ляску.

— А чаму яны не атакуюць адно аднаго? — шэптам запыталася Маша.

— Сілы роўныя, — прашаптаў ёй у адказ Залавік з-за шведскай сценкі. — Тут трэба, каб супернік першым у атаку пайшоў...

Антон надта рэзка развярнуўся ўбок Залавіка. Абодва воінства адразу павярнулі галовы да няпрошаных гасцей (але адным вокам усё-ткі працягвалі сачыць за праціўнікам).

— Х-х-ха! — радасна залямантавалі чорныя.

— Ы-ы-ы! — пакрыўджана загулі белыя.

— Спакойна! — прагрукатаў голас Перуна. — Лёля, дзяўчынка мая! Пакажыся!

Павісла напружаная цішыня. Лёля, не разумеючы, навошта яна гэта робіць, выйшла з-за спіны Антона.

Цяпер радасны кліч пачуўся з белага боку, а чорныя адказалі расчараваным мыканнем. Антон і Лёля, адчуўшы на сабе дзясяткі позіркаў, павярнуліся адно да аднаго і цяпер стаялі, як быццам на дуэлі.

— Гэта ж дзяўчынка! — насмешліва крыкнула чорная правадырка. — Смялей, ты ж Воўк, Волкаў!

— Ён чорны! — гаркнуў Пярун. — Ён супраць белага святла!

Лёля глядзела на Антоху, і яе зараз светла-сінія , амаль празрыстыя вочы поўніліся чымсьці незразумелым, але пагрозлівым. Антон сціснуў кулакі...

...І раптам на рэальнасць налажыўся сон, які сніўся яму ўжо столькі дзён.

Ён зноўку стаяў каля толькі што выструганага слупа, але цяпер наўкол тоўпіліся сотні чорных ценяў і белых зданяў. Усе яны нешта крычалі, шыпелі, квакалі ці шамкалі. Але Антон глядзеў не на іх. Ён глядзеў на таго, хто стаяў па другі бок слупа.

Гэта была Лёля.

Воўк каля нагі глуха забурчаў. Яшчэ хвіліна — і ён скочыў бы. Але Антоха паспеў схапіць яго за поўсць, што ўзнялася на загрыўку.

— Я не буду на цябе нападаць! — сказаў ён, не расціскаючы губ.

— Дзякуй! — гэтак жа моўчкі адказала Лёля. — Інакш мне давялося б ваяваць з табою. А я не хачу.

— Давай! Бі! — крычалі і ў рэальнасці, і ў ягоным уяўленні. — Чаго ты стаіш! Атакуй!

Воўк рэзка ірвануўся, Антону давялося з усіх сіл сціснуць руку, каб не выпусціць яго. Магчыма, ён і выпусціў бы, але раптам усё наўкол заслалася туманам. Воўк азадачана спыніўся, падняў морду, прынюхаўся...

***Працяг у наступным нумары.***

***Пераклад з рускай Раісы БАРАВІКОВАЙ.***

Ян РАДВАН

# РАДЗІВІЛІЯДА,[*]

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга другая*

Рвецца зямное нутро ды разносіцца ўшчэнт. Адначасна
Колецца кладка муроў — і, змяшаўшыся, сыплюцца долу
Людзі й каменне… О жах! Наваколле раве і грукоча.
Крэпасць разбіта ўшчэнт. Вось відовішча новае страхам
Позіркі поўніць найперш, і разгублена вочы шукаюць
Сховішчаў хоць бы якіх;[1] немаўлят да грудзей прыціскаюць
Бедныя маці, і скрозь чуцен лямант гаротны жаночы.
Толькі ж нястомнай рукой уздымаюць прыхільнікі смерці
Зброю ліхую сваю — і няма тут ніякай развагі!
Зноў фарміруецца строй ваяроў перад вежай высокай.
Дзідамі шчэрыцца фронт, вытыркаюцца доўгія пікі.
Смерць мільгаціць уваччу, страшны боль маскавітаў яднае.
Жудасна ўражваюць многіх руіны дамоў пагарэлых:
Людзі, пакуль ад гармат наступіла часова зацішша,
Носяць стваліны дубоў спілаваных у выламы — толькі
Дрэвы не гэтак мурам, як бядзеаднаўляюць аблічча.
Вось да ўзарванай цвярдыні пабегла пяхота ліцвінаў
Дружнай шарэнгай — і вось аказалася ўдалай атака:
Лезуць угору яны па драбінах імкліва і спрытна,
Там здабываюць усе незлічона шматлікія раны:
Хочуць хутчэй захапіць і адолець высокія вежы.
Шчыльна самкнуты, аднак, маскавіты. Яны пачынаюць
Скатваць рукамі каменні, дубоў абгарэлых стваліны.
Рог сваім спевам самотным усіх на вайну заклікае,
Гукі дрыготкіх тымпанаў вядуць пехацінцаў. А слава
Розум і сэрца хвалюе. І вось уздымаецца бітва.
Гнеў яшчэ больш распаляе нянавісць у душах, нязгоду:
З грукатам лупяць па шлемах, і — проста імгнення, адразу
Падаюць воіны… Глянь, як усё чырванее крывёю,
Трупы ўсцілаюць зямлю па абодвух баках поля бітвы.

---

[*] *Працяг. Пачатак Кнігі другой у № 6, 2011 г.*

[1] Глоса: «Вочы найперш церпяць паразу ў вайне».

Раптам у гэтым натоўпе, ахопленым прагай змагання
(Я не магу прамаўчаць пра адвагу тваю і пра подзвіг,
Слаўную смерць, о герой, годны памяці смелы юнача!),
Прагны да славы Мадрэўскі выходзіць наперад[1]; з ім разам
Шэраг выдатных хлапцоў, непахісныя Марсавы душы,
Клін учыняюць яны, да муроў у атацы імкнуцца,
Многія душы маскоўцаў яны адпраўляюць у пекла.
Кажа Мадрэўскі: «Дакуль, юнакі, нам сядзець тут у полі?
Трэба прабіцца праз мур, што стаіць перад намі насупраць!»
Тут жа з адважнай душой сярод першых імкнецца ў атаку,
Ворагаў пляжыць мячом, учыняючы стосы забітых,
Сам падахвочвае іншых да Марсавых подзвігаў ратных.[2]
Бачачы гэткія страты, усе ваяводы маскоўцаў
З моцнай нянавісцю ў сэрцы ды з воклічам гучна-пачварным
Войска ўздымаюць супраць аднаго-адзінюткага мужа:
Паркі апошнюю нітку яму на пагібель сплятаюць.
Лезуць маскоўцы з мячамі, з адзіным Мадрэўскім ваююць.
Ён жа мячу не аддаў дарагога жыцця, — толькі раптам
З лютай жалезнай змяі нечаканая смерць прыляцела:
Порах ёй хуткасць прыдаў, і наскрозь яна грудзі праццяла,
Потым знішчальным свінцом у цялесныя нетры пранікла.
Быццам прыгожая кветка з духмянага сада, якую
Сонейка яснае песціць ды вільгаццю дождж наталяе,
Зжатая жорсткай рукою, на глебе, гаротная, вяне, —
Так выглядаў, паміраючы, мужны магутны Мадрэўскі…
Вось ён, забіты, упаў і з салодкім жыццём развітаўся.
Цела свайго камандзіра, забітага зброяй смяротнай,
Вынесла з поля дружына ў глыбокай і шчырай жалобе.
Марс напаўняе адвагай Клюкоўскага мужнае сэрца,
Прыкладам смелым сваім уздымае ён войска ў атаку,
Рвецца наперад — ды там, дзе шнуруюць імклівыя стрэлы.
Не, не спыняюць яго ні лятучыя стрэлы, ні нават
Гурбы забітых наўкол: ён нясецца ў батальнае пекла,
Славы нязгаснай сабе ў небяспеках шматлікіх шукае.
Сыплюцца ядры гармат, свішчуць стрэлы — ды ён не спыняўся,
Моцнай жалезнай бранёй сустракаў навальніцу… Ды ўрэшце
Зверху зваліўся на дол і ляжаў сярод трупаў у рове.
Так ён пазбегнуў ліхой безразважнай абранасці смерцю.
Гэтыя двое — шчаслiўцы. Ці можа для годнага сэрца
Быць надта многа хвалы? Ваша слава вялікіх герояў
Вас павядзе праз вякі сваім шляхам — адметным і годным.
Спорна тым часам ідуць да бажніц маляваных жанчыны —
Маткі ў глыбокай журбе, запаліўшы васковыя свечкі;
Просячы міру, кадзяць фіміямам панхейскім на лікі,

[1] Глоса: «Мужнасць высакароднага ротмістра Мадрэўскага».

[2] Глоса: «Той, хто найперш лёгка адольвае смерць, той [лёгка адольвае] ўсіх (Сенэка. Геркулес на Эце)».

Моляць нязнаных святых[1], шэптам просяць у іх дапамогі.
Чутна: на хуткіх вятрах навальніца разносіць маленні.
Шляхціч Вальмінскі тым часам камандуе конніцай. Вось ён
Мчыцца ў атаку, у панцыры медным, з адборнай дружынай;
Ззяючы зброяй, як Марс дужарукі, байцоў заклікае:
«Хлопцы, са мной на чале занясіце арла Радзівілаў
Аж да варожых муроў, і давайце агледзім лагчыны».
Кінуўшы коней, вайскоўцы ідуць за сваім камандзірам.
Зніклі на міг пад зямлёй — і знянацку выходзяць з-пад брамы
Проста на поле, у бой, вынішчаюць варожыя сілы,
Скідваюць зверху гарматы, якія стаялі на вале.
Паніка! Хочуць маскоўцы прыдумаць што-небудзь, — дарэмна:
Хлопцы ўрываюцца ў крэпасць высокую цэлай дружынай.
Поўняцца плачам муры ды разносіцца лямант гаротны.
Крэпасць узяўшы, ліцвіны яе запаўняюць, як мора…
Стаўся апошнім той дзень для Тарваста, для многіх маскоўцаў.
Сталася крэпасць для люду свайго небяспечнай, паколькі
Ходзіць яна хадуном, непрыяцельскі меч валадарыць…[2]
Марсава поле! Нашто хрысціян да раздораў прыводзіць
Звада? Як быццам бы мы, на спаўненне чужынскіх малітваў,
Падаем, падаем скрозь, у бясконцым пабоішчы Марса!..
Кроўю маскоўцаў цяпер, а пасля і літоўскай крывёю
Ты ўзбагачаешся, краю Лівонскі, прыгнечаны лёсам!
Столькі людзей праз цябе паспыталі гаротных нападаў,
Знатная моладзь сарматаў цябе падтрымала прыязна.
Цёплая кроў, што струменіцца з ран і сцякае дадолу,
Краскі фарбуе твае, пляміць нівы твае і палеткі.
Ратнікам стаўся тваім, хто вадой з Барысфена жывіўся,
Скіф, спусташальнік ліхі, ды суровыя ў доблесці гуны,
Хрона яшчэ гадаванцы, гатовыя ў бой, а таксама
Тыя, хто мора, кайданамі лёду скаванае, бачаць,
Тыя, хто шведскія землі аруць, прыгерманскую цвёрдую глебу.
Дзеля цябе і ліцвін знішчыў сілу вялікае рацi.
Вораг імкнецца тым часам прагнаць ненавіснае войска
З гэтых саюзных зямель[3], паўстае ён на ўсё й на любога,
Нават сваіх не шкадуе… Адтуль — і крыніца ліхоты,
Стуль — для ліцвінаў бяда ды ваенных пажарышчаў іскра;
Тут — і падстава, і грунт той гаротнай вайны з маскавітам.
Нават дзяржаўцы цяпер да ўзаемазнішчэння імкнуцца.
Полымя страшнай вайны пашыраецца ў розных напрамках,
Землі палаюць агнём у ліхіх незлічоных забойствах.

[1] Такое ўспрыняцце Янам Радванам веры маскоўцаў хутчэй як язычніцкай не дзіўнае. Украінскі вучоны Валерый Шаўчук адзначае, што ў «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага маскавіты апасродкавана прыпадабняюцца да язычнікаў, не трактуюцца як хрысціяне. Падобным чынам, Францішак Градоўскі ў лацінамоўнай паэме «Апісанне маскоўскага паходу Хрыстафора Радзівіла» (1582) даводзіў, што ратнікі Івана Грознага пазбыліся апекі Хрыста за свае злачынствы.

[2] Глоса: «Разгром маскоўцаў у крэпасці, захопленай Радзівілам, у 1561 г.»

[3] Г. зн., з Лівоніі.

Так, як на моры, калі маракам, што на ветразях мчацца,
Аўстр нясе навальніцу, — ляціць ён з адчыненай брамы
Біцца з Барэем — і вось пачынаецца супрацьстаянне
Ўсіх супраціўных вятроў, наваколле цямнее імгнення,
Неба становіцца чорным і, кроячы змрочныя хмары,
Сам Усявышні шпурляе маланкі, а мора бушуе,
Буйна сваволяць вятры, караблі раскідаючы — гора! —
Страх у вачах маракоў, ды з нутра падкрадаецца сполах,
Сэрца сціскае ды прэч выганяе душу. А тым часам
Проста на скалы ляціць карабель па раз'ятраным моры.
Злая нядоля яго — гэта здзекі бязлітаснай Сцылы…
Так, не інакш узняліся пажары той доўгай навалы,
Марсавай прагай вайны загарэліся сэрцы, ды зводдаль
Трубы зайгралі ў паход, шмат людзей гэты воклiч пачулі.
Цэлы вялікі народ ахапіла пачварная злоба:
Войска ідзе на вайну. Адпусціўшы ўсе лейцы, нясецца
Марс ненажэрны: клінкі ён надоўга фарбуе крывёю.
Час павярнуўся назад, і змяшаліся праўда з няпраўдай,
Гонар высокі, і цнота, і ўсё чалавечае гіне.
Гіне законнасць сама… Што ж відно пасярод беззаконня?
Злоба, злачынствы, падман, страшны боль і нястрымная лютасць;
Голад, для душ разбуральны, пажада пачварнай здабычы,
Гнеў — той пажады сваяк, спадарожнікі вечныя войнаў.
Звада цяжарае імі і плодзіць ды плодзіць бясконца.
Чутка пабегла тады да маскоўцаў, спявала пра ліха,
Гора Тарваста, які параўняўся з зямлёю, пра войска —
Войска забітых!.. Яна ж усхваляла адважных ліцвінаў,
Першым — цябе, Радзівіл, тваіх подзвігаў ратную славу.
Скрозь па лясных гушчарах уздымаецца лямант гаротны:
Хтосьці аплаквае страту бацькоў, хтосьці — дзетак пагібель,
Жонкі гаротна крычаць па мужах, паланёных гвалтоўна…
Толькі бязлітасны цар, валадар маскавітаў жахлівы,
Гэтай паразай сваёй не засмучаны, рук не ламае.
Гора й няшчасці людзей не кранаюць яго, ды нiмала
Ён не шкадуе пра ліха, якое ўчыніў; толькі гневам,
Помстаю дыхае сам ды вайну замышляе каварна.
Быццам драпежны мядзведзь, што людзей пажырае і быдла,
Чорны, пачварны, ліхі, гадаванец лясоў пракаветных,
Той, што ад сонца бяжыць да лагчынаў сасновага бору,
Там у гнілізне ляжыць, на аб'едках бычыных, — ды раптам
З логава ўздыме яго паляўнічых сабачая зграя, —
Вонкі выходзіць тады, грозна стаўшы на заднія ногі,
Кідае іскры з вачэй там і тут, ён раз'ятраны моцна,
Хоць і не знае чаму… Так рычыць, што дрыжыць наваколле.
Рэха па долах гучыць, дзе сатыры й пяшчотныя німфы
Радасна свой карагод у бяспецы ды ў радасці водзяць, —
Так і Іван, што даўно чалавечай крывёю карміўся,
Страшнай пачварай зароў, пра паразу маскоўцаў пачуўшы,
Гнеўна ўвабраўшы ў сябе гарачэзнае полымя гневу,

Больш не кіруе сабой: як з пякельнага рогу багацця,
Сыпле вар'яцтвам задум, ашалелы зямель спусташальнік,
Бога магутнага гнеў і чума для сваіх жа падданых.
Ён нарадзіўся адно каб людзей вынішчаць. «О Юпітэр, —
Дзіка крычаў ён, — няўжо Радзівіл нашы крэпасці збурыць?
Мне давядзецца пачуць, што мяне перамог ён, маскоўцаў?
Не!.. Ён вось тут… вось сюды… гэтым шляхам не пройдзе!.. А раптам?..
Я ў апраметную ўміг буду скінуты!.. Не! Пад Тарвастам
Войска маё не разбіта яшчэ! Дык ідзіце, ідзіце,
Хат і сяліб не шкадуйце, а з імі й нікога з смяротных;
Шлях праз літоўскія землі суцэльным агнём высцілайце:
Седзячы тут, аж за Волгай, хачу яго бачыць!.. Паводле
Пакту такога Лівонія годная будзе здабыта!»
Тут ваяводы маскоўцаў загад аддаюць без затрымкі:
Спрытныя, сеюць вайну ды нясуць вынішчэнне з сабою.
Войска рыфейскага строй падышоў да дзяржавы ліцвінаў:
Берагам крочаць Рубона, ідуць па палях Барысфена,
Нівы плюндруюць агнём там, дзе крэпасці гожай Дуброўны,
Там, дзе Альгерда муры — напалову падзелены Віцебск —
Зверху на Віцьбу глядзіць, што навокал яго абцякае;
Там, дзе Крапіўна-рака свае воды крывёй счырваніла,
Там, дзе калісьці зямля скрозь бялела касцямі маскоўцаў.
Оршу праходзяць яны, што імя сваё мае ад рэчкі,
Оршу, дзе рэшткі муроў атачаюць славутае места,
Потым — Хадкевічаў Шклоў, хаты Копыся полымем нішчаць —
Вёрсты счарнелых зямель, адабраныя лютым Вулканам…
Попел гарачы ляціць пад парывамі хуткага ветру —
Нівы ды хаты людзей загараюцца тут жа і чэзнуць…
Гэтая чутка тады да ліцвінаў дайшла: без затрымкі,
Прагнучы вельмі даўно ненавіснага люду пазбыцца,
Землі свае ўратаваць, на вайну выпраўляюцца хутка.
Колькі ж яшчэ, Радзівіл, дазваляць маскавітам нахабным
Землі ліцвінаў таптаць? Ён цяпер без ніякай затрымкі
Тысячы ратнікаў хутка кіруе ў памежныя землі,
Войска на бітву вядзе, па слядах пераследуе. Вораг
Шансаў не мае зусім: нават спрытныя ў лютых рабунках,
Маючы вопыт вайны, маскавіты паказваюць спіны:
Тут — непралазны гушчар, старажытная цёмная пушча.

***Пераклад з лацінскай***
***Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***



*Старонка мінулага*

* * *

***Годзе над сшыткам сутуліцца!***
***Сонца кліча на вуліцу.***
***Промні яго пякучыя,***
***Нібыта зелле, гаючыя.***
***Доктар высокі, лагодны,***
***Самы чулы і родны.***
***Глядзіць на свету палаты:***
***А як яго дзіцяняты?***
***Як непаседы бяссонныя***
***І дамаседы палонныя?***
***Хто прытаміўся госцячы,***
***Хто пабляднеў зайздросцячы...***
***Каму з ачышчальнай аптэкі***
***Найпершаму трэба лекі!***
***Гэткія ці такія —***
***Няхай дае хоць якія!***
***Істоце заўсёды трэба***
***Лекаў з высокага неба!***

**Еўдакія ЛОСЬ**

***«Маладосць» № 7, 1963 г.***

Ірына КЛІМКОВІЧ

# ЦМОК З ЮБІЛЕЙНАЙ ПЛОШЧЫ

***Хто стварае легенды, паданні, міфы? Безумоўна, людзі, якія любяць сваю Радзіму, абагаўляюць яе. Жыхары нашага старажытнага горада ва ўсе часы — ад заснавання Мінска па сёння — знаходзілі ў ягонай гісторыі загадкавыя і таямнічыя здарэнні, імкнуліся патлумачыць іх, а дзе і перабольшыць, надаць містычны сэнс. Не ўсе легенды дайшлі да нашага часу, толькі адзінкавыя засталіся ў народнай памяці і дагэтуль хвалююць сучаснікаў. Вось некаторыя з іх.***

## ЛЕГЕНДАРНЫЯ КНЯЗІ

Калі ўзнік Мінск, званы раней Менскам або Менескам? Дакладна пра гэта навука сказаць не можа. Пад сумневам і месца ўзнікнення горада — суток Нямігі са Свіслаччу. Таму звернемся да легендаў.

Адна з іх, самая старажытная, распавядае пра чарадзейнага волата Менеска, які пабудаваў на рацэ Свіслачы вялікі каменны млын на сем колаў. Ніхто самога Менеска не бачыў, тым не менш, у навакольных мясцовасцях свіслацкай зямлі расказвалі самыя фантастычныя гісторыі пра сілу волата. Казалі, нібыта ў яго млыне муку малолі не з жыта, а з камянёў, нібыта ўначы адтуль чуліся крыкі, гукі песень ды скокаў, нібыта апоўначы ездзіў Менеск на сваім кані па паселішчах і набіраў дружыну з адважных, смелых, дужых людзей, якія пазней утварылі цэлы народ, і пасяліўся ён побач з млынам. Тут і быў заснаваны горад, названы імем волата, — Менск.

Даследчык беларускай даўніны Павел Шпілеўскі лічыў, што гэтае паданне можа мець адносіны да якіх-небудзь дагістарычных падзей, не занатаваных у летапісах. А сама постаць Менеска з'яўляецца прататыпам пэўнага ўдзельнага крывіцкага князя, які збіраў моцных людзей для павелічэння свайго войска і засялення імі новага, толькі што пабудаванага горада на берагах Свіслачы. У дадатак П. Шпілеўскі цытуе прымаўку, якая існавала на той час на Міншчыне: «Не пайду я да Менска ад шляху Віленска; а калі пайду па шляху Віленскім, спаткаюся з Менескам». Павел Міхайлавіч вызначыў і магчымае месца пахавання легендарнага заснавальніка нашай сталіцы — Пярэспінскія могілкі, якія выявілі толькі ў 1820 г. Яны ўзніклі на кургане, пад якім, магчыма, і быў пахаваны першы жыхар Менска. Назва Пярэспа пайшла ад былой прыгараднай слабады, якая знаходзілася за Старажоўскай заставай. Сёння на згаданых могілках стаіць царква Марыі Магдалены, а ад могілак захавалася толькі каменная брама і частка агароджы.



*Сярэднявечная гравюра старога Мінска.*



*Старое мінскае замчышча і мост да яго праз Свіслач. Малюнак Я. Драздовіча.*

пачалі мужна бараніцца. Але сілы былі няроўнымі. Крывёю напоўніліся воды Нямігі, целы забітых ляжалі паўсюль, стагналі параненыя. Лютая расправа чакала мінчан — усіх мужчын, якія выжылі, пакаралі смерцццю, а жанчын і дзяцей узялі «на шчыт», у палон.

Але не пакінуў Усяслаў Чарадзей Менска. 3 сакавіка 1067 года каля яго спаленых умацаванняў, на рэчцы Нямізе, адбылася сеча паміж полацкім і кіеўскім войскамі. Дзякуючы «Слову пра паход Ігаравы», пра гэта ведаюць па ўсім свеце. Шмат ваяроў засталося на полі бітвы. А Яраславічы палічылі за лепшае вярнуцца дахаты. Адзін з сыноў Усяслава — Глеб — стаў потым князем Менскім.

Як сцвярджаюць некаторыя навукоўцы, плошча 8 Сакавіка, што каля моста праз Свіслач, і ёсць тое самае месца, з якога пачынаецца летапісная гісторыя Мінска. Тут схаваная ў 30-я гады XX ст. у падземны калектар рака Няміга злучаецца са Свіслаччу. А справа, дзе цяпер уваход на станцыю Няміга, знаходзілася некалі старажытнае замчышча, якое так мужна абаранялі жыхары горада.

Па другой легендзе, Менск стаяў на скрыжаванні гандлёвых шляхоў, дзе купцы займаліся сваёй справай — абменам або менай. Адсюль і Менск. Але легенда ёсць легенда. А што кажа гісторыя? Як ні дзіўна, яна таксама перакрыжоўваецца з міфамі.

Зразумела, што Мінск быў закладзены яшчэ да бітвы на Нямізе. Ёсць меркаванне, што яго заснаваў Усяслаў Чарадзей, які займаў полацкі пасад з 1044 года, альбо гэта зрабіў яшчэ яго бацька Брачыслаў ці дзед Ізяслаў. Ёсць і першая гістарычная згадка пра Мінск, яна пададзена ў знакамітай «Аповесці мінулых гадоў» і звязана з імем Усяслава Брачыслававіча, дзяржаўнага мужа і паспяховага ваяра, полацкага князя з роду Рагвалодавічаў. Дарэчы, сваю мянушку князь атрымаў не проста так, сучаснікі лічылі яго сапраўдным чарадзеем, як і легендарнага Менеска. Больш за тое, паводле падання, ён лічыўся пярэваратнем — мог абарочвацца ў розных звяроў і найчасцей — у ваўка. Было гэта ў XI стагоддзі.

Магутны князь полацкі Усяслаў Чарадзей здзейсніў паспяховы паход на старажытны Ноўгарад, абрабаваў яго, чым моцна спалохаў кіеўскіх князёў, дзяцей Яраслава Мудрага — трох Яраславічаў. Чаму яны ўсхваляваліся, зразумела. Раней даніну з ноўгарадцаў збіралі яны, і немалую — 200 грыўнаў, а за 2 грыўны ў тыя часы можна было купіць добрага каня. І вось сабралі яны дружыну і паспяшаліся насустрач Чарадзею ў горад Менск, каб захапіць яго і сустрэць там войска Усяслава. Мінчане ж гарадскую браму ворагам не адчынілі, а

## ЯЗЫЧНІЦКІЯ СВЯТЫНІ

Некалі ў Мінску дужа шанавалі камень Дзед або, як яго яшчэ называлі, Стары. Ён ляжаў пад святым дубам на мінскім капішчы, што знаходзілася на беразе Свіслачы, насупраць цяперашняга ліцэя БДУ. Больш за стагоддзе таму гэтая частка Мінска ўяўляла сабой глухі забалочаны лес. На асобных сухіх мясцінах сярод асін і бяроз, вольхаў і елак трапляліся дубы. Тут, у схаваным ад чужых вачэй кутку, і месцілася капішча, якое называлі «Малельня ля каменя». Гэта была прамавугольная пляцоўка плошчай каля 300 квадратных метраў. У цэнтры пляцоўкі знаходзіліся галоўныя аб'екты пакланення — валун і магутны дуб на чатыры абхваты, на які вешалі ручнікі і стужкі. Дрэва, жалуды якога выкарыстоўвалі як лекавыя, лічылі святым і звалі Волатам. Побач з каменем бруіла крынічка — таксама святая, з гаючай вадой. Тут жа было выкладзена круглае

вогнішча-ахвярнік, дзе пастаянна падтрымліваўся агонь.

Месца заўсёды было дагледжана, таму што мела святара, якога лічылі чараўніком: ён лекаваў, як людзей, так і жывёлу, варажыў, прадказваў будучыню, а каму па замовах працягваў ці скарачаў жыццё... Але галоўным элементам пакланення быў, безумоўна, каменны «Дзед», яму ахвяравалі мёд, малако і іншыя прадукты. Цікава, што людзі спачатку ішлі ў царкву, дзе рыхтаваліся да замагільнага жыцця, а потым надзённыя праблемы вырашалі з дапамогай «Дзеда»...

У канцы 1880-х гадоў, калі святкавалі 900-годдзе хрысціянства на Русі, мінскія ўлады паспрабавалі знішчыць капішча, як апошняе апірышча паганства ў горадзе. Тысячагадовы дуб спілавалі, а святы агонь раскідалі. Тым не менш, яно не знікла, а дзейнічала яшчэ і на пачатку ХХ стагоддзя. Праўда, пазней тут правялі меліярацыю, зраўнялі глебу, а Свіслач закавалі ў бетонныя берагі. А стод перавезлі ў Музей валуноў ва Уруччы. Там ён знаходзіцца і цяпер.

Пра камень захавалася легенда. Нібыта ён з'явіўся на беразе Свіслачы ў выніку спаборніцтва Вадзяніка і Лесавіка. Яны павінны былі па чарзе занесці гэты агромністы валун на вяршыню гары. Вадзянік не выканаў задання, а калі пабачыў, што Лесавік апынуўся спрытнейшым, падставіў яму падножку. Лесавік спатыкнуўся, камень упаў і адразу ўрос у зямлю. Побач забруіла крынічка і вырас дуб-волат.

Дарэчы, у старажытным Мінску быў некалі яшчэ адзін знакаміты культавы камень. І не просты, а камень-следавік пад назвай «Нага Пятра». Архіўныя дакументы сцвярджаюць, што ў пачатку XIX ст. ён яшчэ ляжаў на вяршыні Траецкай Гары над Свіслаччу ў Мінску. Цяпер, як вядома, тут — Тэатр оперы і балета. А раней стаяў храм Святой Тройцы, дзякуючы чаму гара і займела сваю назву. А яшчэ раней, да храма, на ёй, бясспрэчна, існавала старадаўняе капішча. Камяні-следавікі маюць уласцівасць збіраць і захоўваць дажджавую ваду. Нават у сухое і спякотнае надвор'е выемка-след заўсёды вільготная. З сабранай у слядках вадой звязана мноства легендаў, ёй лячыліся. Да таго ж, след на камені быў ад нагі, а старажытныя людзі ўспрымалі ступню як частку цела, праз якую душа сыходзіць на той свет. Нездарма міфалогія індаеўрапейцаў захоўвае памяць пра культ ступні яшчэ з эпохі бронзавага веку. Магчыма, той камень, які, на жаль, не збярогся, быў сведкам далёкіх і таямнічых памінальных абрадаў нашых продкаў?

## ЗМЕЙ, «КРАКАДЗІЛЫ», ЯШЧАРКІ…

Існуюць у Мінску і такія легенды, якія нельга патлумачыць ані гісторыяй, ані іншай навукай.

Так, былая Высокая Гара, дзе цяпер знаходзіцца Юбілейная плошча, у даўнія часы называлася Змеевай. Паводле падання, у яе глыбокіх пячорах жыў крыважэрны змей. Звычайны казачны Цмок, якіх тады па ўсёй Еўропе нібыта вялося нямала. Як звычайна здараецца ў падобных паданнях, цмок патрабаваў сабе даніну, выкрадаў людзей. Раз на год навакольныя селішчы павінны былі ахвяраваць яму самую прыгожую дзяўчыну. Прыгажунь тых выбіралі па жэрабю. Тая, якая выцягнула нешчаслівае жэрабя, рабілася чарговай ахвярай цмоку. Дзяўчыну адводзілі на самы верх Змеевай гары. Там на палянцы рос вялікі дуб, які ўзнімаўся вышэй за астатнія дрэвы. Пад ім дзяўчыну і пакідалі.

З гадамі змей люцеў.



*Узяцце Мінска Яраславічамі. Гравюра.*



*Старажытнае капішча на беразе Свіслачы. Малюнак з кнігі Ляўкова.*

Вядома, што ў міфалогіі ліцвінаў-беларусаў істот накшталт яшчарак называлі жывойтамі. Іх ушаноўвалі крывічы, яцвягі і іншыя заходнія балты. Падобную пачвару бачыў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага Сігізмунд Герберштэйн, калі накіроўваўся ў Масковію. У сваёй кнізе «Запіскі пра Масковію» ён пісаў пра тэрыторыю сённяшняй Паўночнай Беларусі: «Тут сярод шматлікіх гаёў і лясоў можна назіраць жахлівыя з'явы. Менавіта ў гэтых месцах дагэтуль захавалася шмат язычнікаў, якія гадуюць па сваіх хатах нейкіх дзіўных змей на чатырох кароткіх лапах, накшталт яшчарак з чорным тлустым целам. Людзі з невытлумачальным страхам ушаноўваюць тых пачвар, якія выпаўзаюць да падрыхтаванай для іх ежы…» Сыходзячы з гэтых запісаў, навукоўцы лічаць, што гэта мог быць іхціастэг — помесь кісцепёрай рыбы і земнаводнага. Аднак такі драпежнік жыў у балотах 300 мільёнаў год таму.

Аднойчы нешчаслівы лёс выпаў дзяўчыне, чыім нарачоным быў па адным з варыянтаў падання легендарны Менеск, па іншым варыянце — невядомы асілак, не менш дужы і смелы. Бойка была жорсткая і крывавая. Легенда захавала два варыянты развязкі. Адзін з іх паспяховы. Асілак перамагае змея, уратоўвае дзяўчыну, яны бяруцца шлюбам, жывуць доўга і шчасліва. Другі варыянт — трагічны. У бойцы са змеем асілак перамагае, але і сам памірае ад цяжкіх ран. Труну з целам героя хаваюць на дне Свіслачы ў тое ж месца пад вадой, куды сышоў забіты змей. Паданне кажа, што яшчэ доўга, калі ўзровень вады падаў, над яе паверхняй тырчалі агромністыя рэбры цмока.

Такая вось легенда. Але яна ўзнікла не так сабе. Кажуць, што ў Татарскім балоце, на месцы сённяшняга Палаца спорту, сапраўды некалі вадзіліся падобныя да кракадзілаў паўметровыя яшчары. У 1885 годзе злавілі апошняга мінскага «кракадзіла». Зроблены з яго муляж доўгі час захоўваўся ў кабінеце дырэктара аднаго з гарадскіх рэальных вучылішч.

## СКАРБЫ, СХАВАНЫЯ Ў НЕТРАХ

Заўсёды папулярныя гісторыі пра пошукі і знаходкі скарбаў. Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя ў Мінску сярод гараджан можна было пачуць паданне пра паходжанне Камароўскага балота.

**У XV ст. у горадзе быў Мікалаеўскі манастыр, пры якім жыў нейкі бажавольны Федзька, празваны манахамі Камаром. Аднаго разу па заканчэнні службы ўсе выйшлі з сабора, а манах Антоні азірнуўся на царскую браму і ўбачыў, што адна з пліт на падлозе павольна прыўзнялася. Адтуль выйшаў стары з сівой барадой у саване. Адной рукой ён паказваў на дол, а другой раскідваў манеты, якія каціліся па падлозе і знікалі пад плітою. Неўзабаве і сам стары знік у сутарэннях, а пліта з**

**грукатам вярнулася на месца. Спалоханы Антоні борзда рушыў да выхаду, але дзверы аказаліся зачыненымі. Манахі потым доўга шукалі свайго таварыша, але ніхто з іх не здагадаўся, што ён мог застацца ў храме. Знайшлі яго толькі раніцай, калі адчынілі царкву. Антоні старанна маліўся і нічога не казаў пра здань.**

**Праз тыдзень прывід з’явіўся зноў. Гэта здарылася ў час набажэнства, але ніхто, апроч Антонія, яго не заўважыў. Манах успомніў, што сабор стаіць на месцы старых могілак, дзе пахаваны разам са сваім багаццем вядомы Сенька Сокал, адзін з дружыннікаў князя Глеба Усяслававіча. Праз тыдзень здань зноў паказалася Антонію. Тады манах выкраў ключ і ўначы пайшоў у сабор. Там ён падняў пліту ды рыў пад ёй, аж пакуль не натрапіў на труну і на скрыню з золатам, што стаяла побач. Манах спрытна схапіў скрыню і хуценька стаў засыпаць яму. Але пачуўся рогат, і манеты са звонам рассыпаліся па падлозе. Перад Антоніем стаяў бажавольны Федзька Камар. І манаху нічога не заставалася, як прапанаваць палову грошай Федзьку, каб той маўчаў.**

**У лес закопваць грошы яны пайшлі разам. Толькі не падзялілі багацця і пачалі біцца. У нейкі момант, калі Антоні паспрабаваў схапіць жменю залатых манет, рука яго знерухомела, а ногі сталі правальвацца ў зямлю ўсё глыбей і глыбей. І ўсё навокал ператваралася ў дрыгву. Перад манахам стаяў ужо не Федзька Камар, а той самы сівы старац, які паказваўся яму з-пад пліты ў храме. Урэшце зацягнула Антонія разам са скарбам у балота. З таго часу і ўзнікла назва — Камароўскае балота.**

**Потым тут паўстала вёска Камароўка, якая да 1812 г. належала князям Радзівілам, а трохі пазней яна ўвайшла ў рысу горада.**

Распавядаюць яшчэ пра адзін загадкавы мінскі скарб — скарб езуітаў. У сваім калегіуме езуіты навучалі мясцовых дзяцей лацінскай і грэчаскай мовам, культуры, гісторыі і літаратуры антычнасці, а таксама геаграфіі, матэматыцы, прыродазнаўству. За свае намаганні яны атрымлівалі някепскія грошы: ім ахвяравалі маёнткі, залатыя і срэбныя рэчы, другія каштоўнасці. Зразумела, што, дзякуючы гэтаму, браты-езуіты сталі вельмі багатымі. Але з-за войнаў, якія ішлі на нашых землях, яны рызыкавалі страціць тое багацце. Так, напрыканцы 1706 года, падчас вайны Рэчы Паспалітай са шведамі, хто толькі не рабаваў наш горад. І казакі з калмыкамі, і шведы… Але езуіты пацярпелі менш за ўсіх. Хаця шведы і прымусілі іх аддаць у якасці аплаты прыгарадны фальварак, які каштаваў тысячу злотых, асноўны скарб манахаў быў надзейна схаваны ў сутарэннях калегіума і касцёла. У тым жа годзе ў горадзе пачала шырыцца пошасць — чума, памерла шмат месцічаў. Сярод памерлых былі і манахі ордэна езуітаў, якія лекавалі хворых і рыхтавалі іх у апошні шлях, тыя, каму была вядома таямніца схаванага скарбу. Так ён і застаўся пад зямлёй.

## ПАДАННІ ПРА КАХАННЕ

Апроч легендаў пра Мінск, якія склаліся на падставе гістарычных фактаў, існуюць і любоўныя паданні, звязаныя з некаторымі мясцінамі і будынкамі горада.

Кажуць, што на Камароўцы, у пачатку Лагойскага тракту, яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. стаяла струхнелая хатка шынкара, а адразу за ёй — велізарны дуб. За дубам, у густой зеляніне ледзь праглядалася магіла без крыжа. У народзе гэтае месца лічылася нячыстым. У месяцовым святле можна было заўважыць прывід, які блукаў па густой траве каля магілы. А адбылося вось што. Жыў у гэтых мясцінах сталяр, нарадзілася ў яго дачка



*Лошыцкі парк.*

Ганна. Прайшлі гады, і дзяўчынка вырасла прыгажуняй. Хлопцы цэлымі натоўпамі бегалі за ёй. А яна кахала толькі аднаго — маладога, дужага і прыгожага Янку. Яны штодзень сустракаліся і бавілі час разам. Але неўзабаве надарылася бяда. Пакахаў Ганну стары шынкар, габрэй Іцка Сроль. У народзе яго клікалі ведзьмаком. Убачыўшы красуню, шынкар страціў галаву. Аднойчы падпільнаваў дзяўчыну, пачаў прызнавацца ў каханні, прапанаваў ёй багатае жыццё. Дзяўчына толькі пасмяялася ў адказ і сказала, што мілей за Янку для яе няма нікога ва ўсім свеце. Тады вядзьмар з дапамогай ліхіх чараў зрабіў так, што Ганна спачатку звар'яцела, а праз год памерла. Бацька пахаваў яе побач з дубам. З тых часоў прывід Ганны блукае па начах навокал, шукаючы свайго любага Янку.

Даўно няма таго шынка, няма таго дуба, знікла і магіла, але і сёння па начах у тым раёне Мінска можна заўважыць цень дзяўчыны, якая шукае сваё згубленае каханне.

Цікавыя любоўныя гісторыі адбываліся на беразе Свіслачы ў Лошыцкім парку. Здаецца, што ён сам спрыяе сваёй аўрай развіццю любоўных падзей.

Упершыню Лошыца згадваецца ў 1557 годзе. Аднак мяркуюць, што будаваць сядзібу тут пачалі ў канцы XIV ст. Некалі па тутэйшых алеях гулялі каралеўскія асобы, а яшчэ раней менавіта ў гэтых мясцінах спыніўся апошні ледавік, што паспрыяла з'яўленню надзвычай багатага расліннага свету. Тым не менш, самая яркая тутэйшая легенда не пра каралеўскіх асоб і багатую флору, а пра закаханую жанчыну, якая жыла тут і ўжо амаль сто гадоў вяртаецца ў Лошыцу прывідам. Сапраўдная гісторыя яе жыцця закончылася трагедыяй.

**Найпрыгажэйшая жанчына беларускага краю, жонка пана Любанскага Ядвіга наклала на сябе рукі, калі раскрылі яе патаемнае каханне да графа Карла Чапскага, гарадскога галавы ў 1890—1904 гадах. У роспачы яна села ў лодку, адплыла ад берага і кінулася ў ваду. Менавіта тады і з'явіўся ў Лошыцы адзіны ў краіне маньчжурскі абрыкос, які ў памяць пра Ядвігу пасадзіў яе муж Яўстафій Любанскі. І калі дрэва пачынае квітнець, а адбываецца гэта на поўню ў красавіку, тады і з'яўляецца светлы сілуэт Ядвігі, што праплывае непадалёк ад зруйнаванай капліцы.**

Яшчэ кажуць, нібыта ў напамін пра тыя падзеі Бог беражэ сядзібу. Так, падчас Другой сусветнай вайны, калі ў доме сабраліся высокія нямецкія чыны, падпольшчыцы маці і дачка Чыжоўскія, якія прыслужвалі немцам, заклалі ў печку бомбу, але яе выявілі раней, чым павінен быў адбыцца выбух.

Апроч усяго, у лошыцкім парку расце цудадзейны дуб. Як кажуць мясцовыя жыхары, сюды здаўна прыходзілі прасіць здароўя і кахання, сяброўства і творчага натхнення. Карацей, каму што трэба было. І ўсе жаданні, асабліва тыя, якія тычацца творчасці, дуб і дагэтуль выконвае.

*Ігар ВУГЛІК*

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА СТАРАЖЫТНЫ МІНСК

***Праблема лакалізацыі старажытнага, першапачатковага Мінска вабіць даследчыкаў пасля публікацыі матэрыялаў беларускага гісторыка А. Ясінскага, дзе ён даводзіў, што першапачаткова горад знаходзіўся на рацэ Менка, у 1066 г. горад быў спалены і перанесены на раку Свіслач. Падставай для гэтага былі летапісныя звесткі 1067 г., у якіх сцвярджалася, што ў якасці помсты за спаленне полацкім князем Усяславам Брачыслававічам Ноўгарада, тры браты — сыны Яраслава Мудрага: Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, якім належалі асноўныя землі Старажытнай Русі, — узялі Мінск (Меньск, Мянеск), забілі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей пабралі ў палон. Пасля яны пайшлі да Нямігі, дзе ў сакавіку 1067 г. і адбылася жорсткая бітва, у якой Усяслаў быў пераможаны, а потым падманам паланёны.***

## ЗАГАДКАВАЯ МЕНА

Тое, што пасля ўзяцця Мінска князі пайшлі да Нямізы — рэчкі ці горада таго ж наймення на гэтай рэчцы — сведчыць, што старажытны Мінск знаходзіўся ў іншым месцы. Даследчыкі лакалізуюць яго на рацэ Менцы ў вярхоўях Пцічы, каля 17 км ад сучаснага Мінска, у ваколіцах вёскі Гарадзішча. Шматлікія раскопкі выявілі там збудаваныя ў V—VII стст. селішчы і гарадзішча IX—XI стст. Г. В. Штыхаў прыводзіць пяць асноўных доказаў таго, што ўзяты Яраславічамі Менеск — гэта паселішча на рацэ Менцы, цэнтр акругі, які існаваў з X ст. і дасягнуў росквіту ў першай палове XI ст. У сучаснай навуцы ёсць прыхільнікі як гэтай, так і традыцыйнай канцэпцыі першапачатковай лакалізацыі нашай сталіцы.

«Слова пра паход Ігаравы» непасрэдна звязвае бітву чатырох князёў з берагамі Нямігі. Спрэчкі ішлі хіба пра тое, дзе: на Свіслачы ці на Менцы, знаходзіўся горад, зруйнаваны, хутчэй за ўсё, у 1066 г. Разам з тым, у гістарыяграфіі сустракаюцца дадзеныя пра іншую лакалізацыю гэтых падзей.

У кнізе «Падарожжа яе Імператарскай Вялікасці ў паўднёвы край Расіі», выдадзенай у Расіі ў 1786 г., згадвалася мястэчка Мена пры рацэ Мене, якое, як пазначана, калісьці было *«моцным горадам»,* вядомым яшчэ з X ст. Далей паведамляецца, што ў 1066 г. горад быў узяты Ізяславам, Святаславам і Усеваладам Яраславічамі, жыхары пабіты, а князь іх Усяслаў злоўлены і адвезены ў палон у Кіеў. Як бачым, захоп горада, бітва на Нямізе, паланенне праз падман Усяслава — зведзены ў адну падзею, а згадка пра асобную бітву на Нямізе ці ў іншым месцы — адсутнічае. Злучэнне ж узяцця горада і бітвы на Нямізе ў адну падзею можа мець і рацыянальнае тлумачэнне, яно з'яўляцца сведчаннем пра нязначнае часовае і прасторавае разыходжанне гэтых падзей. Магчыма, яны былі проста часткамі вялікай сечы, якая спачатку праходзіла як аблога і ўзяцце горада, а пасля бітвы ў полі каля яго?

Разам з тым, злучэнне падзей можа тлумачыцца недасведчанасцю аўтара, бо ў дадзеным выпадку маюцца летапісныя сведчанні. Хутчэй за ўсё, стылістыка выкладання матэрыялу вызначыла «тэлеграфны» характар паведамлення, бо кніга прысвечана паслядоўнаму кароткаму апісанню мясцовасцей, па якіх праходзіла падарожжа. Аўтар




*Населены пункт Мена на карце 1920 г.*

коратка канстатуе вядомыя падзеі з нагоды сустрэчы з вядомым населеным пунктам, і ад яго ў гэтым выпадку нельга патрабаваць гістарычных падрабязнасцей. Тое, што пры расповядзе пра Мену аўтар не карыстаўся вядомымі на той час гістарычнымі крыніцамі, выклаў дадзеныя пэўным інфармацыйным згусткам, сведчыць пра аўтаномнасць крыніцы інфармацыі, якая існавала па-за межамі гістарычнай традыцыі, што склалася ў дачыненні да лакалізацыі старажытнага Мінска. Тое, што бітва на Нямізе нават не згадваецца, не памяншае гістарыяграфічнай каштоўнасці гэтай крыніцы. Галоўнае ў ёй — канстатацыя сувязі ракі і паселішча з вядомымі гістарычнымі падзеямі, вынікам якіх сталіся параза і захоп у палон князя Усяслава. Тое, што аўтар прыводзіць гэту інфармацыю як аксіёму, нават не робячы спробы праверыць яе дакладнасць, можа сведчыць пра агульную вядомасць дадзенага факта ў той перыяд.

У гэтым сэнсе цікавай з'яўляецца інфармацыя пра ўзяцце Яраславічамі Мены. У старажытных, сучасных аўтару «Падарожжа...» расійскіх тэкстах мы яе не сустракаем, у іх традыцыйна захоп горада і бітва звязваюцца з цяперашнім Мінскам і ракой Нямігай. Напэўна, яна была атрымана падчас падарожжа, удзельнікам якога з'яўляўся аўтар, і мела мясцовае паходжанне, што сведчыць пра наяўнасць яе вуснай ці невядомай пісьмовай традыцыі. Так ці інакш, мы будзем зыходзіць у першую чаргу з дадзенага гістарыяграфічнага сведчання пра Мену як горад, які калісьці захапілі і вынішчылі князі Яраславічы: пра гэта сведчыць летапіс.

Перад Менай у «Падарожжы...» фіксуецца Сосніца, пасля — Бярэзна, мясціны ў кнізе адзначаны ў адным вызначаным геаграфічным напрамку — да Мены па чарзе згадваліся Вележ, Мсціслаўе, Крычаў, Чэрыкаў, Чачэрск. Такім чынам, у дадзеным выпадку маецца на ўвазе размешчанае ў былой Чарнігаўскай губерні і адзначанае на мапах пачатку XX ст. на ўсход ад Чарнігава паселішча Мена, лакалізаванае на шляху ад Бярэзны да Сосніцы, побач з вёскай Баба. З захаду на ўсход Мену перасякала вялікая дарога з Чарнігава да Канатопа. Праз Мену пазней ішла чыгунка ў накірунку з Бахмача на Гомель. Рака — прыток Дзясны, дзе размешчана Мена, таксама называецца Мена. Пасяленне мае старажытныя археалагічныя матэрыялы, якія належаць да валынцаўскіх помнікаў славянскага племені севяран (усходняе памежжа арэалу), што датуюцца VII—X стст. Для помнікаў гэтага тыпу былі ўласцівы селішчы, хаця магло

быць і выключэнне — Біціцкае гарадзішча. Каля Мены вядомы курганныя могільнікі з трупапакладаннем не ўласцівым валынскай групе помнікаў, тут знойдзены клад з пальчатымі фібуламі.

Між іншым адзначым, што рэкі з падобнай назвай і старажытнымі населенымі пунктамі на іх меліся не толькі на Чарнігаўшчыне. Вялікая вёска Менка, якая налічвала 450 жыхароў, згадвалася на пачатку XX ст. у Смаленскай губерні і месцілася адносна недалёка ад горада Вязьмы — на рацэ Менцы, у трох вёрстах на паўднёвы захад ад сяла Спас-Целяпнёва, якое таксама знаходзілася на гэтай рэчцы. Рака Менка ёсць і ў Смалявіцкім раёне Мінскай вобласці. Сярод усіх гэтых рэк і паселішчаў з коранем *«мен»* толькі два — з Вяземшчыны і Чарнігаўшчыны — маюць гістарычна зафіксаваныя адпаведныя гідранімічныя і тапанімічныя назвы.

## ДЗЕ ЗНАХОДЗІЛАСЯ СТАРАЖЫТНАЯ НЯМІЗА?

Пасля ўзяцця Менска, тры князі «*поидоша к Немизе*». Тое, што Няміза была горадам, а не ракой, з'яўляецца досыць верагодным. Як слушна заўважыў Э. М. Загарульскі, у летапісах выраз *«пойти к...»* часцей ужываўся ў дачыненні да горада, у той час як у дачыненні да ракі часцей выкарыстоўваўся прыназоўнік *«на»*. Таксама адзначым, што пад летапіснай Нямігай у гістарычных тэкстах пачатку XIX ст. часам разумеўся Нёман. І нават калі на ўвазе мелася рака, дык яе размяшчэнне магло быць досыць далёка ад сучаснага. Апроч таго, горад з такой назвай існаваў, ён згадваўся ў грунтоўным рукапісе сярэдзіны XV ст. — «Спісе рускіх гарадоў», які быў складзены, на думку рускага вучонага М. М. Ціхамірава, у канцы XIV ст. Там сярод гарадоў «Літоўскіх» (належалі да Вялікага Княства Літоўскага) названы *«Немиза»* і *«Менеск»*. Няміза належыць да пэўнай тэрытарыяльнай групы гарадоў, чыё месцазнаходжанне не высветлена. Аднак, зыходзячы з паслядоўнасці, у якой названы гарады, можна меркаваць, што Няміза знаходзілася на паўночным усходзе Беларусі. Лакалізацыю старажытнай Нямізы можна ўдакладніць па некаторых акаляючых дадзеных «Спіса...». «Літоўскія гарады» пералічваюцца ў геаграфічным парадку з захаду на ўсход — першымі названы цяперашнія Слуцк, Гродна, іншыя заходнія гарады, у тым ліку Коўна, Вільна, Старыя і Новыя Трокі, потым Крэва, Гальшаны, невядомы Беразуеск, Друцеск, Няміза, Орша, Горволь, Свіслач, Лукомль, Лагойск, Полацк на Дзвіне і на Палаце, Віцебск і г. д. Як бачым, падгрупа гарадоў, куды патрапіла Няміза, прывязана да міжрэчча Друці і Бярэзіны. Затым пералік страчвае пэўную паслядоўнасць, ён нібыта апісвае амаль замкнёны авал ад Друці да Горваля, Друцка, Свіслачы, куды можа ўвайсці Беразуеск — магчымае Беразіно (на поўначы ад Бягомля ці на поўдзень ад Барысава), Бялавічы, Бялынічы. Так ці інакш, логіка спіса патрабуе лакалізаваць Нямізу паміж вытокамі Друці і басейнам Дняпра ў раёне Оршы. Увогуле, аўтар «Спіса...» робіць вялікія прасторавыя скачкі: «Менеск» узгадваецца пасля Пералая (на поўдзень ад Старых і Новых Трокаў), Родна (раён Крычава, Мсціслаўя), але за ім пасля невядомага «Мченеска», адзначаны «Ижеславль» (Заслаўе). Малаверагодна, каб аўтар зрабіў значны прасторавы разрыў у лакалізацыі Нямізы, пералічваючы размешчаныя адносна недалёка Друцк і Оршу, бо тады б пералік гарадоў, як гэта ўласціва «Спісу...», пачаўся б з новага, тэрытарыяльна далёкага населенага пункта. Гэтая лакалізацыя Нямізы адпавядае тагачасным гістарычным рэаліям — Усяслаў ішоў на князёў хутчэй за ўсё з раёна Ноўгарада, а войска Яраславічаў рухалася насустрач са Свіслачы, Менкі ці Мены.

Такім чынам, горад Няміза некалі існаваў, прычым адначасова з Мінскам (Мянескам). А ці мог ён атрымаць сваё найменне ад ракі, якая была вядома ў той час? Даследчыкі катэгарычна адмаўляюць магчымасць наяўнасці на адной рацэ двух гарадоў — Мінска і Нямізы. Разам з тым, на той жа Свіслачы згодна «Спіса рускіх гарадоў» было ажно тры гарады: Свіслач, Менеск, Іжэслаўль. Самыя раннія пабудовы на Мінскім замчышчы належаць да XI ст., шэраг знойдзеных археолагамі рэчаў — да X ст., г. зн., што ў часы бітвы гэта было хай не надта вялікае і вядомае, але селішча. Чаму не ўявіць, што пасля ўзяцця Мены на Чарнігаўшчыне, Яраславічы сустрэліся з Усяславам каля

горада на рацэ Нямізе з такім жа найменнем? Гэта можа патлумачыць, на што сышоў час для войска Яраславічаў з лютай зімы па пачатак вясны.

У другой палове XIX ст. мінскае прадмесце называлася Нямігай, і не выключана, што яно — матэрыяльны рэлікт ці гістарычная памяць пра наяўнасць былога пасялення непасрэдна на Нямізе. Акрамя таго, мы слаба ўяўляем, якой раней магла быць гэтая рака, як далёка знаходзіліся яе вытокі. Дастаткова сказаць, што нават амаль высахлая, яна ў час дажджоў утварала небяспеку паводкі, як гэта здарылася 20 сакавіка 1901 г. Разам з тым, адзначым, што сярод археалагічных помнікаў усходнеславянскай культуры, па XIII ст. уключна, няма тых, што назвай і размяшчэннем супадаюць з ракой Нямізай (Нямігай). Адзінае істотнае паселішча каля ракі Нямізы — Мінск — ніяк не звязана сваім імем з гэтай рэчкай. Лакалізацыя горада Нямізы недзе ў раёне Оршы адпавядае гістарычнай рэчаіснасці таго часу. Такім чынам, праблема лакалізацыі старажытнага Мянеска і гістарычна звязанага з ім падзеямі 1066, 1067 гг. горада Нямізы (ці ракі з такой назвай) набывае новыя ракурсы.

Найперш гэта тычыцца горада Нямізы. Няміза — невялікі, не знойдзены да нашага часу горад у Полацкім княстве паміж вытокамі Друці і Бярэзіны, галоўная гістарычная падзея, звязаная з ім — бітва 1067 г. Ён паступова знік з гістарычнай карты недзе ў XV—XVI стст. Пры гэтым спалены Мянеск мог знаходзіцца як на Чарнігаўшчыне, так і на рацэ Менцы каля сучаснага Мінска, так і каля Свіслачы. Гэта адпавядае факту гістарычнага суіснавання ў далейшым Нямізы і Менска, як не звязаных паміж сабой населеных пунктаў. Што да тэксту «Слова пра паход Ігаравы», дык сумніўнае паходжанне гэтага помніка не дазваляе лічыць яго сур'ёзнай гістарычнай крыніцай, яго аўтар-пераймальнік мог выкарыстаць традыцыйную для XIX ст. канву падзей.

Існаванне горада Нямізы на поўнач ад Мінска сведчыць і на карысць лакалізацыі старажытнага горада на тэрыторыі сучаснай сталіцы, бо тады робіцца зразумелым, куды пайшлі Яраславічы пасля руйнавання Мянеска. Разам з тым, таямнічым застаецца паходжанне назвы горада, і гэта пераводзіць праблему лакалізацыі старажытнага Мінска ў анамастычную. Не трэба забываецца, што паходжанне назвы нашай сталіцы магло мець і іншыя вытокі. Гэта — імя легендарнага, небяспечнага для добрых людзей асілка, чарадзея Мянеска (Менеска), які меў млын і быў выгнаны з горада іншым, больш моцным чарадзеем, якога паклікалі людзі.

У гісторыі старажытнай Беларусі ёсць прыклады патранімічных тапонімаў — гарады Тураў (ад легендарнага князя Тура), Заслаўе — ад князя Ізяслава. Праблематычным выглядае тое, што Мянеск быў нядобрым чарадзеем, у гонар якіх гарады не называюць, хаця на Беларусі і ёсць прыклад Машэкі-Магілёва. Таксама ў аснове назвы горада магло ляжаць слова мена, абмен, г. зн. гандаль, чаму спрыяла размяшчэнне Мінска ў басейнах некалькіх рэк. Акрамя Нямігі і Свіслачы, гэта вусці рэк Крупкі і Сцепні, якія згадваліся яшчэ на пачатку XX ст.

## СУПЯРЭЧЛІВАСЦЬ ЛЕТАПІСНАГА МЕНСКА СУЧАСНАМУ

Дадзеныя пра Мену на Чарнігаўшчыне і горад Няміза на ўсходняй поўначы Беларусі дазваляюць выказаць меркаванні пра тое, што цяперашні Мінск не меў дачынення да падзей 1067 года: Яраславічы ўзялі і зруйнавалі Мену на Менцы на Чарнігаўшчыне, потым пайшлі на поўнач, каб сустрэцца з войскам Усяслава, з якім сышліся каля горада Няміза недзе ў міжрэччы Друці і Бярэзіны. На карысць сувязі Мены на Чарнігаўшчыне, узятага трыма князямі горада і пазнейшай бітвы на Нямізе сведчыць і часавая каардыната: летапіс паведамляе, што Яраславічы пайшлі на Усяслава ў суворую зіму («*зиме суще велице*»). Напэўна, у такую ж пару, як сведчыць кантэкст летапісу, узялі Мянеск, а бітва каля Нямізы (ракі ці горада) адбылася 3 сакавіка 1067 г. Ішоў, як адзначаў летапісец, вялікі снег, але сакавік — вясновы месяц. Ці то надвор'е ў той час было занадта халодным, ці то Мену і Нямізу раздзяляла адносна вялікая прастора. Да таго ж, калі б Няміза і Менеск былі побач, тады чаму Усяслаў пайшоў супраць Яраславічаў толькі пасля таго, як тыя вынішчылі горад, а не аб'яднаўся з менчукамі, каб з двух бакоў ударыць па князях? Навошта ён аддаў горад на згубу, раз'яднаў свае сілы і гэтым прадвызначыў сваю паразу?



*Бітва на Нямізе. Гравюра.*

На карысць паўночнай лакалізацыі Нямізы сведчыць і летапіснае паведамленне пра тое, што падмануты князямі Усяслаў перад тым як трапіць да іх у палон, пераплыў Дняпро. Тады спусташэнне 1084 г. ужо звязана з горадам, які стаяў на тэрыторыі цяперашняга Мінска. Так ці інакш, Мена на Чарнігаўшчыне — адзіны надзейны, з устойлівай гістарычнай назвай населены пункт, які лагічна і гістарыяграфічна (сведчанне «Падарожжа…») можа быць звязаны са старажытным Мінскам і падзеямі 1067 г. Бо Менск на Менцы бясследна знік, а замчышча на тэрыторыі цяперашняга Мінска можна атаясамляць з Мінскам летапісным толькі тады, калі яго назва была звязана з чарадзеем Мянескам.

Адкуль жа ўзяўся старажытны горад з назвай Менск на берагах Свіслачы і Нямігі? Хутчэй за ўсё, ён быў перанесены ці з Мены ці з Менкі. Пераносы гарадоў пры захаванні назваў, як сведчаць летапісы, мелі месца ў той час на землях усходнеславянскіх княстваў. Гэта можа тлумачыцца самымі рознымі прычынамі, у першую чаргу, палітычным загадам князя ці ўцёкамі мігрантаў. У дадзеным выпадку, больш верагодным прадстаўляецца варыянт з паселішчам на Пцічы, якое паступова знікла, бо Мена на Чарнігаўшчыне працягвала сваё існаванне з ранейшай назвай, што ў цэлым не было ўласціва перанесеным гарадам. Разам з тым, адначасова мог мець месца факт існавання старога і новага гарадоў (напрыклад, Стары і Новы Быхаў, Старыя і Новыя Трокі).

Тады гіпотэза пра Мянеск на Чарнігаўшчыне стасуецца з вядомай версіяй, згодна з якой пасяленне на рацэ Менка каля Мінска ўжо мае дачыненне да ваенных падзей, але іншага часу. Яраславічы ўзялі горад на рацэ Мене, перамаглі Усяслава каля горада Нямізы і пасля 1067 г. «Менск» згадваецца ўжо ў «Павучэнні» Уладзіміра Манамаха, дзе распавядаецца, што горад быў цалкам вынішчаны, у ім не засталося ані людзей, ані жывёл. Гэтую падзею даследчыкі адносяць да 1078 ці 1084 гг. А што, калі гаворка тут ідзе пра пасяленне на рацэ Менка і менавіта пасля гэтага разгрому горад, яго назва перайшлі на Свіслач і канчаткова ўсталяваліся на сваім звыклым месцы? Датаванне пабудоў старажытнага горада не дазваляе дакладна вызначыць дату пераезду, якая вагаецца ў межах дваццаці гадоў. Калі Мінск спрадвеку стаяў на цяперашнім месцы, то якія намаганні трэба было прыкласці, каб яму не толькі захавацца ўвогуле, але і зрабіцца ў пачатку XII ст. цэнтрам княства пасля двух жудасных вынішчэнняў — у 1067 і 1084 гадах? Больш верагодна, што гэтыя падзеі тычыліся двух розных населеных пунктаў — на рацэ Мене і рацэ Менцы, з якога рэшткі насельніцтва канчаткова перайшлі ў невялічкае паселішча каля ракі Свіслач, узяўшы і былую назву. Так зводзяцца гістарычнай логікай тры падзеі — узяцце Менеска (Мены), бітва каля горада Нямізы і разгром Менска ў 1084 г.

Можа быць, захоп Менеска на Чарнігаўшчыне быў звязаны з неабходнасцю ліквідацыі аплоту мясцовага сепаратызму ці горад быў фарпостам уплыву Усяслава? Падаецца, што вытокі разгрому горада хаваюцца ў складаных узаемаадносінах трох Яраславічаў і Усяслава — нездарма пазней Ізяслаў уступіў у хаўрус з Усяславам супраць братоў. Усё гэта патрабуе далейшага вывучэння. Але тое, што геаграфічны дыяпазон падзей 1067 г. быў шырэйшы, чым сучасны Мінск і акаляючыя яго тэрыторыі, падаецца вельмі верагодным.

Ірына КЛІМКОВІЧ

# ДЗВЕ РАДЗІМЫ



***У** Беларусі жывуць прадстаўнікі звыш 140 нацыянальнасцей, для якіх наша краіна зрабілася другой Радзімай. Тут яны вучацца, працуюць, бяруцца шлюбам, тут нараджаюцца іх дзеці, знаходзяць спачын бацькі. Таму не дзіва, што самыя актыўныя прадстаўнікі гэтых нацыянальнасцей імкнуцца стварыць свой культурны асяродак, дзе яны маглі б пачуць родную мову, праспяваць песні, успомніць дарагія сэрцу мясціны. Такіх нацыянальна-культурных аб'яднанняў у Беларусі налічваецца ажно 25.*

*Адным з найбольш актыўных з'яўляецца ГА Мінскае гарадское армянскае культурна-асветніцкае таварыства «Айастан», якое зусім нядаўна адсвяткавала дваццаць гадоў свайго існавання. Ягоны старшыня — Георгій Анушаванавіч ЕГІАЗАРАН нарадзіўся ў Ерэване ў 1954 годзе, а з 1979 жыве ў Мінску. Скончыў Кіеўскі інстытут інжынераў грамадзянскай авіяцыі, працуе намеснікам генеральнага дырэктара УП «Авіякампанія Трансавіяэкспарт». У 1990 годзе быў другі раз абраны старшынёй Савета нацыянальных аб'яднанняў Беларускага рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур. Дзякуючы яму, мы зробім кароткі экскурс у гісторыю, пазнаёмім вас з таварыствам «Айастан» і яго сябрамі, людзьмі, якім не абыякава паняцце «Радзіма».*

## АРМЯНЕ І БЕЛАРУСЬ

Армяне не належаць да тых народаў, якія жылі ў Беларусі стагоддзямі, хаця сувязі паміж армянамі і беларусамі існуюць вельмі даўно. Выклікана гэта ў першую чаргу гандлёвай неабходнасцю. На землях Рэчы Паспалітай, часткай якіх была сённяшняя Беларусь, армяне пачалі сяліцца яшчэ ў сярэднявеччы. Самы знакаміты — майстра ткач **Ян Маджарскі**, або **Аванэс Маджаранц**, якога напрыканцы 1750-х гадоў князь Міхаіл Казімір Радзівіл запрасіў кіраваць створанай у Слуцку персіярняй, знакамітай слуцкай мануфактурай па вырабе паясоў. У канцы 70-х гадоў Ян Маджарскі, а пазней яго сын — Лявон былі арандатарамі мануфактуры. Лявон арандаваў фабрыку да 1807 г.

У 1882 г. слынны армянскі мастак **Іван Канстанцінавіч Айвазоўскі** (**Аванэс Айвазян**) наведаў Мінск і падарыў сваю карціну «Марскі бой» мінскаму таварыству дапамогі навучэнцам.

Самы вядомы дзеяч-армянін у Беларусі ў паслякастрычніцкі перыяд — **Аляксандр Фёдаравіч Мяснікоў** (**Мяснікян**). Ён быў старшынёй ЦКП(б)Б, старшынёй ЦВК БССР, намеснікам старшыні СНК і Наркама па ваенных справах Беларусі. У Мінску імем А. Мяснікова названы вагонарамонтны завод, на тэрыторыі якога ў яго гонар усталяваны помнік. Яго імя носіць таксама адна з плошчаў у цэнтры Мінска і вуліца, якая да яе прылягае. Тут можна пабачыць і адпаведную мемарыяльную дошку.

Шмат армян усталёўвала ў нашай краіне савецкую ўладу, шмат брала ўдзел у вайне 1941—1945 гг. Натуральна, што некаторыя з іх вырашылі замацавацца ў Беларусі. Яны гераічна змагаліся за агульную тады для ўсіх савецкіх людзей Радзіму і шмат хто з іх атры-

маў самыя высокія ўзнагароды. Гэта: маршал бронетанкавых войск, Герой Савецкага Саюза **Ямазосп Хачатуравіч Бабаджанян**; савецкі ваенны дзеяч, герой грамадзянскай вайны, удзельнік вызвалення Беларусі **Гай (Гойк) Дзмітрыевіч Бжышкянц**; адзін з кіраўнікоў барацьбы за савецкую ўладу ў Беларусі **Іван Якаўлевіч Ялібекаў**; маршал, двойчы Герой Савецкага Саюза, камандуючы 1-м Прыбалтыйскім і 3-м Беларускім франтамі **Іван Хрыстафоравіч Баграмян**; генерал-палкоўнік авіяцыі, камандуючы 2-й асобнай арміяй СПА, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР **Сяргей Аркадзьевіч Сардараў**; Герой Савецкага Саюза, які праславіўся ў баях пры вызваленні Беларусі ад нацыстаў, **Газарас Авецісавіч Авакян**. Некаторымі з гэтых імён названы вуліцы Мінска.

Пасля заканчэння вайны і дэмабілізацыі, некаторыя армяне, якія бралі ўдзел у вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у складзе Савецкай Арміі і партызанскіх атрадаў, засталіся жыць у Беларусі. Гэтаму спрыяла і маштабнае будаўніцтва, якое распачалося ў Мінску пасля вайны. Па перапісе насельніцтва 1989 года ў Беларускай ССР пражывала 4 800 армян. Гэта тыя армяне, якія прыехалі сюды пры савецкай уладзе, калі ў СССР маладыя спецыялісты размяркоўваліся ў іншыя рэспублікі. Асноўная хваля армян-эмігрантаў з'явілася ў Беларусі пасля трагічных падзей 1988 года ў Нагорным Карабаху, Арменіі і Азербайджане, Спітакскага землятрусу і распаду Савецкага Саюза. За гэтыя дзесяць гадоў колькасць армян у нашай краіне павялічылася больш чым удвая. З іх асяродку вылучыўся шэраг прадстаўнікоў навукі і культуры, дзяржаўных дзеячаў і буйных прадпрымальнікаў. Усяго ў свеце жыве 10 мільёнаў армян, з іх у Арменіі — 3 мільёны, а ў Беларусі, паводле неафіцыйных дадзеных — каля 35 000.

Беларускае грамадства, выхаванае на прынцыпах міжэтнічнай і міжканфесіянальнай талерантнасці, праявіла ў адносінах да армян сапраўдную гасціннасць. Па вялікім рахунку, беларусаў і армян злучае шмат агульнага: іх драматычныя, гістарычныя лёсы вельмі падобны, іх аб'ядноўвае і схільнасць да хрысціянскіх каштоўнасцей.



*Армянская царква Аруч, IV ст.*

## ГІСТОРЫЯ З'ЯЎЛЕННЯ ТАВАРЫСТВА

У 1990 годзе прадстаўнікі армянскай інтэлігенцыі, якія жылі ў Мінску, стварылі культурна-асветніцкае таварыства «Айастан». Так па-армянску завецца краіна Арменія — ад імені **Айк**, або **Хайк**, якое меў старажытны першапродак нацыі. А самая першая армянская дзяржава месцілася на тэрыторыі сённяшняй усходняй Турцыі і мела назву **Урарту**, сугучную з імем гары **Арарат**. Менавіта тут спыніў свой каўчэг біблейскі Ной.

Ля вытокаў таварыства стаялі такія знакамітыя людзі культуры Рэспублікі Беларусь, як **Мамікон Георгіевіч Кіракозаў**, **Лявон Казаравіч Егаян**, **Юрый Паўлавіч Аракелян**, архітэктар **Армэн Сяргеевіч Сардараў**, актывісты **Андрэй** і **Сяргей Амбарцумяны**, **Георгій Анушаванавіч Егіазаран** і іншыя. Ідэя стварэння таварыства належыць вядомаму мастаку **Лявону Дабрыняну**, ён жа быў і яго першым старшынёй. Л. Дабрынян жыве ў Беларусі з 1970 года, і пра яго ўжо не скажаш, што ён прышлы.

Пра стварэнне свайго культурнага асяродка мінскія армяне пачалі задумвацца

сфарміравалася маладзёжная арганізацыя таварыства. А ў 2007 годзе з'явіўся і дзіцячы ансамбль **«Арэвік»**, куды ўваходзяць вучні мінскай нядзельнай школы. Канцэрты армянскіх гуртоў і асобных выканаўцаў, удзел у выставах сталі добрай традыцыяй. І апроч гастроляў па Беларусі, калектывы таварыства выступалі ў Арменіі, Расіі, Вялікабрытаніі, Чэхіі і іншых краінах.



*Сябры «Айастана» каля Хачкара на вайсковых могілках.*

Таварыства «Айастан» супрацоўнічае і з іншымі армянскімі суполкамі. Цяпер падобныя грамадскія арганізацыі створаны ў Магілёве («Масіс»), Гродне («Мусалер») і Бабруйску («Урарту»). Нефармальныя армянскія аб'яднанні ёсць у Брэсце, Віцебску, Гомелі. У Бабруйску і Магілёве працуюць школы выхаднога дня. Мінская, Магілёўская і Бабруйская арганізацыі маюць свае бібліятэкі і фільматэкі.

Жыццё армянскай суполкі ў Беларусі адлюстроўваюць беларускія перыядычныя выданні, грамадская газета армян Беларусі **«Міасін»**. Існуе міжнародная газета армян «**Ноеў Каўчэг**», якая выдаецца ў Расіі, і міжнародны часопіс «**Кола**» ў Мінску. Газета «Ноеў каўчэг» мае ў Беларусі ўласнага карэспандэнта.

Падтрымліваецца кантакт з армянскімі аб'яднаннямі іншых краін. «Айастан» брала ўдзел ва ўсіх трох Сусветных форумах армян, што праводзяцца ў Ерэване, а таксама ў з'ездзе, які нядаўна адбыўся ў Маскве, стала сузаснавальнікам Сусветнага армянскага кангрэса. Плюс да ўсяго таварыства «Айастан» з'яўляецца сябрам Еўрапейскага Саюза армян. Як вы разумееце, у такой шчыльнай інтэграцыі з суайчыннікамі сувязі ўвесь час пашыраюцца і замацоўваюцца. І гэта не проста кантакт, а сакрэт захавання нацыі.

**ПАМЯТНЫЯ МЯСЦІНЫ**

У 1991 годзе на Вайсковых могілках каля царквы Аляксандра Неўскага з'явіўся крыжпомнік **«хачкар»**. Гэта месца дарагое для ўсіх армян Беларусі. Тут пачынаюцца ўрачыстыя афіцыйныя мерапрыемствы, сюды прыводзяць гасцей з далёкай Радзімы. Хачкар быў зроблены ў Арменіі, асвячоны ў Эчміадзіне і ўсталяваны ў памяць пра Спітакскі землятрус. Культура хачкара ўнікальная, і ва ўсіх хрысціянскіх рэгіёнах характэрна толькі для армян. Менавіта ў хачкарах адлюстраваліся першыя сімвалы хрысціянскай веры. Таму яны і сталі сімвалам армянскага народа. Нагодай для ўсталявання хачкара з'яўляецца падзея, якая аказала ўплыў на лёс армян. Яна можа быць радаснай, як, напрыклад, перамога армянскага войска ў якой-небудзь бітве. Можа быць і сумнай, як у дадзеным выпадку.

Увогуле, армянскі народ вылучаецца асаблівымі адносінамі да царквы і рэлігіі. Па розных прычынах, пачынаючы з XIV ст., армяне былі вымушаны пакідаць сваю гістарычную радзіму і рассяляцца па ўсім свеце. Захавацца як адзінай нацыі ім дапамагла перадусім Армянская Апостальская Царква. Ва ўсіх краінах вакол Беларусі ёсць армянскія цэрквы — і ў Расіі, і на Украіне, і ў Польшчы… Таму армяне Беларусі робяць усё магчымае, каб і ў нас быў пабудаваны армянскі храм. Першы крок быў зроблены ў 2003 годзе, у Мінску была створана рэлігійная грамада «Святы Рыгор Асветнік» Армянскай Апостальскай Царквы. Цяпер вырашаецца пытанне пра месца для будаў-



*Кафедральны сабор св. Эчміадзіна, пачаў будавацца ў 303 г.*

ніцтва царквы, ідзе збор ахвяраванняў. Наперадзе вялікая праца. Якой будзе армянская царква ў Мінску, пакажа час, але ўсе армяне ў Беларусі ўпэўнены, што неўзабаве яна абавязкова будзе пабудавана.

## СВЯТЫ І ТРАДЫЦЫІ

У першую чаргу армянскія традыцыі тычацца сям'і, у якой асабліва развіта шанаванне старэйшых. Галавой сям'і заведзена лічыць старэйшага ў родзе мужчыну. У Беларусі, дзе большасць армянскіх шлюбаў змешаныя, гэтай традыцыі тым не менш прытрымліваюцца. Армяне, што жывуць у нас, адзначаюць усе святы сваёй радзімы… Захавалася і шмат традыцыйных народных звычаяў. Да прыкладу, ушанаванне першага ўраджаю ў жніўні — «Навасарт» — або ахвярапрынашэнне ягнят падчас некаторых рэлігійных свят. Традыцыйным для армян з'яўляецца Варданк, дзень **Святога Вардана**, які адзначаюць 15 лютага ў памяць пра паразу армянскага войска на чале з **Варданам Маміканянам** у бітве з персамі на Аварайскім полі. У гэтай вайне персы імкнуліся прымусам павярнуць армян у язычніцтва. Аднак калі яны перамаглі, страціўшы пры гэтым шмат людзей, то адмовіліся ад сваіх намераў. Так армяне захавалі хрысціянскую веру, адстаялі яе са зброяй у руках.

Сёння ў Рэспубліцы Арменія афіцыйна адзначаюць такія святы і памятныя дні, як Новы год — 31 снежня, 1—2 студзеня; Раство — 6 студзеня; у сакавіку— маі — Вялікдзень; Свята Маці і Кахання — 7 красавіка, Дзень памяці ахвяр генацыду армян — 24 красавіка (1915); Дзень Перамогі і Міру — 9 мая; Дзень першай Рэспублікі, або Дзень абвяшчэння Рэспублікі Арменія, — 28 мая (1918); Дзень Канстытуцыі — 5 ліпеня; Дзень незалежнасці — 21 верасня; 7 снежня адзначаюць таксама Дзень памяці ахвяр Спітакскага землятрусу.

Усе гэтыя святы беларускія армяне адзначаюць тут, у далечыні ад сваёй Радзімы. Кожная суполка збіраецца разам за адным сталом, каб зблізіцца і адчуць сваё, нацыянальнае, захаваць яго для нашчадкаў. Збіраецца на святы і мінскае таварыства «Айастан». Яны не забываюць пра свае звычаі і абрады. Тут упэўнены, што людзі другіх нацыянальнасцей, якія жывуць побач, таксама павінны ўбачыць і зразумець, якая багатая армянская культура і якія годныя людзі армяне.

# «ГАВАРЫ, АРМЕНІЯ!»: пераклады вершаў армянскіх паэтаў

***Перш чым пазнаёміць вас з творамі самых вядомых армянскіх паэтаў, мы вырашылі задаць некалькі пытанняў перакладчыку — старшыні таварыства «Беларусь-Арменія» Навуму ГАЛЬПЯРОВІЧУ.***

**— Навум Якаўлевіч, якімі былі асноўныя мэты стварэння таварыства «Беларусь-Арменія» і якія асноўныя прыярытэты яго сённяшняй дзейнасці?**

— Па-першае, таварыствы, створаныя пры Доме дружбы, адпавядаюць тым мэтам, якія ставяцца перад самім Домам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі — найперш, як мага больш даведацца адно пра аднаго. Таму і дзейнасць таварыства «Беларусь-Арменія» накіравана на ўзаемапранікненне культур, на захаванне ўзаемапавагі, набыццё ведаў пра іншы народ. Я заўсёды адзначаю, што армянская культура вельмі карысная для беларусаў, як і тыя гістарычныя здабыткі, спадчына, матэрыяльная і нематэрыяльная, якую мае гэты народ. А сябры таварыства, для якіх Арменія — гістарычная радзіма, яны, канечне, адчуваюць увагу беларусаў, і гэта вельмі моцна яднае нас. А ёсць жа і тыя, у каго адзін з бацькоў — армянін. І яны — тыя, хто маюць дзве радзімы — павінны аднолькава добра ведаць свае карані і любіць тую зямлю, дзе нарадзіліся.

**— Ці могуць у наш час культурныя сувязі ўмацоўваць стасункі паміж дзяржавамі?**

— Як правіла, у большасці нашых мерапрыемстваў бяруць удзел супрацоўнікі пасольства Рэспублікі Арменія ў Рэспубліцы Беларусь, надаючы ім, такім чынам, пэўны міждзяржаўны статус. Яны адчуваюць увагу да сваёй краіны, і заўжды на авансцэне стаяць два дзяржаўныя сцягі — Беларусі і Арменіі. Гэта сведчыць пра тое, што чалавечае і грамадскае тут спалучаецца і мацуе абодва бакі.

**— Ці шмат у Таварыства маладых сяброў і што найбольш цікавіць іх у сучасных беларуска-армянскіх справах?**

— Гэта ў першую чаргу дзеці армянскіх і змешаных сем'яў, шмат моладзі ў ансамблі «Эрэбуні». Дарэчы, калі бачыш іх выступленні ў нацыянальных строях, не адразу заўважаеш, што не ўсе там армяне. Тое, што яны выступаюць разам — і армяне, і беларусы, і рускія — якраз гаворыць пра іх цікавасць да Арменіі, яе культуры. Дзеля захавання гэтай сувязі трэба каб у Таварыстве было больш моладзі, каб прыходзілі прадстаўнікі старэйшага пакалення, прыводзілі сваіх дзяцей, унукаў. А на нашых вечарынах, акрамя таго, выступаюць студэнты Акадэміі музыкі, БДУ. Яны чытаюць вершы армянскіх паэтаў у перакладзе, выконваюць музыку армянскіх кампазітараў. Наогул, мы імкнёмся дапамагчы моладзі атрымаць веды пра гэты старажытны народ.

**— Наколькі важнай з'яўляецца сёння дзейнасць перакладчыкаў мастацкіх твораў?**

— Перакладчык сёння — гэта праваднік па нязведанай прасторы. Уявіце сабе, калі Калумб адкрыў Амерыку, ён пабачыў цудоўную зямлю і імкнуўся падзяліцца яе харaством з іншымі. Перакладчык, як Калумб, уваходзіць у душу народа, бачыць яго веліч і адкрывае ўсім скарбы яго культуры. Паглядзіце, якія цудоўныя радкі ў Геворга Эміна, якія метафары ў Авеціка Ісаакяна, колькі шчырасці ў Аванэса Туманяна! Мне было вельмі цяжка перакладаць, не ведаючы дасканала мовы, але, дакранаючыся да вобразаў, да энергіі гэтых вершаў, узбагачаешся сам, узбагачаеш сваю душу новым пачуццём. І я цяпер са свайго перакладчыцкага вопыту магу сказаць, што не так

важна дакладна перакласці кожны радок, а галоўнае — душой адчуць настрой, тую нацыянальную нотку, якая ў сваім выкананні, сваёй афарбоўцы ўсё роўна будзе гаварыць пра агульначалавечыя каштоўнасці: каханне застанецца каханнем, вера — верай, а Радзіма — Радзімай. І я нават сам дзіўлюся, як часам лёгка ідуць радкі. Нібыта далі заданне напісаць пра штосьці сваё, і ты ідзеш следам за радкамі армянскага паэта, нібы акцёр, пераўвасабляешся ў яго, на пэўны час становішся Аванэсам Туманянам, напрыклад, і гаворыш яго голасам — толькі на сваёй мове.

**— А якім чынам фарміравалася менавіта гэтая нізка, як Вы выбіралі прадстаўнікоў армянскай літаратуры, што мусяць стаць блізкімі беларусам?**

— Мяне цікавіла найперш грамадзянская лірыка. Тое, што характэрна, на мой погляд, для ўсёй армянскай літаратуры, — глыбокая павага да сваёй гісторыі і да трагізму, шчымлівая нота любові да сваёй зямлі, сваёй мовы. Гэта і стала для мяне асновай выбару вершаў для перакладу. Я хацеў, каб беларусы зразумелі гэты патрыятызм, адчулі яго ў адносінах да сваёй зямлі і сваёй мовы. Дапамог мне ў выбары аўтараў і мой сябра, пісьменнік Ганад Чарказян. Ён закончыў армянскую школу, жыў у Арменіі, уваходзіць у Таварыства «Беларусь-Арменія» і, даведаўшыся пра маю цікавасць, прыносіў мне кніжкі, уводзіў мяне ў свет армянскай літаратуры і быў там маім правадніком.

**— Што ж яднае нашыя літаратуры?**

— Мне здаецца, што беларускую і армянскую літаратуру збліжае ўвага да сваёй мовы, да сваёй культуры. Армяне, якія раскіданы па ўсім свеце, не забываюцца на сваю мову, шануюць свае традыцыі, сваіх класікаў. І беларускія пісьменнікі, у першую чаргу, дбалі пра гэта. Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Пімен Панчанка, Змітрок Бядуля, Уладзімір Караткевіч — я магу называць вельмі многіх, для каго галоўным была мова, гісторыя і культура. Для беларускіх паэтаў мова беларуская — такі ж Арарат, як і для армян іх родная мова.

***Гутарыла Таццяна СІВЕЦ***

## Авецік ІСААКЯН
*(1875—1957)*

* * *

Цярновы нада мной вянок,
Ды чыстая душа.
Іду і не шкадую ног.

І думку светлую маю
Я людзям аддаю.

Якая мэта кліча ў шлях?
Чакаю новых дзён,
Як зарунее на палях.

Надзеяй свеціцца прасцяг
І палымнее, быццам сцяг.

* * *

На твой твар зноўку хмары ляглі.
Апрануўся ў туман Алагез.
Сёння сонца не свеціць і мне.
І на сэрцы туман, Алагез.

Я на ўзгорках блукаючы зноў,
Бачыў смутак людскі і бяду.
Ды такой, як мая, Алагез,
І не ўбачу , бадай, не знайду.

Эй вы, птушкі Манташа-гары,
Ваша пер’е на сонцы гарыць.
Ды, каб зведалі гора маё,
Пачарнелі б, нібы вараннё.

Эй, вятрыскі Манташа-гары,
Спадарожнікі юнай зары,
Падхапілі б мой стоены боль
І панеслі б навекі з сабой.

Мне ж і крылаў сваіх не узняць,
Каб падняцца к табе, Алагез,
Сэрца хвораму сэрцу аддаць
І святую малітву сказаць.

* * *

А кара́лі на шыі тваёй
Выпраменьваюць ціха святло,

І на сэрца кладзецца спакой,
Быццам шчасце нарэшце прыйшло.

Быццам слёзы кахання майго,
Быццам мрояў юначых пара...
Спапяляе кахання агонь,
І кара́лі на шыі гараць.

* * *

Я прыпадобіў сэрца небу,
Бо скрозь маўклівы зорак рой
Яно лампадаю жывой
Нам свеціць, бо ў ім ёсць патрэба.

Я прыпадобіў сэрца небу,
Каб кветак водар памацнеў,
І каб разліўся птушак спеў,

Высока воблакі плылі,
Было каханне на зямлі
І думкі светлыя былі...

Я прыпадобіў сэрца небу.

## Аванэс ТУМАНЯН
*(1869—1923)*

### ВЫГНАННІК Я, СЯСТРЫЦА

Выгнаннік я, сястрыца, з юных дзён
Заручаны з такім наканаваннем,
Іду ў краіну ценяў праз праклён.
Адзін, выгнаннік.

Былыя дні, і крыўды, і вякі
Нясу з сабою.
Скрывавіў аб каменне ступакі,
А сэрца — болем.

Кіруюся я ў бок сваёй бяды,
Праз рэкі, горы,
Не трапяткім аленем маладым,
А старцам хворым.

Гаворыш ты, што я шчаслівы тут,
Зірні — заўважыш,
Што мне чужы зусім няродны кут
І боль мой важкі.

Анёл мой малады, адзіны сведка — Бог.
І мне не проста сярод розных выжлаў
Насіць таемны скарб душы з сабой,
І проста — выжыць.

Суцешыцца сярод нялюбых сцен
І памяць сцерці,
Тугой напоўніўшы мой дзень без змен,
І болем — сэрца.

Таму падранкам я лячу ў туман
У іншы свет, нібы ў пустыню.
Я ўсё пакінуў тут. Няўжо і там
Цябе пакіну?

*З дзіцячага*

### ЖАВАРОНКІ

На гумне і смех, і грук.
Жаваронкі — тут як тут.
Дзюбачкамі — тук-тук-тук.
Вылятаюць зноў з-пад рук.
Неўпрыкмет яны з аглядкай
Выкалупваюць зярняткі.

## Геворг ЭМІН
*(1919—1998)*

### ГАВАРЫ, АРМЕНІЯ

Гавары, Арменія!
Дарога да шчасця твая
Класціся ў сэрцах будзе.
І свет твайго слова, нібыта маяк,
Навекі свяціць будзе людзям.

Зірні:
Зноў у водблісках дня
Нам птушкі вясну вяшчуюць.

Дазволь гаварыць ад твайго імя,
Хай землякі пачуюць.

Вы чулі?
Учора ў Кармір-Блурэ знайшлі
Жменю зярнят пшанічных,
Рэшткі таго,
Што продкі мае берaглі,
Ды потам сваім палілі
На той камяністай зямлі.

Тады ж знайшлі
Побач з пшаніцай кап'ё.
Калі вораг нам пагражаў,
Продак кап'ё у руках трымаў,
Баронячы поле сваё...

Ніхто нам не скажа цяпер,
Калі праляцелі вякі,
Які
Быў тады ўраджай у сялян
І колькі аратых было.
Знайшлі толькі жменьку армян.

Ды кожнае зерне пшаніцы той
Ці не цэлае поле?
І сейбіт з сявенькай вясковай сваёй —
І сіла, і мудрасць, і воля...
І жменька зярнят, і жменька народу
Прайшлі праз віхуры, залевы, нягоды,
Каб новым нашчадкам у вочы зірнуць,
Каб тое, што страчана, сёння вярнуць.

**АРМЯНСКАМУ НАРОДУ**

О, як падобна:
Гэтае параненае,
Гэтае моцнае дрэва — як ты...

Аднойчы яно прарасло
На гэтай адвечнай зямлі,
Што вякамі завецца Арменіяй.
На гэтым пыльным ускрайку
Вытаптанай дарогі,
Чый выток — ля вяршыні Вечнасці,
А вусце — ля Смерці Вечнай.
Ствол дрэва коламі абадраны.
Капыты коней раскалолі зямлю на скалы,
А скалы раструшчылі ў пыл.
І агаліліся карані,
І акрапіла іх кроў.
Але паўмёртвае,
Паўжывое,
Зазелянела дрэва, зірні,
І будзе зелянець заўсёды,
Пакуль завецца Арменіяй гэта зямля.

Ты чуеш, яно звініць,
Як быццам ля пыльнай дарогі
Не дрэва, а помнік стаіць.

* * *

Яблыня,
Узняўшыся на дыбачкі,
Уся поўная шчасця,
Згараючы ад рэўнасці
І працягнуўшы руку,
Падарыць табе хацела яблык.
А ты
Падышоў
І знянацку,
Не думаючы,
Руку яе зялёную зламаў —
Тую,
Якой бедалага
Працягвала табе яблык...
Яблыня мая,
Далёкае каханне маё, прабач...
Хто там плача?
Пра што ён плача?...

* * *

Смачны базбаш?*
Няма нічога прасцей!
Для гэтага патрэбны
Кавалак мяса,
Тры цыбуліны,
(Дробненька пакрышаныя),

* Базбаш — усходні абед (летні).

Крыху гароху,
Маладая бульба
І зялёная фасоль.
Ну і, свежая зеляніна
І, вядома, соль.
І...
Ледзь не забыўся
Пра тое, што базбашу надае
асаблівую прывабнасць,
Што, бадай, самае істотнае —
Хаця б адзін сівы валасок
Тваёй любай матулі.

* * *

Масіс, смяешся ты,
А я
Самотны сёння ад бяды тваёй.
Масіс, такі ты малады,
А я
Ад клопатаў тваіх ужо старэю.
Ці не таму ты малады такі,
А я
Сівы, стары, самотны,
Што толькі госць я сёння на зямлі,
А ты на гэтым свеце вечны?
Хай лепей быць цяпер на свеце гэтым
Мне велічнай гарой.
Табе — паэтам.

## Аванэс ШЫРАЗ
*(1915—1984)*

* * *

З трывогай схілілася на полі бою
Дзяўчына руская нада мной.
Лягчэй троху стала гарачай ране
Ад яе сініх вачэй нада мной.
Нібыта ўзнялося ў знямелым тумане
Неба Арменіі нада мной.

* * *

Хто ведае, колькі высіцца сівы Масіс?
Ніхто не ведае!
І колькі вёснаў сустракаў сівы Масіс,
ніхто не ведае.
Ды хоць не тае снег на ім —
ён ёсць вясны ўвасабленне.
А хто гэтага не хоча ведаць,
той у жыцці нічога не ведае.

* * *

Мне кветкі арамат сказаў:
«Ты дыхай мной, бо я сыду».
«Спяшайся, — крыкнуў мне ручай, —
Хутчэй напіся, бо сыду».
Ды я, ўздыхнуўшы, ім сказаў:
«Не вы, сябры, а я сыду».

* * *

Песні, мае дзеці, падрастайце!
Песні, для стагоддзяў падрастайце!
Лепш рабіце і чысцей людзей,
Радасць сейце, шчасце, падрастайце!

***Пераклаў***
***Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ,***
***старшыня таварыства***
***«Беларусь-Арменія»***

# «ЭРЭБУНІ» — ДУША РАДЗІМЫ




***Чатыры гады таму пры фальклорным ансамблі «Эрэбуні» была нават дзіцячая група. Сёння гэтыя дзеці выраслі і далучыліся да старэйшых. Але мастацкаму кіраўніку і стваральніцы ансамбля Рузане Аванесян пастаянна тэлефануюць з пытаннем: «Калі ж будзе новы набор у дзіцячую групу?» Ды і сама яна прызналася, што хоча гэтага, тым больш што ў яе цяпер ёсць памочнікі — дзяўчынкі-выхаванкі калектыва, якія з часам выраслі ва ўпэўненых прафесійных танцорак і могуць ускласці на сябе частку абавязкаў па навучанні.***

***Да таго ж ёсць сярод бацькоў імкненне стварыць дарослую групу. І калі гэта атрымаецца, то і сама спадарыня Рузана абавязкова выйдзе на сцэну…***

**— Калі глядзіш на тое, як танчаць удзельніцы ансамбля, то, здаецца, адчуваеш душу самой Арменіі. У чым яна ўвасабляецца для Вас?**

— Найперш, гэта мая Радзіма. Я нарадзілася там, пражыла 16 год, пакуль па накіраванні не трапіла ў Мінск і ўжо тут закончыла філасофскі факультэт БДУ. Але і па сёння Арменія застаецца для мяне крыніцай энергіі. Калі я доўга не магу патрапіць туды, я адчуваю сябе энергетычна спустошанай. Вось і сёлета я збіраюся туды, каб натхніцца, адчуць энергію творчасці і атрымаць імпульс сілы ад сваёй зямлі.

**— Але чамусьці ў пэўны час Ваш выбар быў зроблены на карысць беларускай сталіцы — не Масквы, не Кіева…**

— А гэта таксама ў пэўным сэнсе выпадковасць. Па выніках экзаменаў я магла прэтэндаваць на тры месцы — у Маскоўскім дзяржаўным універсітэце, у Ленінградскім і ў Мінску. У Маскву я не хацела катэгарычна. Хаця пасля я зразумела, што, магчыма, зрабіла памылку: ведаеце, дыплом МДУ — гэта дыплом МДУ (зусім іншыя перспектывы). А сюды я прыехала таму, што тут вучылася мая сяброўка, якая мяне ўгаворвала, пакуль я вагалася. Але сёння я не шкадую, што выбрала Мінск.

**— Можа быць, у іншым месцы не было б і «Эрэбуні»?**

— Так. На гэта, напэўна, была воля лёсу, каб я апынулася ў Мінску. І па сёння

я згадваю пра гады вучобы як самыя актыўныя і цікавыя.

**— Памятаеце, як да Вас ставіліся іншыя студэнты?**

— У нас вельмі цікавая група была — інтэрнацыянальная. Гэта быў апошні год, калі існаваў мэтавы адбор студэнтаў з усіх саюзных рэспублік. Такім чынам, у нас на курсе былі прадстаўнікі з усяго СССР, і афрыканцы таксама з намі вучыліся, лацінаамерыканцы… У нас панавала асаблівая атмасфера, было вельмі весела і цікава.

**— Дзяліліся ведамі пра свае краіны, распавядалі адно аднаму пра традыцыі, культуру?**

— Тады нават кожнае зямляцтва (а іх існавала на той час вельмі шмат) ладзіла сваю вечарыну. Збіраліся студэнты з розных мінскіх ВНУ, арганізоўвалі канцэрты, дэгустацыі нацыянальных страў, а пасля — танцы. І я за свой першы год навучання пабывала на ўсіх падобных вечарынах. Таму ў мяне было шмат сяброў, усе запрашалі і гэта сапраўды было вельмі цікава.

**— Ці не тады з'явілася ідэя стварыць свой уласны астравок Арменіі ў Беларусі — ансамбль «Эрэбуні»?**

— Гэта прыйшло крыху пазней. А тады ў мяне нават не ўзнікала думкі застацца тут. Я была ўпэўнена, што, адвучыўшыся, вярнуся ў Арменію і там буду займацца кар'ерай. А атрымалася так, што надышоў 1993 год і ўсё памянялася, у тым ліку і мае планы. Я засталася на Беларусі, дзе з 1996 года пачаў шырокую дзейнасць Усебеларскі фестываль нацыянальных культур. Першы раз нас з мужам адабралі для ўдзелу ў фінале конкурсу ў Гродне — мы павінны былі спяваць. Аднак не склалася: мужа адправілі ў камандзіроўку, я даглядала маленькую дачушку. А вось на другі мы патрапілі — і не проста як сямейны дуэт: у нас быў цэлы танцавальны квартэт, жывы акампанемент, нам шылі па вычварных эскізах дзіўныя касцюмы, якія зусім не адпавядалі армянскай сімволіцы, колерам, але мы былі шчаслівыя (асабліва я!), атрымаўшы магчымасць выступіць на сцэне… А пабачыўшы маштаб гэтага мерапрыемства, я сабрала невялічкі калектыў і мы пачалі рэпеціраваць — такім чынам, з верасня 1998 года пачалася гісторыя ансамбля «Эрэбуні».

У наступным годзе мы прыехалі на адборачны тур Усебеларускага фестывалю, у нас былі новыя касцюмы і першы пастаўлены танец. А потым удзел у іншых мерапрыемствах, новы рэпертуар… Па-шчырасці, усё пачыналася вельмі наіўна і па-аматарску (мы цяпер часам збіраемся і са смехам пераглядаем старыя запісы), але сёння «Эрэбуні» — гэта ўжо дастаткова прафесійны калектыў з вельмі высокім узроўнем выканальніцкага майстэрства. У нас зараз выключны дзявочы склад — вельмі моцныя дзяўчаты — гэта і **Вольга Багушыньская,** наша салістка, і **Сона Марцірасян, Анна Багдасаран, Жаклін Багдасаран, Нарынэ Аганджанян, Аліна Сардарава,** і многія іншыя — можна гаварыць амаль пра ўсіх. Самае цікавае, што ўсе пачыналі як непрафесіяналы, а сёння выклікаюць агульнае шчырае захапленне, дзе б ні выступалі. Вось літаральна ў лістападзе 2010 года ў Санкт-Пецярбургу на Фестывалі армянскага танца і песні галоўны рэжысёр гэтага праекта, вядомы харэограф, запрасіў усе калектывы на сцэну — і мае дзяўчаты адразу выклікалі яго здзіўленне: «Вы што на абцасах?» —





больш, на пачатку былі праблемы нават з фанаграмамі. Гэта цяпер можна зайсці на любы сайт, паглядзець нейкія рухі. Сучасныя танцы адрозніваюцца — ідзе мадэрнізацыя. Мы шмат працуем пад аранжыровачную музыку, што, дарэчы, не заўжды прыхільна ўспрымаецца. Але яе выкарыстоўваюць практычна ўсе калектывы дыяспар па ўсім свеце. Я вельмі адказна падыходжу да выбару музыкі, імкнуся падабраць адпаведную песню. Што да выбару касцюмаў — я сама распрацоўваю іх канцэпцыю. Пад кожны танец — свой касцюм, свой колер і крой. Гэта павінны быць сцэнічныя касцюмы, набліжаныя да фальклорных, але правільна пашыты — гэта яшчэ не ўсё — касцюм павінен глядзецца на сцэне. А арнамент я бяру з кнігі армянскіх узораў. Тут важна зрабіць правільны выбар, бо кожны з арнаментаў нясе адпаведную сэнсавую нагрузку. У нас, да прыкладу, ёсць зараз сінія аксамітныя касцюмы, вышытыя срэбрам. І, паверце мне, у Пецярбургу вельмі сур'ёзныя суддзі з Арменіі ў адзін голас сказалі, што гэтыя касцюмы — выключныя, больш за тое, яны, па іх словах, выключна адпавядаюць армянскаму фальклорнаму касцюму, акрамя таго, яны цудоўна выглядаюць.

«Не». — «Чаму ж вы ўсе такія высокія, стройныя ды прыгожыя!?» А гэта сапраўды залаты фонд нашай армянскай дыяспары, наша багацце.

**— За 13 гадоў існавання калектыву вы выступілі ў самых розных краінах (не толькі ў Беларусі, а і ў Чэхіі, Расіі, Брытаніі, Арменіі). Канечне, талент не вымяраецца ўзнагародамі, хаця іх у «Эрэбуні» вельмі шмат, а тым, што гледачы забываюцца дыхаць падчас выступлення. Як навучыць такому пераўвасабленню — у кветку, дрэва, ветрык у гарах, нават у саму краіну?**

— Чым больш мы працуем, рэпеціруем, тым больш з'яўляецца ў іх пластыкі, упэўненасці ў рухах. Вельмі многія з іх выдатна адчуваюць музыку, а пасля прыходзіць і разуменне танца. У нас ёсць людзі, якія прыходзілі без аніякай падрыхтоўкі. Але пачынаюць праяўляць ініцыятыву, шукаць свае рухі, уласную пластыку, харэаграфію — свой шлях. Так нараджаюцца новыя кампазіцыі. І мне, шчыра прызнаюся, вельмі цікава за імі назіраць, да таго ж, я вельмі рада, што мне будзе каму перадаць гэтую спадчыну…

**— Але ж каб нешта новае стварыць, трэба ведаць асновы: традыцыі, культуру, абрады, песні…**

— Не магу сказаць, што ўсе нашыя нумары былі абсалютна аўтэнтычнымі. Тым

**— А ці ёсць штосьці, што вы запазычылі ці хацелі б запазычыць у беларускага танца, касцюма? Ці зацікавіў вас наш фальклор, традыцыі, абрады?**

— З беларускім фальклорам я знаёмілася з самых першых дзён на беларускай зямлі, мяне цікавіла абсалютна ўсё. Акрамя таго, мой аднакурснік Аляксей Крукоўскі таксама імкнуўся далучыць мяне да скарбаў беларускай літаратуры. Памятаю нашу першую паездку «на бульбу» — я тады зусім не ўмела працаваць на зямлі і патрапіла да яго ў брыгаду. Мы дамовіліся: я сяджу на стозе сена і спяваю, а ён робіць за мяне маю частку работы — такі вось бартэр. З таго часу мы працягваем сябраваць, і ўсе песні беларускія, гісторыя, культура — усё гэта дзякуючы Лёшы…

**— Як філосаф па адукацыі, ці можаце вы параўнаць нашы народы — жыццёвую філасофію армян і беларусаў — што ў нас агульнага і адрознага?**

— У нас агульны трагічны лёс: і беларускі народ прыгняталі, выцяснялі, забівалі, і армянскі. Арменія ўвесь час была падзелена: то паміж Персіяй і Візантыяй, то паміж Асманскай імперыяй і арабамі… Амаль семсот год у нас адсутнічаў дзяржаўны лад. У гэтым сэнсе мы падобныя. А што да адрозненняў… Напэўна, армяне больш звязаны са сваімі каранямі, вельмі традыцыйныя, яны вельмі ашчадна ставяцца да сваёй культуры, сваёй мовы. На працягу трох гадоў я выкладала курс этыкі ў Акадэміі музыкі, і пастаянна, гаворачы са студэнтамі ў аўдыторыі, я паўтараю, што трэба развіваць мову і культуру!

**— Цяпер моладзь імкнецца ў свет — актыўна далучаецца да ўніверсальных каштоўнасцей, часам губляючы сваё, глыбіннае, тое, што захоўвалі пакаленні продкаў. Чаму ж яны ўсё-ткі прыходзяць у ансамбль «Эрэбуні», апранаюць традыцыйныя касцюмы, выконваюць старадаўнія танцы, спяваюць фальклорныя песні?**

— Без памяці пра свае карані вельмі складана некім стаць і развівацца як асобе. А прыходзяць… Па-першае, таму што многім папросту не хапае зносін. Справа ў тым, што традыцыйны лад і выхаванне ў армянскіх сем'ях вымагае пэўных абмежаванняў у камунікацыі з процілеглым полам, у пачуццёвых праявах. Таму яны вымушаны знаходзіцца ў пэўным абмежаваным асяродку, дзе ім нічога не пагражае, але тут свабода думак часам сутыкаецца з несвабодай дзеянняў. Вось мая дачка, напрыклад, — яна скульптар, вучыцца ў каледжы мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка. Але каб яна хадзіла на нейкія вечарыны, дыскатэкі — не! Дарэчы, на армянскіх дыскатэках вельмі далікатныя адносіны — тут бацькі могуць быць спакойнымі за сваіх дзяцей. Гэта таксама звязана з каранямі. Я кажу, можна аб'ездзіць увесь свет, пазнаёміцца з культурай самых розных народаў, але надыдзе момант, калі ты зразумееш, што толькі твая зямля па-сапраўднаму сілкуе тваё мастацтва. Многа прыкладаў можна прывесці, калі людзі пачыналі ствараць штосьці вартае, толькі вярнуўшыся на Радзіму. Але да гэтага трэба прыйсці сваім розумам, за руку да гэтага прывесці нельга. Сапраўднае шчасце магчымае толькі ў гармоніі з прыродай і самім сабой.

**— А на што натхняе «Эрыбуні» ўдзельнікаў ансамбля?**

— На тое, каб даведацца, хто ты такі. Гэта важна, асабліва для маладога чалавека. Мой сын, напрыклад, вельмі перажываў з-за свайго імя — Вааган. Як яго толькі ні дражнілі. Ён казаў: «Чаму ты не назвала мяне нармальным імем?» І я тлумачыла, што «нармальнае» імя — гэта не тое, якое гучыць прывычна, а тое, што нясе пэўную сэнсавую нагрузку. А Вааган — гэта старажытны паганскі бог агню. Таму трэба разумець і ганарыцца тым, што ты носьбіт пэўнай культуры. Менавіта тады, калі дзеці выхоўваюцца з адчуваннем, што за імі вялікая, амаль у чатыры тысячы гадоў культура, яны і пачуваюцца, і паводзяць сябе інačай. У беларусаў ёсць свая надзвычайная культура, проста яны часам забываюць пра яе. Мае дзеці навучаюцца ў беларускамоўных гімназіях. Многія пытаюцца ў мяне: «Навошта?» Я адказваю, што гэта своеасаблівая даніна зямлі, на якой яны нарадзіліся. Так, іх карані — у Арменіі, але іх Радзіма — Беларусь. Як можна не ведаць мовы сваёй Радзімы, яе культуры? Адно немагчымае без другога, на маю думку.

**— «Маладыя гады — маладыя жаданні», — пісаў класік нашай літаратуры Максім Багдановіч. А пра што мараць вашыя «хроснікі», чаго Вы жадаеце ім ды сабе?**

— Хочацца, каб жыццё калектыва працягвалася. Каб нішто не магло паўплываць на далейшае яго развіццё. Мы рухаемся наперад, у нас вельмі добрыя вынікі, але планаў і прапаноў — яшчэ больш. Мы яшчэ не ва ўсіх еўрапейскіх гарадах пабывалі. Мы хочам паказваць сваё майстэрства, прадстаўляць нашу Арменію…

***Гутарыла Таццяна СІВЕЦ***

*На фотаздымках:*
*ансамбль «Эрэбуні» ў Арменіі і Беларусі.*

# ЗАКАХАНЫЯ Ў АРМЕНІЮ

***Армяне — адзін з тых нешматлікіх народаў, большасць прадстаўнікоў якога жыве па-за межамі дзяржавы сваёй этнічнай прыналежнасці. Але дзе б яны ні апынуліся, куды б ні закінуў іх лёс, нібы пад уплывам нейкага шостага пачуцця армяне знаходзяць адзін аднаго, аб'ядноўваюцца, каб зберагчы сваю непаўторную культуру і замацаваныя стагоддзямі традыцыі.***

***Так сталася, што на Беларусі спрадвек у згодзе жывуць побач прадстаўнікі розных народаў. Тут ёсць усе ўмовы для захавання сваёй культуры і этнічных асаблівасцей. Але армяне настолькі ўлюбёныя ў сваю Радзіму, што не толькі беражліва ахоўваюць тое, што засталося ім ад продкаў, але і ўсімі сіламі імкнуцца данесці гэта да тых, хто жыве побач з імі. Вы ніколі не сустрэнеце армяніна, які сказаў бы хоць адно заганнае слова пра свой край. Яны шчыра вераць, што калі ёсць рай на зямлі, то імя яму — Арменія. А мае сённяшнія суразмоўцы — прадстаўнікі маладога пакалення, якія патрапілі на Беларусь дзецьмі ці нарадзіліся ўжо тут. Усе яны розныя: са сваімі захапленнямі і прыярытэтамі. Але іх аб'ядноўвае актыўная жыццёвая пазіцыя і трапяткое, у чымсьці нават сакральнае стаўленне да сваёй краіны. Нездарма кажуць, што кожны армянскі дом, незалежна ад таго, дзе ён знаходзіцца, — гэта маленькая Арменія.***

### *Егіазар ФАРАШАН — армянскі голас Беларусі*

**Егіазар Фарашан** — малады і таленавіты спявак, саліст Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь, лаўрэат шматлікіх міжнародных музычных конкурсаў. У 1994 годзе ён разам з маці і сёстрамі прыехаў на некалькі тыдняў у госці да бацькі, які на той час працаваў у Гомелі, і застаўся тут жыць. Падчас навучання ў музычным каледжы Егіазар прыняў удзел у праекце «Галасы Беларусі», яго заўважылі, і цяпер юнак спявае ў Прэзідэнцкім аркестры, а паралельна працягвае вучыцца ва ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтва.

— Мая маці — выкладчыца музыкі, — распавядае Егіазар. — Я вучыўся ў школе і наведваў яе заняткі па ігры на фартэпіяна. Аднойчы яна папрасіла мяне праспяваць нейкую песеньку. Калі я праспяваў, маці сказала: «Сынок, а ў табе нешта ёсць». З гэтага дня я пачаў спяваць. Шчыра кажучы, мне зусім не хацелася, першы год я нават плакаў, бо лічыў, што спяваюць толькі дзяўчынкі. Потым у Гомелі праводзіўся абласны конкурс, я ўпершыню патрапіў на сцэну і мяне гэта неяк захапіла. У 14 год я ўжо быў прэзідэнцкім стыпендыятам, бо паспяхова ўдзельнічаў шмат у якіх міжнародных конкурсах, але канчаткова зразумеў, што спяваць — гэта сапраўды маё, толькі гадоў у васемнаццаць. Пасля праекта «Музычны суд» на АНТ, які мы выйгралі, у складзе групы «3+2» я прадстаўляў Беларусь на «Еўрабачанні-2010». Мы выйшлі ў фінал, але не перамаглі. Спачатку даволі моцна перажывалі, але пасля зразумелі, што трэба працаваць далей, рухацца наперад.

**— А як пачуваецца армянін у якасці «голаса Беларусі»?**

— Я, як сказаў адзін разумны чалавек, армянін «беларускага разліву». Я вельмі рады, што ў Беларусі мяне заўважылі і ацанілі. Прыемна, што тут жывуць такія людзі,

для якіх не мае значэння, хто ты па нацыянальнасці. Калі ў цябе ёсць талент, гэта цэніцца: запрашаюць да ўдзелу ў праектах, канцэртах, фестывалях. Гэта цудоўна! Таму мне тут вельмі падабаецца, я планую і далей жыць і прафесійна развівацца ў Беларусі.

**— Не так даўно ты выдатна прадставіў нашу краіну на міжнародным конкурсе «Discovery-2011»...**

— Так. Гэта вельмі прэстыжны конкурс, які праходзіць штогод у Варне (Балгарыя). У ім прымалі ўдзел многія беларускія зоркі: Іна Афанасьева, Ірына Дарафеева, Гюнэш Абасава. Сёлета быў юбілейны, дваццаты конкурс, на які сабраліся музыканты з 15 краін, у журы сядзелі вядомыя майстры. Я ў дуэце з Юліяй Шышко выканаў песню «Я не хачу цябе губляць», якая прынесла нам перамогу. Вынікі абвяшчалі на балгарскай мове, таму мы нават не адразу зразумелі, што занялі першае месца, затое потым гатовыя былі скакаць ад радасці!

**— Чым ты кіруешся, складаючы свой рэпертуар?**

— Я больш схіляюся да класікі, таму разлічваю на аўдыторыю ад 25 гадоў. Сам песень не пішу, але актыўна працую над рэпертуарам, мару запісаць сольны альбом. Трэба 12 песень, чатыры ў мяне ўжо ёсць. Дзве з іх напісаў армянскі кампазітар Баграт Вартанян, які працуе ў Маскве з Дзмітрыем Калдуном, а яшчэ дзве — Леанід Шырын. Вельмі хочацца, каб яны сталі хітамі.

**— Ты актыўна ўдзельнічаеш у жыцці дыяспары? Каго больш сярод тваіх знаёмых: беларусаў ці армян?**

— Я ніколі не лічыў сваіх сяброў, але думаю, што ўсіх пароўну. Не магу сказаць, каб прымаў вельмі актыўны ўдзел у мерапрыемствах, якія ладзіць дыяспара, але гэта выключна таму, што бракуе часу: кожны дзень ці канцэрт, ці рэпетыцыя, а з восені яшчэ і заняткі пачнуцца. Таму прыходзіш дадому, прымаеш душ — і ў ложак, я нават забыўся, калі тэлевізар глядзеў. Але працаваць трэба, нельга проста чакаць, бо, калі ты сам чагосьці не хочаш, за цябе ніхто гэтага не зробіць.

## *Мар'ям ГАЛСЦЯН: «Не адмовілася ад мар»*

У 1995 годзе сям'я **Мар'ям Галсцян** пераехала ў Расію, куды бацьку накіравалі ў камандзіроўку, а потым Галсцяны вырашылі паехаць у Беларусь. З 1998 года яны жывуць тут. Дзяўчына скончыла школу ў Мінску, потым паступіла ў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт на стаматалагічны факультэт.

**— Мар'ям, чаму ты абрала медыцыну?**

— Мой бацька — доктар, але ён ніколі не думаў пра тое, каб аддаць мяне ў медыцыну. Я сама вельмі любіла замежныя мовы і журналістыку, а стаць доктарам нават не марыла. І тата казаў, што мне варта быць журналістам, бо, калі мне трэба з кагосьці выцягнуць інфармацыю, я так ці інакш гэта зраблю. Але калі надышоў час выбіраць прафесію, маці параіла пайсці ў стаматалогію. Я пагадзілася і паступіла ў медыцынскі, а калі пачала вучыцца, то зразумела, што не памылілася — гэта мая спецыяльнасць. Зараз я не толькі лячу людзей, але і выкладаю на кафедры тэрапеўтычнай стаматалогіі ва ўніверсітэце. Шчыра кажучы, мне гэта заўжды падабалася, мабыць таму і атрымалася так, што падчас навучання мяне заўважылі і запрасілі на кафедру.

**— А што сталася з нерэалізаванымі марамі?**

— Я ад іх не адмовілася. Хаджу на курсы, вывучаю англійскую мову. Думаю над тым, каб заняцца яшчэ і іспанскай. Што да журналістыкі, часам пішу артыкулы ў газету «Міасін». Акрамя таго, мне падабаецца спяваць, можа нават пайду на курсы вакалу...

**— А ці шмат месца ў тваім жыцці належыць Арменіі?**

— Арменія заўжды была для мяне на першым месцы, я ёй жыву, стараюся не прапускаць ніводнага армянскага мерапрыемства, якое тут ладзіцца. Я прымала ўдзел у падрыхтоўцы армянскіх фестываляў, пэўны

час выкладала армянскую мову і гісторыю ў нядзельнай школе. Я ніколі не забываюся пра сваю родную краіну. І нягледзячы на тое, што ў Беларусі мне вельмі добра, тут прайшло ўсё маё свядомае жыццё, тут я шмат чаго дабілася, я мару вярнуцца ў Арменію. Можа, у наступным годзе паспрабую здзейсніць гэтую мару, хоць і рызыкую аказацца чужой сярод сваіх, бо ўжо не змагу адчуваць сябе там так, як тыя, хто нарадзіўся і вырас у Арменіі.

### *Армэн КАРАМЯН*<br>*і Грыгор ВАРДАНЯН:*<br>*«За чатыры гады*<br>*мы ні разу не адчулі сябе гасцямі»*

Беларусь і Арменія актыўна ўзаемадзейнічаюць у гуманітарнай сферы, у прыватнасці, наладжваецца супрацоўніцтва паміж ВНУ: у 2010/2011 навучальным годзе ў Беларусі навучалася 29 грамадзян Арменіі. Сярод іх — Армэн Карамян і Грыгор Варданян, курсанты факультэта ўнутраных войск Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь. Абодва хлопцы ўпершыню патрапілі ў нашу краіну, і я запыталася ў іх, якой яны ўбачылі Беларусь, што ім прыйшлося даспадобы, а што — не вельмі.

— Перад тым, як сюды прыехаць, мы перш-наперш зайшлі ў інтэрнэт, каб паглядзець фотаздымкі, пачытаць пра культуру і гісторыю Беларусі. Тое ўражанне, якое склалася перад прыездам, амаль цалкам спраўдзілася. Тут выдатныя людзі, нікому не важна, хто ты па нацыянальнасці, добра ставяцца да ўсіх. За 4 гады мы ні разу не адчулі сябе гасцямі. На курсе, акрамя нас, яшчэ 42 чалавекі, і ні з кім у нас не было канфліктаў, ніхто не глядзеў на нас з-пад ілба толькі таму, што мы армяне. Наадварот, стараліся, каб мы ўсюды пабывалі, паўдзельнічалі ва ўсіх мерапрыемствах.

Яшчэ тут вельмі спакойна. Мінск — прыгожы горад, вакол чысціня, парадак. Людзі ходзяць, усміхаюцца. Акрамя Мінска мы былі ў Гомелі, Гародні, Брэсце і паўсюль нас сустракалі вельмі ветліва і сардэчна. Беларусы, як і армяне, — вельмі гасцінная нацыя, усё лепшае, што ёсць у хаце, прапануюць гасцям. Наогул, нам тут падабаецца. Кухня добрая, некаторыя рэцэпты мы нават у Арменію завезлі, спрабуем самі гатаваць. Беларуская мова падабаецца.

**— Разумееце па-беларуску?**

— Не тое, каб разумеем, але слухаць цікава. Нават калі нейкія словы невядомыя, агульны сэнс зразумелы.

**— Праз год вы скончыце навучанне. Што далей, не думалі пра тое, каб тут застацца?**

— Мы падпісалі кантракт, таму пасля заканчэння акадэміі паедзем дадому, радзіму абараняць. Пра тое, каб застацца, часам думаем, але невядома, што будзе заўтра. У нас тут з'явілася шмат сяброў, таму мяркуем, што будзем прыязджаць на Беларусь адпачываць.

### *Нарынэ АГАНДЖАНЯН:*<br>*«Ува мне жывуць дзве культуры»*

Гэтая прыгожая, яркая і гаваркая дзяўчына нарадзілася і вырасла ў Мінску. Яе бацькі родам з Нагорнага Карабаху. Бацька вучыўся ў Расіі, і, калі яму прапанавалі на выбар любую рэспубліку былога СССР, ён абраў Беларусь як адну з самых спакойных. Усё жыццё Нарынэ прайшло ў Беларусі, але яна заўжды цікавілася культурай іншых краін, таму паступіла ў Лінгвістычны ўніверсітэт, дзе вывучала англійскую, нямецкую і іспанскую мовы. У дзень, калі мы сустрэліся з Нарынэ, яна якраз на выдатна абараніла дыплом.

**— Нарынэ, а якімі ты яшчэ мовамі валодаеш?**

— Натуральна, ведаю рускую, беларускую і армянскую. Дакладней, карабахскі дыялект, ён не зусім падобны на тую мову, якой гавораць у Ерэване.

**— Блытаніны не атрымліваецца?**

— Не. З сябрамі размаўляю па-руску, дома — па-армянску. Калі абедзве мовы родныя, то нават не адчуваеш розніцы, усё атрымліваецца інтуітыўна.

**— Сёння ты стала дыпламаваным спецыялістам. Што далей?**

— Я заўжды добра вучылася, прымала ўдзел у навуковай, творчай, грамадскай дзейнасці ўніверсітэта. Таму мне прапанавалі застацца тут. Я пайду ў магістратуру і буду выкладаць.

**— Я ведаю, што ты вельмі актыўная дзяўчына...**

— Так, мне падабаецца ўсё, што звязана са сцэнай, люблю таленавітых і творчых людзей. Я заўжды была цікаўнай і азартнай у добрым сэнсе гэтага слова: скакала з парашутам, нырала з аквалангам. Так здарылася, што я ўвесь час выступала: танцавала, спявала, іграла на гітары і фартэпіяна, у школе вяла разнастайныя мерапрыемствы, удзельнічала ў КВЗ.

Я надта люблю свой універсітэт, і калі патрапіла сюды, вельмі захацела пазнаёміць яго з армянскай культурай, якая таксама вельмі дарагая для мяне. Так як я танцую ў ансамблі «Эрэбуні», то вырашыла прыцягнуць яго да ўдзелу ў шасцідзясятых угодках МДЛУ. З таго часу пачалося цеснае супрацоўніцтва паміж ансамблем і нашай навучальнай установай.

Калі мне прапанавалі прадставіць нашу групу на конкурсе «Міс МДЛУ», я пайшла туды проста дзеля таго, каб цікава прававіць час і атрымаць асалоду. І ўявіце, я выйграла конкурс, прычым стала абсалютнай пераможцай: за мяне прагаласавала журы, гледачы і інтэрнэт. Я была проста ў эйфарыі, бо сярод стольких прыгожых і таленавітых дзяўчат абралі мяне! Потым мне давялося браць удзел у міжнародным конкурсе «Каралева Вясна», дзе я стала Віцэ-міс і атрымала прыз глядацкіх сімпатый. Такім чынам, я прадставіла на дастойным узроўні не толькі свой універсітэт, але і армянскую дыяспару. Падчас сваіх выступленняў я як бы наладжвала дыялог дзвюх культур, якія жывуць ува мне. Хто б там што ні казаў, а я лічу, што ў мяне дзве радзімы, і я старалася данесці гэта да гледачоў.

Пасля конкурсу мяне пачалі запрашаць у розныя праекты. Я здымалася ў рэкламных роліках і музычным кліпе, удзельнічала ў паказах мод, перакладала для замежных дэлегацый. Ужо на працягу двух гадоў я з'яўляюся прэс-сакратарам конкурсу «Каралева Вясна», вяду разнастайныя мерапрыемствы, у тым ліку і тыя, што ладзіць армянская дыяспара.

**— А на гістарычнай радзіме часта бываеш?**

— Кожны год я езджу ў Карабах, у мяне там шмат родных. Сёлета мае бабуля і дзядуля святкуюць залатое вяселле, я рыхтую ім падарунак — прэзентацыю, якая распавядзе з самага пачатку гісторыю іх кахання.

**— Як ты мяркуеш, якія рысы ўласцівы сучаснай армянскай моладзі і што агульнага паміж армянамі і беларусамі?**

— І тыя, і другія вельмі гасцінныя, адкрытыя, любяць весяліцца. Армяне, калі прыязджаюць сюды, напачатку сутыкаюцца з моўным бар'ерам, але гэта такі народ, які вельмі хутка вывучае замежныя мовы. Армянскай моладзі ўласціва актыўнасць, эмацыйнасць, яны імкнуцца зрабіць сваё жыццё яскравым, напоўніць яго падзеямі, шмат чым цікавяцца. Ды і беларусы такія ж, моладзь усюды падобная. Дарэчы, у апошні час я шмат разоў была на вяселлях, дзе браліся шлюбам беларуска-армянскія пары. І самае цікавае, што такія сем'і ў большасці сваёй шчаслівыя.

**— А ты за каго б хацела выйсці замуж?**

— За каханага. Думаю, што мая сям'я зразумее любы мой выбар. Але, шчыра кажучы, закахацца хацелася б у армяніна.

## *Нона НЕРСЕСЯН: «Я паўсюль шукаю армян»*

**Нона Нерсесян** — журналістка, прычым у яе выпадку гэта і прафесія, і прызванне. Калі мы сустрэліся, мне нават не прыйшлося задаваць ёй пытанні, дзяўчына пра ўсё распавяла сама.

— Пэўна, шмат у якіх армянскіх сем’ях гісторыя падобна да нашай, — гаворыць Нона. — Я жыву ў Беларусі з 1994 года. Тут жылі нашы сваякі, яны запрасілі нас на лета адпачыць. І прыгрэла нас беларуская зямля. У Арменіі тады было цяжка, нягледзячы на тое, што мы жылі ў Ерэване і карабахскія праблемы нас асабліва не закранулі. Але не было вады, святло ўключалі час ад часу, гэта было сапраўднае свята: усе пачыналі пляскаць у далоні, бо дарослыя маглі паглядзець серыялы, а мы, дзеці, за іх радаваліся. Таму мы вырашылі застацца ў Беларусі. Тут я пайшла ў школу. Спачатку было цяжка, бо руская мова для мяне была замежнай, хоць мы шмат вандравалі з бацькамі па краінах былога СССР. Я ўвесь час блытала «ён» і «яна», бо ў армянскай мове няма катэгорыі роду. Але паступова, дзякуючы настаўнікам, знік акцэнт, я стала размаўляць правільна. Мае аднакласнікі дагэтуль узгадваюць, як я крычала: «Куды ён пабегла?», і здзіўляюцца, што цяпер я так добра размаўляю па-руску.

Калі ў школе пыталіся, чаму ў мяне такое незвычайныя імя і прозвішча, я заўжды з гонарам тлумачыла, што я армянка. Мне задавалі шмат пытанняў пра Арменію, а я была маленькая і чаго толькі не фантазіравала, магла гадзінамі нахвальваць сваю радзіму! Асабліва ганарылася тым, што ў Арменіі ёсць горы, а ў Беларусі няма. Пасля такіх аповедаў многія мае сябры пачалі цікавіцца Арменіяй, нават вывучаць мову. Яны вучылі мяне рускай, а я іх — армянскай.

Калі я была падлеткам, вырашыла звязаць жыццё з журналістыкай. Тады я яшчэ не ведала, ува што ўцягваюся *(смяецца)*. Быў такі вобраз чалавека-ўніверсала, які ўсё ведае, можа размаўляць на любыя тэмы. Мая маці аднойчы запыталася, як я збіраюся стаць журналісткай, калі не напісала аніводнага артыкула. Тады мне было 13 ці 14 год. І я ўпершыню ўзялася за пяро і пачала пісаць. Мой першы артыкул быў прысвечаны бежанцам і тым, хто дапамагае іншаземцам, якія патрапілі ў цяжкую сітуацыю. Яго надрукавалі, і пайшло-паехала. Я вучылася ў маладзёжным прэс-цэнтры, потым паступіла ў гісторыка-культуралагічны клас ліцэя пры Гродзенскім дзяржаўным універсітэце. Калі надышоў час іспытаў у ВНУ, мая настаўніца параіла звярнуць увагу на Інстытут сучасных ведаў, дзе выкладалі журналістыку. Гэта была маладая ВНУ, з намі займаліся сучасныя перспектыўныя педагогі, якія адчувалі кожнага з нас, стараліся паказаць шлях. Я шмат пісала, у тым ліку пра Арменію, але больш за ўсё мяне вабіла тэлебачанне. Калі я патрапіла на тэлеканал «Мір», дзе працую да гэтага часу рэдактарам студыі, вельмі радавалася, бо мяне маглі ўбачыць мае родныя ў Арменіі. І было адчуванне, што ты робіш нешта для сваёй краіны. Калегі жартуюць з мяне, бо мы — беларускае прадстаўніцтва і мусім гаварыць пра Беларусь, але ж з маіх вуснаў часта гучыць армянская тэматыка: я імкнуся прадставіць дыяспару. Паралельна пішу ў газету «Міасін».

Падчас навучання я пазнаёмілася з маладымі армянамі, і яны мне вельмі спадабаліся, бо да гэтага я кантактавала ў асноўным з дарослымі. А так хацелася пагаварыць на роднай мове з аднагодкамі, даведацца, як яны жывуць, чым цікавяцца. Было так прыемна сустрэць людзей, блізкіх па духу! Нездарма кажуць, што пачуцці лепш перадаваць на роднай мове. І сапраўды, калі ты кажаш: «Я цябе кахаю», — гэта адно, а калі «Ес кез сірумэм», — у гэта ўкладваеш усю душу.

Вельмі ўразілі хлопцы і дзяўчаты з «Эрэбуні», якія, нягледзячы на працу і заняткі ў ВНУ, знаходзілі час, каб рэпеціраваць. З цягам часу пазнаёмілася з мастакамі, музыкантамі і ўжо некалькі год знаходжуся ў гэтым асяроддзі. У мяне такая манія — усюды шукаць армян. Нават калі праходзіць нейкае «паркетнае» мерапрыемства, я так ці інакш знайду, па вачах пазнаю, армяніна і менавіта з ім запішу інтэрв’ю, прычым атрымліваецца гэта не наўмысна.

У Беларусі мне падабаецца, бо яна развівае сваю нацыянальную культуру і не перашкаджае развіццю іншых. Фестываль нацыянальных культур у Гародні — сапраўдны Вавілон, усе размаўляюць на розных мовах, але ўсе разумець адзін аднаго. Вельмі важна, што на Беларусі людзі могуць у поўнай меры праявіць сябе, рэалізавацца ў прафесійным сэнсе, а не быць гастарбайтэрамі.

## *Арташэс АНТАНЯН: «Арменія — гэта як рэлігія»*

Сіла абаяння гэтага маладога вядучага здольна нават самага абыякавага да фізічнай культуры чалавека ператварыць у заўзятага аматара спорту. Сам Арташэс прафесійна спортам не займаецца, але футбол, тэніс, басейн, наведванне спартзалы і прабежкі — неад’емная частка яго жыцця. У XXI стагоддзі без гэтага нельга, лічыць ён.

Маці Арташэса Антаняна — беларуска, але не гэта стала падставай для пераезду сюды: маці выдатна пачувалася і ў Ерэване, працавала там, добра вывучыла армянскую мову. Але бацька не знайшоў у Арменіі такую працу, як хацеў, і сям’я апынулася ў Беларусі. Хлопчыку на той час было ўсяго 2 гады, так што вырас Арташэс у Брэсце, скончыў школу, і лёс склаўся так, што ён апынуўся на тэлебачанні.

— Насамрэч, я ніколі не марыў пра тэлебачанне. Мой бацька — юрыст, і я хацеў пайсці па яго слядах, мне гэта падабалася і дагэтуль падабаецца. Я скончыў юрыдычны факультэт і мог бы нядрэнна ўладкавацца. Але на 5 курсе я пачаў працаваць на радыё, і гэта мяне захапіла. Першапачаткова я прыйшоў на тэлебачанне і павінен быў стаць вядучым навін, прычым чытаць іх па-беларуску. Аднак у выніку атрымалася вельмі заблытаная гісторыя, і я апынуўся на радыё, дзе працаваў больш за 3 гады. Гэта быў цудоўны час: сабраўся выдатны калектыў, мы былі маладыя, перад намі былі адчынены ўсе дзверы, можна было праяўляць сябе ў эфіры, атрымліваць сапраўдную асалоду ад музыкі. Цяпер гэта ўжо не так рамантычна. Аднойчы раніцай я прачнуўся і зразумеў, што стаміўся. Праз тыдзень я звольніўся, паўгода папрацаваў на гандлёвым прадпрыемстве, потым пераехаў у Мінск, бо ў Брэсце было ўжо цеснавата. Пачаў працаваць на радыё «Бі-Эй», а потым мяне выпадкова запрасілі на кастынг на АНТ: яны збіраліся трансліраваць Чэмпіянат Еўропы па футболе, а з каментатараў — толькі Мікалай Петрапаўлаўскі. У мяне быў пэўны вопыт: даводзілася каменціраваць футбол і хакей у Брэсце, рабіць спартыўныя праграмы. Так і здарылася, што быццам бы і не імкнуўся, а патрапіў на тэлебачанне.

**— Кім ты адчуваеш сябе ў большай ступені: армянінам ці беларусам?**

— Я не магу адмаўляць сваю беларускасць, хаця б таму, што большую частку жыцця я правёў тут. Але ўжо з дзяцінства, калі ў мяне пыталіся, хто я па нацыянальнасці, я заўжды ведаў, што я — армянін. Мой бацька армянін, старэйшы сын у сям’і, я — таксама старэйшы сын, гэта з’яўляецца вызначальным. Таму гэтае пытанне нават не абмяркоўвалася. Зараз я шмат кантактую з армянскай моладдзю, перыядычна бываю на мерапрыемствах дыяспары. Калі апынаюся ў нейкім горадзе, дзе ёсць значныя для армян месцы, абавязкова іх наведваю, стараюся прывезці якія-небудзь сувеніры. Не так даўно мы здымалі адзін праект у Парыжы, там я пабываў у армянскай царкве, на Ерэван-авеню.

Да Арменіі я стаўлюся, як да рэлігіі — маю гэта ў сабе, берагаю, але не хочацца, каб хтосьці гэта бачыў, каб гэта рабілася адкрытай часткай майго жыцця. Я не выстаўляю гэта напаказ, але вельмі ясна адчуваю, што яно жыве ўнутры мяне. Але займацца нейкай актыўнай дэманстрацыяй, камусьці штосьці даводзіць я не хачу. Ведаеце, як казала Како Шанэль? «Я не ведаю, што вы пра мяне думаеце, я ж не думаю пра вас наогул».

**— З гадамі нацыянальная ідэнтычнасць часта губляецца. У твайго сына застаецца адчуванне армянскасці?**

— Натуральна. Тут трэба аддаць належнае маёй былой жонцы: хоць мы з ёй не зусім ужыліся, яна пранікласа Арменіяй, і хоць сама ведае няшмат, сына заахвочвае. Таксама на Георгія вялікі ўплыў аказваюць мой бацька і мой малодшы брат Тыгран. Мой сын ведае малітвы па-армянску, чытае вершы — усяму гэтаму яго дзядуля навучыў. А дзякуючы майму брату ў яго выдатнае пачуццё гумару і здольнасць знайсці выйсце з любой сітуацыі. Калі Георгія спытаць, хто ён па нацыянальнасці, ён адкажа, што армянін. Можа дадаць, што яшчэ і беларус, аднак армянскасць дамінуе.

### *Ніна МЕГРАБЯН:*
### *«Культура не мае нацыянальнасці»*

Ніна нарадзілася і вырасла ў Віцебску, куды ў свой час пераехалі яе бацькі. Навучалася ў хіміка-біялагічным ліцэі, але калі прыйшоў час паступаць у ВНУ, у рукі дзяўчыне патрапіў даведнік для абітурыентаў, дзе яна ўбачыла новую спецыяльнасць, што адкрылася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры — «менеджмент міжнародных культурных стасункаў». Гэта вырашыла далейшы лёс Ніны. Зараз яна заканчвае магістратуру і актыўна працуе ў абраным напрамку, скарыстоўваючы свае веды для арганізацыі разнастайных мерапрыемстваў армянскай дыяспары.

**— Ніна, як ты думаеш, у Беларусі ты назаўжды?**

— Не ведаю. Але мне тут вельмі падабаецца. У мяне было шмат магчымасцей пераехаць, але ў Беларусі мне да такой ступені камфортна, што я нікуды адсюль не хачу. Не буду казаць нічога дрэннага пра тыя краіны і гарады, куды мяне запрашалі, але недзе тлумна, недзе брудна. А тут — спакойна, ціха, чыста. Ты адчуваеш упэўненасць і стабільнасць.

**— З кім табе больш падабаецца кантактаваць: з беларусамі ці з армянамі?**

— Для мяне розніцы няма. Я нарадзілася тут, але атрымала добрае традыцыйнае армянскае выхаванне. Таму я імкнуся браць лепшае ад абедзвюх культур. Не магу сказаць, што ўва мне жывуць два розныя чалавекі, але ўсе мы ў жыцці іграем розныя сацыяльныя ролі, мы ніколі не будзем трымацца аднолькава, скажам, дома са сваякамі і на вуліцы. Заўвагі, якія моўчкі і з удзячнасцю буду выслухоўваць ад сваіх бацькоў, бо разумею, што яны мне на карысць, я не дазволю рабіць камусьці звонку. Акурат тое ж адбываецца ў этна-культурным асяроддзі: тое, што я дазваляю сабе з армянамі, я ніколі не дазволю з беларусамі і наадварот. Ёсць пэўныя нормы паводзін, і калі іх не прытрымлівацца, ты папросту не зможаш жыць ў соцыуме. Чалавек трапляе ў нейкае асяроддзе, і яно дыктуе, як трэба сябе паводзіць. Калі ты не будзеш падпарадкоўвацца гэтым законам, асяроддзе выштурхне цябе. Галоўнае ва ўсім гэтым — сфармаваць пэўны стрыжань самасвядомасці, каб твае прынцыпы, твая жыццёвая пазіцыя заставаліся нязменнымі, а змяняўся толькі стыль паводзін.

**— Ты вельмі актыўна ўдзельнічаеш у жыцці дыяспары. Што ляжыць у аснове гэтай актыўнасці? І чым канкрэтна ты займаешся?**

— Усё тое армянскае, што я ведаю і люблю, ідзе ад сям'і. Я закахана ў тую Арменію, якую мне паказалі і падаравалі мае бацькі. І я думаю, што ў большай ці меншай ступені тое ж адбываецца ў кожнай армянскай сям'і. Сёння вырасла пакаленне моладзі, у якой ёсць патрэба ў стасунках са сваім асяроддзем, іх цягне адно да аднаго.

У 2008 годзе мы ўпершыню правялі ў Радашковічах армянскі фестываль «Міасін», які сабраў 150 удзельнікаў з усіх рэгіёнаў Беларусі. Гэта была першая сустрэча моладзі, і атрымалася яна цудоўна: на працягу 3 дзён мы праводзілі конкурсы, спартыўныя і канцэртныя мерапрыемствы. Праз 2 гады адбыўся другі фестываль. Але такога кшталту мерапрыемствы патрабуюць значных выдаткаў, таму мы пачалі думаць над

тым, як зрабіць нешта менш затратнае. Вынаходзіць нічога не сталі: у Францыі і Расіі рэгулярна праводзяцца армянскія вечарыны — Hay Party, і мы ўзялі на ўзбраенне гэты фармат. Упершыню ідэя нарадзілася ў 2009 годзе, і з таго часу прайшло ўжо 4 вечарыны, іх папулярнасць увесь час расце: на першай было каля ста чалавек, а на чацвёртай — ужо 230.

Галоўная мэта Hay Party — сабраць усіх разам, даць магчымасць сустрэцца і паразмаўляць. Мы запрашаем не толькі мінскую моладзь, да нас прыязджаюць з рэгіёнаў, дзе насычанасць культурнага жыцця значна ніжэйшая. Гэта не камерцыйныя мерапрыемствы, мы на іх не зарабляем, нават наадварот: кожная вечарына ладзіцца з пэўнай нагоды. Так, на трэцяй мы збіралі сродкі на лячэнне хворага армянскага хлопчыка. Чацвёртая, якая прайшла напярэдадні 9 мая, была прысвечана тым, дзякуючы каму мы перамаглі ў вайне і можам сёння сустракацца і весяліцца. Дарэчы, да нас прыходзяць і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, так што гэтыя вечарыны ўжо зрабіліся інтэрнацыянальнымі. Нам важна, каб іншыя культуры знаёміліся з нашай, бо этна-культурныя стэрыятыпы ўзнікаюць менавіта з-за няведання. Я лічу, што няма дрэнных культур, ёсць іх дрэнныя прадстаўнікі. Ды і наогул, культура не мае нацыянальнасці. Яшчэ адна наша мэта — прадставіць тых хлопцаў і дзяўчат, якія самастоўна нечаму навучыліся. Тут жа няма настаўнікаў па армянскіх спевах ці па ігры на нацыянальных інструментах, таму тыя, хто здолеў самастойна гэта засвоіць, вартыя ўвагі.

Праз такога кшталту мерапрыемствы мы падтрымліваем цікавасць да культуры. Вельмі хочам арганізаваць трэці фестываль, але пакуль вымушаны пачакаць. Таксама хацелася б развіваць інтэлектуальны накірунак: лекцыі, тэматычныя семінары, круглыя сталы. У хуткім часе плануем зарэгістраваць маладзёжнае аб'яднанне «Армяне Беларусі», якое дазволіць больш скаардынаваць дзейнасць усіх армянскіх суполак, ад сталіцы да рэгіёнаў.

### *Саркіс ЭЛЧАКЯН: «Я ва ўсім падтрымліваю нашу моладзь»*

Падвесці рысу пад нашай размовай я папрасіла прадстаўніка старэйшага пакалення, выкладчыка Інстытута журналістыкі БДУ, дырэктара рэдакцыі газеты «Міасін», **Саркіса Элчакяна**.

— Я заўжды і ва ўсім падтрымліваю нашу моладзь і лічу, што старэйшае пакаленне мусіць не павучаць іх, як трэба жыць і што рабіць, а толькі час ад часу накіроўваць. Астатняе яны зробяць самі. Я працую з моладдзю і бачу, што ў іх ёсць жаданне нечым займацца, гэтае жаданне нельга адбіваць, тым больш, што яно ідзе з глыбіні душы. Ужо тое, што маладыя дасканала ведаюць як мінімум дзве зусім адрозныя мовы, шмат пра што кажа. Тут добрыя навучальныя ўстановы, яны атрымліваюць якасную адукацыю. Галоўнае — каб не згубілі сувязі з радзімай, не страцілі свой нацыянальны каларыт. Сёння так, на жаль, здараецца, калі прымаюць чужыя правілы гульні, адыходзяць ад сваіх генетычных асноў. Таму старэйшаму пакаленню важна аказваць ім падтрымку.

*Гутарыла Вольга ГРАДЗІНАР*

# ЧАГО ЧАКАЦЬ АД КОСМАСУ, АБО ПАРАДЫ АСТРОЛАГА



***Калі як не летняю ночкай глядзець на зоры? Прыгожыя, яны плывуць у бязмежжы і, здаецца, няма ім да нас аніякай справы. Ці так гэта насамрэч? Верыць ці не верыць у астралогію ды яе прагнозы — выбар кожнага. Але чаму б не паспрабаваць даведацца, хто мы? Што нас чакае? Ці паўплываюць зорныя знакі на лёсы творчых людзей? Ці не зменіцца ўвогуле паняцце творчасці? Пра гэта — у размове з астролагам Вікторыяй ШАБАЛІНАЙ.***

**— Што адбываецца з нашай планетай? Адчуваннне такое, быццам яна апошнім часам на нас злуецца...**

— Мы ўжо дзявяты год жывём у новым гістарычным мегацыкле. Эпоха Вадалея — час кардынальных змен, характар якіх можна параўнаць з рэзкім, парывістым ветрам. І адказнасць за вынік (нават калі справа тычыцца заўтрашняга працоўнага дня) цалкам залежыць ад выбару кожнага з нас. Такім чынам, прыйшла пара прыняць за аксіёму: уплыў індывідуума на агульныя працэсы зямнога жыцця — вялікі. Як ніколі. І таму зусім не дзіўна, што ад людзей, якія надзелены пэўнай уладай і паўнамоцтвамі, але не ўмеюць прымаць мудрыя рашэнні, зыходзіць небяспека. У выніку наш свет можа стаць зусім нестабільным. За памылкі трэба разлічвацца, і мы будзем за іх плаціць — тэхнагеннымі катастрофамі, эканамічнымі крызісамі і рэвалюцыямі. Чалавецтва атрымлівае чарговы ўрок, яму неабходна навучыцца прадбачыць вынікі сваіх дзеянняў. І калі будучыя пакаленні выпрацуюць такую незалежнасць думак, то атрымаюць незвычайную свабоду ўзаемадзеяння з прасторай і часам на гэтай планеце. Адваротная перспектыва азначае разбурэнне ўсіх цывілізацый і раз'яднанасць людзей. Галоўную ролю ў гэтым працэсе будуць адыгрываць асобы таленавітыя, вядомыя і папулярныя. Бо гэта яны могуць кепска паўплываць на астатніх сваёй апантанасцю ў разбурэнні перашкод. Яны рызыкуюць патануць у віры асабістых жарсцяў і амбіцый.

**— Значыць, найбольшую адказнасць вы ўскладаеце на людзей творчых?**

— Так, на тых, хто заўжды жадае вылучыцца, зрабіць нешта адмысловае, змяніць навакольны свет. У астралогіі творчы прынцып суадносіцца з Сонцам і дае кожнаму з нас унутраны агонь і сілы ствараць нешта новае, не твор мастацтва, дык дзіця. Кодавае слова тут — «жыццё». Склаўшы гараскоп, можна даведацца пра патэнцыял чалавека ў гэтым сэнсе. Стан Сонца (знак Задыяка) вызначае ступень важнасці для чалавека такіх пазіцый, як вядомасць, улада, уплывовасць, духоўнасць і неўміручасць. Але пра гэта — трошкі пазней.

**— Так, давайце вернемся да прагноза на гэты год.**

— У межах інтэрв'ю пра ўсё распавесці няпроста. Давайце звернемся да вобразнай сімволікі старадаўніх календароў. Пачнём з усходняга. Ён пабудаваны на фазах Месяца — начнога свяціла, якое адлюстроў-

вае сонечныя промні, а таксама на цыклах Юпітэра — самай вялікай планеты, звязанай у астралогіі з сацыяльнымі рытмамі, грамадскім жыццём. Рэкамендацыі календара звяроў дапамагаюць нам правільна рэагаваць на знешнія абставіны. Год Зайца (Труса альбо Ката) пачаўся 3 лютага. У традыцыі ўсходніх краін гэтая жывёла — сімвал міралюбства, імкнення да росквіту пры любых абставінах. Яго тактыка — хуткае рэагаванне і заблытванне слядоў. У авестыйскім (зараастрыйскім) календары татэмам гэтага года з'яўляецца працавіты і сціплы Вожык. Яго апякунства распаўсюджваецца на тых, хто смела бярэцца за добрую справу. На практыцы ён прапануе прытрымлівацца максімальнай аб'ектыўнасці, быць прадбачлівымі і гатовымі да абароны. Можна здзіўляцца гэтай сімволіцы, але ў міфалогіі іголкі вожыка, сціснутага ў клубок, — гэта Сонца, якое ўзыходзіць і перамагае цемру. Вось бачыце, Заяц і Вожык заклікаюць не шкадаваць сілы для выхаду з самых складаных сітуацый і прапануюць розныя тыпы паводзін.

Аднак для людзей, якія будуюць свой лёс самастойна, больш цікавым і знакавым павінен стаць каляндар, створаны паводле рытмаў Сонца. Гэта сонечна-сатурніянскі каляндар, адлік у якім вядзецца (як і даўней на Беларусі) са дня веснавога раўнадзенства. Згодна з ім, 21 сакавіка пачаўся год Сарокі. З безлічы сімвалаў, звязаных з гэтай сакральнай птушкай, хочацца вылучыць функцыю хуткай перадачы асабліва важнай, папераджальнай інфармацыі і магчымасць бачання яе сапраўднасці. Гэта цудоўна сумяшчаецца і з вонкавым выглядам Сарокі — кантрастуючыя чорныя і белыя пёркі, і з вядомай дзіцячай песенькай пра птушку, якая дала кашы толькі тым, хто сек дровы і насіў ваду.

**— Ці азначае гэта, што тыя, хто выказвае свае меркаванні публічна, могуць апынуцца пад прыцэльнай увагай грамадскасці?**

— Канечне. Галоўная болевая кропка гэтага года — дакладнасць і адкрытасць інфармацыі. Слова, сказанае або напісанае, можа стаць наймацнейшай зброяй, сродкам падману і спекуляцый. Таму чалавеку асабліва важна цяпер не губляць яснасць розуму і самастойна ацэньваць падзеі. Падтрымка шумнай Сарокі-белабокі забяспечана падобнымі да яе рысамі — таварыскасцю, лёгкасцю на пад'ём, здольнасцю бачыць няпраўду і выкрываць яе. Аднак у барацьбе за справядлівасць лепш выкарыстоўваць нетрывіяльныя, гульнёвыя прыёмы, якія дапамогуць зберагчы вашы козыры да апошняга. І яшчэ раз падкрэслю, што год Сарокі патрабуе найбольшай адказнасці ад яркіх грамадскіх дзеячоў. Значыць, трэба звярнуць увагу на ўсіх, хто галасна заяўляе пра сябе і імкнецца да нязведанага.

**— Чаго нам усё ж чакаць?**

— Кіруе знакам Вадалея планета Уран — і па сонечным календары, і па месяцовым. Ключавыя словы, звязаныя з Уранам, — перамены і аднаўленне. Гэта азначае, што ўздзеянне Космасу на падзеі года выльецца ў моцнае імкненне народаў і індывідуумаў да свабоды. А яшчэ Уран мае здольнасць уплываць на плынь часу. Як пацверджанне — абмеркаванне мэтазгоднасці пераходу на летні і зімні час. У сакавіку Уран перасёк нулявую кропку задыякальнага кола і ў наступныя восем гадоў будзе рухацца па знаку Оўна. У мінулым стагоддзі знаходжанне Урана ў гэтым ваяўнічым знаку прывяло да ўлады многіх дыктатараў, паспрыяла поспеху культу асобы і парадзіла агрэсію. Нават адкрыцці і вынаходніцтвы ў гэты час былі выкарыстаны ў першую чаргу для стварэння новай зброі. Акрамя таго, гэты знак сімвалічна звязаны з дзяцінствам, яго першымі сямю гадамі. Гэта і тлумачыць дзіцячыя, недасканалыя стасункі чалавецтва са сваёй гісторыяй і яе дасягненнямі, а таксама імкненне да татальных перамен, росту і развіцця. Але цяперашняе становішча больш складанае.

**— З чым гэта звязана і як будзе праяўляцца?**

— З уплывам Чорнага Месяца, які да пачатку года Сарокі апынуўся ў адной кампаніі з Сонцам і Уранам. Чорны Месяц — гэта фіктыўная кропка апагея месяцовай арбіты, у астралогіі — дэзінфармацыі і амаральнасці. Яе функцыя — прадэманстраваць нам тое, дзе зло заўважыць цяжка. І калі пара Сонца-Уран сімвалізуе калектыўную

духоўную творчасць, то Чорны Месяц сёлета здольны перакрэсліць усе дасягненні ў гэтым рэчышчы. Нават у найлепшым выпадку рэалізацыя новых праектаў будзе кантраляваца слаба, як кажуць, з пераменным поспехам. У горшым выпадку на нас абрынуцца хвалі інфармацыйнай «чарнухі», негатыву. Дарэчы, у зараастрыйскай астралогіі Чорны Месяц называецца Друдж. На санскрыце гэта азначае «хлусня», «мана». Але цікава, што менавіта гэта старадаўняе слова спарадзіла сучаснае рускае слова «дружба». Далей правядзем такую паралель: для людзей, народжаных пад знакам Вадалея, няма нічога даражэй за сяброўства і адданасць агульнай справе. Эпоха Вадалея — час перавароту ў свядомасці кожнага чалавека. І куды мы з вамі пойдзем, калі наперадзе, паўтаруся, ёсць толькі два шляхі — служэнне свету і спакуса злом? У горшым выпадку праграма Вадалея — гэта анархія, разбурэнне перспектыў, пагоня за прывідам абсалютнай свабоды і абыякавасці да ўсяго святога. Чорны Месяц — гэта спакуса ў бліскучай абгортцы, глянцу ўсёдазволенасці. Яе ўздзеянне на праграмы Сонца і Урану прынясе шалёнае жаданне вылучыцца, падацца арыгінальным, жыць без тармазоў. Натуральна, што і для людзей творчых прафесій узнікнуць цяжкасці з самапрэзентацыяй. Ім будзе складана глядзець на свет аптымыстычна. Цяпер больш захапляюцца булгакаўскім раманам «Майстар і Маргарыта», а верш Маякоўскага «Что такое хорошо» амаль забылі. Але ж хто навучыць выкрываць д'ябальшчыну, такую фантастычную, магутную і на першы пагляд мудрую? Аднак праўду кажуць, ноч цямнейшая перад світанкам!

**— Ці ёсць шляхі да паляпшэння сітуацыі?**

— Трэба звярнуцца да вытокаў, да чыстых крыніц — ведаў, каранёў, традыцыі. Каб прыняць правільнае рашэнне ў пытаннях кар'еры і жыцця, трэба абапірацца на мінулае, імкнуцца зберагчы добрае імя свайго роду і берагчы прыроду. Не здзіўлю, калі скажу, што сямейныя і нацыянальныя традыцыі перасталі быць безумоўнай каштоўнасцю. Ці не таму большасць канфліктаў адбываецца сёння на нацыянальнай глебе? І катаклізмы найбольш балюча б'юць па звычайных людзях. Цяпер жа той, хто абараняе сваю Радзіму, свой народ, будзе падтрыманы Космасам.

**— Значыць, і ў бізнесе, і ў творчасці ў лепшай сітуацыі будуць людзі шчырыя, добрыя?**

— Можна і так сказаць. Мне вось хочацца пагаварыць пра такое дасягненне чалавецтва як этычныя правілы сумеснага існавання. Так званыя цывілізаваныя адносіны, якія вызначаюцца ўменнем цаніць іншую асобу, шукаць кампрамісныя варыянты супрацоўніцтва. У астралогіі з гэтай якасцю суадносіцца планета Хірон *(маленькае нябеснае цела, арбіта якога пралягае паміж арбітамі Сатурна і Юпітэра, адкрытае ў 1977 годзе. — **Аўтар**).* І вось дзіўная акалічнасць — з надыходам эпохі Вадалея астраномы пазбаўляюць яе статуса планеты, абвяшчаюць астэроідам! Для астролагаў гэта з'ява сімвалічная: так прагматычныя навука і палітыка выключылі магчымасць існавання самога паняцця цывілізаванасці. Ці, як мінімум, яго прынізілі. Але ж з Хіронам звязаны такія здольнасці як сінтэз атрыманай інфармацыі, дыпламатыя, пачуццё гумару. Адкуль такое смешнае імя — Хірон? Так звалі кентаўра, які вучыў герояў Элады. І нават калі яго племя было знішчана, ён працягваў несці веды. У пачатку гэтага года Хірон увайшоў у знак Рыб, знак мінулай эпохі. На мове астролагаў гэта азначае, што ў нас яшчэ ёсць магчымасць забраць з сабою ў будучыню напрацаваную чалавецтвам каштоўнасць — цывілізаванасць. Ці мы адкінем усе правілы і «закапсулюемся»? Звычайна, калі правілы перакрэсліваюцца, кожны лічыць, што вольны рабіць усё, што заўгодна. Далёка за прыкладамі хадзіць не трэба. Вазьміце любую сферу жыцця — у камп'ютарным свеце з'явіліся хакеры, парушаюцца прынцыпы паводзін на дарогах, нормай стала мова, якая знішчае граматыку.

**— Не магу ўтрымацца ад каментарыя наконт мовы. Здаецца, менавіта цяпер беларускай, не засмечанай так званым слэнгам, самы час выходзіць наперад. Дарэчы, наколькі мне вядома, астролагі тэрытарыяльна якраз і далучаюць Усходнюю Еўропу да знака свабодалюбівага Вадалея.**

— Так. Роля славянскага эгрегара — пракладваць новыя шляхі, а самая вялікая цяжкасць — правільна выбраць напрамак. Значыць, выраз «час абраў нас» узнік не на пустым месцы.

**— Давайце пагаворым пра творчасць. Як вы лічыце, да якой ступені яе вынікі характэрызуюцца паняццем адноснасці?**

— Пытаннем на пытанне: «А суддзі хто?» На мой погляд, важней за ўсё адчуваць пры ацэнцы чаго б там ні было свой асабісты ўзровень. Спашлюся на аўтарытэты. У працы Гётэ «Эцюды пра мастацтва» выказана думка пра тры ступені ўспрыняцця. Першая — «падабаецца — не падабаецца» — характэрна для чалавека непадрыхтаванага, дылетанта, нават, я б сказала, разявакі. Яго адносіны да мастацтва — проста «ой, як цікава». На гэтым заўсёды грунтуецца тое, што павінна выклікаць цікавасць мас. Далей Гётэ гаворыць пра аматараў — тых, хто ведае аўтараў твораў, каму вядомы тэхнічныя прыёмы, хто знаёмы з перыядамі творчасці майстра. Трэцяя ступень — знаўцы, людзі, якія маюць у сабе інструмент пазнання. Яны прыводзяць непасвечаных у «казачны лес» — у іх для гэтага ёсць веды і вопыт. Цяпер самі вырашайце, да каго прыслухоўвацца, напрыклад, у пытаннях эканомікі: журналіста, эканаміста-пачаткоўца ці вядучага спецыяліста.

**— А ўсё ж, чым, на думку астролага, вызначаецца сапраўднае мастацтва?**

— Мастацтва — не схема, яно не мае канчатковага пункта. Можна, канечне, быць майстрам у справе паяння схем, але схема — канчатковы пункт, яна проста павінна працаваць. Мастацтва мусіць тварыць бясконца. Папросту, сапраўднае мастацтва дае штуршок натхненню і выводзіць чалавечы дух на новы ўзровень. Яно нясе нязгасную жыватворную моц і абуджае тое, што нам у эпоху Вадалея якраз і неабходна — свабоднае і незалежнае бачанне і разуменне. Вы ведаеце, што добра ў японскай кераміцы, якую спецыялісты лічаць непераўзыдзенай? Па-першае, гэта лаканічная дасканаласць форм, па-другое, — немудрагелісты роспіс. Прыкладам можа быць галінка, якую нахіліў ветрык, або ледзь пазначаныя рыскі. Назіральнік можа даць волю ўяўленню і дамаляваць нешта сваё. Вось вам і праверка на творчыя здольнасці. Яшчэ адна заўвага для тых, хто хоча ствараць на стагоддзі. Мастацкі твор стане класікай у тым адзіным выпадку, калі будзе ўтрымліваць у сабе архетыпічную інфармацыю, універсальную, важную ва ўсе часы. Узнікла аднойчы казка пра Калабка, пра чатыры фазы Месяца, калі дакладна, — і дагэтуль жыве.

**— Мне здаецца, творчаму чалавеку патрэбны нейкі арыенцір, маркер, які б паказваў, што ён робіць усё правільна, што не дарэмна працуе. Такі маркер, на маю думку, — вядомасць. Калі я напішу апавяданне, пра якое пачнуць гаварыць чытачы і крытыкі, я не зайдуся ад пыхі, для мяне гэта будзе азначаць наступнае: «Дзякуй Богу, што я змагла, што ў мяне атрымалася». Выходзіць, я добра выконваю свае абавязкі перад Сусветам.**

— Цікава... Вы ўзнімаеце працэс творчасці на такую, я б сказала, звонкую вышыню. Усім бы так: жыць ды радавацца. І радаваць іншых. Вы апісваеце спакойнае пачуццё задаволенасці сваёй працай, але адмаўляецеся ганарыца сабой. Як астролаг канстатую, што вы разгадалі галоўны сэнс творчасці: як добрае Сонца вы імкнёцеся сагрэць, асвяціць, напоўніць энергіяй гэты свет. Таму і стане ваша праца прыцягальнай. Хто ж не пабяжыць да крыніцы жывой энергіі? Такім чынам, сапраўдны талент сам па сабе прадукуе вядомасць.

**— Але ж ці заўсёды таленавіты чалавек імкнецца да вядомасці?**

— Яна неабходна, паколькі дапамагае ўзаемадзейнічаць з найбольшай колькасцю людзей, з усім светам. Для рэалізацыі таленту патрэбны і немалыя сродкі. Дзе іх знайсці дзяржаве, бацькам? Ці ёсць тут традыцыі, ці кожны сам за сябе? У наш час быць вядомым азначае быць багатым. Або наадварот. Бачыце, як усё заблытана. А самі магчымасці для дасягнення славы вам падабаюцца? Ёсць пра што падумаць. Мне хочацца звярнуць увагу на такую выснову: таленавітая праца прыцягвае павагу і любоў. У выніку соцыум

гатовы яе падтрымліваць матэрыяльна. Таму грошы, ганарары — гэта таксама пэўны крытэрый для творчага чалавека. Аднак яны могуць паўплываць на сумленне. Бо таленавіты чалавек бярэ на сябе адказнасць перад Сусветам. Без яе вынаходнік створыць атамную бомбу, а псіхолаг — сайт самазабойцаў. Яны зробяць няшчаснымі тысячы людзей. І пры гэтым будуць вядомымі ў сваім часе, могуць нават застацца ў памяці людзей на стагоддзі. У эпоху Вадалея трэба вырашыць такі парадокс. Падказку я б шукала ў традыцыях продкаў, калі таленавітыя людзі працавалі на ўсё грамадства.

Творчы (сонечны) прынцып звязаны з лічбай «адзін». Для рэалізацыі сваіх здольнасцей чалавеку патрэбна адзінота, а ў дапаўненне — сяброўскае кола аднадумцаў. Калі ж чалавек імкнецца бясконца шакіраваць усіх сваім выглядам ці паводзінамі, то гэта хутчэй псіхічнае адхіленне, блізкае да паталогіі, але ніяк не праява таленту. У задыякальным коле ёсць градусы геніяльнасці, якія часам утрымліваюць указанне на здольнасць да вычварэнняў. Іх трэба «спаліць» пры раскрыцці свайго таленту. Для мяне існуе адна простая ісціна: «злы геній» не можа даць шчасце і жыццёвую сілу. Бо грахі таленавітага чалавека — энергетычны складнік таго, што ім створана.

**— І кожны народжаны мусіць памятаць пра смерць...**

— Упэўнена, што творчыя людзі пра канчатковы пункт свайго існавання задумваюцца часта. Ім трэба паспець зрабіць сваю справу. А ваша пытанне ізноў паказальнае... Яно адлюстроўвае ахоўную рэакцыю чалавецтва, якая аформілася яшчэ ў XX стагоддзі ў адказ на гібель мільёнаў. У сусветнай культуры на мяжы другога тысячагоддзя тэма смерці стала ўспрымацца як абстракцыя. Вартасць жыцця кожнага чалавека пры агульнай глабалізацыі працэсаў стала зводзіцца да яе функцыянальнасці. Нармальна, калі выжываюць мацнейшыя, а астатнія нікога не хвалююць. Няўжо і праўда галоўны сэнс і каштоўнасць жыцця — перамогі, дасягненні, прэстыж і грошы? Многія нават не заўважаюць, што жывуць так, быццам бы яны бессмяротныя. Да творчасці гэта таксама мае дачыненне, нельга ж усё жыццё рыхтавацца да стварэння шэдэўра. Ведаць сваё месца ў прасторы і часе — вось галоўная ўмова, пры якой чалавек можа натхніцца сучаснасцю і пракласці шлях у будучыню. Час разважаць у адпаведным рэчышчы — самастойна, нестандартна і аптымістычна.

*Гутарыла Святлана ДЗЯНІСАВА*

Ірына КЛІМКОВІЧ



# НАШЧАДКІ ГІПАКРАТА

***З часоў Парацэльса ў адукаваным грамадстве існуе перакананне пра адметнасць і важнасць такіх прафесій, як лекары і аптэкары. Медык — самая інтэрнацыянальная і самая гуманная прафесія. Недзе на генетычным узроўні ў нас жыве вера ў тое, што нашчадкі Гіпакрата, спадкаемцы бога Эскулапа, людзі асаблівыя, амаль беззаганныя, да таго ж яны ведаюць пра нас больш, чым мы самі. Сучасная медыцына — гэта функцыянальная праца ўстаноў аховы здароўя, гэта праца не толькі лекараў з вышэйшай адукацыяй, але і з сярэдняй: медсёстраў, фельчараў, фармацэўтаў, зубных тэхнікаў... Ад іх ведаў і самаадданай працы залежыць наша з вамі здароўе, а часам і жыццё. Сёння гаворка пойдзе пра адну з устаноў адукацыі, дзе якраз і рыхтуюць такіх спецыялістаў, пра*** **БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МЕДЫЦЫНСКІ КАЛЕДЖ.** ***Але спачатку трохі гісторыі развіцця медыцыны ў межах Мінска.***



*Цырульніцкі варштат, пушчанне крыві (польскі дрэварыт XVI ст.).*

## «ДЛЯ ПАРАТАВАННЯ ЛЮДСКОГА ЗДАРОЎЯ...»

Пра стан старадаўняй медыцыны ў цяперашняй сталіцы Беларусі, пачынаючы з XVII ст. расказваюць архіўныя дакументы. У той час у Мінску медыцынскіх устаноў у сучасным разуменні гэтага слова не было. Прататыпамі іх з'яўляліся шпіталі і лякарні пры брацтвах і манастырах. Медыцынскую дапамогу гарадскому насельніцтву аказвалі галоўным чынам цырульнікі. Дарэчы, тэрмін «*feldscher*» перакладаецца з нямецкай мовы як «*палявы цырульнік*». У Статуце мінскага цэха цырульнікаў 1635 года ўказвалася, што цырульнікі павінны займацца галеннем, стрыжкай, кровапусканнем, лячэннем хворых, забеспячэннем іх лекамі. У Мінскім цэху было не больш як сем-восем майстроў, кожны з іх меў права трымаць пры сабе аднаго падмайстра і двух вучняў.

З сярэдзіны XVII ст. правам лячэння сталі карыстацца і аптэкары. Ім дазвалялася прадаваць карэнне і займацца цырульніцтвам. У дакументах ёсць згадкі пра дзве аптэкі ў Мінску — 1659 і 1741—1748 гг. Уладальнік першай аптэкі К. Рарабец, «*чалавек патрэбны для паратавання людскога здароўя*». Другая належала члену мінскага магістрата аптэкару Яну Давыду Шэйбу. Над яго домам быў устаноўлены каралеўскі герб — знак манапольнага права продажу медыкаментаў. Элементарную медыцынскую дапамогу маглі аказаць лазеншчыкі, але яны мелі права практыкаваць толькі ў лазнях.

## У БАЛЬНІЦУ ЦІ Ў ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ?

У дакументах канца XIX — пачатку XX стст., у час, калі наша краіна ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі, у Мінску афіцый-

ная статыстыка зарэгістравала 240 тысяч выпадкаў эпідэмічных захворванняў. У той час пра хваробы пачыналі казаць толькі тады, калі яны перасякалі межы кварталаў заможных гараджан.

У пачатку ХХ ст. лячэбная дапамога ў Мінску значна пашырылася, стала больш кваліфікаванай і разнастайнай. Калі ў 1890 годзе быў адзін урач на 1 173 жыхары, то ў 1900 годзе — на 1 644. Тады ў Мінскай губерні слушна адзначалі, што ў губернскую земскую бальніцу за недахопам месца трапіць так жа цяжка, як і ў царства нябеснае.

Больш даступнай шырокім колам гарадскога насельніцтва была амбулаторная дапамога, але чэргі там збіраліся такія, што не ўсе жадаючыя маглі патрапіць да ўрача.

У пачатку ХХ ст. пачалі ўзрастаць рэвалюцыйныя настроі, актывізавалася грамадская думка. Усё гэта прымусіла мінскія ўлады і прадпрымальнікаў зрабіць яшчэ адзін крок да паляпшэння медыцынскай дапамогі рабочым. Але пачалася Першая сусветная вайна. Такім чынам, сённяшняя сістэма аховы здароўя склалася ўжо пасля абвяшчэння БССР і вызвалення беларускай сталіцы ад акупантаў.

## СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ КАЛЕДЖА

Беларускі дзяржаўны медыцынскі каледж мае больш чым паўвекавую гісторыю. У сярэдзіне ХХ ст., у цяжкія пасляваенныя гады наша краіна пачала адраджаць разбураныя гарады і вёскі. Асаблівую ўвагу ўрад надаваў здароўю тых людзей, якія пацярпелі ад вайны. У Мінску адкрываюцца новыя медыцынскія ўстановы. Не хапае спецыялістаў з сярэдняй медыцынскай адукацыяй: медсёстраў, фельчараў, зубных тэхнікаў. У 1953 годзе пры Мінскім мерінстытуце адкрываецца фельчарская школа з трохгадовым тэрмінам навучання. Дырэктарам прызначаецца **Н. І. Барэль**. Набор — 64 навучэнцы.

У 1954 годзе фельчарская школа рэарганізуецца ў самастойную ўстанову «Мінскае медыцынскае вучылішча № 2». Яно стала рыхтаваць кадры для горада Мінска на базе паліклінікі Мінскага трактарнага завода. Дырэктар установы тых часоў — **Кірыл Севасцьянавіч Шаўчук** прайшоў вайну ў якасці ваеннага ўрача, быў узнагароджаны двума ордэнамі «Чырвонай Зоркі», медалямі. У той нялёгкі час вялікі досвед працы дапамагаў яму правільна арганізаваць падрыхтоўку медыцынскіх кадраў. З 1963 года вучылішча стала прымаць навучэнцаў на базе васьмі класаў. Дырэктар — **Аляксандр Аляксеевіч Катовіч**. У 1965 годзе медвучылішча атрымала ўласны будынак па вуліцы Стаханаўская, 10, дзе і знаходзілася да 1979 года. У маі 1976-га дырэктарам вучылішча прызначаны **Міхаіл Ніканоравіч Астрэйка.** Неўзабаве ён арганізоўвае аддзяленне ўдасканалення і спецыялізацыі сярэдніх медыцынскіх работнікаў па асноўных спецыяльнасцях.

У маляўнічым кутку Мінска па Слуцкай шашы ў 1980 годзе ўзводзіцца новы будынак вучылішча. На той час з усіх 730-ці медыцынскіх вучылішч Савецкага Саюза, мінскае — самае вялікае, яно ўваходзіць у дзясятку наймацнейшых. У 1982 годзе на дзённай форме навучання ў вучылішчы рыхтуюць як звычайных медыцынскіх сясцёр, так і для дзіцячых устаноў, акушэрак, фельчараў. З 1983 года дырэктарам Мінскага медыцынскага вучылішча № 2 з'яўляецца **Аляксандр Міхайлавіч Груша**. Упершыню ў краіне ён пачынае падрыхтоўку зубных тэхнікаў з ліку навучэнцаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. У 2000 годзе дырэктарам вучылішча прызначаецца кандыдат медыцынских навук **Аляксандр Валянцінавіч Сай**, які меў досвед працы ў практычнай ахове здароўя.

У 2001 годзе вучылішча становіцца Беларускім дзяржаўным медыцынскім каледжам. У 2003 годзе дырэктарам установы з'яўляецца **Аляксандр Эдуардавіч Вальчук**. У гэты час удасканальваецца матэрыяльна-тэхнічная база, ствараецца інтэрнэт-сайт каледжа. Уводзіцца новая спецыяльнасць — «Медыка-рэабілітацыйная справа». З 2007 года ў структуры каледжа адкрываецца аддзяленне павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў сярэдняга медыцынскага і фармацэўтычнага персаналу. З лютага 2008 года каледж узначальвае доктар медыцынскіх навук **Іван Іванавіч Буракоў**. З 2011 года ўводзіцца новая спецыяльнасць — «Фармацыя».

За гады свайго існавання ў дадзенай навучальнай установе веды і ўменне атрымалі звыш 25 тысяч медыцынскіх сясцёр, фельчараў, акушэраў, зубных тэхнікаў. Сёння тут набываюць прафесію больш за паўтары

тысячы навучэнцаў, як на платнай аснове, так і на бюджэтнай. У асноўным гэта маладыя людзі з усіх куткоў Беларусі, блізкага і далёкага замежжа. Многія з іх працягваюць адукацыю ў вышэйшых навучальных установах.



### ПАДРЫХТАВАЦЬ І ВЫХАВАЦЬ ДАСТОЙНЫХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ
***(размова з дырэктарам каледжа)***

**Іван Іванавіч БУРАКОЎ** працуе ў каледжы амаль чатыры гады. Нарадзіўся ў Оршы ў сям'і адстаўнога ваеннага і школьнай настаўніцы. Хлопчыку вельмі падабалася біялогія, а яна, як вядома, шчыльна звязана з медыцынай. Пасля заканчэння сярэдняй школы з залатым медалём ён паступіў у Віцебскі медыцынскі інстытут. Спачатку вучыўся на ўрача, а пасля выпуску яшчэ два гады ў клінічнай ардынатуры на кафедры шпітальнай тэрапіі. Потым працаваў у чыгуначнай бальніцы тэрапеўтам. Але вабіла навука, і Іван Іванавіч прайшоў па конкурсе асістэнтам на кафедру прапідэўтыкі (*propaideuo* — дэтальнае вывучэнне на будычыню) унутраных хвароб Віцебскага медінстытута. Спачатку даследаваў праблемы кардыялогіі пад кіраўніцтвам Алега Георгіевіча Даўгялы, але пасля ягонай смерці пераключыўся на гастраэнтэралогію.

Ягоны новы настаўнік Мікалай Яўгенавіч Фёдараў усебакова азнаёміў вучня з праблемамі гэтай галіны медыцыны, прадставіў вядомым навукоўцам, паслядоўнікам прафесара Уладзіміра Харытонавіча Васіленкі, пачынальніка маскоўскай гастраэнтэралагічнай школы. У 2003 годзе Івана Іванавіч абараніў у Маскве доктарскую дысертацыю, пасля чаго тры гады загадваў кафедрай прапідэўтыкі ў Віцебску. У 2005 годзе яго запрасілі на кафедру тэрапіі Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі, дзе І. Буракоў сваю прафесарскую працу сумяшчаў з адміністратыўнай — узначальваў Цэнтр павышэння кваліфікацыі спецыялістаў з сярэдняй медыцынскай адукацыяй. Пасля адбылося далучэнне цэнтра да Беларускага дзяржаўнага медыцынскага каледжа, Іван Іванавіч застаўся пры ўлюбёнай справе. У 2007 годзе цэнтр рэарганізавалі ў аддзяленне павышэння кваліфікацыі пры каледжы, а ўжо ў 2008 па прапанове міністра аховы здароўя Васілія Іванавіча Жарко, Іван Іванавіч узначаліў навучальную установу, стаў дырэктарам каледжа.

У вольны ад працы час Іван Іванавіч цікавіцца беларускай літаратурай. Улюбёны пісьменнік — яго зямляк Уладзімір Караткевіч. Гэта ідзе ад маці, яна выкладала беларускую мову і літаратуру. Ад бацькі Іван Іванавіч атрымаў у спадчыну цікаўнасць да вайсковай тэматыкі, той ваяваў, а потым служыў на Далёкім Усходзе. Таму і кнігі, і фільмы, і песні любімыя — пра вайну. А сын цяперашняга дырэктара, хутчэй за ўсё, пойдзе па дзедавых і бацькавых слядах, у медыцыну. Разам сям'я Бураковых па выхадных выязджае на лецішча, каб адпачыць ды папрацаваць. Сумесная праца збліжае. У гэтым перакананы і дырэктар каледжа, але нават на адпачынку ён не забываецца пра свае службовыя абавязкі.

**— Іван Іванавіч, раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра тое, якія прафесіі можна атрымаць у каледжы?**

— У дзяржаўнай сістэме аховы здароўя нашай краіны спецыялісты з сярэдняй медыцынскай адукацыяй — самая шматлікая частка прафесіяналаў. Сёння больш за 120 тысяч медыцынскіх сясцёр, акушэрак, фельчараў, лабарантаў разам з урачамі паспяхова выконваюць адказную місію — зберагаюць і ўмацоўваюць здароўе беларусаў. Наша ўстанова адукацыі больш чым паўвека рыхтуе медыцынскіх работнікаў для працы ў розных галінах медыцыны.

Найбольш папулярная са спецыяльнасцей «***Сястрынская справа***». Неаспрэчна, што прафесія медсястры, гуманная і міласэрная, уваходзіць у тройку самых паважа



*Практычныя заняткі ў бальніцы.*

ных. Кожны дзень ім даводзіцца працаваць з цяжкахворымі, часам — безнадзейна хворымі людзьмі, дапамагаць у аперацыйнай і ў бальнічнай палаце, даглядаць састарэлых і інвалідаў. Зразумела, што для такой працы неабходна не толькі дабрыня, але і бясконцае цярпенне. У каледжы яны вучацца выконваць шматлікія медыцынскія працэдуры, якія ім потым прыдаюцца і ў паўсядзённым жыцці.

Спецыяльнасць «***Лячэбная справа***» прадугледжвае атрыманне глыбокіх ведаў пра метады дыягностыкі і лячэння захворванняў, знаёміць з пытаннямі прафілактычнай медыцыны. У нас існуе падрыхтоўка фельчараў-акушэраў, якія могуць працаваць не толькі ў радзільных установах, але і ў службах хуткай медыцынскай дапамогі, аўтаномна ў сістэме першаснай медыка-санітарнай дапамогі. Як вядома, прафесія фельчара з'явілася яшчэ ў сярэднявеччы. Тады так называлі чалавека, які дапамагаў параненым на полі бою. Сёння фельчар можа вызначыць дыягназ захворвання і да ўмяшальніцтва ўрача аказаць кваліфікаваную медыцынскую дапамогу: зрабіць перавязку, ін'екцыю і г. д. У паліклініках, амбулаторыях на ФАПах яны працуюць як памочнікі ўрача.

Спецыяльнасць «***Зубапратэзная справа***» дазваляе засвоіць выраб артапедычных пратэзаў для выпраўлення дэфектаў зубоў. Зубны тэхнік з'яўляецца галоўным памочнікам урача-стаматолага (артадонта). Па гіпсавым злепку, зробленым артадонтам са сківіцы хворага, ён робіць пратэзы. Гэта патрабуе ювелірнай працы. Таму зубныя тэхнікі не толькі выкарыстоўваюць самыя сучасныя тэхналогіі для артапедычных канструкцый, але і найноўшыя прынцыпы эстэтычнай стаматалогіі.

Па спецыяльнасці «***Медыка-рэабілітацыйная справа»*** мы рыхтуем спецыялістаў новага тыпу — аднаўленчай медыцыны. На сёння гэта, безумоўна, самая папулярная прафесія, якая мае да таго ж знакавае сацыяльнае значэнне. Медыцынскія сёстры па масажы і інструктары лячэбнай фізкультуры надзвычай запатрабаваны ў курортна-санаторных ўстановах і ва ўстановах аховы здароўя. Яны дапамагаюць у засваенні навыкаў здаровага ладу жыцця. Дзякуючы іх намаганням, інваліды атрымліваюць фізічную і псіхалагічную дапамогу, а шмат у якіх выпадках папярэджваецца развіццё інваліднасці.

Сёлета мы атрымалі дазвол Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на навучанне па новай, пятай, спецыяльнасці: «***Фармацыя***». Гэта навука старэйшая за медыцыну. З глыбокай старажытнасці людзі лекаваліся зёлкамі, займаліся гамеапатыяй. Толькі потым з'явілася медыцына. Фармацэўты працуюць не толькі ў аптэках і на складах медыкаментаў. Іх можна сустрэць і ў арганізацыях, якія збіраюць і апрацоўваюць сыравіну для лекаў, у навукова-даследчых інстытутах і лабараторыях. Фармацэўт павінен ведаць хімію, батаніку, быць уважлівым і адказным, мець выдатную памяць і веды па матэматыцы.

**— Дзе праходзяць практыку навучэнцы каледжа, куды пасля заканчэння вучобы іх размяркоўваюць?**

— Тэарэтычныя заняткі адбываюцца тут, у каледжы, а практычныя, як правіла, на базе лячэбных устаноў Мінска. Гэта не толькі тыя ўстановы, якія падпарадкоўваюцца Камітэту па ахове здароўя, але і профільнаму міністэрству. Сюды, да прыкладу, уваходзяць: Мінская гарадская клінічная бальніца, Мінская дзіцячая клінічная бальніца, Дзіцячы анка-гематалагічны цэнтр, навукова-практычныя цэнтры і г. д. Усяго такіх баз, дзе праходзяць практычныя заняткі, вучэбную і пераддыпломную практыкі навучэнцы каледжа, каля шасцідзесяці. Часцей за ўсё гэта клінікі. У паліклініках практыкуюцца нашы будучыя фельчары, якія пасля заканчэння каледжа ў асноўным ідуць туды

працаваць, яшчэ ў здраўпункты і на станцыі хуткай медыцынскай дапамогі. А калі ўзяць фельчарска-акушэрскую спецыяльнасць, то іх навучанне адбываецца там, дзе ёсць радзільнае аддзяленне.

Усе астатнія нашы спецыялісты праходзяць практыку ў тэрапеўтычных, хірургічных, педыятрычных і іншых аддзяленнях клінічных бальніц, дзе яны і застаюцца працаваць пасля размеркавання і праходжання дадатковай спецыялізацыі. Перадусім, мы даём навучэнцам каледжа базавую сярэднюю медыцынскую адукацыю, якая дазваляе ім працаваць у кожнай адпаведнай установе. На сёння тых вольных працоўных месцаў, якія прапаноўвае практычная ахова здароўя Беларусі, нашмат больш, чым можа забяспечыць наш каледж. Паўсюдна па краіне запатрабаваны медыцынскія сёстры, фельчары, акушэры, зубныя тэхнікі, фармацэўты. Выбар для выхаванцаў каледжа вялікі, пры размеркаванні іх пажаданні заўсёды ўлічваюцца.

**— Вядома, што не адразу атрымоўваецца задуманае, здараюцца памылкі... Вашы навучэнцы практыкуюць свае медыцынскія веды адразу на людзях?**

— Безумоўна, не. Так, «азам» сястрынскай справы і маніпуляцыйнай тэхнікі — догляду за хворымі, практыцы ўвядзення ін'екцый, масажу, зубной тэхніцы яны вучацца ў кабінетах каледжа на фантомах або муляжах. Ёсць муляж таза, рукі, сківіцы чалавека, нават фантом нованароджанага. Усе маніпуляцыі з хворымі, якія толькі магчыма ўявіць, адпрацоўваюць спачатку на фантомах. Тое самае робяць і перад экзаменацыйнай камісіяй на іспытах. Пасля гэтага на практычных занятках у клініках навучэнцы могуць працаваць і з жывымі людзьмі пад кіраўніцтвам метадычнага кіраўніка з каледжа і старэйшай медыцынскай сястры клінічнага аддзялення.

**— Існуе такая думка: каб зрабіцца ўрачом, не трэба ісці вучыцца ў сярэдне-спецыяльную ўстанову, а адразу ў вышэйшую. Ці так гэта?**

— Сапраўды, многія кажуць, што работа, да прыкладу, медсястры — лёс тых, у каго не хапіла сіл, часу і сродкаў атрымаць медыцынскую адукацыю пасля вучылішча ці каледжа ва ўніверсітэце і займець «урачэбны» дыплом. Нібыта паўсядзённыя абавязкі такіх спецыялістаў вельмі простыя: раздаваць прапісаныя таблеткі, фіксаваць тэмпературу і ціск у хворых, рабіць уколы, ставіць гарчычнікі... Аднак такое павярхоўнае меркаванне супярэчыць ўяўленню пра прафесію, якая на сёння склалася ў заходняй сістэме аховы здароўя, і пра каштоўнасці якой пачынаюць згадваць і ў нас. У клініках ЗША, Канады, Заходняй Еўропы медыцынскія сёстры не проста дапамагаюць дактарам, а бяруць самы актыўны ўдзел у лячэнні і рэабілітацыі, прафілактычных мерапрыемствах і ў абследаванні пацыентаў. У нас гэтыя функцыі выконваюць урачы. Што, безумоўна, няправільна.

На сёння ў Беларусі існуе двухступеньчатая падрыхтоўка медыцынскіх сясцёр. Так, ёсць сястра з сярэдне-спецыяльнай адукацыяй, а ёсць і з вышэйшай. Але айчынная сістэма аховы здароўя пабудавана так, што такія спецыялісты не рэалізуюцца ў прафесійным асяроддзі. Таму цяпер у дзяржаве клапоцяцца пра пашырэнне іх паўнамоцтваў і змену функцыянальных нагрузак. Заказчык кадраў, Міністэрства аховы здароўя, увяло новую пасаду — памочнік урача на базе фельчарскай кваліфікацыі. Мы ў каледжы апроч медсястры і фельчара, таксама выпус-



*Кабінет педыятрыі,*
*заняткі вядзе Таццяна Апанасаўна Нікіфарава.*

каем такіх спецыялістаў і спадзяёмся, што іх веды і ўменні будуць ацэнены належным чынам.

**— Як на аснове сярэдне-спецыяльнай медыцынскай адукацыі атрымаць вышэйшую?**

— Ва ўсіх іншых галінах, у тым ліку і ў эканоміцы, у тэхнічнай, сацыяльнай і педагагічнай сферах існуе пераемнасць паміж сярэдне-спецыяльнай і вышэйшай адукацыяй. Сярэдне-спецыяльная адукацыя дазваляе падняцца на ўзровень першай ступені вышэйшай адукацыі праз скарочаны тэрмін навучання. У сістэме аховы здароўя Беларусі гэтая пераемнасць, на жаль, не склалася. Выпускнікі каледжа паступаюць у вышэйшыя медыцынскія навучальныя ўстановы краіны на агульных умовах. Таму і ўзнікла думка пра рэарганізацыю нашай навучальнай установы ў вышэйшы каледж. Тады б мы атрымалі права рыхтаваць медыцынскіх спецыялістаў па першай ступені вышэйшай адукацыі. Але, каб адбыліся падобныя змены, патрэбны час і немалая падрыхтоўчая праца. Тым не менш, дзеля такой перспектывы, мы гатовы распачаць рэформы.

**— У нялёгкай і адказнай працы дырэктара не абысціся без верных паплечнікаў і дасведчаных памочнікаў?**

— У каледжы склаўся высокакваліфікаваны прафесарска-выкладчыцкі калектыў. Навучальны працэс забяспечваюць сапраўдныя прафесіяналы, у большасці педагогаў першая, вышэйшая катэгорыя настаўніка ці ўрача. Сярод іх ёсць дактары і кандыдаты медыцынскіх навук, спрактыкаваныя спецыялісты вядучых устаноў аховы здароўя. Найперш узгадаю сваіх непасрэдных памочнікаў: **Ніна Аляксандраўна Каралёнак**, **Галіна Вацлаваўна Гайдо**, **Ірына Георгіеўна Бекіш**, **Людміла Эрземаўна Маліноўская, Юрый Юр'евіч Карацееў, Людміла Мікалаеўна Рабцэвіч, Ірына Леанідаўна Дудар, Іна Пятроўна Краўцова, Таццяна Міхайлаўна Кобяк, Вольга Віктараўна Краўчанка, Ірына Іванаўна Цітавец, Алена Генадзеўна Заікіна, Галіна Вітальеўна Грышкевіч, Таццяна Сяргееўна Тагай**... Дзякуючы гэтым людзям, вучэбныя і практычныя заняткі адбываюцца на высокім тэхнічным узроўні. У каледжы ёсць камп'ютарныя класы, падключаныя да інтэрнэту, закупаюцца трэнажоры, фантомы і муляжы.

Тут працуюць выкладчыкі, якія маюць вялікі досвед педагагічнай працы. Гэта: **Алена Іванаўна Варанцова**, **Вікторыя Васільеўна Мазго**, **Ірына Фёдараўна Слабко**, **Рэгіна Аляксееўна Церашкова**, **Ніна Мікалаеўна Мілько-Чарнаморац**, **Святлана Іванаўна Нетупская**, **Мечыслаў Мар'яновіч Марквардэ**, **Дыяна Дзмітрыеўна Іванова**, **Таццяна Аляксееўна Свінцілава**, **Тамара Ануфрыеўна Котава**, **Ларыса Барысаўна Салавых**. Сярод ветэранаў, якія кіравалі ў свой час установамі адукацыі. назаву **Міхаіла Ніканоравіча Астрэйку** і **Мікалая Міхайлавіча Карпішына**. Ёсць і медыцынскія сёстры з вышэйшай адукацыяй, якія працуюць выкладчыкамі: **Вольга Васільеўна Байжуменава**, **Аліна Станіславаўна Кербіч**, **Алена Іванаўна Лукашэвіч** і медбрат **Дзмітрый Валер'евіч Венскі.**

Каледж ганарыцца тым, што ў выкладчыцкі склад уваходзяць і яго выпускнікі: **Вольга Ігараўна Васілевіч**, **Ірына Міхайлаўна Волкава**, **Алена Леанідаўна Дубовік**, **Ала Уладзіміраўна Кандратовіч, Таццяна Вітальеўна Тарасевіч**.

Калектывам каледжа вядзецца вялікая праца па адаптацыі новых вучэбных праграм у адпаведнасці з існуючымі нормамі. Але галоўнай праблемай педагогаў з'яўляецца падрыхтоўка высокакваліфікаваных медыцынскіх кадраў і выхаванне маральна і сацыяльна сталых асоб. Мы заўсёды кажам сваім вучням: да людзей трэба ставіцца так, як бы вы ставіліся да сваіх родных, да сябе. Кожны чалавек абавязкова ў сваім жыцці сутыкаецца з медыцынай і яе супрацоўнікамі. Натуральна, што яму хочацца адпаведнага стаўлення да сваёй асобы, кваліфікаваных дзеянняў медыкаў. І наша задача падрыхтаваць і выхаваць такіх спецыялістаў.

**— Дзякуй за размову**.

*Таццяна СІВЕЦ*

# ТВОРЧАСЦЬ ЗАМЕСТ ЛЕКАЎ



**В**ас штосьці хвалюе?

Перажыванні не даюць спакою?

Праблемы не выпускаюць з-пад аблогі?

Здаецца, што нічога не дапаможа, а да псіхолага ці псіхіятра ісці страшнавата — раптам і сапраўды нешта знойдзе!

Што ж рабіць?

Самы просты спосаб, да якога раіць звярнуцца мой знаёмы доктар, — узяць усё ва ўласныя рукі! Найперш — ручку. І запісаць свае турботы (прычым, абавязкова не той рукой, якой вы пішаце звычайна), павольна, не спяшаючыся... Падчас гэтага занятку ваш мозг пераключаецца (іншымі словамі, адбываецца актывізацыя міжпаўшарных узаемадзеянняў), і вось ужо тая вялізная гара клопатаў перастае здавацца такой вялізнай, заўтрашні дзень перастае палохаць, а трывожнасць памяншаецца... Не ведаеце, што канкрэтна вас непакоіць? Тады можна проста маляваць, заціснуўшы алоўкі вертыкальна ўніз паміж другім і трэцім пальцамі абедзвюх рук...

Лепей?..

Тады вяртайцеся да чытання!

І давайце спачатку вызначым, які псіхалагічны эфект аказваюць заняткі творчасцю. Дапаможа нам у гэтым урач-псіхіятр 6-й гарадской клінічнай бальніцы г. Мінска **Дзмітрый Ігаравіч НАРЭЙКА**:

— Большасць псіхалагічных трэнінгаў заснавана менавіта на занятках творчасцю. Бо творчасць — гэта найперш праява падсвядомасці. Чалавек не заўсёды здольны выказаць штосьці прама, а вось у выглядзе вершаў, малюнкаў, рухаў можна вывесці з чалавека балючыя для яго перажыванні. Гэта звычайная практыка. Асабліва гэта актуальна для творчых людзей, якія маюць справу з колерамі, гукамі, словамі. Гэта вялікая эмацыйная нагрузка, з якой не кожны можа справіцца, таму ўсе творчыя людзі — сапраўды асаблівыя. Яны бачаць свет па-іншаму, адчуваюць яго па-іншаму, але гэта не робіць іх ненармальнымі. Творчасць — гэта не хвароба. Ёсць такая рэч як акцэнтуацыя асобы, ды вось усе творчыя людзі, як правіла, акцэнтуанты — у іх адна рыса асобы вылучаецца сярод іншых, але і гэта стан нормы! Хаця для геніяльнага чалавека паняцця нормы не існуе наогул. Яны рэагуюць не так, як большасць, жывуць у сваім уласным свеце, дзе словы складаюцца ў рыфмаваныя радкі, гукі становяцца мелодыямі, а з колераў і фарбаў нараджаюцца малюнкі...

**— Такім чынам, адны пішуць вершы, другія малююць, трэція спяваюць... Наколькі выбар творчых заняткаў абумоўлены псіхалагічным тыпам асобы?**

— Заўсёды. Галоўнае — зразумець, чаго ты хочаш, і не саромецца таго, што спачатку табе падабаецца адно, пасля — другое... Ты

проста шукаеш сябе. Чалавек, зрэшты, можа навучыцца рабіць што заўгодна. Проста аднаму трэба прыкласці дзеля гэтага больш намаганняў, другому — менш. І часам таленавітыя людзі расплачваюцца за свае здольнасці ўласным здароўем...

**— Ці можна развіваць творчыя магчымасці без шкоды для здароўя?**

— Калі ласка! Кантралюйце сябе, звяртайцеся да доктара. Дарэчы, многія творчыя асобы звяртаюцца да мяне: і артысты, і музыканты, і мастакі. У кожнага, канечне, свае праблемы: трывога, дэпрэсія, галюцынацыі, праблемы са сном...

**— Як творчаму чалавеку пераадолець стрэс?**

— Стрэс для кожнага мае сваё аблічча: для кагосьці стрэсавая сітуацыя — непрабіты талон у аўтобусе, а для творцы — кветка, якую ён не можа перадаць на палатне. Адсюль узнікае процьма пытанняў, з’яўляецца вялікая колькасць шляхоў і праблема выбару. У выніку — неўроз, калі ты знаходзішся нібыта ў падвешаным стане — паміж небам і зямлёй. Што рабіць? Выбіраць! Зрабіць першы крок. Не можаш пісаць — напішы хаця б што-небудзь. Калі ты пачнеш рабіць штосьці, пачынаецца рух і ты разумееш нарэшце, куды ты ідзеш і куды табе трэба (магчыма, у адваротны бок!)... Але гэта хвароба творчых людзей — яны чакаюць азарэння. Праўда, калі нічога не рабіць, можна прачакаць усё жыццё...

**— Магчыма, ёсць нейкія агульныя рэкамендацыі, якія вы можаце даць творчым людзям?**

— Беражыце сябе. Тварыце, на здароўе! Але, калі нешта не так, то лепш лішні раз завітаць да доктара, а яшчэ лепш — мець яго за сябра, каб можна было прыйсці і проста пагаварыць або атрымаць лекі для сну, бо, як правіла, усё пачынаецца менавіта з бяссоння. Творчы чалавек перастае спаць, калі яму трэба зрабіць нешта, а натхнення — няма. Чаму няма натхнення? Справа можа быць у будзёных клопатах, у стасунках з мужам ці жонкай, у зарплаце, якая ў творцы павінна быць, на мой погляд, незалежна ад таго, колькі радкоў ён напісаў за суткі... Маладым творцам магу параіць толькі не вязнуць у дробязях, не займацца самакапаннем і не забывацца пра галоўнае — творчы працэс. Памятайце, чым больш радасна вы будзеце пісаць, тым лепш. У нас любяць пісаць вершы пра нешчаслівае каханне, пра тое, што ўсё будзе кепска, а хочацца пазітыву. Мы ж харошыя, вясёлыя, добрыя людзі. Чаму не радавацца? Жывіце з радасцю ўнутры, імкніцеся наперад і не бойцеся вучыцца!

Найлепшым прыкладам для тых творцаў, якія не бачаць радасці ва ўласным жыцці, можа паслужыць дзейнасць аддзялення дзённага знаходжання для інвалідаў ДУ «Тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва» Кастрычніцкага раёна г. Мінска.

Наогул, дзейнасць Цэнтра заключаецца ў выяўленні людзей, якім патрэбна абарона і клопат. Супрацоўнікі шукаюць адзінокіх людзей, пенсіянераў, інвалідаў, запрашаюць іх на свае акцыі і мерапрыемствы, прапануюць наведваць разнастайныя клубы, дапамагаюць па гаспадарцы і матэрыяльнымі сродкамі... Ды нават проста віншуюць са святамі! На ўліку ў Цэнтры стаяць каля трынаццаці тысяч чалавек.

Заняткі аддзялення дзённага знаходжання для інвалідаў, якім кіруе **Алена Віктараўна Ціханава,** наведваюць 10—12 чалавек. Тут імкнуцца прыцягнуць увагу да праблем маладых людзей з асаблівасцямі развіцця і стварыць умовы для паляпшэння якасці іх жыцця. Дзеля гэтага створаны праект па vip-валанцёрстве «Яркае жыццё», які распачаўся ў жніўні 2010 года. Тут робяць добрыя справы, не чакаючы пахвалы і ўзнагарод.

Выхавацелі імкнуцца навучыць наведвальнікаў Цэнтра звычайным побытавым рэчам: хадзіць у краму, купляць прадукты, гатаваць простыя стравы... Дзеля гэтага распрацоўваюцца тэхналагічныя карты з малюнкамі для тых, хто не ўмее чытаць. На дзяжурствы звычайна прызначаюцца па два чалавекі: двое гатуюць, двое прыбіраюць. Працуюць з выхаванцамі 6 чалавек, у тым ліку кіраўнік і спецыяліст па сацыяльнай рабоце, і кіраўнікі кружкоў.

У кожнага з наведвальнікаў аддзялення — свае любімыя справы: камусьці падабаец-

ца прыбіраць, камусьці гатаваць, некаторыя малююць ці займаюцца роспісам па дрэве ці шкле, бісерапляценнем, робяць лялькі, спяваюць — наогул імкнуцца самымі рознымі спосабамі ўпрыгожыць сваё жыццё. Цэнтр прапануе сваім наведвальнікам сустрэчы з вядомымі беларускімі музыкантамі, спартсменамі, майстар-класы ад дзеячаў айчыннай культуры і мастацтва.

Якія ж праблемы ўзнікаюць у гэтых маладых людзей?

Згодна з апытаннем, большасць з іх незадаволена сваім жыццём і немагчымасцю прымаць удзел у культурным жыцці сталіцы (87 %), 98 % могуць прымаць удзел у мерапрыемствах рознага кшталту толькі ў суправаджэнні, больш за палову рэспандэнтаў маюць добрыя стасункі з людзьмі і практычна ўсе кажуць, што ім падабаецца быць актыўнымі, жыць насычана, цікава і творча.

**— Але як выбраць занятак да душы?**

— Гэта справа не з лёгкіх нават для тых, хто зрабіў творчасць часткай сваёй прафесіі... Напрыклад, студэнты **Інстытута журналістыкі.**

Так, **Алене Шандрак**, каб вызначыцца з колам сваіх зацікаўленняў, патрэбна высылка на бязлюдны востраў. І туды яна згодна накіравацца, толькі прыхапіўшы поўны збор твораў Дастаеўскага!

**Алене Цішчэўскай** для прыемнага баўлення часу не хапае духу Сярэднявечча ды іголкі ў руках, якой яна здольна пашыць, ці дакладней «зрабіць рэканструкцыю» старадаўняга строя. Алена ведае, што, да прыкладу, гараджанка даўней не магла насіць шаўковыя падвязкі, а замужняя жанчына мусіла хаваць валасы пад цэлы шэраг галаўных убораў... Можна толькі парадавацца за чалавека, якому дадзена магчымасць (хай і ва ўяўленні) апынуцца ў мінулым!

А вось **Юлія Алёхна** імкнецца паспець усё сёння і зараз: вывучыць замежныя мовы, навучыцца фатаграфаваць, кіраваць аўтамабілем (не адначасова, канечне!), а таксама паспець паглядзець цікавае кіно, пачытаць кнігу ці зрабіць трохмерную мадэль з тканіны ці паперы. Як у яе на ўсё хапае часу? Мажліва, Юлія проста не шкадуе яго для творчасці, а значыць — сама стварае сваё жыццё!

Лялькі, вышыванне, танцы, валейбол... І гэта толькі да 15 гадоў! А пасля пачалося захапленне мастацкім словам, першыя вершы і замалёўкі, якія праклалі **Юліі Кароль** шлях у Інстытут журналістыкі, дзе хобі стала прафесіяй.

Для некаторых творчасць стала часткай жыцця з самага дзяцінства. Так, **Марына Салавей** яшчэ ў пяць гадоў даведалася, што такое канцэрты, рэпетыцыі і выступленні на фестывалях танцаў. А калі яна патрапіла ў школу... Я нават не буду пералічваць усе тыя кружкі, якія яна наведвала! Ды і сёння Марына штодня прагне новых уражанняў і сустрэч.

Гэтаксама як і **Таццяна Швед**, дарэчы, якая не ўяўляе свайго жыцця без прыгод і новых знаёмстваў. Яна можа і з парашутам скочыць, і ў Піцер аўтаспынам з’ехаць...

Дзе тут творчасць, спытаеце?

У тым, каб не баяцца і... Так-так! Рухацца наперад!

# СУМЕСНЫ ПРАЕКТ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ» І ГАЗЕТЫ МУС БЕЛАРУСІ «НА СТРАЖЕ»

Вось і лета! Лес, возера, цяпельца так і вабяць гарадскіх жыхароў, якія стаміліся ад спраў. На працягу навучальнага года дзеці і падлеткі так ці іначай заняты, а на летніх канікулах у іх з'яўляецца маса вольнага часу, часта нічым і нікім не арганізаванага. Каб дапамагчы бацькам забяспечыць занятасць, бяспеку дзяцей і кантроль за іх паводзінамі, з 1 мая па 1 верасня ў рэспубліцы ўводзіцца ў дзеянне міжведамасная спецыяльная праграма «**Клопат**». У ёй бяруць удзел Міністэрства ўнутраных спраў, адукацыі, аховы здароўя, працы і сацабароны, ГА «БРСМ» і многія іншыя зацікаўленыя ведамствы і арганізацыі. Аб мэтах, задачах, накірунках працы праграмы распавёў намеснік начальніка ўпраўлення прафілактыкі галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі МГБ МУС **Аляксандр Саракавік.**

**— Якую працу супрацоўнікі міліцыі праводзяць на працягу трох летніх месяцаў?**

— Па-першае, працягваецца кругласутачная праца ў аздараўленчых лагерах у рамках праграмы «Клопат». Рашэннямі начальнікаў тэрытарыяльных органаў адбываецца размеркаванне супрацоўнікаў: іх колькасць, графік дзяжурстваў у лагеры. Як правіла, замацоўваюцца найбольш вопытныя і падрыхтаваныя з ліку прадстаўнікоў міліцыі грамадскай бяспекі. Замацаваны супрацоўнік абавязаны праводзіць гутаркі, тэматычныя выступленні, тлумачыць нормы бяспекі і правілы паводзін у лагеры і па-за ім. Бо дзіця, выязджаючы за межы горада, пазбаўляючыся кантролю бацькоў, хоць і знаходзіцца пад наглядам выхавальнікаў, але адчувае сваю самастойнасць і свабоду. Некаторых гэта, на жаль, штурхае на здзяйсненне не зусім добрых учынкаў. Таму наша задача — не дапусціць здзяйснення злачынстваў непаўналетнімі, а для гэтага як мага больш тлумачыць і расказваць.

**— Акрамя арганізацыі вольнага часу дзяцей, пра што яшчэ руніцца «Клопат»?**

— Працаўладкаванне старшакласнікаў на летні перыяд. На сённяшні дзень кожны жадаючы можа знайсці сабе працу, нават не маючы адпаведнай адукацыі. Дзеці накіроўваюцца ў школьныя брыгады, якія праводзяць нескладаны рамонт, уборку тэрыторыі.

Таксама хлопцы могуць папоўніць студэнцкія атрады. У МУС існуе дамоўленасць з Міністэрствам адукацыі аб тым, што ў студатрады прымаецца як мага большая колькасць падлеткаў, якія стаяць на ўліку ў Інспекцыі па справах непаўналетніх. Акрамя таго, практычна на ўсіх прадпрыемствах ёсць месцы, забраніраваныя спецыяльна для непаўналетніх. Плюс бязвыплатная дзейнасць у валанцёрскіх атрадах.

**— Ці зведала праграма якія-небудзь змены за апошнія гады?**

— Кожны год мы імкнёмся ўдасканальваць працу. У канцы 1990-х па ініцыятыве сілавых ведамстваў, у тым ліку Міністэрства ўнутраных спраў, з'явіліся абаронча-спартыўныя і ваенна-патрыятычныя лагеры на базе вайсковых частак, цяпер Магілёўскага вышэйшага каледжа і Акадэміі МУС, падраздзяленняў міліцыі, а таксама ва ўстановах адукацыі, але пад патранажам супрацоўнікаў АУС. Такая практыка зарэкамендавала сябе станоўча.

У хлапчукоў ёсць магчымасці вывучыць побыт ваеннаслужачага, убачыць работу супрацоўнікаў праваахоўных органаў, пабываць на экскурсіях па розных падраздзяленнях міліцыі. Шмат увагі надаецца спартыўнаму і патрыятычнаму выхаванню. У такіх лагерах хлопцы жывуць бясплатна, цалкам забяспечваюцца харчаваннем, часта — і форменным абмундзіраваннем. У асноўным гэта цяжкія падлеткі, дзеці з малазабяспечаных і няпоўных сем'яў. У мінулым годзе паміж МУС і Беларускай праваслаўнай царквой быў заключаны дагавор аб правядзенні ў такіх лагерах гутарак па духоўным выхаваннм. Хлопцаў наведваюць праваслаўны і каталіцкі святары. Гэтую форму работы будзем практыкаваць і надалей, бо прыцягненне да веры падлеткаў, якія збочылі з правільнага шляху, неабходнае.

*Гутарыла карэспандэнт газеты «На страже» Аксана ШАТУНОВА*

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## МЯДЗЕЛЬСКІ РАЁН

* * *

**Вёска Навасёлкі** Старагабскага (раней Слабадскога) сельсавета

**Салавей Ліліі** (н. 1.9.1934), беларускай фалькларысткі радзіма. Скончыла Слабадскую сямігодку. У 1950 г. паступіла ў Пастаўскае педвучылішча, пасля заканчэння якога настаўнічала ў школах г. Ашмяны. У 1960 г. скончыла Мінскі педінстытут. Працавала ў Брэсцкай абласной бібліятэцы. У 1967 г. паступіла ў аспірантуру Інстытута мовазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Аўтар манаграфіі «Беларуская народная балада» (1978), складальнік тома «Балады» (кн. 1-2, 1977—1978). Запісала ў розных мясцінах Беларусі некалькі тысяч фальклорных твораў, з якіх больш за 500 апублікавана ў серыі «Беларуская народная творчасць». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі 1986 г.

**Вёска Нарач** Нарацкага сельсавета

**Малахоўскага Рагнеда** (н. 5.9.1984), паэта, месца пражывання. Нарадзіўся у пас. Сяймчан Магаданскай вобл. (Расія). У 1987 г. сям'я вярнулася на радзіму, у Нарачанскі край. Скончыў Нарацкую сярэднюю школу, факультэт фінансаў і банкаўскай справы Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта (2009). Сістэматычна друкуецца ў часопісах «Полымя», «Дзеяслоў». Аўтар паэтычнага зборніка «Беражніца».

**Пасёлак Нарач** над найменным возерам

Каля возера з сярэдзіны 1950-х гг. знаходзіліся дачныя домікі **Куляшова Аркадзя, Лынькова Міхася, Танка Максіма,** што знайшло адлюстраванне ў шматлікіх нарысах, артыкулах і ўспамінах. Тут гасцявалі **Колас Якуб, Крапіва Кандрат, Панчанка Пімен, Буйло Канстанцыя, Дубоўка Уладзімір, Вылчаў Найдан, Дудзін Міхаіл, Корсакас Костас, Кугульцінаў Давід, Путрамент Ежы** і іншыя пісьменнікі, бывалі Пётр Машэраў, Сяргей Прытыцкі. Экскурсіі спыняюцца каля гэтых дач для азнаямлення.

Свае творы гэтаму цудоўнаму месцу прысвяцілі М. Лужанін (вершы «Нарачанскі вецер», «Запрашэнне на возера Нарач»), А. Вечар, А. Вольскі, Н. Гілевіч, А. Грачанікаў, В. Жуковіч, В. Лукша, С. Панізнік, Р. Семашкевіч, Ю. Свірка, Н. Тулупава, М. Шаховіч, С. Шушкевіч, В. Шымук і інш. Пра Нарач пісалі грэчаскі паэт А. Парніс, украінскія паэты Л. Забашта, М. Рыльскі, А. Юрчанка, расійскія М. Браўн, М. Камісарава, А. Чапуроў, К. Шавялёва і інш.

**Былы фальв. Новая Жосна,** месца знаходжання не ўстаноўлена

**Ляскоўскага Юльяна** (псеўд. Бандурыст, Карабіч, Ю. Карабіч, Марцін Мізэра; 1826 — пасля 1888), польскага пісьменніка, журналіста, радзіма. Пачатковую адукацыю атрымаў у адной з бернардзінскіх школ (відаць, у Будславе). Працаваў канцылярыстам у

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г. № 1, 2, 3, 4, 5, 6 за 2011 г.

Вільні. Удзельнічаў у вызваленчым руху, таму ў 1849 г. вымушаны быў эміграваць. Жыў у Лондане, дзе ў 1855 г. напісаў рамантычную паэму «У чужой старане», дзе паэтызаваў родны край. З 1860 г. — у Вільні. Выдаў зборнік «Беларускі бандурыст» (1861), аповесць «У Амерыку па золата» (1888).

**Вёска Новікі** (раней, да спалення разам з жыхарамі ў час фашысцкай акупацыі, называлася Слабада) Сваткаўскага сельсавета

Радзіма жонкі паэта **Танка Максіма**, ураджэнца вёскі *Пількаўшчына* таго ж р-на, Людмілы Асаевіч. На так званым па традыцыі мясцовым Слабодскім пагосце ўзвышаюцца два звычайныя крыжы над іх магіламі, а таксама бацькоў паэта Домны і Івана Скурко, дзядзькі Фадзея Скурко, іншых сваякоў.

**Вёска Падбярэззе** Княгінінскага сельсавета

**Шупенькі Генадзя** (н. 6.4.1936), літаратуразнаўца, радзіма. У 1965 г. скончыў БДУ. Працаваў у НДІ педагогікі Міністэрства асветы Беларусі. З 1979 да 2001 г. — у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Аўтар кніг нарысаў, літаратурных партрэтаў, артыкулаў «Цеплыня чалавечнасці» (1977), «Галоўнае — талент» (1987), «Прага мастацкасці: Выбранае» (1996). Пераклаў на беларускую мову аповесці «Мілы ба-пэр!» Ц. Дзеры (1983), «Кат» П. Лагерквіста (1986, з М. Гілем) і інш.

**Вёска Носавічы** Сырмежскага сельсавета

У 1950—1954 гг. дырэктарам Насовіцкай пачатковай школы (тады Свірскага р-на) працаваў **Чарнышэвіч Аркадзь**, пісьменнік, ураджэнец в. *Кулакі* Салігорскага раёна.

**Вёска Пількаўшчына** Сваткаўскага сельсавета

**Скурко Іосіфа** (24.2.1938—2.7.1989), паэта, радзіма. Скончыў Пастаўскую СШ (1956), працаваў у ёй піянерважатым. У 1957—1960 гг. служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філфак БДУ (1965). Працаваў у ЦК ЛКСМБ (1965—1967), дырэктарам Бюро міжнароднага маладзёжнага турызму «Спадарожнік» (1967—1971), рэферэнтам у Савеце Міністраў БССР (1971—1974), на Беларускім тэлебачанні (1974—1989). Аўтар кніг «Бацькоўскі парог» (1973), «Весніцы» (1990). На яго словы напісаны песні «Верасы», «Бацькоўскі парог», «Рабінавая ноч», «Свіцязянка» і інш. Родным мясцінам прысвяціў некалькі вершаў. Сярод іх — «Мядзел»:

Мой лёс з табой
Трывала спрадзен
Ад басаногай той пары.
Хадзіў я з Пількаўшчыны ў Мядзел
Па верасах,
Цераз бары.
Здаўна
Сінечай хваль грывастых
Душу прыкулі на ланцуг
Тваё Баторына,
І Мястра,
І Нарач, беларускі цуд.

**Танка Максіма** (сапр. Скурко Яўген; 17.9.1912—7.8.1995), народнага паэта Беларусі, радзіма. Акадэмік АН Беларусі (1972), Герой Сацыялістычнай Працы (1974), дэпутат Вярхоўнага Савета СССР (1969—1989) і БССР (1947—1971), старшыня Вярхоўнага Савета БССР (1963—1971). У час Першай сусветнай вайны знаходзіўся разам з маці ў Маскве. Там будучы паэт пайшоў у школу. Восенню 1922 г. сям'я вярнулася ў родную вёску. У 1923 г. пайшоў у першы клас польскай пачатковай школы (скончыў яе праз тры гады). Вучыўся ў вёсках *Шкленікова* і *Сваткі*. Затым паступіў у 3 клас Вілейскай рускай прыватнай гімназіі. Праз два гады пасля яе закрыцця польскімі ўладамі перавёўся ў Радашковіцкую беларускую

гімназію, уступіў у члены падпольнай камсамольскай арганізацыі. За ўдзел у вучнёўскай забастоўцы ў пачатку 1929 г. быў выключаны з гімназіі, нейкі час займаўся ў Віленскай беларускай гімназіі, з якой таксама яго выключылі за вальнадумства і непаслушэнства. Працягваў вучобу ў Віленскай рускай гімназіі імя А. С. Пушкіна. Там разам з аднакласнікам, потым паэтам і мастаком Я. Гарохам у 1931 г. выпусціў рукапісны часопіс «Пралом», дзе пад псеўданімам А. Граніт змясціў свае першыя вершы. З 1932 г. пачаў актыўна супрацоўнічаць з нелегальным друкам. У сакавіку 1932 г. быў арыштаваны і трапіў у віленскую турму Лукішкі. Праз месяц аказаўся на волі, нелегальна перайшоў мяжу і трапіў у Мінск. Затым зноў вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Працаваў інструктарам ЦК камсамола Заходняй Беларусі (1932—1933), вёў рэвалюцыйную работу на Віленшчыне і Навагрудчыне. Неаднойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі і прыгаворваўся да розных тэрмінаў турэмнага зняволення. У 1936 г. уступіў у КПЗБ. Быў накіраваны на работу ў легальныя выданні. Вёў «Беларускую калонку» ў польскім выданні «Poprostu» («Папростаму»), узначальваў літаратурны аддзел у газеце «Наша воля», супрацоўнічаў з «Беларускім летапісам», які выдаваў Р. Шырма. З дапамогай КПЗБ выйшлі кнігі паэта «На этапах» (1936), «Журавінавы цвет» і паэма «Нарач» (1937), «Пад мачтай» (1938). З 1939 г. працаваў у «Віленскай праўдзе», затым у вілейскай абласной «Сялянскай газеце». У 1940 г. у Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшлі «Выбраныя творы», у Маскве — «Вершы». У пачатку Вялікай Айчыннай вайны эвакуіраваўся ў Саратаў, дзе ўступіў у народнае апалчэнне. Затым быў накіраваны на Бранскі фронт, у газету «За Савецкую Беларусь», якую рэдагаваў М. Лынькоў. Працаваў у рэдакцыі газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Творы ваенных гадоў склалі кнігі «Янук Сяліба» (паэма, 1943), «Вастрыце зброю» і «Праз вогненны небасхіл» (1945). Пасля вайны працаваў у часопісе «Вожык» (да 1948 г.), затым — галоўным рэдактарам часопіса «Полымя» (1948—1967), старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі (1967—1990). Адначасова выбіраўся сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў СССР (1966—1986), старшынёй Рэспубліканскага камітэта таварыстваў савецка-польскай дружбы (1958—1991), «Беларусь—Польшча» (1991—1995). Аўтар зборнікаў вершаў і паэм «Каб ведалі» (1948; Дзяржаўная прэмія СССР), «На камні, жалезе і золаце» (1951), «У дарозе» (1954), «След бліскавіцы» (1957; Літаратурная прэмія імя Янкі Купалы), «Мой хлеб надзённы» (1962; Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Янкі Купалы), «Глыток вады» (1964), «Хай будзе святло» (1976), «Прайсці праз вернасць» (1979; Літаратурная прэмія імя А. Фадзеева), «За маім сталом» (1984), «Збор калосся» (1989), «Мой каўчэг» (1994) і інш. Вершы Максіма Танка ўключаны ў зборы яго твораў, перакладзены на многія мовы, даследаваны ў манаграфіях і дысертацыях. Шмат твораў Максіма Танка прысвечана родным мясцінам. Паэт стварыў іх арыгінальны паэтычны летапіс у вершы «Гісторыя вёскі Пількаўшчына». Добрыя словы аб малой радзіме можна знайсці ў вершах «Нарач», «...Я часта ўспамінаю», «Сны», «Рабіна», «Балада пра гліну», «Буда», «Тады... тады...», «Пісьмо брату» і інш. На хутары, недалёка ад вёскі захаваўся бацькоўскі дом, у якім жыве родны брат паэта з жонкай. Каля хаты стаіць дуб, які пасадзіў бацька паэта ў 1922 г., калі сям'я вярнулася з бежанства.

**Вёска Сваткі**, цэнтр сельсавета

**Сваткоўская школа імя Максіма Танка.** Сюды па запрашэнні настаўніка-літаратара **Пашкевіча Міколы** прыязджалі на сустрэчы **Быкаў Васіль, Караткевіч Уладзімір** і іншыя беларускія пісьменнікі. В. Быкаў прысвяціў М. Пашкевічу аповесць «Абеліск».

**Бурдыкі Вячаслава** (н.19.11.1955), пісьменніка, радзіма. Закончыў факультэт журналістыкі БДУ. Працуе ў рэдакцыі брэсцкай абласной газеты «Заря». Аўтар кніг «Яхта смерці» (2002), дакументальнага нарыса «Каманда Кобрыншчыны нашай» (2005).

**Танк Максім**, народны паэт Беларусі, ураджэнец в. *Пількаўшчына* Сваткаўскага сельсавета гэтага ж раёна, вучыўся тут у польскай пачатковай школе. Імем паэта названа адна з вуліц аграгарадка.

**Гарадскі пасёлак Свір**, цэнтр пассавета

**Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт,** пачынальнік новай беларускай літаратуры, заснавальнік нацыянальнай драматургіі і тэатра, ураджэнец фальварка *Панюшкавічы* Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл., 22 студзеня 1864 г. пераехаў сюды на жыхарства пасля таго, як арандуемы ім маёнтак Дабраўляны (Смаргонскі р-н) быў секвестраваны. Тут у кастрычніку 1864 г. ён быў арыштаваны і накіраваны ў Мінск. У Свіры цяпер мяркуецца ўстанавіць знак, прысвечаны пісьменніку, здымаецца пра яго дакументальны фільм. Свірская бібліятэка наладзіла прысвечаную яму выставу.

**Зянькевіча Рамуальда** (1.2.1811—11.9.1868), беларускага і польскага фальклорыста, этнографа, педагога, магчымае месца нараджэння. Першую адукацыю атрымаў у Свірскай парафіяльнай школе (1818—1820). Пасля заканчэння Віленскай гімназіі (1826) і літаратурнага аддзялення Віленскага ўніверсітэта (1830) працаваў настаўнікам і выхавацелем у прыватных школах. У 1844 г. атрымаў сталае месца настаўніка Росенскай павятовай школы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., але неўзабаве пакінуў работу з-за прагрэсіруючай слепаты. У пошуках заробку апынуўся на Палессі, асталяваўся ў Луніне Пінскага пав. — рэзідэнцыі князёў Друцкіх-Любецкіх, дзе меў магчымасць карыстацца вялікай бібліятэкай, архівам і кабінетам-музеем. Збіраў беларускія народныя песні. У 1847 г. у часопісе «Athenaeum» («Атэней») у перакладзе на польскую мову надрукаваў «Народныя песні, сабраныя на Піншчыне і перакладзеныя Р. Зянькевічам». У зборніку «Народныя песенькі пінскага люду» (Коўна, 1851) змясціў 219 народных песень, запісаных над Пінай, Прыпяццю і Цной. У Вільні выдаў зборнікі «Рыфмаваныя спробы», «Вяселле, рыфмаваны перадшлюбны падарунак». Даследаваў польскую літаратуру, паасобныя праблемы педагогікі. Аўтар працы «Сістэматычны агляд усіх навук». Частка яго рукапіснай спадчыны зберагаецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Літвы ў Вільнюсе.

**Вёска Старыя Габы**, цэнтр сельсавета

**Захарэвіч (Ляшук) Ніны** (22.5.1933—11.10.2005), паэтэсы, радзіма. Нарадзілася ў сялянскай сям'і. У 1944 г. адразу пайшла ў трэці клас Старагабскай школы, тады яшчэ пачатковай. У сувязі з пераводам бацькі на работу ў Будслаўскую МТС перавялася ў Будслаўскую СШ, дзе на яе вялікі ўплыў аказала выкладчыца літаратуры легендарная **Мядзёлка Паўліна,** ураджэнка таго ж мястэчка *Будслаў*. Нягледзячы на гэта ўсё ж паступіла на фізмат Маладзечанскага настаўніцкага інстытута, потым закончыла той жа факультэт Мінскага педінстытута. Сем гадоў папрацавала дырэктарам Пастаўскай СШ № 1 і каля 15 гадоў — старшынёй прафсаюза работнікаў асветы. Адначасова ўвесь час захаплялася паэзіяй. На II Усебеларускім фестывалі гумару ў Аўцюках яе «Аўтарская байка» заняла другое месца. Выйшлі зборнікі вершаў «Дарыце маці кветкі», «Расінка на дрэве», «Бэзавы цвет», у якія ўключаны вершы пра родную і суседнія вёскі, возера Нарач. Многія творы Н. Захарэвіч пакладзены на музыку. А Рыгор Барадулін сказаў пра іх так: «Вершы Ніны Маркаўны ўражваюць сваёй нязмушанай беларускасцю. Слухаеш іх…і чуеш дыханне спрадвечнага нашага крывіцкага слова». Памерла ў Паставах 11.10.2005, там жа пахавана.

*Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС*

***Працяг у наступным нумары.***